


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**8** (1030)

ЖНІВЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

## ЗМЕСТ



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# АВАНТУРЫ ПРАНЦІША ВЫРВІЧА, ЗДРАДНІКА І КАНФЕДЭРАТА*

*Раман прыгодніцкі і фантасмагарычны*

## Пралог

Мора ля прычала смярдзела, як быццам русалкі пераквасілі капусту. Марскую, вядома.

Крываносыя чаіцы брыдка лаяліся хрыпатымі галасамі, забыўшыся, што калісьці карміліся з рук ангельскага святога Баўтрамея і вядуць свой род ад грэцкага князя Кеіка, ператворанага ў птушку. За што ператворанага? А не трэба было параўноўваць сябе са старым раўніўцам Зеўсам, а сваю жоначку — з фанабэрыстай Герай.

Пад бокам каржакаватага партовага маяка матросы ў чырвоных шапках і матросы ў белых шапках лупілі адзін аднаго ў славу родных караблёў, што гайдаліся непадалёк на далоні Ліёнскага заліва, падкурчыўшы ветразі, як вялізныя кажаны-альбіносы — крылы. Нешматлікія гледачы лена спрачаліся, чыя банда пераможа.

---

***Рублеўская Людміла Іванаўна*** *нарадзілася 5 ліпеня 1965 г. у Мінску. Скончыла аддзяленне архітэктуры Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума (1984). Працавала ў канструктарскім бюро на ВА «Гарызонт». Вучылася на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута ў Маскве (1986—1987), затым перавялася на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ, які скончыла ў 1994 годзе. Працавала загадчыкам аддзела крытыкі ў часопісе «Першацвет», загадчыкам аддзела мовы ў газеце «Наша слова». З 1996 года — у аддзеле крытыкі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 2002 — рэдактар аддзела літаратуры. З 2003 года працуе літаратурным аглядальнікам газеты «СБ-Беларусь сегодня».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Крокі па старых лесвіцах» (1990), «Замак месячнага сяйва» (1992), «Рыцарскія хронікі» (2001), «Шыпшына для Пані» (2007), «Вяртанне Інфанты» (2015), кніг прозы «Сэрца мармуровага анёла» (2001), «Старасвецкія міфы горада Б» (2002), «Пярсцёнак апошняга імператара» (2002), «Ночы на Плябанскіх Млынах» (2007), раманаў «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» (2007), «Сутарэнні Ромула» (2010), «Дагератып» (2014), цыкла раманаў «Авантуры Пранціша Вырвіча» (2012—2015), кніг казак для дзяцей «Прыгоды мышкі Пік-Пік» (2000), «Карона на дне віра» (2008), драматычных паэм «Пасля Цэзара», «Апошняя з Алелькавічаў» і інш. Аўтар зборнікаў эсэ па гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры. Творы перакладаліся на дзясяткі моў свету, выходзілі асобныя кнігі ў Польшчы і Украіне.*

---

* Чацвёртая кніга прыгод Пранціша Вырвіча і Баўтрамея Лёдніка

Нават Адысей, які дваццаць гадоў плыў да гэтага берага, завагаўся б — ці прычальваць?

Але Адысей быў усё-ткі царом, хоць і дробненькім. А простым людцам і тут было хлебна і рыбна. Порт Латэ гуў, нібыта павятовы сеймік у далёкай ліцвінскай Рэчыцы альбо Наваградку. Мінакі з мястэчка Манпелье, што знаходзілася непадалёк ад порта, у гарах, штурхаліся гэтак жа, як шляхцюкі ў дзвярах менскай ратушы.

Праўда, жанчыну з дзіцем на руках, якая стаяла, кагосьці чакаючы, на прасоленай морам брукаванцы ўзбярэжнай, ніхто штурхануць не насмеліўся б.

І не таму, што матрасня, загарэлая да чарнаты, докеры з аршыннымі плячыма ды партовыя гандляры, увішныя, як вугры, у слаўнай правінцыі Лангедок раптам пачалі шанаваць высакародных дам. Ну хаця б з нагоды нядаўняга вяселля шаснаццацігадовага дафіна з аўстрыяцкай прынцэсачкай Марыяй Антуанэтай. Не, наконт прынцэсачкі і ейнага нядошлага сужонца яны маглі толькі шчодра адсыпаць слоўцаў, салёных і вохкіх, як мора.

Проста тую жанчыну, што стаяла, трымаючы дзіця, на ўзбярэжнай порта Латэ, немагчыма было штурхануць — столькі годнасці і трывожнага чакання ў паставе. Не юная, але стройная і вытанчаная, як шахматная фігура. Скура бялюткая без пудры — дый увогуле пані пагарджала бяліламі, чырваніламі ды іншымі неабходнымі даме галантнымі рэчамі. Вялізныя сінія вочы праніклівыя і нават уладныя... А раптам якая герцагіня альбо прынцэса, вымушаная таемна, пад чужым імем, адужваць дарогу? Дый вопратка на ёй вунь якая дарагая... Сукенка з аксаміту колеру спелага каштана, вышытая срэбрам, модны капялюш з заломленымі брылямі і белым пухнатым пёркам, як маленькі карабель з ветразем, пальчаткі з шэрага ліёнскага шоўку, каралі з буйных перлінаў... У белых акуратных кудзерках парыка, як расінкі, таксама паблісквалі перліны. Так старанна прыбіраюцца, калі рыхтуюцца да спаткання з дарагім чалавекам, якога даўно не бачылі, калі так хочацца, каб захапіўся, каб не расчараваўся...

Але дзе ж ён? Пэўне, не варты такой кабеты. Бо толькі апошні бэйбус ды лабідуда мог пакрыўдзіць яе няўвагай. За такіх б'юцца да Пятровых ключыкаў, а не змушаюць чакаць.

Дружны роў засведчыў, што матросы ў белых шапках перамаглі чырванашапачных, і гэтую падзею належала як след адзначыць ромам, джынам, к'янці... Ці што тут яшчэ п'юць, у слаўнай правінцыі Лангедок, пад абсыпанымі ружовай квеценню атрутнымі алеандрамі і дрэўцамі граната з такімі зыркімі чырвонымі кветкамі, што хацелася прымружыць вочы, як ад бляску напоўненага добрым віном крышталёвага келіха.

Дама мацней прыціснула да сябе чарнавокую дзяўчынку гадоў двух, прыбраную як на баль, у карункавай сукеначцы і пышным каптуры з ружовымі бантамі. І чаму, цікава, такая радавітая мадам не мае нянькі? Хіба справа арыстакраткі — важдацца з дзецьмі, што могуць упэцкаць убор, за які можна купіць некалькі коней?

Гледачы яшчэ больш здзівіліся б, калі б уведалі, што пані ніколі не наймала для свайго дзіцяці не толькі нянькі, але і карміліцы. На такое маглі наважыцца адно паслядоўніцы блюзнера Жан Жака Русо, які заклікаў французскіх дам не баяцца сапсуць фігуру, не зацягвацца ў гарсэты падчас цяжарнасці, самім карміць немаўлятаў грудзямі і не аддаваць іх на выхаванне наймічкам...

Але паколькі сінявокая дама ў вышытай срэбрам сукенцы была прыезджай, чужынкай — вунь ейны таўсманы слуга разгублена топчацца каля нагрувашчаных куфраў, быццам п'яны цюлень, — дык ёй можна паблажліва даравацць парушэнне традыцый. Выправіцца ў далёкае падарожжа, ды яшчэ

на караблі, з такім малым дзіцем, ды ў суправаджэнні аднаго нягеглага слугі! Напэўна, мадам адчайна смелая, нібы індыянская царэўна Пакахонтас.

Але ў гожых сініх вачах усё выразней можна было заўважыць разгубленасць. Дама нават дзіця да сябе туліла, змінаючы неверагодна пышныя карункавыя спаднічкі, быццам хацела за яго схавацца. І зноў і зноў аглядала стракаты пейзаж порта Латэ, не зважаючы на цікаўна-прагныя позіркі мінакоў. Той-сёй з цёмнай партовай публікі нават затрымаўся непадалёк, прыкідваючы, ці не ўдасца скарыстацца з бядотнага становішча прыгажуні, у якое яна відавочна патрапіла. Шчэ трохі — і міжвольная павага да заезджай гожасці знікне, і на даму накінуцца з прапановамі завезці ў самы лепшы гатэль слаўнага мястэчка Манпелье пад назвай «Лунарэ», паднесці куфры, прадаць ёй...

Ну, прадаць тут маглі нават тоўчаны рог адзінарога, а не толькі цюльпаны — кроў французскага траўня, ці круасаны з вішнёвай накрыпкай або знакамітыя лангедокскія каўбаскі — іх прадавалі гарачымі, падсмажанымі тут жа, на невялічкіх пячурках... Гэтак жа, як і рыбу — срэбныя, як талер, сардзінкі, пляскатую, нібыта патрапіла пад капыты Няптунавых коней, камбалу, злосна-чырвонага марскога акуня...

Герцагіня не пагрэбавала б такой рыбкай!

Пані, аднак, не была ні герцагіняй, ні прынцэсай, і нават нарадзілася не ў шляхецкай сям'і. Яна ўздыхнула і зноў кранула дасканала акрэсленымі вуснамі шчочку дачушкі, якая зацята круцілася на руках у маці, ажно белы атласны чаравічак ледзь з ножкі не саслізнуў, павіс на развязанай стужцы.

— Сафійка, родненькая, пацярпі... — прагаварыла жанчына і зноў абвяла трывожным позіркам порт.

Магчыма, каб быў тут выпускнік мясцовага ўніверсітэта Мішэль Настрадамус, прадказаў бы ён даме, якія мітрэнгі прарокуюць ёй зоры.

А калі ведаеш, што прарокуюць зоры, чаго тузацца — плыві сабе, як зорная парушынка ў эфірах...

А каб быў тут іншы выпуснік медычнага факультэта старажытнага ўніверсітэта Манпелье Франсуа Рабле, дык пажартаваў бы весела і груба, або нагадаў, што «ўсе скарбы, над якімі раскінуўся нябесны звод і якія тоіць у сабе зямля, не вартыя таго, каб з-за іх хвалявалася наша сэрца, узбурваліся нашы пачуцці і розум».

Але пані размінулася ў часе з абодвума тутэйшымі геніямі на пару стагоддзяў. Таму ёй заставалася чакаць і спадзявацца.

— Мама, на ножкі хацу! Пусці! — запатрабавала малая Сафійка.

— Вой, пані Саламея, патрапілі мы ў нерат! — заныў слуга, абціраючы шапкай спацелы круглы твар, які так лёгка было ўявіць за карчомным сталом. — Ці не пераблытаў штосьць наш пан Баўтрамей? Ці не забыўся ён на няшчасных, што дзеля яго ледзь вытрывалі гэтае клятае падарожжа? Абдзяруць нас зараз бусурманы як лазу на лапці...

Жанчына нервова азірнулася на слугу, кароткі вэлюм, які быў накінуты на яе капялюш, узмахнуў празрыстым крылом.

— Памаўчы, Хвэлька! Не кажы глупства. Бутрым ніколі б не...

— Пані Саламея!

Пані страпянулася, заазіралася, яе ўсхваляваны твар асвяціўся надзеяй. Расштурхоўваючы натоўп, да госці набліжаўся малады пан — з тых, пра каго кажуць, падэшвы на хаду адарве. Ладная пастава, блакітныя вочы, пшанічны чуб, светлыя вусы, шабля пры баку драпежна паблісквае каменнямі на дзяржальне — укусіць увобмірг, як што. Гарэзная ўсмешка часам рабіла пана падобным да васямнаццацігадовага шкаляра, які напускае ў пакой злога пра-

фесара налоўленых на могілках варон. А часам вусны іранічна крывіліся, і іх уладальнік здаваўся зусім сталым, быццам выпіў не адну чару воцату з рук Фартуны. Жанчыне ў вышытай срэбрам сукенцы пан усміхаўся радасна, але й трохі вінавата. Яго абагнаў чарнавокі хударлявы хлопчык гадоў дзесяці, апрануты ў акуратны камзол з залатымі галунамі і таксама з шабляй пры баку. Хлопчык намагаўся паводзіцца годна, паважна, каб адразу казалі — «во, які дарослы!», але не вытрымаў, працягнуў рукі і кінуўся да кабеты.

— Мама! Сястрычка!

— Алесік! Родненькі! Пан Вырвіч! Пранціш!

Светлачубы пан Вырвіч паспеў трапна даць выспятка нейкаму падшыванцу, які цэліў да пакінутых без прыгляду куфраў, прыабняў жанчыну з дзіцем, потым паляпаў па плячы расчуленага Хвэльку, што паўтараў, як узмужнелі шаноўны пан Пранціш ды паніч Аляксандр... Нават партовыя чайкі пачалі крычаць нешта больш лагоднае.

— А вось яна якая, наша паненка Сафійка! Ліцвіначка-красачка!

Малады пан падхапіў на рукі дзяўчынку ў карункавых спаднічках, каб даць магчымасць пані Саламеі расцалаваць сына. Падняў малечу перад сабой:

— Вочы дакладна таткавы!

Сафійка сярдзіта ўтаропілася ў аблічча незнаёмага дзядзькі і трапна пацэліла далонькай яму ў лоб.

— Пусці!

Атласны туфлік нарэшце зваліўся на брукаванку, пакрытую рыбінай лускою і сухімі водарасцямі.

— І характар таткавы! Зерне ад каласка!

Дзяўчо, гатовае зараўці, забраў Хвэлька, прыгаворваючы, што вось жа, якая дактароўна Баўтрамеева Лёднічанка не гжэчная паненка расце, жаніхоў усіх у свой час распалохае, калі гэтак жа, як дзядзьку Вырвіча, біць па лбе будзе.

— А дзе Бутрым?

Пытанне прагучала са збялелых вуснаў жанчыны ціха, нібыта яна баялася пачуць адказ. У сініх вачах плёскалася такая трывога, што праўдзівы рыцар адразу ж заазіраўся б — каго выклікаць на двубой?

— Не хвалюйцеся, пані Саламея, з Баўтрамеем усё добра, — паспяшаўся запэўніць кабету пан Вырвіч, адводзячы вочы. — Жывы, здаровы... З ніякімі Пандорамі не закруціў. Заняты навукай.

— Пан бацька ў лабараторыі! Доследы робіць! — з гонарам выкрыкнуў чарнавокі Алесь, рука якога так учапілася за рукаў матчынай сукенкі, нібыта баяўся — выпусціць, і адразу ж зноў застанецца адзін.

Саламея спахмурнела, расчараванне ценем лягло на вытанчаныя рысы.

— Чакай... Я адчуваю, нешта тут не тое. Што ж у Бутрыма за доследы, якія не далі сустрэць жонку і дачку, з якімі амаль два гады не бачыўся? Такім ён быў толькі ў маладосці, калі здабываў у Полацку філасофскі камень, свету не бачачы, пакуль дзверы не ўзламалі ды самога за даўгі не прадалі. У што Бутрым зноў улез?

Вочы пані бліснулі небяспечна, як каштоўныя камяні на дзяржальне вострай зброі. А такую кабету не надта штурханеш, нават калі ведаеш, што яна — не герцагіня.

Мора абыякава плёхалася пад палямі прычала, гайдаючы накіданае смецце.

— Ды праўда ўсё добра! — запэўніў Вырвіч, адвярнуўся, махнуў камусьці рукой. — Зараз карэта бліжэй пад'едзе, загрузімся... Нам яшчэ да Ліёна трэсціся семдзесят з гакам лье.

— Не адгаворвайся! — угневаная Саламея ўхапіла Пранціша за рукаў. —

Што там з нашым Фаўстам? Чаму не прыехаў сустрэць? А можа... можа, яшчэ прыедзе, калі пачакаем?

Надзея гучала ў голасе гожай пані так адчайна, што Вырвіч з прыкрасцю апусціў вочы, бо адказваць не хацелася.

— Наўрад ён прыедзе, — неахвотна прызнаўся Пранціш. — Я ж і затрымаўся, бо ў лабараторыю ягоную ламіўся... Пра вас нагадваў... Дзверы пацалаваў, карацей. На, дурню, печанай рэдзькі, разумны будзеш.

Вырвіч злосна сплюнуў, але змусіў сябе супакоіцца і не палохаць далей пані.

— Не пераймайцеся, Саламея. Вы ж ведаеце — заяц у моркву, прафесар — у рэторты. Доктар Баўтрамей Лёднік — чалавек у Манпелье і Ліёне вядомы. Проста... — Пранціш нібы завагаўся, ці распавядаць далей. — Паўгода таму прыехаў у Манпелье з Парыжа такі барон дэ Вард, у яго тут уладанні. З ім — доктар, носьбіт ісцінаў медычных. Утварылі Таварыства прагрэсіўнай медыцыны, да якога адразу прыляпілася кіраўніцтва ўніверсітэцкае ды мясцовыя багацеі. Праводзяць нейкія сакрэтныя даследаванні, грошай у іх як у цмокаў з-пад гары, ёсць магутныя апекуны... А Лёдніка яны самі да сябе завабілі. Сакрэтныя веды! А тут не трэба баяцца, што лабараторыю раскалашмацяць, як у Вільні, ды абвінавацяць у блюзнерстве. Лёднік жа ўвесь час марыў, каб вольна навукай займацца. Вось і даў нырца ў яе. З галавой. Манпелье ды Ліён — цэнтр навукі лекарскай! Сюды стагоддзямі з усяго свету хворых вязуць, як да святой крыніцы.

Голас Пранціша гучаў роўна, халаднавата.

— Апошнім часам татка і дамоў не прыязджае, — вінавата прашаптаў Алесь, зазіраючы матулі ў вочы, і Саламея здрыганулася.

— Добра, паехалі... А то дзеці стаміліся....

Голас жанчыны гучаў амаль безнадзейна. Яна раздражнёна кранула рукой капялюш, нібыта карцела яго сцягнуць разам з парыкам... Дарэмныя былі яе жаноцкія старанні — прыбрацца яшчэ ў цеснаце каюты як найлепей, як звычайна не ходзіць, прыхаваць дарожную стому... Некалькі калматых партовых хлапчукоў — як кажуць на Палессі, нарадзіла маці, ды не аблізала — ужо ўзяліся цягаць куфры засмучанай чужаземкі да сціплай дарожнай карэты без гербаў.

Раптам люд зашумеў, рассыпаўся ўбакі — да прычала віхрам ляцеў вершнік на арабскім танканогім кані, пан сярэдніх гадоў у чорным камзоле і капелюшы, з-пад якога звісалі цёмныя з сівізной валасы. Хударлявае аблічча пана было суровым, як у старога воя альбо хутчэй алхіміка, што зацугляў усіх стыхійных духаў разам ды змусіў іх, як праштрафленых студыёзусаў, нашмароўваць воскам паркет у сваім кабінеце. Драпежны нос, цёмныя вочы, шабля пры баку... А вузкія далоні, што моцна трымалі цуглі, — са шнарамі пасярэдзіне, нібыта калісьці былі прабітыя. Лепей адысціся ды скрыжаваць за спінай пальцы.

— Le Docteur Noir… Le Docteur Noir… [1]

Мінакі не тое каб сапраўды паўцякалі ад страху, паглядалі з належнай павагай, але баязліва. А вось жанчына, якую называлі Саламеяй, заўважыўшы вершніка з драпежным носам, расцвіла ад шчасця, плесканулася сіняе-сіняе мора ў вялікіх вачох, патануць бы ў такіх — але ўладальніца не пусціць, бо ўся сінеча, уся любасць — аднаму. Вось гэтаму пахмураму, небяспечнаму, дзюбаносаму...

— Саламея!

Вершнік саскочыў з каня і схапіў жанчыну ў абдоймы... Пранціш Вырвіч з палёгкай уздыхнуў.

Ну, далей ясна што. Назіраць, як сустракаюцца сем'і пасля доўгага расстання, заўсёднікам порта Латэ даводзілася дзясяткі разоў на дзень. Што тут асаблівага падгледзіш... Адысеі і Пенелопы з усяго свету перабывалі тут за тысячы гадоў, спрабуючы ў абрывістых, нехлямяжых ад хвалявання фразах адразу адно аднаму патлумачыць усё, што назапасілася за гады... Вось і тут — бацька сямейства сустрэў жонку, якая прыехала з малодшым дзіцем з нейкай далёкай барбарскай краіны, тут жа — іх старэйшы сын ды светлавалосы сваяк, можа, брат, можа, пляменнік...

Не пажывішся ад гэтай кампаніі.

Праўда, каб ведаў хто падбіўку сцэны, дык вырашыў бы, што знаходзіцца ў сентыментальным рамане не лепшай якасці. Малады пан быў не сваяком Чорнаму Доктару, а ягоным колішнім уладальнікам, жонка доктара не даводзілася роднай маці чарнавокаму хлопчыку Алесю — Лёднік прыжыў яго з адной арыстакраткай, што выратавала ад смерці вучонага раба, выпускніка аж двух універсітэтаў, Пражскага ды Лейпцыгскага... І прыблукала ўся гэтая неверагодная кампанія з земляў ліцвінскіх, з Беларусі, што паміж Дняпром, Немнам ды Вяллёй пазірае ў неба сінімі вачыма азёр... Не, хутчэй, цёмнымі бяздоннымі вачыма дрыгвы.

Малая Сафійка ўсё-ткі разраўлася — на руках у расчуленага татулькі, якога, натуральна ж, не памятала.

Перад тым, як сесці ў карэту, Пранціш хапануў доктара за плячо і прасіпеў на вуха:

— Ведаеш, Бутрым, часам я дужа шкадую, што ты больш не мой слуга, і я не магу добра адлупцаваць цябе калацінай, як мне твой першы гаспадар раіў.

— Я ж усё-ткі прыехаў... — прабуркатаў доктар, хаваючы вочы, толькі на худых шчоках загарэліся чырвоныя плямы сораму.

Ужо седзячы ў карэце, што паціху каціла з порта ў бок гор, па старажытнай дарозе, якой ад часоў кесараў і друідаў карысталіся вандроўнікі з Іспаніі ў Італію, жанчына прагаварыла няроўным ад шчаслівых слёз голасам:

— Ну чаму зноў «чорны доктар», а, Бутрым? Здаецца, тут не Вільня, не Полацак і не Слуцак, а мянушкі ў цябе ўзнікаюць падазрона падобныя.

Дзюбаносы доктар, які дамогся, каб Сафійка ўтульна ўселася яму на калені, фыркнуў, як пракудлівы шкаляр на апошняй лаве, і прабуркатаў:

— Я ж не вінаваты, што ўспадчынніў ад продкаў цёмныя патлы.

Саламея, каля якой, як прыклеены, сядзеў шчаслівы Алесік, дакорліва хітнула галавой, усміхнулася іранічна — калі пані ўсміхалася, ямінка ўтваралася чамусьці толькі на левай шчацэ.

— Ды хай бы ты і маўрам быў, Баўтрамей Лёднік — не гэта людзей палохае. Спадзяюся, ты не забыўся, што князь Антоні Тызенгаўз адправіў цябе сюды да пана Жылібера дзеля пэўнай справы, каб пераняў досвед, як зладзіць на Беларусі медычную школу ды шпіталь? У мяне, дарэчы, ліст да цябе ад князя.

Бутрым, чый твар зараз быў зусім не суровы, а шчасліва-разгублены, пацалаваў улагоджаную шаптаннем на вушка ліцвінскіх пацешак дачку ў макаўку, прыкрытую карункавым каптуром.

— І медычнай школы план склалі, і шпіталя, і батанічнага саду, і школы павітух... У містыку не падаўся, бязбожнымі эксперыментамі мне таксама калісьці адбілі ахвоту займацца, — Бутрым зірнуў на сваю далоню са шнарам.

Пранціш памятаў, як у старэйшага сябра з'явіліся гэтыя шнары. Калі іх

кампанія хавалася ад чумы ў мястэчку Тамашова, Лёднік сустрэў там біскупа, пад чыім кіраўніцтвам у Празе ўдзельнічаў у страшных эксперыментах над людзямі і іх душамі. Тады «чорнага доктара» ледзь удалося выцягнуць са спакусы зноў падобным заняцца, а выкупіць волю ўсёй кампаніі яму давялося, скарыстаўшы мясцовы звычай — набыць прылюдна стыгматы.

— Лекцыі, доследы, хворыя на прыём шчэмяцца... Матаюся матавілам паміж медычнай школай Ліёна ды ўніверсітэтам Манпелье... — нязграбна апраўдваўся перад жонкай доктар. — Паверыш, месяц за шаблю ўсур'ёз не браўся.

Для доктара, які спавядаў трэнінг фізічнага цела неаддзельным ад духоўнага развіцця і быў выбітным фехтавальшчыкам, гэта была нежартоўная ахвяра.

— Мяне пан Вырвіч біцца вучыць! — пахваліўся Алесь. — На шаблях, шпагах, эспадронах... Ён увесь наш клас трэніруе!

Саламея Лёднік зацікаўлена зірнула на блакітнавокага шляхціца.

— А вы, пан Вырвіч, хіба не студэнт?

Вырвіч трохі замяўся, кінуў спадылба позірк на Лёдніка, які іранічна скрывіўся.

— Ну, павучыў трохі паэтыку, але — куды мне ўжо на студэнцкую лаўку... Я на ёй столькі наседзеўся — не ўсе ж, як Лёднік, да здабыцця ведаў ласыя, як карасі да гразі. А мне пасля таго, як вайсковым камандзірам тры гады адтрубіў, ды паваяваў, з рознымі смаркачамі фіглі строіць... Ну а тут пасля аднаго двубою графчык мясцовы застаўся ўражаны маім баявым майстэрствам, папрасіў даваць урокі ягонаму старэйшаму сыну... Потым іншыя захацелі... Дэкларавалі месца выкладчыка баявых майстэрстваў у Ліёнскай вайсковай школе. Да мяне ім адзін збяднелы маркіз быў, так што ўрону гонару няма.

— Натрэніраваў на сваю галаву... Пашанцавала прафесарам філалагічным, што ад такога вучня ў час пазбавіліся! — з'едліва выказаўся Лёднік. — Я дык і цярпеў бы яго па звычцы — але пра медыцыну ягамосць Вырвіч і слухаць не хоча. Затое ў бойкі лезе, як машката ў свежую смаліцу. Пляменніка ліёнскага біскупа праткнуў так, што я ледзь зацыраваў!

— Я найменшага ўрону гонару не пацярплю, — цвёрда прамовіў Вырвіч. — Я — апошні з роду, з Вырвічаў герба Гіпацэнтаўр. На мне доўг перад продкамі і вернасць сармацкім звычаям, твае павучэнні недарэчы, Лёднік!

— Правільна, пан Вырвіч! — радасна азваўся натхнёны паніч Аляксандр. — Я таксама — за свой гонар... Любога... Шабляй!

— Твой дзед, Алесь, скуры ў полацкай гарбарні вырабляў, — строга прамовіў сыну Лёднік.— Я гэтага не саромлюся — і ты не павінен. Я шляхецтва на полі бойкі заслужыў. Але ты ўжо досыць вялікі, каб усведамляць, што наша галоўная годнасць — веды і духоўныя цноты! Сам Госпад у зямным жыцці быў сынам цеслі...

— У хлапцу цячэ і шляхецкая кроў, Лёднік, не забывайся! — сурова абарваў былога слугу Пранціш Вырвіч. Доктар стрымаў крыўдлівыя словы, што ўжо рваліся з вуснаў, і неяк сумеўся. Саламея збянтэжана пераводзіла позірк з аднаго суразмоўцы на другога — раней спрэчак наконт паходжання малодшага Лёдніка між імі не вялося... А як жа сам малы? Няўжо ведае пра свой складаны радавод? Яны ж дамаўляліся — захаваць таямніцу! Але пра гэта варта падумаць пасля. Гэта занадта... дзіўна і страшна. Што здарылася з дарагімі ёй людзьмі за гэтыя паўтара года ў вінаградна-сырным, сонечна-марскім Лангедоку?

— А вершы пішуцца, пан Вырвіч?

Пранціш крыху сумеўся, правёў пальцам па светлых вусіках, што нарэшце самавіта прыкрасілі ягоную верхнюю губу.

— Віюцца, як слепні, спакою не даюць... Але каму мне іх...

І Саламея зразумела, што сардэчныя раны пана Вырвіча смыляць і крывавяць, і ў чарговы раз успомнілася з дакорам адна егіпецкая прынцэса Серафіна, яна ж — слуцкая прыгонная актрыса Раіна Міхалішыўна, што збегла ад свайго нарачонага, зухаватага драгуна Вырвіча, з самых лепшых меркаванняў — каб не псаваць радавод пана, не замінаць ягонай бліскучай кар'еры.

То ж ён спраўдзіў гэтую кар'еру, падрабляючы настаўнікам фехтавання ў французскіх недаросткаў...

Самыя страшныя справы чалавецтва ўтвараліся з самых лепшых меркаванняў.

— Піць хацу! — заявіла маленькая ліцвінка Сафійка, і Атлант асцярожна паставіў край нябеснага купала на траву, тры чарапахі прымарудзілі і без таго марудлівы свой ход у сусвеце, па якім яны валаклі пляскатую, як жорнаў, цвердзь зямную, а Чорны Доктар, растраціўшы рэшткі фанабэрыі, пачаў устрывожана раіцца з рамізнікам, дзе найлепш спыніцца, каб найхутчэй набраць самай празрыстай і свежай вады...

Хаця самая смачная, празрыстая і свежая была далёка — у крыніцах радзімы.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### Як Чорны Доктар прагрэсіўных медыкусаў абедам карміў

Аднойчы Мішэль Настрадамус, студэнт універсітэта Манпелье і аматар адурманьвальных травак, прадказаў лёс двум ліёнскім парсючкам, чорнаму ды беламу. Белага, маўляў, воўк задзярэ, а чорнага на стол пададуць.

Гаспадар вырашыў правучыць самазванага прарока ды й загадаў кухару прыгатаваць белага свінскага сына... А таго ўжо сапраўды воўк панёс, каб яго самога крумкачы па кавалачку неслі! Кухар цішком і выкарыстаў замест белага парсючка ягонага чарнявага субрата... Тым самым засведчыўшы прароцкі статус месье Мішэля, а таксама што супраць лёсу не папрэш.

Невядома, хто прадказваў лёс парсючку, што прыкрашаў стол у гасцёўні запрошанага прафесара Ліёнскай медычнай школы Баўтрамея Лёдніка, ды і ці трэба лічыцца пракрокам, каб прадказаць, чым скончыць свойская свіння. Вось каб было гэта ў далёкай Беларусі, на магнацкім застоллі, дык парсючка таго ніколі б у такім пазнавальным выглядзе на стол не падалі: няварта гэта магнацкай кухні! Ці крылы прышылі б яму ад няшчаснага лебедзя, замест лычыка б нешта змайстрачылі, ці прырабілі заднюю палову ад зайца... Хто зведае фантазіі панскіх кухараў Рэчы Паспалітай?

Але гаспадары гэтага дома наўрад займаліся падобнымі вычварэнствамі і на радзіме. Пан Баўтрамей Лёднік увогуле ўсім тлумачыў, наколькі шкодныя тыя прыкметы багатай шляхецкай кухні: каб тлуста (нават гарэлку — са сметанковым маслам), каб востра (чым больш дарагога перцу, шафрану ды імбіру ўваліць, тым ганаровей), ну і каб спалучэнні падзіўнейшыя (салёнае з салодкім, ялавічыну з рыбай).

А цяпер за сталом Чорнага Доктара нават звычайна засмажанага парсючка пакуль не елі... Дый за стол не садзіліся. Бо ганаровыя госці з Таварыства прагрэсіўнай медыцыны, што мусілі прыехаць з Манпелье, спазняліся, а гаспа-

дары ўсё яшчэ не паспелі нагаварыцца за дні, што прамінулі пасля з'яднання сямейства Лёднікаў.

У любым выпадку, цукровы пернік у выглядзе ружовага пеўня куды смачнейшы за любую «дарослую» страву, хай сабе і абсыпаную даражэзным шафранам. Сафія Баўтрамеева Лёдневічанка, чароўная ліцвінка амаль двух гадоў ад нараджэння і шляхцянка ў другім пакаленні, задумліва прыкусіла пернічак бялюткімі зубкамі і па-гаспадарску агледзела светлы пакой з высокімі скругленымі наверсе вокнамі. Падлога не гайдаецца, як у цеснай каюце — ужо добра. У шыбы просяцца вясёлыя зялёныя каштаны, заманліва падкідваючы на тонкіх галінках белыя кветкі — быццам анёльчыкі скачуць...

Сафійка і сама нагадвае анёльчыка — у белай доўгай кашульцы, з-пад якой паказваюцца абшытыя карункамі штонікі. Таненькая, з цёмнымі пышныміваласамі і вялізнымі, чорнымі і бліскучымі, як вішанькі, вачанятамі на мілым тварыку. Сонечныя промні прасяваюцца скрозь карункі лістоты і мігцяць на наваскаваным паркеце. Паміж кніжнымі шафамі з чорнага дубу, нібыта прывіды, таямніча святлеюць завешаныя тканінай стаўбуркі — з-пад тканіны выпірае нешта незразумелае.

А дарослыя ўсё балбочуць. Часцей за ўсё Сафійка чуе «барскія канфедэраты» — доўга і каструбавата, і «Цялок» — адрывіста і паблажліва. Навошта ёй ведаць, што гэта значыць, і чаму дарослыя так хвалююцца? Пасля, як падрасце, ёй, напэўна, распавядуць, што адбывалася ў годзе 1770-м ад нараджэння Хрыстова на ліцвінскіх землях. Як шляхта, абураная тым, што на польскі трон расейцы пасадзілі каханка сваёй імператрыцы Станіслава Панятоўскага па мянушцы Цялок, а той праводзіць нявыгадныя краю законы, з'ядналася ў Барскую канфедэрацыю**.** І Радзівіл па мянушцы Пане Каханку ім дапамагае, і гетман польны Аляксандр Сапега падумвае далучыцца, і вялікі гетман Міхал Багінскі...

— І сам кароль Станіслаў Панятоўскі хацеў да барцаў, але яго адпрэчылі, — сумна гаварыла Саламея Лёднік, яе сінія вочы з прыхаванай мілосцю не адрываліся ад драпежнага профілю гаспадара дома, які сядзеў, панурыўшыся, і круціў у руках парцалянавы кубак з незразумелымі залатымі вензелямі, нібы яму было зусім нецікава слухаць пра далёкія палітычныя мітрэнгі. — Кажуць, жаліўся ангельскаму паслу: «Калі адыду ад Расіі і супраць яе выступлю, мае непрыяцелі будуць першыя, якія з ёй пагодзяцца і мяне прынясуць у ахвяру. Якая ж з гэтага карысць для краю?» Сама больш абмяркоўваюць, што Пане Каханку зноў з'ехаў за мяжу. Ну, ведаеш, мусіць... Пад вёскай Лань разбіў войска князя Мяшчэрскага, але потым спалохаўся, што Нясвіж возьмуць, бо Суворава з войскам дзеля ўціхамірвання прыслалі, і ўцёк. Ды яшчэ ліст князю Рапніну пакінуў, што калі ягоныя гарады не зачапнуць — не будзе нічога супраць расейскай царыцы ўчыняць...

— Ага, паабяцаў... Магнаты што хочаш паабяцаюць, калі трэба, — скрозь зубы прагаварыў доктар Лёднік. — Зноў інтрыгуе наш Пане Каханку, войска збірае, вызваляць Айчыну... З французамі на пару з Багінскім змаўляецца, каб Панятоўскага дыктатарам абвесціць... Вунь, гэты маладзён, — кіўнуў доктар у бок Пранціша Вырвіча, які любоўна паліраваў суконкай сваю новую шпагу, — атрымаў ліст ад нашага старога знаёмца пана Рыся, з заклікам далучыцца да іх хаўрусу ды ехаць вызваляць Рэч Паспалітую ад расейцаў, Панятоўскага, а заадно ад усіх, хто не падабаецца.

Вырвіч горда страсянуў чубам.

— І далучуся! Шляхціц не павінен быць убаку, калі на радзіме вайна! Такіх, як я, тут шмат, адзін Тадэвуш Касцюшка са Слонімшчыны чаго варты!

Мы яго Шведам празвалі, дасканалага ваяра з сябе выхоўвае, эксперыментуе над арганізмам уласным, як і ты, Бутрым, не здолееш.

— Задурыў галаву сваім Касцюшкам! — сярдзіта азваўся доктар. — А чаму твой Тадзік не ў войску якога Касакоўскага пад Пінскам, а ў Парыжы маляванню вучыцца, ведаеш? Таму што не змог прымірыць свой патрыятызм — і нежаданне выступаць супраць сваіх дабрадзеяў Чартарыйскіх, родзічаў Панятоўскага. Вось і з’ехаў...

Лёднік уздыхнуў.

— Вечна адны разбураюць, другія ствараюць, і ўсё пад аднолькава прыгожымі лозунгамі. У гэты ж час сябрук Цялка ягоная мосць Антоні Тызенгаўз рэформы надалей праводзіць, мануфактуры ладзіць... Усе дзяржаўныя грошы ў свае задумы прэ. Спадзяецца, што праз паўгода я вярнуся ў Гародню з Жыліберам пад пахай і дапамагу яму зладзіць медычную школу... Ды вярнуся, зладзім! Калі яе не спаляць — адны за тое, што адчынена расейскімі паслугачамі, другія за тое, што ёю кіруюць заходнія блюзнеры...

Грукат змусіў захопленых палітычнымі развагамі дарослых ускочыць. Сафійка злаўчылася нарэшце пацягнуць за тканіну, што схавала адзін з таямнічых стаўбуркоў. Застрашлівы васковы муляж, які выяўляў чалавека са здзёртаю скурай — так, што былі добра відаць усе цяглiцы, чырвоныя матузкі артэрый і сінія суплёты венаў — меланхалічна ляжаў на падлозе, страціўшы палову васковых мазгоў.

— Бумс! — весела прагаварыла Сафійка, узмахнуўшы густымі чорнымі вейкамі — як толькі не ўзляцела, Мятлушачка.

Спалоханыя дарослыя абмацалі дзіцяня, упэўніліся, што нават не напужалася...

— Хал-лера... Дваццаць ліўраў... Унікальная мадэль... — мармытаў скрозь зубы доктар, падымаючы з падлогі няшчаснага васковага калеку. На ніжэйшых паліцах адкрытага стаўбурка красаваліся не менш застрашлівыя творы мясцовага аптэкарскага майстэрства — бялелі штучныя косткі, пунсавелі цяглiцы.

— Бацька называецца! — дакорліва прагаварыў Пранціш, падпіхваючы нагою пад шафу адляцелы кавалак васковага чэрапа. — Дзіця ж мусіла прыехаць, самы пракудлівы ўзрост. Трэба было прыняць свае анатамічныя аздобы, а не проста ўкруціць у анучы.

— Тата, далуй! — прамовіла Сафійка два чароўныя словы, гледзячы шчыра-шчыра вялізнымі цёмнымі вачанятамі на суровага доктара. Не тое, каб малеча ведала значэнне прамоўленых слоў, але ўжо добра ўцяміла, што варта іх вымавіць — і гэты суровы высокі чалавек з чорна-сівымі валасамі адразу растане, як воск на сонцы, ад яго проста пачне праменіцца пяшчота... Вось і цяпер: апусціўся на калені, абняў, цалуе сухімі няўсмешлівымі вуснамі — а вусны ажно дрыжаць ад любасці і замілавання:

— Красачка мая... Каралевічна мая... Гэта ты мне прабач. Я табе сапраўдную ляльку падару — парцалянавую, гожанькую, да цябе падобную!

Хоць вяроўкі з гэтых дарослых ві. Сафійка была вельмі разумнай дзяўчынкай і хутка ўсяму вучылася.

Пані Саламея падскочыла і з цяжкасцю вызваліла з маленькіх, але ўчэпістых пальчыкаў дактароўны шкляное вока ад разбітага манекена — Сафійка мудра збіралася яго прыўлашчыць. Вока пазірала дзіка і дакорліва, чырвоныя сасуды, карпатліва прамаляваныя на ім, нагадвалі парванае павуцінне крывавага павука.

— Бутрым, гэта ўжо занадта! Алесік мне ўчора гадзіну распавядаў, як тузаюцца цяглiцы мёртвай жабы пад уздзеяннем апарата нейкага італійскага

вучонага, цяпер дачка твая будзе гуляцца з муляжом чалавечага вока... Бедлам, а не сямейны дом!

— Мама, шарык хацу!

Пранціш стоена хіхікаў, пакуль пані Саламея супакойвала пакрыўджаную дачушку, а Лёднік збянтэжана бегаў па пакоі, шчыльней укручваючы стаўбуркі, на якіх, як відаць, былі такія ж неапетытныя анатамічныя дапаможнікі — у аптэках Ліёна іх выраблялі дасканала.

Начышчаная былым каралеўскім драгунам Вырвічам шпага заняла сваё законнае месца на сцяне, побач з іншымі развешанымі шляхецкімі ўцехамі — шабля-серпанціна, шабля-карабэла, эспадрон, рапіра... А гаспадара цярпліва чакала ў вітальні радавая шабля Вырвічаў Гіпацэнтаўр, з гербам, выгравіраваным на дзяржальне. Вось што трэба шляхціцу ў руках трымаць, а не ланцэт альбо пяро!

— Усё роўна на баку барцаў — праўда! — упэўнена выгукнуў Пранціш, вяртаючыся ў палітычныя спрэчкі, якія спаконвеку грэюць сэрцы і самалюбства нават самых ціхамірных мужчын — а прысутныя ў гэтым пакоі ціхамірнымі ніякім чынам не былі. Цень ад галінкі каштана спалохана слізгануў па сцяне, абцягнутай трохі выцвілай светла-зялёнай тканінай, па вялікай старой карце з надпісам «Вялікае Княства Літоўскае». Маленькія дрэўцы на карце пазначалі, дзе ў гэтай далёкай краіне лес, хвалістыя гарызантальныя рысачкі ўперамежку з вертыкальнымі — балоты. Мяркуючы па малюнку, балотаў у Вялікім Княстве было больш, чым пацукоў у парыжскіх катакомбах. Маленькія ганарлівыя замкі са сцяжкамі на вежах выяўлялі гарады, а паміж дрэў можна было пабачыць не адно смешнаватае страшыдла, ад фенікса і адзінарога да звычайных тураў ды зуброў.

Асабліва сімпатычна выглядаў зубр, бо ў яго была барадатая ўсмешлівая пыса — быццам толькі што выпіў бочку піва. А з аднаго намаляванага хвалістымі рысачкамі возера высоўвалася на доўгай шыі галава сапраўднага цмока з рожкамі, як у слімака.

— Можа, і меншае канфедэраты зло, чым партыя караля, — разважаў сумна Лёднік, — але палітыкі ніякія. Замест таго, каб з’ядноўваць людзей, паранейшаму правы суайчыннікаў іншай веры не прызнаюць — а расейцам гэта самая падстава ўступіцца за адзінаверцаў! Кажаш, Саламея, Панятоўскі крыўдзіўся, што яго паслугі не прынялі? І дурні, што не прынялі! Заўсёды кожны магнат у нас на сябе кілім цягне, каб пасля ўладай не дзяліцца. А толку?

Доктар сярдзіта зірнуў чамусьці на парсючка, які паміж крышталёвымі вазачкамі з чорным перцам і шафранам чакаў прыпозненых гасцей.

— Цяпер Станіслаў Аўгуст вымушаны быць на баку расейцаў і аддаваць ім на службу каронныя войскі. А людзі ж прысягалі, мусяць загады камандзіраў выконваць. Зноў свае пачнуць біцца са сваімі. Можна падумаць, Еўропе ёсць справа да таго, ці будуць ліцвіны шчаслівыя. Ну паслалі палкоўніка Дзюмур’е вучыць канфедэратаў вайсковаму майстэрству. Але хто стане за нашу волю біцца? Людовік войска пашле? Ці аўстрыйскі імператар? Зараз яны Панятоўскага дыктатарам абвесцяць, заўтра — таго, хто яго з трона саштурхне... З чаго б ім узаконьваць звычай каралёў з трона зганяць? І ўрэшце ўсе з Расеяй дамовяцца і падзеляць Рэч Паспалітую між сабой. А Панятоўскага, калі з розумам падысці, любы выкарыстаць можа. Ён не злы, не дурны, і пра патрыятызм сантыменты мае, але слабы. Пляменніка Станіслава адправіў у Парыж, да сваёй сардэчнай сяброўкі мадам Жафрэн, гаспадыні моднага салона, якая называе Цялка «дарагі сынок». А хлопец так адчытаў дзёрзкую плебейку за непаважлівыя словы пра дзядзьку, што яна дасюль паверыць не можа. Мне давялося кансультаваць

мадам, дык я ад яе паўгадзіны слухаў развагі, як жа гэта пятнаццацігадовы хлапчук аказаўся больш ганарысты ды смелы за дзядзьку-караля!

— Табе што, Цялок падабаецца? — абурана выгукнуў Пранціш. — Ды ён хутка дзяржаву загубіць! Чужаземныя войскі пусціў гуляць, як хочуць! Нясвіж разрабавалі, Слуцак! Панятоўскі, можа, і някепскі чалавек. Але як кароль — толькі замінае Айчыне. Пан Рысь мне распавёў, што Валконскі, якога з Санкт-Пецярбурга даслалі замест Рапніна, прыгразіў, што пакарае Чартарыйскіх, калі будуць надалей недакладна выконваць волю імператрыцы. Панятоўскі абурыўся — Чартарыйскія ўсё ж ягоныя сваякі, Фамілія. І з боку расейцаў што за нахабства — як можна караць замежных падданых? А Валконскі яму: «Ніколі не думаў, што вашая каралеўская мосць можа вымавіць такое слова. Данясу пра ўсё майму двару...» Нават сцвярджаць, што мы — не Расія, на іх погляд, нам нельга! Так што для нас лепей, што ў Еўропе Станіслава Аўгуста абвесцяць дыктатарам!

— І Цялок — палітык ніякі, — уздыхнуў Лёднік. — Лепей бы і далей Шэкспіра перакладаў, а не вырашаў лёс радзімы. Але што загадаеш асабіста мне, праваслаўнаму дысідэнту, рабіць? Шаблю браць і ісці караля скідаць? Альбо паспрабаваць нарэшце хоць пад ягонай пратэкцыяй зладзіць першую медычную школу на Беларусі? Да таго ж я магу прыўнесці туды, чаго ні ў воднай медычнай школе свету больш не будзе...

Апошнія словы Лёднік прагаварыў з нейкай прытоенай жарсцю, уперыўшыся мройным паглядам у сцяну, на якой пагойдваліся карункавыя цені ад лістоты маладых каштанаў — нібыта нехта лавіў залатой сеткай скрушлівыя прывіды. Пранціш Вырвіч нахмурыўся.

— Гэта ты пра асаблівыя веды, якім цябе вучаць сябручкі, гэтыя падлючыя Бяскоўскі ды барон дэ Вард, якіх мы ўжо дзве гадзіны лішнія чакаем?

— Яны смелыя вучоныя! — напяўся Лёднік. — Ignoti nulla curatio morbi[2], таму варта ісці на рызыку. Ты разважаеш, быццам невук...

— А ты — як даверлівы дурань, якому толькі пакажы бляск на паверхні вады, скочыць у яе золата шукаць! — Пранціш сярдзіта нахмурыўся. Відаць было, што спрэчка гэткая не першы раз. — І спадар Жан Жылібер табе колькі разоў казаў з імі не звязвацца! Бяскоўскі адно глядзіць, як тваіх пацыентаў пераманіць. А барон, мецэнат ваш усемагутны, людзей за смецце ўважае. Ты не задумваўся, з чаго б то ён з табой такі мілы? У госці прыязджае, хоць у тваім дамку нават асобнага пакоя пад сталоўню няма? Быццам кот кавалак сала аблізвае, перш чым зжэрці.

Лёднік хацеў запярэчыць, але зноў пачуўся грукат: пані Саламея, устрывожаная спрэчкай, выпусціла з-пад увагі прыціхлую Сафійку... Цяпер тая сядзела ля адчыненай шуфляды адной з шафаў, ледзь утрымліваючы ў ручках штосьці бліскучае, металёвае, такое цікавенькае...

— Цаца!

— Донечка, не чапай! — доктар кінуўся да малечы, як віхор, нагадаўшы Пранцішу пра часы слаўных боек, калі за рухамі ўзброенага шабляй Лёдніка ўсачыць было немагчыма. — Гэта абцугі для...

Бутрым абсёкся і не стаў тлумачыць, для чаго, а вось расціснуць маленькія пальчыкі дактароўны на спакуснай цаццы аказалася няпроста. Урэшце абцугі ўпалі проста доктару на нагу, ад чаго той засычэў, не раўнуючы, як змяюка на распаленай блясе.

— Тата, далуй!

На каленках у маці Сафійка сядзець не захацела, да ўласных лялек засталася халоднай, як каралева — да звольненых фрэйлін, таму Лёднік вываліў

для свайго чарнавалосага шчасцейка на падлогу цэлую гару бясшкодных (здаецца) забавак, ад трубкі для праслухоўвання хворых да ватных шарыкаў. Пранціш паглядаў, як чароўнае дзіцяня ў белай кашульцы з карункамі шчасліва перабірае медычныя прылады, і ледзь утрымліваўся ад смеху. Праўда, хутка яго ўвагу зноў паглынула размова, бо Баўтрамей пачаў распісваць Саламеі незвычайную карысць, якую прыносіць супраца з ягамосцю баронам ды смелым даследчыкам Альфонсам Бяскоўскім.

— Вядома, як доктар, Альфонс мне саступае, затое ягоныя ідэі проста бліскучыя! Я б не наважыўся сам на такое... — вочы полацкага Фаўста фанатычна гарэлі. — Мы вывучаем мозг чалавека! Гэта... гэта цуд! Новы свет, неспазнаная стыхія, куды больш значная, чым усе бойкі свету! І ніякай магіі. Яшчэ Гіпакрат прапанаваў рабіць трэпанацыю чэрапа пры эпілепсіі альбо калі чалавек аслепне. Гален лекаваў пухліны мозга... Кельсус удалыя аперацыі рабіў, Галеніюс Пергамен, Берэнгарыя да Капры, — так і ўяўлялася, што Лёднік стаіць за кафедрай, апантана ўбіваючы мудрасць у галовы студыёзусаў, што і ёсць самай складанай аперацыяй на мозгу. — Чунь Лі, з якім мы ў Вільні сябравалі, расказваў пра кітайскага доктара Хуа То. Ён паўтары тысячы гадоў таму рабіў трэпанацыю і вынайшаў абязбольваючы сродак пад назвай ма фей сан. Бяда, што цяпер мы такому развучыліся, веды страчаныя, і пацыенты альбо паміраюць, альбо — паралюш. А ў барона і Альфонса незвычайна дакладныя звесткі пра структуру мозга — мне такіх ні разу атрымаць не ўдалося, і зусім дабрачынна мне іх перадалі! Трэба толькі зразумець, як на гэты орган уздзейнічаць — і хворыя, раней невылечныя, ацаляцца!

— Не дай Гасподзь мне так ацаліцца, як вы некаторых ацаляеце, — скрозь зубы прагаварыў Вырвіч. Лёднік нечакана сумеўся, перахрысціўся, бляск у ягоных цёмных вачах прыгас.

— На жаль, лекар — не Гасподзь... Здараюцца памылкі, няўдачы... Трэба працаваць, даследаваць...

— Ці не тых небаракаў даследаваць, што знікаюць у бедных кварталах Ліёна, а потым іх знаходзяць з прабітымі чарапамі? — злосна прагаварыў Пранціш, і Саламея здрыганулася, з жахам падняўшы вочы на мужа. Але той шчыра абурыўся.

— І ты туды ж, Вырвіч! Выпускнік Віленскай акадэміі! Як можна патураць забабонам цёмнага натоўпу! Гэта брудныя чуткі, якія распускаюць праціўнікі прагрэсу! — паравёў вочы на жонку, вусны яго пакрыўджана здрыгануліся. — Ты што, Залфейка? Ды я лепш сябе заб'ю, чым чалавека дзеля доследаў замучаю. Я раблю аперацыі — толькі калі сапраўды іначай не дапамагчы. Да таго ж чалавек — істота кволая і неасцярожная, небарак з прабітымі галовамі кожны дзень у бальніцу возяць, практыкі хапае. А так... Як і ўсе калегі, на пацуках эксперыментую... Нябожчыкаў ускрываю — на анатамічны тэатр маецца дазвол. Тут не ставяць на магілы жалезных «ахоўнікаў смерці», як у Шатландыі.

Сапраўды, звычай шатландцаў накрываць магілы жалезнымі кратамі пачалі пераймаць па ўсім свеце, бо чым больш пладзілася студэнтаў-медыкусаў, тым больш квітнеў бізнес выкрадальнікаў трупаў.

Вырвіч выразна скрывіўся, але не паспеў выказацца, бо Саламея з жахам ускрыкнула, гледзячы ў кут пакоя. На фоне цёмнай шафы вымалёўвалася маленькая фігурка Лёдневічанкі ў белай, месцамі, праўда, ужо завэдзганай, кашульцы. Паненка з цяжкасцю трымала перад сабой жоўты чэрап, занадта прыплюснуты, каб належаць звычайнаму чалавеку, і цікаўна ўзіралася ў разгубленыя пустыя вачніцы.

— Дзядзя!

Сафійка прагаварыла гэта вельмі задумліва проста ў пляскатае касцістае аблічча новага сябра, не падазраючы, што нагадвае аднаго нерашучага дацкага прынца. Лёднік рынуўся да дачкі і выхапіў з тоненькіх, далікатных, як пялёсткі пралескі, ручак чарговы трафей.

— І як яна яго выцягнула з шафы? Гэта ў пячоры знайшлі, са слядамі трэпанацыі... Выкупіў быў...

— Аддай дзядзю!

Ад адчайнага плачу юнай Лёдневічанкі скаланукліся нават цяжкія кніжныя шафы з цёмнага моранага дубу, а васковыя муляжы ледзь не заварушыліся.

— Што здарылася з мадэмуазэль Сафі? — пачуўся вясёлы голас мадам Жулі, нізенькай пухленькай француажанкі — здаецца, не ходзіць, а коціцца, — якую Лёднікі нанялі дапамагаць па гаспадарцы. — Што нарабіла неслухмяная мадэмуазэль, пакуль Жулі мусіла збегаць на рынак?

Усе з палёгкай уздыхнулі. А Сафійка сумленна зірнула на прыслугу вялізнымі вачанятамі-вішанькамі і, выціраючы ўпэцканыя далонькі аб калісьці бялюткую кашульку, вымавіла яшчэ два чароўныя словы:

— Палдон, мадам!

Так, Сафійка была вельмі разумнай дзяўчынкай і хутка ўсяму вучылася.

Калі расчуленая мадам Жулі з чароўнай Лёдневічанкай на руках сышла, размова пра палітыку, аднак, не разгарэлася саломай. Лёднік абвёў вачыма разгромлены родным анёлачкам пакой — разбітыя васковыя муляжы, раскіданыя па падлозе медыцынскія інструменты і ватныя шарыкі, высунутыя ніжнія шуфлядкі шафаў, з адной тырчэла чыясьці пажаўцелая костка, нібыта нябожчык спрабаваў выпаўзці на свет Божы. Уздыхнуў і выцер чамусьці спацелы лоб:

— Та-ак, мне яшчэ трэба вучыцца быць бацькам. Як я шкадую, што не быў з вамі гэтыя паўтара года... Зноў прапусціў, як маё дзіця расце. Алесь таксама без мяне першыя гады правёў, першыя крокі зрабіў...

Пранціш хмыкнуў, успомніўшы, як фанабэрысты доктар упершыню даведаўся, што ў яго ёсць сын — таму было ўжо тры гады, і ён лічыўся сынам пана Цыпрыяна Агалінскага. За права самому выхоўваць сваё дзіця доктар заплаціў дужа дорага, на любыя пакуты ішоў... Як жа добра, што хоць шчырая любоў да сямейных змушае полацкага Фаўста забывацца нават на свае падазроныя эксперыменты. Лёднік падсеў бліжэй да жонкі:

— Думаю, яшчэ трохі часу ў нас ёсць, пакуль мост паправяць, паны лекары да нас дабяруцца... Распавядзі, як у Караблях?

Маленькую вёску Караблі Лёднік атрымаў у падарунак ад вялікага гетмана Міхала Казіміра Рыбанькі разам са шляхецтвам, калі вырataваў яго на полі бойкі. Гаспадары з Лёднікаў былі слабыя да кпінаў Пранціша. Прыбытку атрымлівалі менш чым мала — затое мужыкі не галадалі, замест паншчыны наймаліся за грошы. А іх дзеткі вучыліся грамаце ў школцы, якую час ад часу хтось з удзячных пейзан спальваў. А як жа не спаліць, калі на дарэмшчыну ад пана-чарнакніжніка дасталося?

— Была там перад ад'ездам, — тонкія пальцы пані Саламеі, у дзявоцтве Рэніч, нібыта мімаволі перапляліся з пальцамі мужа. — У суд выклікалі.

— А што здарылася? — захваляваўся Лёднік, пяшчотна лашчачы рукой, што прывыкла цвёрда трымаць скальпель і шпагу, тонкую руку жонкі.

— Працэс наконт чараўніцтва, — чамусьці іранічна адказала пані, хаця тэма палявання на ведзьмаў для абаіх Лёднікаў была балючай, зведалі яго на сабе. — Ды не палохайся адразу... Двое сялян ішлі ноччу з царквы і ўбачылі,

як падае аэраліт... Вырашылі, што гэта неадменна ззяе золата, якое нясе хаваць цмок. Сабралі грамаду і пайшлі капаць прыблізна на тое месца, куды нябёсны агонь упаў. Капалі па начах і наторкнуліся на цвёрдую пліту. Ну ўсё, думаюць — скарб! Але пакуль расчысцілі, пліта знікла. Вырашылі — чараўніцтва, і пабеглі да крывой Лукер'і. Памятаеце, якая ў скрайняй ад лесу хаце жыве?

Пранціш прыпомніў, як падчас візіту ва ўладанне сяброў, якія так і не патрапілі збудаваць там сабе прыстойную сядзібу, ім усе раілі пра надвор'е даведвацца не па замежнай штуковіне «барометры», а ў нейкай Лукер'і, якая як у ваду глядзіць.

Невядома, у якую ваду глядзела Лукер'я цяпер, але запэўніла, што грошы ёсць, толькі трохі на захад ад яміны. І выкопваць іх неадменна трэба ў час поўні, пасля таго, як два разы прапяюць пеўні. Што напачатку трапіцца вялікі камень, тады смецце, тады чорныя чарапкі, тады мядзяны кацёл з золатам. Сведкі няўцямна мармыталі яшчэ пра сабачую галаву, якую належала закапаць на месцы катла. Хітры сродак перавесці праклён, каб той, хто выкапае золата, галавой не наклаў.

Абнадзееныя мужычкі ператварыліся ў кратоў яшчэ на месяц... Пакуль агонь, які яны палілі ў яміне, не заўважылі з суседняй вёскі. Ясная справа, і там вырашылі — скарб знак падае! Непадалёк ад караблёўскіх іншая кампанія таксама давай капаць яміну... А вядома, чым больш людзей — менш таямніцы. І абедзве банды арыштавалі. Выявілася, што шчыравалі яны на месцы цагельні, вось і сустракаліся «пліты» з рассыпанай цэглы ды застылая гліна... І давай адны вінаваціць другіх у тым, што чараўніцтвам золата адвялі!

Карацей, каб спыніць справу, грошай пані Саламеі давялося ляснуць, відаць, столькі, колькі скарбашукальнікі спадзяваліся выкапаць.

— Так што нікога не спалілі, не пасадзілі...

Доктар вінавата прыабняў жонку, відаць, падумаўшы, колькі давялося ёй адной перажыць падобных турботаў... А Пранціш мімаволі адвярнуўся да акна, за якім прасявалася сонца праз травеньскую наіўна-зялёную лістоту: каб усё склалася іначай, ён і сам зараз трымаў бы за руку жонку і зазіраў у зялёныя русалчыны вочы, што ўмелі выпраменьваць такую любасць... Дзе тая Раіна Міхалішыўна, былая акторка слуцкага тэатра і асістэнтка вандроўнага авантурыста графа Батысты? На якой сцэне выплятае інтрыгі ды танчыць на вуголлях?

Парсючок зусім паспеў астыць, калі ў суправаджэнні цэлай світы лёкаяў нарэшце заявіліся госці, кленучы нетрывалыя масты лангедокскіх узвышшаў. Пранціш абодвух прыхадняў любіў, як дзірку ў новым боце. Барон Мішэль дэ Вард, немалады, расплывісты, з вечнай паблажлівай усмешкай, не хадзіў, а насіў сябе, важна абапіраючыся на ўпрыгожаную дыяментамі ды рубінамі кульбачку. Такія сытыя напудраныя фізіяноміі можна ўбачыць на асамблеі шэрагамі, як спелыя гарбузы на градзе... Калі б не вочы. Светлыя, як лёд, але занадта пранізлівыя. Застрашліва пранізлівыя для спешчанага арыстакрата былі вочы ў барона дэ Варда... Падобныя Пранціш бачыў у некалькіх чалавек — і сустрэча з кожным заканчвалася дурной містыкай і смяротнай рызыкай.

У Лёдніка таксама вочы маглі падобнымі рабіцца. І не самыя дабрадзейныя ўчынкі ў гэткія моманты полацкі Фаўст утвараў, каб пасля раскайвацца ды чытаць канон святым пакутнікам Кіпрыяну ды Юстыніі.

За спінкай крэсла, якое заняў барон, адразу намаляваўся ягоны лёкай з выцягнутым, як ад вечнага расчаравання, тварам. Барон няўважна перадаў яму сваю кульбачку, працягнуў назад, не гледзячы, руку, і лёкай уклаў у яе белую шаўковую сурвэтку, ад якой нават на адлегласці пахла вербенай.

Пан Альфонс Бяскоўскі быў не такі прадстаўнічы, як барон, худы, як пуга, насаты, але пагляд меў непрыемны. Ды яшчэ вочы яго, вадзяніста-зеленкаватыя, мітусіліся, як гарошыны ў шалбера, што сядзіць на рынку і прапануе адгадаць, пад якой з трох чарачак схаваная тая гарошына. Прадзед пана Альфонса быў з Польшчы, ваяваў у войску Багуслава Радзівіла, што прыняў бок шведаў, і разам са шведамі пасля іх паразы і з'ехаў. Сам пан Альфонс прыехаў з Парыжа ў Манпелье паўгода таму разам з баронам. Кліентаў ачмураў галантна-вучоным балбатаннем, як Пранціш карчмароўнаў. Праўда, многія багатыя пацыенты ўсё роўна выбіралі маўклівага змрочнага Лёдніка — толькі той кліентаў на свой густ адсяваў. Мог бясплатна падлячыць, калі цікавы прэцэдэнт, ну і калі трэба ратаваць жыццё — не вагаўся. А так — ніякімі грашыма не спакусіць ліцвінскага доктара, шкада яму траціць час на банальны раматуз графіні.

Першы іхні год у Лангедоку Пранціш успамінаў, як пільнавальнікі сармацкіх нораваў на Літве — пракаветнае залатое стагоддзе. Маўляў, тады ўсе дзеўкі былі прыгожымі ды цнатлівымі, і на адным сцябле расло па пяць каласоў. Калі прыехалі ў Францыю, Лёднік у шпіталі Жана Жылібера ледзь не начаваў, лекцыі ў медычнай школе слухаў, тады і сам пачаў іх чытаць. А ў батанічным садзе ў квартале Брота, які Жылібер за свой кошт заснаваў, на пару з апантаным батанікам кожную травінку абнюхаў...

Пакуль не з'явіліся «прагрэсіўныя дактары», і, даведаўшыся пра заезджае, хаця й барбарскае, свяціла, не далучылі яго да сваіх таямніцаў, раз ужо не ўдалося завабіць да сябе Жылібера.

А ў апошняга тут жа пачаліся непрыемнасці, нібыта хтосьці крыкнуў «ату». Некаторыя даследаванні давялося згарнуць. У батанічны сад прызначылі адміністратараў настолькі недасведчаных, што як знарок пачалі губіць каштоўныя раслінныя зборы.

Парывісты і патрабавальны — возьмуцца з Лёднікам спрачацца, ледзь шыбы не лопаюцца, але сумленны Жан Жылібер, з грубаватым абліччам і высокім ілбом, Пранцішу падабаўся. Ненашмат старэйшы за Пранціша, нарадзіўся ў вёсцы, не з багацеяў — а столькі паспеў дасягнуць! Выкладаў батаніку, анатомію, хірургію, збіраў народныя песенькі, вырошчваў рэдкія расліны... Праўда, Пранціш аніяк не мог падзяліць рэспубліканскіх перакананняў Жылібера. Той сябраваў з Вальтэрам, Русо і Дзідро, у салоны блюзнерскія матаўся і любіў вярзці пра роўнасць саслоўяў і разбэшчанасць «прывілеяваных класаў», патрапляючы ў лад Лёдніку, гэткаму ж прадсталюдцу. А ў гэтым inter dominum et servum nulla amicitia est[3]. Абодва прафесары, дарэчы, плату з хворых бралі толькі пасля ацалення, а беднякоў прымалі бясплатна. Чым выклікалі шчырае абурэнне калегаў.

І пані Саламеі батанік прыйшоўся да душы. Пан Жылібер быў у іх разам са сваім студэнтам Давыдам Ляйбовічам, пляменнікам полацкага аптэкара Лейбы, якога Лёднік прыхапіў з сабою з Беларусі. Аптэкар у свой час дапамог малому сыну гарбара выйсці ў людзі, і Бутрым на гэта не забыўся.

Тады за сталом Чорнага Доктара паспрачаліся добра... Але пра патрэбнае. Напрыклад, Жылібер быў супраць залішняга ўмяшальніцтва ў прыроду. Лічыў — замест пігулак ды ўсялякай хіміі лепей дыета ды зёлкі, не падабалася яму і ўжыванне опіуму. А вось Лёднік, былы алхімік, вельмі дык любіў з атрутнымі рэчывамі паэксперыментаваць.

Спрачаліся і як адукоўваць шматлікіх самадзейных павітух.

Пытанне было вельмі вострым. Кабеты, што дапамагалі парадзіхам, часцяком абвінавачваліся ў вядзьмарстве. Ды й самі спрыялі таму, ужыва-

ючы дзікунскія метады, самы бясшкодны — выманьваць немаўля, якое доўга не можа нарадзіцца, цукрам. У Вялікім Княстве Літоўскім дасюль памяталі страшную гісторыю, што здарылася з Раінай Грамычынай, пападдзёй, якую паклікалі палячыць сына Яна Сапегі. Хлопчык памёр, не паспела лекарка ў дом зайсці. Вядома, у няшчасці абвінавацілі Грамычыну. А следства засяродзілася на тым, як падчас дапамогі парадзіхам кабета чаравала. Паўтара года кабету катавалі. Дарэмна абаронца прамаўляў: «Што дзяцей малых абкурваць умее, хіба гэта чараўніцтва? Абкурваць жанчын падчас родаў бабровым струменем, пер'ямі жывых курапатак, перастрэлам, мірай ды іншымі зёлкамі свянцонымі, рог адзінарога піць даюць, а таксама арліны камень — хіба гэта чараўніцтва?»

Ад часоў спаленай на вогнішчы Грамычынай метады павітух не надта змяніліся. У век Асветніцтва абкурваць парадзіх пер'ем курапатак? Зладзіць курсы акушэрства пры будучай медычнай школе ў Гародні было неабходна. Пані Саламея, сама добрая лекарка і акушэрка, згаджалася дапамагчы. Давыд па сканчэнні курса фармацэўтыкі меўся працаваць у аптэцы пры будучай медычнай школе.

Шмат высокіх слоў прамаўлялі і кіраўнікі Таварыства прагрэсіўнай медыцыны.

— Колькі ёсць людзей — забойцаў, гвалтаўнікоў, якіх падвяргаюць смяротнаму пакаранню, хаця вінаватая ў іх злачынствах хвароба — паталогіі ў мазгу, — тлумачыў вучоны барон. — Магчыма, пухліны памерам з макавінку, таўшчынёй з валасіну! Гэта, умеючы, можна лёгка выправіць, і in summa[4] чалавек стане бяспечным і нават карысным для грамадства! Вось вам прыклад...

Дэ Вард азірнуўся і крыкнуў у бок дзвярэй:

— Гарганцюа, хадзі сюды, сябар мой!

Лёкай за крэслам барона, здавалася, хацеў прыгнуцца.

У пакой, крочачы, як мог бы крочыць пражскі Галем, увайшоў слуга дэ Варда ў чорнай аксамітнай куртцы з нашытымі на яе залатымі змеямі з галовамі пеўняў — эмблемай Таварыства прагрэсіўнай медыцыны. Пранціш у чарговы раз адвёў вочы: яму заўсёды было вусцішна глядзець на гэтага вялізнага барадатага дзецюка з павязкай на лбе — не дарэмна яму далі мянушку «Гарганцюа». Нібыта шкляныя цёмныя вочы, рысы твару калісьці, напэўна, нават прыгожыя, уладныя, але зараз нерухомыя, азызлыя.

— Ці задаволены ты сваім жыццём, сябар мой? — мякка спытаў дэ Вард слугу. Той прамарудзіў з адказам трохі больш, чым належала здароваму чалавеку, але адказаў роўна і хрыплавата, гледзячы ў адну кропку, якая знаходзілася дзесьці над левым плечуком дэ Варда, якраз там, дзе гіпатэтычна мусіў сядзець апанент анёла-ахоўніка:

— Я ўсім задаволены, вашамосць барон. Мне жывецца шчасна і спакойна. Дзякуючы літасці і розуму ягамосці барона.

Дэ Вард пераможна агледзеў кампанію, хаця Лёднік і Пранціш ужо дакладна не раз чулі гісторыю выратаванага слугі, і прадстаўленне разыгрывалася для адной Саламеі.

— А між тым гэты няшчасны быў адным з самых страшных злачынцаў свету. Каб яго не спынілі — на ягоных руках з'явілася б кроў яшчэ соцень бязвінных! Яго мусілі павесіць — але ўдалая аперацыя...

— Я сам зрабіў яе ўжо тры гады таму! — насмеліўся перабіць барона Альфонс Бяскоўскі, нібыта замоўчвання сваіх заслуг баяўся больш, чым раззлаваць мецэната. — І ніякіх наступстваў! Restitutio ad integrum![5]. Гарганцюа нават не пазбаўлены радасці мець зносіны з супрацьлеглым полам.

— Зносіны — гэта не каханне. Ваш кліент больш падобны да механічнай лялькі, чым да жывога чалавека, — з дрыготкай у голасе адказала Саламея, адводзячы вочы ад чарнабародага волата з мёртвым тварам. — Вы кажаце, выправілі злачынцу да лепшага? Але ці ўратавалі ягоную душу? Гасподзь сам вызначыў шлях да выкуплення злачынстваў — шчырае пакаянне. Чалавек мусіць усвядоміць, што нарабіў, і зажадаць выправіцца. А калі вы пазбаўляеце яго такой магчымасці — гэта бязбожна!

Дэ Вард спыніў востры позірк на абліччы пані... Паглядзець было на што. Вялікія сінія-сінія вочы з даўжэзнымі цёмнымі вейкамі, носік, як вытачаны з мармуру, бялюткая скура без зморшчынаў — хіба ў куточках вачэй і паміж броваў, ружовыя вусны, дасканала акрэсленыя... Пранцішу дужа не спадабаўся баронаў позірк. Папраўдзе, пані Саламея была далёка не ў тым узросце, калі жанчына лічыцца асабліва прывабнай для вока... Але ж і памерлая фаварытка французскага караля Людовіка мадам дэ Пампадур не была юнай, калі круціла каханкам, як хацела, ела дзеля захавання маладосці супы з труфеляў ды ўважалася за Венеру. Фаварытка Францыска Другога, а пасля ягонага сына Генрыха Другога Дыяна дэ Пуацье амаль да сямідзесяці лічылася першай прыгажуняй краіны. Можа, таму, што мылася сцюдзёнай вадой і кожны дзень ездзіла конна. І велічная прыгажосць пані Саламеі па-ранейшаму выклікала не толькі павагу... Тым больш, палачанка нічога не рабіла, каб сябе прыкрасіць, і не стала б траціць два дні на «эмаліроўку твару», як свецкія прыгажуні. Ім тынкавалі аблічча каляровымі пудрамі, і пасля нельга было ўмывацца ды ўсміхацца, каб не пайсці трэшчынамі, як першы лядок на лужыне.

— Празмерная схільнасць да злачынстваў, на маю думку — гэта вар'яцтва, а хіба ацаліць вар'яцтва — грэх? З дапамогай месье Лёдніка мы прасунуліся ў нашай высакароднай справе далёка, як ніколі! — мякка прамовіў дэ Вард, шырока ўсміхнуўшыся доктаравай жонцы. — Ён вынайшаў асаблівае рэчыва, якое ўсыпляе пацыента так, што можна спакойна прасвідроўваць ягоны чэрап ды рабіць любыя маніпуляцыі.

— Праўда, тынктуры не ўдаецца шмат нарыхтаваць, яна нетрывалая, ды яшчэ з пабочнымі эфектамі... Усё in statu nascendi[6], — раздражнёна прабуркатаў Баўтрамей. Бяркоўскі замахаў рукамі:

— Ах, што вы, калега, гэта не пабочныя эфекты, а самыя што ні на ёсць лекавыя, in optima forma![7] Вы дарэмна працягваеце доследы, каб ад гэтых эфектаў пазбавіцца. Мяне ваша вынаходніцтва цалкам задавальняе!

— А мяне — не, — адрэзаў Бутрым і кінуў сабе на талерку лыжку салаты.— Я некалькі разоў выпрабоўваў на сабе і ледзь не...

Полацкі Фаўст кінуў хуткі позірк на жонку і змоўк, зразумеўшы, што дарэмна прагаварыўся. Саламея страшэнна гневалася на ягоную прыкуду выпрабоўваць на сабе ўласныя вынаходніцтвы, а часам для такога дактары пераймалі і заразу.

— Мы вельмі зацікаўленыя, пан Лёднік, — прамовіў барон, уперыўшыся светлымі халоднымі вачыма ў змрочнага доктара, — каб рабіць больш аперацый... Вы, з вашай неверагоднай дакладнасцю, з вашай цвёрдай рукой не схібіце. Бо ў пана Бяскоўскага пакуль адзіная цалкам удалая аперацыя — гэта наш Гарганцюа.

Па твары пана Альфонса павуком прабег цень застарэлай зайздрасці і нянавісці.

— Працуйце, працуйце, а разуменне прыйдзе потым, — раптам гучным голасам, сапраўды быццам механічная лялька-аўтамат, вымавіў Гарганцюа, які так і стаяў слупам пасярод пакоя.

Пранціш вылупіўся на слугу, што працытаваў акадэміка-сэнсуаліста д'Аламбера. Гэта было, нібыта засмажаны парсючок на стале раптам ажыў. Разгубленасць прамільгнула ў цёмных вачах Лёдніка, а дэ Вард раздражнёна махнуў рукой:

— Ідзі, Гарганцюа, чакай нас на дварэ.

Волат пакорліва развярнуўся і, цяжка тупаючы, выйшаў.

— Вось, як бачыце, і здольнасць да мыслення ў яго захавалася! — закруціўся ў захапленні ад самога сябе на крэсле Бяскоўскі. Саламея нервова сціснула тонкія пальцы, яе талерка заставалася пустой.

— Дык вы збіраецеся рабіць шмат падобных аперацый?

— Гэта наша мэта, шаноўная пані! — ветліва пакланіўся барон. — Няўжо такое не гуманней за смяротнае пакаранне або зняволенне ў вар'ятні, калі няшчасныя вар'яты жыўцом гніюць, пасаджаныя на ланцугу ў сутарэннях, і выюць ад бяссільнай злосці, незразумелай ім самім? Я не аспрэчваю, магчыма, якіясь з іх апантаныя злым духам, — прымірэнча падняў руку дэ Вард, але Пранціш разумеў, што яго словы проста даніна забабонам гаспадароў. — Калі святому слову ўдаецца выратаваць небарак, добра. Калі ж прычына фізічная, калі гэта проста хвароба — хіба не наш доўг пазбавіць бліжніх пакутаў? De actu et visu[8], тэхніка можа быць удасканаленая да таго, што ніхто і не западозрыць, што чалавек перанёс аперацыю.

Дзесьці капрызлівы дзіцячы плач засведчыў, што паненцы Сафійцы зноў чагосьці збракавала для шчасця. Пані Саламея рванулася была бегчы туды, але плач сціх і адразу ж змяніўся смехам: Жулі знайшла чым суцешыць гаспадарскае дзіця. Дэ Вард зноў усміхнуўся ўстрывожанай пані, паспеўшы абмераць позіркам яе гнуткі, як у дзяўчыны, стан.

— Мы нічога супраць Бога і прыроды не робім, мадам Лёднік. Напрыклад, на востраве Ява дзікуны спаконвеку дасканала валодаюць методыкай, якую мы толькі намацваем, і самых агрэсіўных чальцоў племені жрацы з дапамогай свярдзёлка і голкі, якую заганяюць у лобныя долі мозга, ператвараюць у ціхамірных пакорлівых працаўнікоў.

Здавалася, жоўты прыплюснуты чэрап з дзіркай, адабраны ў Сафійкі, намагаецца адпаўзці падалей ад прагрэсіўных дактароў, у глыб паліцы.

— Вы не распавядалі пра гэта, вашамосць! — цёмныя вочы Лёдніка зноў загарэліся фанатычнай цікаўнасцю. Дэ Вард прыўзняў бровы ў ветлівым здзіўленні.

— Не можа быць, каб вы гэтага не чулі, дарагі доктар! Не далей чым праз тыдзень у Латэ прыбудзе карабель, які адпраўляецца на Яву з экспедыцыяй, і наш калега Жак Перэс далучыцца да яе. Эксперыменты з псіхікай на астравах проста ўнікальныя! Ёсць, напрыклад, звесткі пра ажыўленне нябожчыкаў. Некаторых тубыльцаў уводзяць у штучную кататонію, хаваюць. Потым жрэц выкопвае небараку, прыводзіць у прытомнаць, чымсьці апойвае — і чалавек нібыта робіцца іншым... А якія там рэдкія расліны! У пана Жылібера блізка такіх няма...

Лёднік слухаў, кусаючы тонкія вусны, і відаць было, гатовы зараз жа сарвацца й плысці на тую Яву. Саламея ўхапіла яго за рукаў:

— Бутрым, ты не можаш нікуды ехаць! Ты мусіш выканаць працу, дзеля якой цябе паслалі... Увесну цябе чакае князь Тызенгаўз. У цябе лекцыі. І пра нас падумай...

Лёднік перахрысціўся, нібыта адагнаў ачмурэнне, і пакорліва ўздыхнуў.

— Сапраўды, не да экспедыцый.

— Што ж, яна не апошняя, дарагі месье Лёднік! — суцешыў дэ Вард. —

Разумею вашу скруху — нельга паспець усё, што здаецца важным... Таму ці не настаў час выбіраць? Развітайцеся са сваймі ранейшымі абавязкамі, колькі ў вас іх ні было б — і прысвяціце сябе канчаткова нашаму Таварыству. Увесну мы вернемся ў Парыж, і нас чакаюць вялікія справы. Ад заўтрашняга ж дня вы пачнеце атрымліваць плату ў дзесяць тысяч ліўраў у год, у вас будуць неабмежаваныя магчымасці для даследчыцкай працы і перспектывы для кар’еры.

Дэ Вард гаварыў нават суха, не вуркатаў, як над вухам гожанькай прыслугі, ад таго словы былі важкімі.

— Паверце, над намі асобы настолькі магутныя, што вам ніколі больш не давядзецца клапаціцца ні пра грошы, ні пра небяспеку.

Вырвіч сціснуў кулакі... Пракляты француз на здраду Айчыне падбівае! Але Лёднік толькі ветліва пакланіўся:

— Дзякую за шчодрую прапанову, вашамосць. Мае абавязкі не такога кшталту, каб іх можна было разарваць без непапраўнага ўрону для гонару.

Саламея схіліла галаву, каб схаваць усмешку палёгкі.

— У любым выпадку, праз тыдзень мы чакаем вас, шаноўны пан Лёднік, у Манпелье на чарговым доследзе! — не паказаўшы расчаравання доктаравай трываласцю перад спакусай, нагадаў дэ Вард.

— Пацыент будзе незвычайны, які — пакуль сакрэт! — таямніча дадаў Бяскоўскі, падчапіў на відэлец кавалак парсючка і панёс у рот. На твары пана адбілася пэўнае непаразуменне, і ён, памарудзіўшы, выплюнуў штосьці мокрае і белае... Ватны шарык! Калі толькі Сафійка злаўчылася напхаць у страву сваіх забавак? Саламея прыкусіла губу.

— Дарэчы, вашамосць Бяскоўскі, я скіраваў да вас маркізу Панвіль, — няўважна прамовіў Лёднік. — Яе светласць ніяк не можа ўцяміць, што мне бракуе часу на яе банальны катар страўніка. Усяго толькі захоўваць дыету, курс магнэзіі... Ну, самі разберацеся.

— Дзякую, калега, — расцягнуў вусны ва ўсмешцы пан Альфонс. І Пранціш падумаў, што Бутрым так і не растраціў свайго дасканалага ўмення на раз заводзіць смяротных ворагаў ды распальваць зайздрасць.

Грукнулі дзверы. Радасны Алесь Лёднік у суправаджэнні Хвэлькі вярнуўся са школы, прыціскаючы абедзвюма рукамі да сябе нейкую пасудзіну.

— Маю гонар вітаць шаноўнае панства! Шчыра прашу даравац мне за адцягненне ўвагі вельмішаноўных мосцяў. Вашамосць пан бацька, яны вылупіліся! У той дзень, як я і вылічыў!

Шляхетны паніч урачыста паставіў на стол з засмажаным парсючком слоік, у якім варушылася нешта шэрае і слізкае, і адвесіў паклон па ўсіх правілах свецкага тону.

— Віншую, Аляксандр. Спадзяюся, ты запісаў усе дзеі эксперыменту ў нататнік, — сур’ёзна прамовіў Чорны Доктар, з прыхаваным гонарам гледзячы на радаснае аблічча сыночка. У слоіку штосьці ажно захлюпала.

Барон дэ Вард асцярожна паклаў відэлец з недаедзеным кавалкам на край талеркі. Лёкай за ягоным крэслам адступіў на крок да сценкі. А пан Бяскоўскі нічога, скасавурыўся на варухлівае паскудства ў слоіку і далей сабе жуе.

— Аляксандр, гэта... гэта не зусім дарэчы! — у роспачы ўскрыкнула пані Саламея. А Пранціш Вырвіч скрозь смех змог вымавіць толькі адно:

— Харошыя ў цябе дзеці, доктар! Як ёсць бацькавічы...

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## Як Баўтрамей Лёднік на востраў Ява з’ехаў

Кажуць, калі засноўвалі друід ды кароль там, дзе зліваюцца Сона ды Рона, горад Ліён, на ўзгорак наляцела варання, як мух на разлітае сочыва.

Нашчадкі гэтых птушак, дзяцей старажытнага бога Луга, раскашаваліся й цяпер і над антычнымі акведукамі, і над шматлікімі гарбатымі мосцікамі і сярэднявечнымі саборамі, падобнымі да стамлёных рыцараў. І, вядома, сыпалі здзеклівае сваё крумкатанне чорныя Лугавы дзеці на тлумную плошчу Бялькур, чые каштанавыя прысады яшчэ не страцілі белай квецені...

— Месье Барталам’ю! Месье Лёднік! Рады вас бачыць!

Руку Чорнага Доктара з энтузіязмам трос багата апрануты мажны пан, на ягоных грудзях паўзверх чорнага аксамітнага камзола пабліскваў залаты ланцуг.

— Ніколі не забудуся, як вы нас выратавалі!

Рады, як на сто коней сеў.

Каля пана ў чорным камзоле ўсміхалася пані ў ружовай сукенцы, падобнай да клумбы. За іхнімі спінамі, як сціплы статыст за дэкарацыямі антычных развалін, стаяў слупам малады чалавек з абыякавым тварам. Занадта абыякавым для здаровага.

— Наш П’ер нарэшце бачыць сонца! Яго не трэба замыкаць, мы можам хадзіць з ім на людзях!

Пані плакала ад шчасця, як сыр на сонцы.

У маладога чалавека былі невыразныя вочы і капялюх, насунуты дастаткова нізка, каб схаваць шнары ад аперацыі.

Вараннё колішняга Лугдунума, цяперашняга Ліёна, марудна кружляла над плошчай Бялькур, выглядаючы чарговую ахвяру.

— Я не пярэчу, каб ты займаўся даследаваннямі мозга, Бутрым, — перарывістым голасам шаптала сінявокая гожая, як антычная статуя, пані. — Ты вялікі вучоны... Але будзь асцярожны. Не пераступі мяжы...

— Ты мая ля біш... — ціха прагаварыў яе спадарожнік, высокі хударлявы цемнавокі мужчына, і пацалаваў ёй руку, нібыта дзюбнуў носам. — Мая козачка... Тут гэта самае ласкавае азначэнне для любай. Я... пастараюся не пераступіць мяжы.

Але абяцанні апантаных людзей каштуюць не болей, чым «місісіпійскія акцыі» шалбера Джона Ло. Папрадаваў іх французам, што праглі займець дармовага золата, знойдзенага ў амерыканскай Луізіане, а замест таго страцілі родныя ліўры.

У кабінеце, дзе кніжных шафаў было больш, чым паветра, пан Жан Жылібер, у свае дваццаць дзевяць вядомы доктар, хірург і батанік, нецярпліва кусаў вусны, пакуль Пранціш Вырвіч, прыхадзень з далёкай барбарскай краіны, вывучаў пакамечаныя паперы, якія быццам курыца лапай скрэмзала.

— Бачыце, месье Вырвіч, па ўсіх рахунках з мясцовых лавак выходзіць, што ў доме барона дэ Варда жыве нашмат больш чалавек, чым лічыцца. Прычым звярніце ўвагу — мяса, зеляніна, хлеб у такіх вялікіх колькасцях закупляецца самага простага гатунку — нібыта для ўтрымання звярынца. Да таго ж таемна, праз падстаўных асобаў. Бо для панскага стала прыслуга набывае ў іншых лаўках.

Гадзіннік, што ўпрыгожваў будынак Ліёнскай медычнай школы, адбіў Час Змяі, які, як вядома, пачынаецца а другой, калі ў сярэдзіну светлага дня западзае прадвесце цёмнай пары.

— Нічога дзіўнага, што ў медычным таварыстве ўтрымліваюць звярынец для доследаў, — паціснуў плячыма Вырвіч. — Лёднік сам прызнаваўся, што яны ў мазгах няшчасных жывёлак калупаюцца. А пра таямніцы... У Бутрыма ў Віленскай акадэміі ў сутарэннях таемная лабараторыя была, якую айцы-езуіты забаранялі. Я сам колькі разоў дапамагаў яму там трупы патрашыць — і людзей, і звяроў. Праўда, без асаблівай ахвоты. Не маё гэта.

Пранціш дасюль памятаў сваё здзіўленне, калі Жылібер падзяліўся светлым успамінам дзяцінства: як патрапіў на ўскрыцце трупа ў анатамічны амфітэатр, і якое захапленне ў яго выклікала відовішча зладжання арганізма знутры.

Шаноўны анатам адзначыў пазногцем радок у адной з папер:

— «Па начах жа пане мой дабрадзею крычаць у сутарэннях тут як душы ў пекле крычаць хто не ведаю але многа також мне страшна робіцца асабліва ж як бачыў валакуць у тыя сутарэнні а на галовах мяхі ж уздзетыя»... Тут ужо ёсць за што зачапіцца! Я даўно марыў неяк прыціснуць гэтых прыблудных прагрэсістаў у пудраных парыках. Варта было нешта супраць іх метадаў выказацца ды адпрэчыць запрашэнні — усё... У іх жа хаўрусе — бароны, маркізы ды біскупы. Не разумею, чаму Барталам’ю не заўважае, як ягоныя новыя сябры насамрэч да яго ставяцца, пераглядаюцца пагардліва за спінай, а ў твар — «ге-еній»... А мне ўчора сказалі ў магістраце, калі не саступлю стаўленнікам прагрэсістаў практыку ў шпіталі, не заплацяць за батанічны сад. А я туды ўсе грошы свае ўваліў!

Жылібер стукнуў даланёй па дубовай стальніцы, нібыта спадзяваўся высекчы адтуль, як жарынкі крэсівам з крэменю, залатыя манеты.

— Калі што — застанецца мне торбу цераз плячо ды ў якасці вандроўнага цырульніка ісці зубы ірваць па вёсках, па сантыме за паслугу. А тут такая падстава паноў выкрыць... Тое, што зараз скажу, я гаварыць староннім не павінен, — Жылібер вострa зірнуў на суразмоўцу, і Пранціш урачыста пакланіўся, пацвярджаючы — шляхціц таямніцу не выдае.

— У Ліёне дзве масонскія ложы. Адна, дзе больш арыстакратаў, з панамі-прагрэсістамі сварыцца не хоча. У другой, нашай, якая называецца «Дасканалая гармонія», ёсць тыя, хто дужа не любіць Бяскоўскага, а дэ Варда ненавідзяць яшчэ за ягоныя парыжскія справы.

— А што ён вытварыў? — зацікавіўся Пранціш, якому дэ Вард нагадваў нейкае агіднае марское стварэнне, халоднае, вялізнае і бязлітаснае — слізгае каля цябе ў цёмнай вадзе, і не ведаеш, ці адразу глыне, ці нагу адхопіць.

— У судзе нічога не давялі, але гаворка ішла пра выкраданне дачкі аднаго збяднелага двараніна, — Жылібер скрывіўся, як ад смуроду. — Гэтыя радавітыя вычварэнцы Калігулу ды Нэрона здзівілі б сваймі гнюснымі забавамі.

Пранціш трохі нахмурыўся ад чарговага рэспубліканскага выпаду французскага знаёмца — у спрэчках пра «выраджэнне арыстакратыі» ім ніколі не прыйсці да згоды. Жылібер уздыхнуў.

— Эх, калі б удалося даведацца, чым насамрэч займаюцца ў Таварыстве, ды шум падняць, прынамсі, шпіталь ім не аддадуць. Хто ж туды пойдзе лячыцца, ведаючы, што стане ахвярай бязбожных доследаў? Ды й, магчыма, удасца з горада шалбераў выжыць — з Парыжа дэ Вард і Бяскоўскі не па сваёй волі з’ехалі. І пан Лёднік, калі даведаецца праўду, адумаецца — чалавек ён прыстойны... Але само неба нам спрыяе!

Батанік горача перахрысціўся — Вырвіч успомніў, што той мусіў стаць па волі бацькі святаром, пакуль не падгледзеў цікавае ўскрыццё трупа.

— Я б нічога не намеліўся сам выведваць, а тут у дом дэ Варда ўзялі

прыслугай небараку, які абавязаны мне жыццём. Ён пасля траўмы кепска гаворыць, але паны не ведаюць, што гэты лядашчы бядняк, якога ў горадзе ўважаюць за дурылу, умее чытаць і пісаць. Так што Агюст, падслухаўшы, што мяне хочуць знішчыць, сам прапанаваў дапамогу. Але ў судзе з яго сведка, як вы разумееце, ніякі.

Жылібер пацёр рукой лоб з раннімі зморшчынамі. Анатамічныя малюнкі, развешаныя па сценах кабінета ўперамежку з засушанымі раслінамі ў зашклёных рамачках, нагадвалі пра буцвенне, цвіленне, паміранне ды іншыя вартыя для роздуму добрых хрысціян рэчы.

— Калі б толькі месье Барталам'ю Лёднік не быў такім упартым... Адзін спадзеў — вы, месье Вырвіч, яго ўгаворыце, каб разведаў, чым там у сутарэннях займаюцца. Пакуль жа — не хоча і слухаць, што справа Таварыства — з гніллю, ды спасылаецца, што слова даваў, сам не стане лезці ў сакрэты калег.

— Калі слова даў — памрэ, не парушыць. Мяне вунь ні разочку з сабой на іх доследы не ўзяў — забаронена, маўляў, староннiх прыводзіць, — задумліва прамовіў Пранціш, а ў душы пастунова разгаралася знаёмая жарынка, і вось ужо нішто сабе вогнішча так і паліць прагай новых прыгодаў.

— Я сам усё разведаю! — рашуча заявіў Вырвіч. — Мне не ўпершыню. Уга, у якіх жорнах давялося пабываць! Замкі любыя адчыняю звычайнай шпількай — Лёднік сам вучыў, калі мы пані Саламею ў Слуцкім замку вызвалялі. Зброя мая не хібіць!

Пранціш, як маланка бліснула, выхапіў верную шаблю, якую зваў па імені радавога герба Гіпацэнтаўрам, выпісаў у паветры хітры вензель — ажно засвістала.

— Падумаеш, нейкія падазроныя лекары... Ваш слуга ўпусціць мяне, каб я ў сутарэнні зазірнуў?

Жылібер сярдзіта пераклаў з месца на месца выпускі Венскага медычнага штогодніка, быццам шукаў на іх старонках парады.

— Не, не варта так рызыкаваць... Вы, месье Вырвіч, асоба вядомая — асабліва пасля двубою з пляменнікам біскупа, вас могуць пазнаць. А ў доме — цэлы маленькі гарнізон. Лепей усё-ткі пан Лёднік, як сябра Таварыства...

— Не! — заматаў галавой Пранціш. — Дэ Вард — не дурань, ведае, прызнайся Лёдніку ў нечым злачынным — той ганарыста сыдзе. А паколькі сыходзіць не хоча, учора вунь, пані Саламея распавядала, сядзеў усю ноч ды маляваў схему мозга, дык усе будуць гуляцца ў свае гульні. Бутрым — «не ведаю ні пра што кепскае», натура як у таго тура, прагрэсісты — «а ў нас і няма нічога кепскага». Лёднік на тым тыдні збіраецца ў Манпелье, на іхняе зборышча. Повен дом чужога народу наб'ецца. Лёкаі, фурманы, герольды, гардыяны... Калі зловяць — скажу, Бутрыма шукаў па тэрміновай справе.

Прафесар медычнай школы раздражнёна хмыкнуў.

— Як з малітвай праз дрыгву. Давайце дамовімся, вашамосць Вырвіч. Напачатку вы перагаворыце з доктарам Лёднікам. Калі зноў не захоча дапамагаць — што-небудзь прыдумаем.

Думаць ды мудрыць — і вада са студні збяжыць. Пранціш Вырвіч, былы каралеўскі драгун, не збіраўся чакаць. І нават не стаў раіцца з Чорным Доктарам. Сам усё разведае! Вось здорава будзе торкнуць Бутрыма дзюбатым носам у чорныя справы ягоных улюбёных дактароў! А галоўнае — Пранціш моцна баяўся, што ўпарты полацкі Фаўст так і застрагне тут, на чужыне, паглыблены ў навуку, як жамяра ў жывіцу.

Варанне кружляла над багатым трохпавярховым домам з белымі калонамі, як бы хтось размешваў у небе вялізнай лыжкай варыва з чорных круп. Ну

дакладна прытулак нячыстай сілы! Нездарма кляты дэ Вард прыгледзеў для сябе будынак ля развалін амфітэатра, у якім калісьці адны людцы забівалі другіх на пацеху трэцім. Вырвіч бачыў адмысловыя каменныя раўчукі — каб кроў з арэны сцякала. Мусіць, гінулі тут і першыя хрысціяне, аддадзеныя крыважэрным ільвам...

Напэўна, драгуну варта было цяпер адчуваць сябе гэткім героем-пакутнікам, які засоўвае галаву ў пашчу звера, але ён проста гарэў азартам бойкі. Тым больш, з Лёднікам развіталіся нядобра. Пасварыліся так, што пыл курэў. Варта было рэкнуць пра канфедэратаў, Бутрым зноў пачаў вярзці, ён, маўляў, не шляхціц па нараджэнні, у яго свае ўяўленні пра гонар, і кідацца ў крывавую калатнечу, ад якой пакутаваць зноў простым людзям, ён не абавязаны. А ўдасканальваць сваё лекарскае майстэрства якраз абавязаны. Вырвіч выкрыкнуў, што прагрэсіўныя дактары, з якімі Лёднік сваё майстэрства ўдасканальвае, зграя злачынцаў і распуснікаў. Бутрым забубнеў, што маніпуляцыі з мазгамі не парушаюць волю Госпада, прышчэпак ад воспы баяліся, верылі, што ад іх людзіператвараюцца ў кароў. Барон дэ Вард, можа, і непрыемны, і з арыстакратычнымі забабонамі, а доследы аплачвае, і вынікі ўнікальныя. Пані Саламея ўмяшалася — і ёй перапала. Полацкі Фаўст заявіў, што ён пабыў ужо чужой рэччу, і хапіла. Нікому не дазволіць перашкаджаць сваім навуковым пошукам ды ўцягваць у шляхецкую палітычную тузаніну.

І дзвярыма на развітанне амальляснуў — стрымаўся, каб дачушку не спалохаць.

Бізуноў бы дурню ўсыпаць...

Пад старым каштанам катрыншчык у саламяным капелюшы накручваў нашмараваную да залатога бляску ручку свайго інструмента, упрыгожанага райскімі пейзажамі:

— Да дзвюх сясцёр, у дом ля вады
Прыехаў рыцар малады.
Бінары, о бінары...
Пярсцёнак старшай падарыў,
Бінары, о бінары,
Ды больш малодшую любіў...

Вырвіч успомніў, як спявалі лірнікі ў Менску пад вокнамі канвента езуіцкага калегіума падобную ж песню, пра тое, як сястра забіла сястру з-за гожага рыцара. Толькі тут адна другую ўтапіла, а там яны збіралі ў лесе маліну. А прыпеў гучаў «Грай, пастушку, грай». Дзе той Менск, дзе тая Беларусь...

Пранціш доўга звыкаў да тутэйшай спёкі — не паходзіш у шапцы з дыяментавым гузам, як належыць шляхціцу. Дамы ўсе каменныя, са светлага пясчаніку, не саломай крытыя — чарапіцай… Нідзе сумленнай драўлянай хаціны не пабачыш! Вуліцы ў мястэчках вузкія і цёмныя, часам вершніку не праехаць. Таполі тут раслі змрочныя, як надмагільныя стоды. Асабліва раздражнялі вока кіпарысы. Нібыта трохі і падобныя да беларускага ядлоўцу, але Пранцішу яны нагадвалі цёмныя лісіныя хвасты. Стаіліся на ўскрайку поля вялізныя лісіцы, вось-вось кінуцца на вандроўніка.

На цэрквачцы ўдарыў звон... Цэрквачка была прысвечаная Святому Роху. Будучы святы нарадзіўся тут, у Манпелье, і ад нараджэння меў знак у форме чырвонага крыжа на грудзях. У свой час святому ўдалося ацаліцца ад чумы, і ён жа ратаваў ад яе іншых. Таму й лічыўся найлепшым абаронцам ад пошасці, а таксама апекуном хірургаў. Цікава, ці апякуецца ён такімі, як Бяскоўскі? На месцы шаноўнага святога Вырвіч пульнуў бы ў падазронага доктара маланкай...

Пляц перад домам дэ Варда, палова якога была аддадзеная для патрэб д'ябальскага Таварыства, увесь застаўлены карэтамі. Пранціш угнуў галаву ў плечы, нацягнуў капялюх з абвіслымі брылямі на самыя вочы. Пад шырокім каптанам вельмі зручненька схаваліся шабля ды пісталет. А спякота сёння — пот ажно слепіць. Дзверы чорнага хода лёгка адчыніліся перад пасланцом з лаўкі зяленіўшчыка — а менавіта такую ролю ўзяў на сябе спрактыкаваны шпег Вырвіч, не паленаваўся цэлы мех з арцішокамі прыцягнуць.

Але калі ў камору прыдыбаў Жылібераў шпег Агюст, Пранціш ледзь не расчараваўся ў сваёй задуме. Гледзячы на пляскаты твар слугі — як па патэльні носам вазілі, а вочы пазіраюць адно на зайца, другое на варону, цяжка ўявіць, што гэты чалавек здатны на штосьці разумнейшае за цяганне мяхоў.

Але Агюст, які закрумкатаў-замыкаў штось сапраўды няўцямнае, падміргнуў шпегу цалкам разумна, і схітрыўся зрабіць так, каб іхнія манеўры ў бок лесвіцы да сутарэнняў засталіся незаўважанымі. Хаця ў доме сапраўды тоўпілася шмат люду, як на кірмашы, і некаторыя, апранутыя ў венгерскія касцюмы, плячыстыя, са спаласаванымі старымі шнарамі аблiччамі, з пісталетамі ды шпагамі за паясамі, дакладна не былі ні лёкаямі, ні кухарамі...

У адным са шматлікіх калідораў пачулася водгулле вучонага дыспуту, нібыта пчолы ў вуллі, куды сунуў нейкі дурань палку... Ці не з'яўляецца гэтым дурнем мнагамудры прафесар Баўтрамей Лёднік — вось ужо хто любіць цвеліць вучоных калегаў! Апошні раз на дыспуце ў Ліёнскай медыцынскай школе пачаў заступацца за венскага доктара Аўэнбругера, што напісаў трактат, як пры дапамозе выстуквання грудной клеткі выяўляць схаваныя хваробы. Небараку Аўэнбругера за ягоную «перкусію» ў Вене высмеялі ды зганьбавалі так, што звар'яцеў і трапіў у лячэбніцу. А тут Лёднік давай даказваць слушнасць ягонай метады! А Чорнага Доктара не збянтэжыш нападкамі, у яго на кожны аргумент — сваіх дзесяць... Ледзь не пабіліся!

Лесвіца, ужо не засланая дыванамі, як у доме, цёмная, з шурпатых каменняў, вяла ўніз, у цемру. Пранціш адчуў сябе фларэнтыйскім паэтам Дантэ, якога валачэ ў чысцец па крутых прыступках касавокі Вяргілій. А той даволі спрытна адчыніў хітры замок на абабітых жалезнымі палосамі дзвярах унізе... Сунуў Пранцішу ў руку ліхтар і, перш чым сысці, так-сяк паказаў на пальцах, удакладняючы мыканнем: вернецца праз чвэрць гадзіны. Шпацыр госця мусіць быць кароценькім, як заляцанні багатай удавы да збяднелага шляхцюка.

Вырвіч, усё-ткі некалькі імгненняў счакаўшы, каб канчаткова прыдушыць ганебную гадзюку страху, націснуў усёй даланёй на створку дзвярэй. Тая падалася наперад са здрадлівым рыпеннем. З цемры прагалу пацягнула смуродам, як сапраўды са звярынца, а яшчэ чамусьці — гнілымі водарасцямі.

А потым...

А потым Вырвіч адплюшчыў вочы і зараз жа зноў заплюшчыў, бо сонца разанула па зрэнках, як татарын па горле баранчыка. Ад даволі адчувальнага пагойдвання цягнула на ваніты...

Пранціш усё-ткі прыўзняў павекі — далібог, хоць манетамі іх падпірай. Над ім абыякава плылі аблокі, сінела неба, спакойнае, як тапелец... Побач пацоквалі капыты, колы падскоквалі на каменьчыках — значыць, ён у экіпажы... А ў горле ўтварылася шостае кола пекла, у якім, згодна Дантэ, ляжаць у распаленых вогненных магілах блюзнеры ды эпікурэйцы. Лёднік, праўда, паблажліва ставіўся да Эпікура, якога лічыў цікавым філосафам: усё на свеце створанае з драбнюткіх часцінак — атамаў, і існуюць толькі іхні рух і пустэча. Бязбожнік, цьху!

Лёднік! Прагрэсіўныя дактары! Сходка ў доме дэ Варда!

Пранціш нарэшце прыўзняўся — свет загайдаўся, як русалка на вярбе. Гэтак смажыла ды вяло ўбакі, калі выпіў тры збаны такайскага віна з адным нясвіжскім войскім, што з’ехаў пасля паразы Пане Каханку за мяжу ды раптам прыжаніўся ў Ліёне. Вось і паўспаміналі землякі Беларусь ад душы...

— Як пачуваецца месье? — пачуўся збоку клапатлівы, але з прыхаванай насмешкай голас. Пранціш вылупіўся, як мог: злева ад яго сядзеў пан Альфонс Бяскоўскі ва ўсёй даўгалыгай красе.

І яшчэ адзін знаёмы голас:

— Горачка якое, набраўся ягамосць, як жаба гразі...

А гэта азваўся Хвэлька. Вунь яго спіна наперадзе, там, дзе месца фурмана. Значыць, брычка Лёднікава, а дзе сам доктар?

— Адплыў на Яву, — ветліва адказаў на пытанне Бяскоўскі. Пранціш ажно трохі ачуняў.

— Як гэта? Калі? Чаму?

— А што, пан нічога не памятае?

Вырвіч з цяжкасцю прысеў. Галава была, як цэбар з пяском, так і цягнула зноў прылегчы.

— Вы мне, вашамосць пан Бяркоўскі, мякіну не церушыце... Не мог Лёднік з’ехаць, не развітаўшыся!

— Ну чаму — не развітаўшыся? — здзекаваўся паскудны Альфонс. — Яшчэ як развітаўся! Няўжо і гэтага не памятаеце? А мне мой бацька распавядаў, што ў Рэчы Паспалітай добра піць умеюць...

— Я не піў! — абурана заявіў Пранціш. Бяскоўскі ўдавана скрушна ўздыхнуў.

— Я заўсёды казаў, што такайскае, закупленае ў дэ Фруа, пасля пэўнай колькасці адбівае памяць. Дык вось, шаноўны пан Вырвіч, учора вы ўварваліся ў дом ягамосці барона, проста ў лабараторыю ў сутарэннях, дзе мы абмяркоўвалі вынікі чарговай аперацыі. Пачалі шумець і патрабаваць, каб месье Лёднік зараз жа адпраўляўся з вамі на радзіму, ваяваць... Прабачце, не памятаю, з кім і за што. Месье Лёднік узлаваўся... Барон, каб спыніць спрэчку, запрасіў усіх за стол, дзе вы і паказалі, як павінен частавацца сапраўдны шляхціц. Вы так абражалі свайго сябра, што ён заявіў — зараз жа адпраўляецца разам з месье Перэсам на карабель, які адплывае раніцай на востраў Ява. А паколькі месье Барталам’ю чалавек гарачы, і такайскага таксама выпіў, дык мы вас ледзь расцягнулі. Вы доктару шабляй твар падрапалі, ён вас кулаком па вуху прыклаў...

Вырвіч памацаў вуха: а-ёй, сапраўды баліць, распухла...

— Ды вы не хвалюйцеся, доктар дзесьці праз год вернецца. Ну, можа, праз два.

Туман перад вачыма разамгліўся, усё бачылася выразна, як дуля перад носам. Вось толькі нічогенька з таго, што расказваў Бяскоўскі, не вымалёўвалася ў памяці.

— Вы маніце, вашамосць!

Рука сама пацягнулася да шаблі... Гіпацэнтаўр аказаўся на месцы, пры левым баку. Бяскоўскі не змяніўся ў твары.

— Дарую вашу гарачнасць, пан Вырвіч. Вам зараз вельмі нядобра... Але пан Лёднік ясна сказаў, што больш бачыць вас не хоча.

Хвелька павярнуў засмучоны твар.

— Праўда, вашамосць! Пан доктар з дзвярэй толькі высунуўся, злосны-злосны і абдрапаны, сказаў, каб я вас адвёз да пані Саламеі... І ліст мне для пані перадаў. А вы такі былі... Увесь віном абліты. Дзякуй ягамосці пану

Бяскоўскаму, што паехаў вас праводзіць. А божачкі мае, што ж я пані Саламеі скажу... — гэта Хвэлька ўжо мармытаў сабе пад нос. — Бедная мая пані! Бедныя дзеткі! Толькі прыехалі пані з дачкой, напакутаваліся дарогай... Гэта ж успомніць — карэты праклятыя ламаюцца, паненачка захварэла, давялося на караблі плысці… А пана шчэ далей панесла, да дзікуноў! Папёр як ад пугі... І што ягамосць Вырвіч яму нагаварыў?

Пранціш бяссільна адкінуўся на сядзенне. Пачуццё віны, злосць на ўпартага Лёдніка... Давёў алхімік усім, што вольны! Зараз, відаць, ужо шкадуе — кінуў жонку, дзяцей... А куды з карабля сярод мора падзенешся? Наступны раз зойдуць у порт, добра калі ў Танжэры. Хіба што Лёднік дадумаецца на першым жа прыпынку сысці ды вернецца да сям'і?

Гэта Пранціш ужо меркаваў перад пані Саламеяй. Хадзіў туды-сюды, прамаўляў, як Станіслаў Аўгуст на сойме, пераконваючы шляхцюкоў адмовіцца ад права ліберум вета... Доктарава сядзела, сціскала тонкія пальцы так, што збялелі. У лісце, перададзеным ад Бутрыма Хвэлькай, было ўсяго некалькі спехам напісаных радкоў. Даруце, маўляў, не хвалюйцеся, вярнуся, але не магу ўпусціць такі шанец — пабачыць надзвычайныя медыцынскія здольнасці тубыльцаў Інданезіі.

Каб тым тубыльцам шашаль пяты патачыў з іхнімі медычнымі цудамі...

— Як жа ён... Праз два акіяны... У яго ж марская хвароба... Напакутуецца. І лекаў з сабой не ўзяў... — нейкім змярцвелым голасам прагаварыла пані. І Пранцішу — як нажом па сэрцы. Трэба ж, не пра сваю крыўду — а пра здароўе збеглага мужа думае.

Вось Алесік крыўды не хаваў. Здавалася, ён цяжэй за ўсіх перанёс раптоўны ад'езд бацькі. Прагаварыў толькі адно:

— Ён слова даў скончыць са мной дослед. Шляхціц не мусіць слова парушаць! Гэта ганьба!

І больш пра татку не гаварыў, зацяўся ды слёзы крадма выціраў. Аднойчы толькі слоікі свае з нечым жывым і незразумелым паразбіваў.

Лета штурхала перад сабой па пыльнай дарозе сонечны вазок. А Саламея і Пранціш вынайшлі тужлівую гульню: усё разважалі, чым зараз мог бы займацца Баўтрамей Лёднік... Вось ён на караблі, разглядае ў падзорную трубу паўднёвыя зоры. Лечыць прыхварэлага матроса. А можа, зашыўся ў кут каюты, і яго самога ванітуе — не пераносіў полацкі алхімік марской гайданкі. А цяпер ён, напэўна, ужо бачыць бераг Афрыкі. Карабель прычаліў, набегла мурынаў, прынеслі мяняць нешта цікавае — слановыя біўні, каралы, какосавыя арэхі на шкляныя пацеркі, самыя надзейныя грошы ў экзатычных падарожжах. А цяпер павінен быў і да Явы даплысці...

Ці шчаслівы там доктар, ці знайшоў, што хацеў? Пранціш уяўляў апантаных пілігрымаў, што не данеслі да свае мэты галоўнага — чыстага сэрца, і таму не ўбачылі Грааля.

...Між камянёў змяя слізгае,
Вільготны след — нібыта смерць.
А мы шукалі браму рая,
Адкуль не поўзаць — а ляцець.
А мы так доўга твань мясілі,
Ламалі голле ўздоўж дарог.
Прыйшлі — а нам не далі крылляў,
Глядзім — а нас не бачыць Бог...

Ліст прынеслі толькі аднойчы. Скамечаны, пажаўцелы... Пані Саламея, калі думала, што ніхто не бачыць, прыціскала паперу да твару, быццам хацела надыхацца аднымі пахамі з мужам, адчуць дотык рукі, што выводзіла літары...

Бо з самога ліста нічога нельга было толкам даведацца: тыя ж «не хвалюйцеся» ды «прабачце».

А справы ішлі ўсё горш... Пан Жылібер, падобна, расцаніў ад’езд Лёдніка як здраду, і з Пранцішам вітаўся вельмі холадна. Можа, не паверыў і ў тое, што Вырвічу нічога разведаць не ўдалося. Тым больш Агюст знік, як сабака на кірмашы: слугі распавялі, сабраў клунак ды падаўся да нейкай далёкай радзіны ў Праванс. Што было цалкам зразумела.

Пацыенты, кінутыя ліцвінскім доктарам, абураліся і, вядома, іх кашалькі і здароўе патраплялі ва ўладанне іншых эскулапаў.

Праўда, тыя хворыя, што не мелі напханых кашалькоў, — ткачы, вугальшчыкі, ды проста жабракі, па-ранейшаму цягнуліся да дзвярэй Чорнага Доктара ў спадзеве на бясплатны ратунак, і маглі задаволіцца лекарскімі ўменнямі ягонай жонкі. Але ж ясна — даходу ад гэтага было не больш, чым зерня ад сурэпкі, хіба хтось з пацыентаў аддзячыць кошыкам яблыкаў ці мяшком вугалю.

Затое Альфонс Бяскоўскі працвітаў. На голую галіну знойдзецца крумкач. Нават у Ліёне, дзе сваіх дактароў як кіем набіта, расказвалі казкі пра цуд-аперацыі, якія пан дасканала ўмее рабіць, нават лепей, чым мог зніклы Чорны Доктар. Да Бяскоўскага і кардынал прыязджаў на кансультацыі, і яшчэ — дзве фаварыткі караля! Праўда, у старога Людовіка Пятнаццатага, асабліва пасля смерці мадам дэ Пампадур, гэтых фаварытак цэлае паселішча адмысловае распладзілася ў Версалі, як у якогась усходняга султана. Любая шылахвостка магла прыстроіцца туды паўлінам хвасты круціць, і нават калі кароль толькі аднойчы хіба ўшчыкнуў яе за дупу, строіла з сябе ледзь не каралеву. Нездарма людзі бунтаваліся — арыстакраты ўбівалі шалёныя грошы ў шаўкі-пудраныя парыкі, адзін капялюх мог каштаваць даражэй за дом простага француза... А той француз яшчэ кучу дурных падаткаў плаціў. Прыкладам, на соль. Кожны мусіў закупляць на год сто фунтаў солі, але забаранялася карыстацца ёй, скажам, каб назапасіць мяса ці гуркі... Хоць прыгаршчамі, але толькі еш! А забарона гандляваць хлебам паміж правінцыямі — нават калі дзесь галадаюць, а праз пару міль булкі чарсцвеюць... Вальтар’янец Жылібер неяк наспяваў горка-жартоўную песеньку, у якой пералічваліся розныя падаткі: «Пяаж, бараж, куцюм, эталаж, лэд, афараж, анаж, шаблаж, гурметаж, танльe, руаж, бушэры, эталанаж, шэ-мінаж, курбаж, ванажы бюісанаж»... Не менш, чым у Рэчы Паспалітай: падымнае, падарожнае, чынш, дзякла, рэйтаршчына, стацыя, жарнавое, лясное, чапавое і гэтак далей. Як любіў бурчэць сын гарбара Лёднік: «Дагуляюцца пудраныя парыкі, прыйдзе на іх мясцовы Вашчыла з віламі!»

Як гэта ў яго сумяшчалася з сяброўствам з «пудраным парыком», баронам дэ Вардам?

Адзначылі дзень народзінаў Сафіі Баўтрамеевай Лёднік — два гадзікі прыгажуньцы. Атрымала ў падарунак парцалянавую ляльку, зараз жа прырабіла ёй крылцы з марлі. І кінула дзеля цікавейшага: старэйшы брат падарыў жывую чарапаху, і Сафійка цягала яе паўсюль і цалавала ў гідкую маршчыністую пыску.

Краем вуха Вырвіч чуў, што адзін з дактароў-прагрэсістаў, які выкладаў ва ўніверсітэце, зрабіў цікавы даклад: вынайшаў новы спосаб лячэння падкаленнай анеўрызмы. Вось бы полацкі доктар у дыскусіі паўдзельнічаў — сам жа калісь гэтай тэмай займаўся.

А пад канец лета прыйшоў ліст з Варшавы, ад князя Антонія Тызенгаўза. Той пісаў, што раз доктар Баўтрамей Лёднік адмовіўся ад даручанага яму задання і не збіраецца вяртацца ў Гародню, яму перастаюць выплачваць пенсію. А ўжо выплачаныя грошы належыць вярнуць, а гэта дзве сотні талераў.

Даклалі добразычліўцы пра ўцёкі Чорнага Доктара.

Вось гэта была параза, як у туркаў пад Хоцінам. Франсуа Рабле, вядома, сказануў неяк, што няма такога багацея, які б ніколі не пазычаўся, і такога бедняка, у якога ніколі нельга пазычыць. А гонар дурны ліцвінскі куды падзенеш? Такія змардуюцца — не папросяць. На зберажэнні, якія пакінуў Лёднік, доўга не працягнеш... Пранціш лічыў, што лепей Саламеі з дзецьмі і Хвэлькай пераехаць да яго — здымаў кватэру каля вайсковай школы, дзе выкладаў, не харомы — але два пакоі маюцца. Ну і на ягоны заробак з голаду не памруць. Узяць яшчэ некалькі радавітых цюхцяяў у вучні, паабяцаўшы зрабіць з іх геніяў фехтавання... Дзякуй Лёдніку — натрэніраваў у свой час.

А вось што далей? Забраць з сабой пані Саламею, калі канфедэраты адправяцца на радзіму? Але доктарава пакуль пра гэта і слухаць не хацела... Бутрым жа павінен вярнуцца! Дый на радзіме паўставала пытанне пра доўг у дзве сотні талераў!

Калі пані Саламея пакавала куфры, каб перабрацца да Вырвіча, з'явіўся сам дэ Вард, з лёкаем ды цяжкой кульбачкай, упрыгожанай дыяментамі. Выпіў нетаропка гарбаты. Распавёў пра дзівосныя расліны Інданезіі. Прапанаваў заплаціць за дом, ну і ўвогуле прызначыць жонцы шаноўнага доктара Лёдніка прыстойнае грашовае ўтрыманне. Вочы барона льсніліся так непрыемна, што й гадаць не трэба было, якой удзячнасці хоча. Саламея, ясна, ганарліва адмовілася. А барону што? Толькі ўсміхнуўся: паскачы, пасвішчы, птушачка, цябе ўжо накрылі сілом.

Праўда, і ў дзіравы нерат можа патрапіцца шчупак. Раптам да мадам Лёднік заявіўся сам банкір з выбачэннямі: аказваецца, на яе імя зроблены вялікі ўклад, і за дом на год наперад заплачана, і за навучанне малодшага Лёдніка ў школе. І не, барон дэ Вард тут ні пры чым.

Пранціш толькі рукамі развёў: няўжо Бутрым расстараўся? Не падазраваў за ім такой дзелавой жылкі.

І наставалі часы, якія апісваў Скарына-Палачанін, астролаг не горшы, чым у свой час Лёднік: «Сего году не будеть гібелі солнца ані месеца, но будет соітіе всех седмі звезд, блудящих во знамені небесном, в Рібах, месеца февраля. Оні же напотом, естлі господь бог допустіть, велікое премененіе царств, законов, людей і всех на землі і во водах родящіхся быті знаменують, яковое ж прежде тым не бывало».

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## Пастка для Чорнага Доктара

Алхімікі ведаюць, што перад атрыманнем філасофскага каменя ёсць стадыя нігрэда. Чорны воран яе ўвасабляе, дзюбаты ды пахмуры.

Не дужа прыемная стадыя, трэба прызнацца. Усе рэчывы распадаюцца, змешваюцца ў штось чорнае, як дзёгаць. Калі майстар умелы, з гэтай неапетытнай кашы атрымае малы эліксір, здольны ператвараць нізкія металы ў срэбра ды золата.

А можна і застацца са сваім дзёгцем… Загразнуць у ім, марачы ўжо не пра золата, а пра чыстую лапінку, каб хоць нагу паставіць.

Чорны воран, Чорны Доктар, спрэс нігрэда ў сэрцы Лангедока. Лістота каштанаў даўно страціла яркі зялёны колер, пагрубела, пацямнела і нават пачала ржавець на самых краёчках...

Ні калівам не падобны да ворана новы вучань настаўніка фехтавання з Манпелье пана Вырвіча, немалады жыццярадасны купчына Жак, які набыў патэнт на дваранства і з гэтае прычыны вырашыў навучыцца высакароднаму мастацтву фехтавання, сцягнуў з круглага твару маску з дроту.

— Вох, месье, не хацеў бы я сустрэцца з вамі на полі бойкі! Ну вы ж і спрытны!

Вырвіч трохі скрывіўся. Раней нізавошта не згадзіўся б вучыць такога плебея. Але зараз трэба было пракарміць чатырох чалавек, носам не пакруціш. А купчына ўсё радасна тарахцеў:

— А я ж дагэтуль увогуле зброі ў руках не трымаў. Толькі марыў. Мяне ж у дзяцінстве яшчэ скалечыла — у лаўцы бацькі сунуў руку пад вагі, на якіх мяхі з цукрам узважвалі... Косткі зрасліся, але ўся даланя была скручаная, як сухая курыная лапа. А цяпер — вось! — новаспечаны шэвалье Жак дэ Сягюр махнуў направа-налева шпагай, як быццам перакрэсліваў сумнае прасталюднае мінулае. — Віват доктару Альфонсу Бяскоўскаму!

Пранціш ледзь утрымаўся, каб не сказаць якую гадасць: носяцца з лупавокім Альфонсам, як чорт з бубнам.

— І як ён вам руку вылечыў? Масаж? Мазь?

— Аперацыя! — пахваліўся купчына. — Грошы шалёныя аддаў, два месяцы з заматанай рукой хадзіў, затое цяпер — як новую прырабілі! А дагэтуль жа ніводзін доктар ні за якія грошы не браўся маё калецтва выправіць! Раілі, вядома, пайсці да Барталам'ю Лёдніка з Ліёна — але патрапіць да яго амаль немагчыма было, ён толькі цяжкахворых зрэдзь прымаў. А я — што, не паміраў жа...

Дэ Сягюр надзьмуўся, як індык, відаць, успамінаючы старую крыўду.

— Смецціяра з нашай вуліцы дык без чаргі той доктар прыняў, бясплатна нагу з кавалачкаў склаў гэтаму смердзюку, якога карэта шаноўнага маркіза пераехала. Ткачы да яго хадзілі з мануфактур, абадранцы. А я столькі грошай прапаноўваў, але... Дый да лепшага, што не патрапіў на прыём. Прызнацца, — купчына няёмка хмыкнуў, — дужа мы з жонкай Чорнага Доктара баяліся. Я яго толькі на вуліцы здалёк пабачу — і сэрца ў пяты...

Пранціш з цікавасці пасунуўся паглядзець на ацалёную канечнасць: усёткі Лёднік у свой час і Вырвіча спрабаваў далучыць да лекарскага майстэрства і за падобныя аперацыі браўся з цікавасцю. Любіў, як казаў, «тонкую працу»...

І ў былога каралеўскага драгуна пераняло дыханне. Ён мімаволі ўхапіў караткапалую руку шэвалье, наблізіў да вачэй: гэткі спосаб сшываць раны, каб заставалася менш шнараў, вынайшаў сам Лёднік. А вось так замацоўваць сухажыллі — гэта ўвогуле адмысловы штрых Бутрыма. Ён сам Пранцішу гэты прыёмчык паказваў, а той так і не засвоіў.

Няўжо Бяскоўскага навучыў?

Вырвіч пастараўся вярнуць твару бесклапотны выраз і ўчапіўся ў купчыну, як дзядоўнік за сабачы хвост. Язык у драгуна быў падвешаны добра, за жарцікамі ды цікавымі гісторыямі пра шляхецкія бойкі ды сваркі шэвалье дэ Сягюр і не заўважыў, як апынуўся ў карчомцы з двума кубкамі віна на стале і вясёлым настаўнікам фехтавання насупраць. І вось ужо яны п'юць за здароўе цудадзейнага доктара Бяскоўскага! І як жа гэты доктар шаноўнага шэвалье лекаваў?

Новаспечаны арыстакрат распавядаў з задавальненнем. Напачатку нечага выпіць далі, пякучае і язмінам пахне — далібог, вашамосць, рыхтык той язмін у маладосці, у траўні, калі вечарам у кустах з красачкай сваёй цалуешся!

І галава гэтак жа закруцілася, у вачох сцямнела. Але нешта самлелы Жак кеміў. Прынамсі, пабачыў, як доктар Альфонс Бяскоўскі апрануў белы балахон і шапачку, і твар укруціў хусткай ажно да вачэй, бы сарацын — гэта ад заразы перасцераганне, як патлумачылі купчыне пасля. Потым доктар выйшаў з пакоя, а калі вярнуўся, адразу давай шэвалье мацаць, галаву яму туды-сюды круціць, ды прасіпеў, што мала абязбольваючага далі, пацыент пры памяці. І сам у яго новую порцыю атруты язмінавай уліў, ад якой усялякае пачало мсціцца. Напрыклад, што вочы месье Альфонса пачарнелі. Як? Ну, цёмнымі такімі сталі, аж страшна. А потым перад свядомасцю небаракі Жака як заслонку апусцілі, адплюшчыў вочы — ужо рука закручаная ў марлю, доктар Бяскоўскі ўсміхаецца, і вочы ў яго, як і былі, вадзяніста-зялёныя.

Жак, падумаўшы, дадаў, што ўсё добра, але час ад часу галава пачынае балець — як малаточкамі ў скроні калоціць, ды перад вачыма пчолы залатыя лётаюць. Доктар сказаў — пройдзе, гэта ад лекаў наступствы.

Купчына прыкончыў яшчэ адзін келіх вінца, а Пранціш моцна задумаўся. Было над чым.

Вырвіч разведаў, якія самыя складаныя аперацыі адбыліся за апошнія тры месяцы ў доме дэ Варда стараннямі Бяскоўскага. Большасць шчасліва ацалённых памяталі пра лячэнне не больш, чым заяц пра подзвігі князя Вітаўта — добрае абязбольваючае ім давалі. Пранціш не сумняваўся, менавіта тое самае, што Лёднік вынайшаў — драгун, калі заходзіўся да старэйшага сябра, дастаткова нанюхаўся язмінавага паху, што даносіўся з лабараторыі. Мусіць, пакінуў Бяскоўскаму рэцэпт.

Затое яшчэ два пацыенты, стары адвакат з такімі злымі вачыма, што адразу хацелася ў нечым прызнацца, і жонка чальца магістрата, кабета задыхлівая і балбатлівая, не адразу заснулі ад Лёднікава зелля і заўважылі падазронае пацямненне вачэй у захутанага доктара Бяскоўскага, а кабета яшчэ і сцвярджала, што бачыла на руках у доктара шнары, як быццам ад стыгматаў, якія пасля зніклі.

І таксама жаліліся, што галовы баляць.

І гэта Пранцішу дужа не падабалася — бо і ў яго пасля няўдалага шпегавання ў доме дэ Варда падобныя прыступы пачаліся. Ці не падлілі Вырвічу на застоллі, якое ён, дарэчы, зусім не памятае, таго дурману, каб супакоіць ды адправіць прэч?

— Ну што ж ты, Бутрым... Філасофскі камень знайшоў, а тынктуру сваю славутую да ладу давесці не змог, — бурчэў Вырвіч, шукаючы на паліцах лабараторыі, што страціла гаспадара, добры сродак ад болю. — Пабочныя эфекты, пабочныя эфекты, каб іх распрындзіла...

А шкляніц тут з рознакаляровымі расчыннямі, а колбаў, а слоікаў — як журавін на купінах... Толькі і глядзі, каб не пабіць.

— Пан бацька ўсё высветліў наконт пабочных эфектаў усыпляльнай тынктуры, — сярдзіта заявіў малодшы Лёднік, які з прычыны нядзельнага дня быў не ў пансіёне. — І даведаўся, як памяць вяртаць! Толькі не паспеў нікому распавесці.

Пранціш ледзь не паваліўся на ўсе гэтыя рознакаляровыя шкляніцы, чым выклікаў паблажлівы погляд свайго вучня, які ў бацькавым кабінеце, падобна, адчуваў сябе гаспадаром-пераемнікам.

— А што з памяццю не тое?

— Ну як жа! Пан бацька ўстанавіў, што пасля прыняцця пэўнай дозы тынктуры здараецца амнезія — пацыент не памятае некалькіх гадзінаў да таго, як прыняў прэпарат.

Алесік гаварыў вельмі важна, старанна выгаворваючы словы, відавочна пераймаючы татку.

— Я сам яму дапамагаў — калі ён эксперыменты на сабе ставіў. Толькі ён пра гэта... што на сабе выпрабоўвае, забараніў мне гаварыць. Ну... я таксама выпадкова далучыўся... — апусціў вочы чарнавалосы хударлявы хлопчык, высокі як на свой узрост, Вырвіча, відаць, хутка перарасце. — Пачуў, як татка стогне ды лаецца, а сам — то ў запісы, то на гадзіннік глядзіць...

Пранціш ад радасці ажно абняў малога: вось яна, разгадка забыўлівасці! Не набраўся каралеўскі драгун віна, а быў падступна апоены зеллем! А што паху язміну не ўчуў — дык у яго ж, мусіць, пасля для маскіроўкі цэлую бутэльку віна ўлілі, а зверху гарэліцы самай смярдзючай.

Вось толькі як жа вярнуць цяпер успаміны?

Аказалася, з дапамогай таго ж зелля клятага, у якое трэба дадаць тое-сёе... Рэцэпт дапамог знайсці Алесь у бацькавых нататках. Вось цяпер можна было далучыць Саламею Рэніч, дачку полацкага кнігара, якая з маленства дапамагала вучню свайго бацькі Баўтрамею ў змешванні пігментаў.

Пані Саламея адразу перамянілася, ажыла, сінім вачам вярнуўся бляск... Каб здабыць рэдкія інгрэдыенты, давялося кланяцца пану Жылiберу.

Праўда, той, калі зразумеў, што Вырвіч можа штось паганае пра дэ Варда з памагатымі ўспомніць, ажывіўся, даў усіх травак, грыбочкаў і нават уласнаручна выкапаў зялёны лысы кактус у аранжарэі.

А вось каб падрыхтаваць зелле, уменняў Вырвіча і пані Саламеі не хапіла, звярнуліся да пляменніка дзядзькі Лейбы Давыда. Па хлапцы было відно, з кім у сваяцтве: можа не заўважыць, што аднакурснікі яму на капялюш які-небудзь саламяны жмут прычапілі, затое падручнікі ды даведнікі на памяць цытуе. Дзядзька Лейба такім і быў — мудры дзівак з Полацка. Тынктуру з пахам язміну — хоць язміну там зусім і не было — Давыд спрабаваў зрабіць цэлы тыдзень. Пранціш увесь змэнчыўся, як ваявода абложнага горада, які ўсё чакае саюзнае войска.

І вось у той дзень, калі на пляцы Бялькур ткач разбіў нос надта паскуднаму судзейскаму, ва ўніверсітэце Манпелье пракудлівы студэнт выйграў у карты права адзінаасобна заляцацца да міленькай дачкі прафесара рыторыкі, а ў далёкай Рэчы Паспалітай баявыя канфедэраты Шымона Касакоўскага пад Берастaвіцай перамаглі войска расейцаў, былы каралеўскі драгун Пранціш Вырвіч смела асушыў шклянку з каламутным напоем.

І вось перад вачыма знаёмыя дзверы ў сутарэнні дома дэ Варда. Марудна расчыняюцца... Рыпяць... Пранціш падымае ліхтар і крочыць наперад, у цемру, у якой адчуваецца нешта жывое, злавеснае, мсцяцца хрыплыя подыхі...

І сапраўды — жывое... Клеткі, як у звярынцы, а ў іх — людзі. І лепей бы яны былі мёртвымі. Голыя, звязаныя, прыкручаныя ланцугамі так, што не могуць варушыцца, з вачыма, што глядзяць у розныя бакі. А самае застрашлівае — з уздзетымі на паголеныя чарапы шлемамі з жалезных абручоў, з адтулінаў якіх тырчаць засаджаныя ў галовы бліскучыя іголкі... А вось знаёмая фізіяномія — гэта жанглёр з рынку, за хуткімі рухамі якога часцяком назіраў Пранціш, калі ішоў у госці да Лёдніка. Небарака яшчэ пры памяці, касавурыцца вокам, набрынялым крывёй, нешта сіпіць — а рукі па локці адцятыя, кульці заматаныя бінтамі — спрытныя, мабыць, занадта былі ў жанглёра рукі, небяспечныя для катаў...

Пранціш сам бы прыплаціў, каб яму не вярталі памяць наконт пабачанага ў сутарэннях... Але доўга разглядацца не давялося, таму што — цяпер Вырвіч гэта ясна разумеў — далі шпегу добранька па галаве.

Наступная пасля зацямнення карцінка бачылася толькі краем вока, бо асноўную дзею захінала белая тканіна, якой Вырвіч быў накрыты, бы нябожчык... Ды і ляжаў ён нерухома, як навец, бо прыкручаны. І не загарлаць абурана на такое парушэнне правоў шляхціца — рот надзейна заторкнуты скураным кляпам, а галаву моцна трымаюць жалезныя абручы. Вось карону ты зарабіў сабе, адважны драгун...

А зусім побач — галасы вучонага дыспута. І гэта здавалася дзікім — ён тут ляжыць снапом, а вучоныя спадары — Пранціш бачыў, як часам нетаропка пераступаюць іх ногі ў нашараваных чаравіках, — вядуць такімі спакойнымі, занудлівымі галасамі дыспут, сыплючы незразумелымі тэрмінамі, як гарохам. Вырвіч распазнаў уладны голас дэ Варда, звяглівы — Бяскоўскага. А вось і нізкі голас Лёдніка... Як на лекцыі. Вырвіч скалануўся, закруціўся, як вужака, вылузваючыся са скуры... Дзе там!

Чорны Доктар пачаў рабіць даклад, дэманструючы намаляваную ім схему мозга і з'едліва ўдакладняючы «Tractatus de Fractura Calve sive Cranei a Carpo editus»[9] Берэнгарыа да Капры і «Cerebri Anatomie»[10.] Вілізія. Закончыў пасажам пра скокі святога Віта і іх ацаленне з дапамогай трэпанацыі, і задаволена прыняў дружнае пляскание ў ладкі.

А потым загаварыў дэ Вард:

— Думаю, вы ўсе ўпэўніліся, што наш калега варты самай высокай ступені пасвячэння. Час гуртаваць усе сілы! Таму што пара выпраўляць хваробу, якая раз'ядае наша грамадства. А менавіта — папярэджваць бунтаўніцтва чэрні і вальнадумства адукаваных нуворышаў!

У зале ўхвальна загулі, узяў слова хтосьці гарласты, з пранізлівым голасам, здаецца, асоба духоўнага звання, бо да яго звярталіся «мансеньер»... І Пранціш, каб мог, зарагатаў бы. Бо персоны, што сабраліся ў гэтай зале — іх было чалавек пятнаццаць, усур'ёз намерваліся з дапамогай свярдзёлка і дзірак у чарапах перавыхоўваць французскіх рэвалюцыянераў, лібералаў, атэістаў, філосафаў ды іншых небяспечных асобаў!

А ў якасці дэманстрацыі паклікалі волата Гарганцюа. У шчыліну, праз якую глядзеў Вырвіч, якраз быў відаць нерухомы твар з чорнай барадой.

— Гэты чалавек стварыў у сваім горадзе камуну! Распаўсюджваў д'ябальскую філасофію! А цяпер — няма вярнейшага нам слугі.

— Наспявае вогненная бура! — гарлаў нехта. — Выратуем манархію!

Лёднік, падобна, ашалеў ад пачутага, бо не вытрымаў і выказаўся рэзка і гнеўна:

— Ці не лепей, панове, каб выратаваць грамадства, проста зменшыць дурныя падаткі і надаць правы простым саслоўям? Чалавек мае права на сваё меркаванне, на волю, і калечыць яго з-за гэтага — грэх і злачынства, і я адмаўляюся гэтым займацца. Вы што, мільёнам беднякоў чарапы папрабіваеце? У любым выпадку, хіба вы не зразумелі, што мы такімі аперацыямі яшчэ не авалодалі? Гэта будуць не аперацыі, а забойства!

Вогненную буру, што пачала абрыньвацца на доктара, спыніў дэ Вард. Ён проста нагадаў шаноўнаму Барталам'ю, што той не немаўля, ведаў, што ідзе да сур'ёзных людзей, не да прасталюдцаў кшталту Жылібера. І гаворка не пра мільёны пацыентаў — а пра дзясяткі. Пра завадатараў непарадкаў, тое джала, якое варта вырваць у гадзюкі. Арыштаваць, павесіць чарговага Вальтэра — зрабіць з яго пакутніка, тысячы бунтаўнікоў узбурыць. А вось калі аднойчы раніцай гэты правадыр рэвалюцыі пачне вярзці абы-што, альбо зробіцца спакойным, як келіх, з якога выпілі шампанскае, і абыякавым да таго, з-за чаго яшчэ ўчора заклікаў на смерць, — людзі расчаруюцца і суцішацца, як перастоенае цеста.

На гнеўныя словы доктара толькі пасміхаліся. Месье Лёднік ужо добра паслужыў іх справе, няма чаго выяўляць цнатліўку... Ён жа не быў яшчэ ў сутарэннях, дзе ўтрымліваюцца паддоследныя? А сярод іх ёсць і ягоныя два пацыенты. Што? Пана падманулі, пан не ведаў, што лезе ў мазгі здаровых людзей? А якая доктару розніца? Ён думаў, прадастаўленыя яму ўнікальныя звесткі наконт структуры мозга з неба зваліліся? І чаго верашчаць? Veni! Audi! Maledicti![11]. Усё, што ад яго патрабуецца — займацца навуковымі даследаваннямі і аперыраваць.

Бутрым скрозь сціснутыя зубы даходліва выказаўся, як яго ад падобных праектаў ванітуе. Барон хмыкнуў.

— Хочаце сысці? Але толькі пасля чарговага доследу — experimentum in anima vili[12]. Не сумняюся, што вас ён зацікавіць. Давайце, Барталам’ю, бярыце інструменты, бярыце! Пацыент зачакаўся!

І з Вырвіча сцягнулі прасціну.

Дзеля таго, каб пабачыць збялелае, агаломшанае аблічча Лёдніка і паніку ў ягоных чорных вачах, варта было лезці ў клятае сутарэнне. Праўда, трохі крыўдзіла, што абазвалі малакаштоўным арганізмам.

Доктар кінуў на падлогу малаток і штосьці вострае і бліскучае.

— Вы ўсур’ёз думалі, што я скалечу свайго блізкага сябра?

Апамятаўся, Фаўст...

— Ну, у такім разе вы, пан Лёднік, будзеце назіраць, як гэта зробіць пан Альфонс Бяскоўскі! — ветліва прамовіў дэ Вард.

Бяскоўскі падскочыў тут жа, падняў малаток... Пранціш пракаўтнуў сліну.

Бутрым напяўся, як спружына... Ягоныя цёмныя вочы зрабіліся яшчэ цямнейшымі, пранізлівымі, страшнымі, рукі сціснуліся ў кулакі... Вырвіч памятаў, на што здатны ягоны былы слуга і настаўнік: не аднойчы цэлы натоўп разганяў. Вось толькі паны ў зале таксама ведалі, што можа гэты хударлявы, але жылісты чарнавокі чужаземец, бо раптам паміж вучонай публікі з’явіліся гардыяны, якія наставілі на бунтаўніка пісталеты і стрэльбы. А дэ Вард устаў з крэсла, падобнага да трона, з высокай разной спінкай, і павольна, абапіраючыся на кульбачку з дыяментамі, падышоў да доктара — і пагляд у яго быў страшны, як у змяі... Вакол барона нібыта разыходзіліся нябачныя хвалі, ад якіх падымаліся валаскі на скуры і ламіла ў скронях.

— Ні вашыя фехтавальныя здольнасці, ні вашы магнетычныя штукарствы тут не спрацуюць, пан Барталам’ю. Тут ёсць ажно некалькі чалавек, якія валодаюць падобным у яшчэ большай ступені, чым вы.

Светлыя вочы французскага барона і цёмныя ліцвіна сутыкнуліся, як шаблі. На лбе доктара праступіў пот, на шыі напружыліся жылы, быццам вытрымліваў на сабе страшэнны цяжар. І Пранціш, хоць абодва супернікі заставаліся нерухомымі, выразна адчуў, што яны вядуць цяжкую, смяротную бойку... Якую Лёднік, магчыма, і выйграў бы — каб быў сам-насам з ворагам, бо дэ Вард нават захістаўся, абапёрся цяжка на кульбачку... Але двое другіх, з бязлітаснымі тварамі і страшнымі вачыма, сталі побач з баронам, і Лёднік толькі зарычэў, як звер, які патрапіў у яму з коллем.

Тое, што ён пасля зрабіў, было бессэнсоўным і адчайным — але Вырвіч таксама так учыніў бы, проста каб не шкадаваць, што не біўся да апошняга. Двое ахоўнікаў паляцелі на падлогу, але да горла Пранціша шчыльненька прыціснулася лязо, і доктар, шчака якога прыкрасілася чарговай драпінай, моўчкі выпусціў на падлогу адабраную ў кагосьці шпагу.

— Ну, месье Лёднік, вы самі зробіце аперацыю свайму сябру? — трохі асіплым голасам прамовіў дэ Вард, ужо не насмешна, а злосна гледзячы на доктара, відаць, умарыўся з ім магнетычнымі поглядамі мерацца. — Мы ж у любым выпадку не зможам яго адпусціць — сунуў нос, куды не варта. Малады чалавек, усе ведаюць, гарачы, учыніў чарговый двубой — атрымаў раненне, ад якога пашкодзіўся розумам... Сведкаў будзе дастаткова.

— Гэта залішняе! — адрывіста прамовіў Лёднік, кінуўшы трывожны позірк на Пранціша, які зацята намагаўся выпхнуць языком абрыдлы скураны кляп. — У майго абязбольваючага трывалы пабочны эфект, які нам дасюль удавалася добра маскіраваць, зацягваючы час аперацый. Дасцё яму павялічаную дозу, я магу сам дакладна разлічыць, колькі, унцыя на гадзіну — і пан тых гадзін не ўспомніць.

— А што ўзамен? — Бяскоўскі зухавата круціў у руках малаток, як гусар — кінжал.

— Я магу дапамагаць вам лячыць пацыентаў. Толькі не калечыць! Лекі рыхтаваць... — глуха прамовіў Лёднік. Дэ Вард зрабіў выгляд, што задумаўся.

— Дарагі месье Барталам'ю! Людзі, якім пашанцавала займець розум, талент і смеласць, самі выбіраюць, ці яны ваўкарэзы, што пасвяць статак, ці баранчыкі, якіх гаспадар можа стрыгчы ці зарэзаць. Вы сталі на бок баранчыкаў і выбралі сабе лёс раба. Альбо вы адзін з нас — альбо адзін з іх!

Дэ Вард паказаў рукой, знізанай пярсцёнкамі, на Гарганцюа.

— Я — не адзін з вас, — цвёрда прамовіў Лёднік. — Я моцна памыліўся, лічачы, што вы шчыра апякуецеся навукай. І рабіць аперацыі на мозгу больш не буду. Але даводзіць мяне да стану гэтага небаракі, — кіўнуў ён у бок нерухомага волата, — вам няма ніякай карысці.

Дэ Вард варухнуў густымі бровамі.

— Сапраўды, нішчыць такі розум і ўменні, як у вас, марнатраўства. Разумных рабоў варта добра карміць і прыстасоўваць да справы.

Барон прайшоўся вакол Лёдніка, аглядаючы, як купец — тавар.

— Расказвалі мне, як некалькі год таму нейкі містэр Айсман, хударлявы, чарнавалосы ды спрытны, выйграў турнір у Лонданскім байцоўскім клубе і на вырučаныя грошы выкупіў таемную лабараторыю доктара Дзі... А яе мог знайсці толькі майстар, які адладзіць створаны доктарам Дзі механічны аўтамат у выглядзе лялькі. Пасля містара Айсмана расшуквалі за забойства ягонай каханкі лэдзі Кларэнс, а ён бясследна знік. А шкада, нам якраз дужа патрэбны добры механік, адладзіць старажытны механізм. Але, магчыма, Айсман і Лёднік — не такія ўжо розныя людзі...

Вось гад, здзекуецца — ведае дакладна, што Лёднік і быў тым Айсманам, і сапраўды адрамантаваў ляльку па імені Пандора, атрыманую ў спадчыну ад вялікага гетмана Міхала Казіміра Рыбанькі... Вось толькі лэдзі Кларэнс забілі зусім іншыя людзі... І ці не тыя, ад каго ў паскудніка дэ Варда гэтыя звесткі? І ці не прысутнічае Пранціш у якасці міжвольнага памагатага пры тым, як зашчоўкваецца хітра і доўга ладжаная пастка на адмысловага, але надта натурыстага майстра, лекара ды знаўцы навук таемных Баўтрамея Лёдніка? Барон не хаваў задавальнення:

— Што ж, месье Лёднік, не хочаце заставацца на баку гаспадароў — калі ласка, у рабы! Напішаце жонцы ліст, што адпраўляецеся заўтра на Яву... Шэвалье дэ Перэс, пацвердзіце пасля гэта.

Чарнявы шчуплы пан у вялізным парыку — галава як дзьмухавец — коратка пакланіўся. Пранціш успомніў, што нейкі доктар Перэс сапраўды мусіў раніцай адплываць у экспедыцыю.

— Вы знікнеце для ўсяго свету. Страціце імя і аблічча. Мы будзем называць вас... Як?

— Ды ён да Скарамуша падобны! — выгукнуў пагардліва шчакасты пан у раскошна вышытым камзоле — здаецца, банкір з Манпелье?

Вырвіч, каб у другіх абставінах, хіхікнуў бы — сапраўды, персанаж мясцовага тэатра масак Скарамуш, худзючы, насаты, чарнявы, задзірысты ваяка, на якога сыпаліся бясконцыя кухталі ды палачныя ўдары, страшэнна нагадваў полацкага Фаўста.

— Ну вось, месье Лёднік, як Скарамуш, вы назаўсёды застанецеся ў гэтым доме. А ваша сям'я, разам з нахабным маладым чалавекам, будзе мірна вас чакаць, потым забудзецца на збеглага мужа і бацьку... Затое шаноўны доктар захавае свае прынцыпы.

Лёднік упарта сціснуў вусны. Пранціш памятаў, як калісьці, калі доктар адмовіўся ад магіі, алхіміі і астралогіі, ягоны крэдытор пан Агалінскі цэлы год не мог ніякімі бізунамі і кухталямі змусіць неслухмянага раба складаць гараскопы.

— Я згодны. Толькі адпусціце хлапца і не чапайце маю сям'ю.

— Тады вы павінны самі вырашыць свой лёс. Здзелка мусіць быць сумленнай!

Па знаку барона звераваты слуга ў чорным балахоне з нашытымі залатымі змеямі з галовамі пеўняў паднёс Баўтрамею просты драўляны куфэрак.

— Ну, смялей, Скарамуш! — весяліўся барон, людзі ў зале ажно выцягнулі шыі, назіраючы драматычнае відовішча, як у тэатры.

Лёднік адкінуў накрыўку і на імгненне застыў. У куфэрку ляжаў разамкнуты жалезны ашыйнік.

— Можа, усё-ткі лепей — вялікія грошы, слава, тытул баранета, цікавыя навуковыя доследы, шыкоўныя ўборы для гожай жонкі і бліскучая адукацыя для дзетак? — мякка папытаўся дэ Вард. Пранціш замыкаў, як мог, заварушыўся, хоць сам не ведаў, што ў такой сітуацыі падказаць. У цёмных вачах Лёдніка мільгануў жах — Вырвіч ведаў, наколькі доктар, пабыўшы ўжо рабом, цаніў волю, — але рукі ягоныя не дрыжэлі, калі ён узяў з куфэрка ашыйнік і зашчоўкнуў яго на сваёй шыі.

А далей зноў карцінка перад вачыма драгуна знікла, і пачалася выратавальная цемра, нігрэда, якое здаецца бясконцым, у якім толькі горыч ды гніенне.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

## Як Пранціш Сарацынам зрабіўся

Кажуць, што язмін прынесла на зямлю багіня Афіна... І надае ён мудрасці. Праўда, калі герцаг Тасканы, якому належаў адзіны ў Італіі куст язміну, забараніў прадаваць яго парасткі, садоўнік закахаўся і... куды тая мудрасць ды асцярога дзяюцца, калі закахаешся? І ззяюць цяпер сузор'і белых кветачак па ўсіх гародчыках свету...

Пранціш Вырвіч, аднак, адчуваў, што больш язмінавы куст з вохкімі кветкамі не выкліча ў яго рамантычных пачуццяў. Пранціша Вырвіча ванітавала.

Ці ад зелля з язмінавым пахам, ці ад таго, што ўспомніў.

Саламея клапатліва абцерла драгуну, які ледзь прыўзняўся з падлогі, твар мокрай анучкай і падхапіла пад руку.

— Паспрабуйце ўстаць, пан Вырвіч... Што, так кепска вам?

— Кепска? Мне? — Пранціш сплюнуў на падлогу і горка, страшна засмяяўся. — У параўнанні з нашым мудрым Бутрымам — я проста ўладальнік папараць-кветкі! На зоры, халера, ён глядзіць з палубы... Па джунглях гуляе...

Арыстоцеля звычайная гетэра змусіла вазіць яе на спіне — мудрасць бяссільная перад чалавечымі слабасцямі. Пранціш, хапаючыся за збалелую галаву, хадзіў туды-сюды перад уражанымі слухачамі.

— Так што ўсе гэтыя цуд-аперацыі за Бяскоўскага робіць Лёднік. На ўсялякі выпадак — раптам пацыент ачомаецца — змушаюць яго захутвацца да вачэй... А вось колер яго воч не памяняеш. Упэўнены, што й тое вынаходніцтва з падкаленнай анеўрызмай ён сваім гаспадарам аддаў.

— А я думаў, чаго гэта раптоўныя праблiскі генія ва ўсялякіх няздараў! — з горыччу прамовіў Жылібер. — На тым тыдні яшчэ адзін, гэткі доктар Баландзоне з камедыі масак, парадаваў дакладам пра асаблівасці крывацёку. Таксама з Таварыства прагрэсіўных нягоднікаў...

— І ў нас дэкан факультэта хваліўся, што ў Таварыстве прагрэсіўнай медыцыны пра новае ўжыванне аканіту даклад будуць рабіць, і яго запрасілі паслухаць, — ціха дадаў будучы фармацэўт Давыд Ляйбовіч, бледны прыгорблены юнак з вечна здзіўленымі цёмнымі вачыма — ён увогуле гаварыў усё ціха, нібыта ўслухоўваўся ва ўласныя словы. — А я ведаю, што доктар Лёднік яшчэ ў Полацку пра аканіт артыкул напісаў.

Саламея ўскочыла, ламаючы рукі:

— Мы тут сядзім, а яго, магчыма, катуюць! Забіваюць! Калечаць!

Палачанка была здатная і на штурм палаца пайсці. Давыд скасавурыўся і нават трохі адсунуўся ад ваяўнічай кабеты. Пранціш пастараўся супакоіць пераляканую саламяную ўдаву:

— Нічога з ім не зробяць. Бутрым — курка, якая нясе залатыя яйкі. Дэ Вард сам жа адразу сказаў, што добрых рабоў належыць берагчы. Яны ж ведаюць — Бутрым нізавошта не нашкодзіць пацыенту, нават дзеля ворага са скуры вылузаецца, абы вылечыць... І дурман ім трэба, каб нехта варыў, ён жа не захоўваецца доўга, не назапасіш. І ідэі Бутрымавы, колькі красці будуць — у яго новыя з'явяцца. І пра нейкі паламаны механізм згадвалі... Ён ім дужа, дужа патрэбны! Настолькі, што, думаю, яны самі пастараліся загнаць яго ў такую пастку, каб згадзіўся ім слугаваць.

Пранціш у адчаі стукнуў кулаком па цяжкой шафе, так што слоікі ў ёй спалохана зазвінелі.

— Вы думаеце, яны адразу планавалі менавіта такі сыход? — трывожна папытаўся Жылібер. Вырвіч змрочна хітнуў галавою.

— Вельмі верагодна. Наўрад паны спадзяваліся, ведаючы Лёднікавы погляды, яго захапленне вашымі Русо-Вальтэрамі, што ён рынецца на абарону ўлады арыстакратыі з малатком наперавес. Пралічылі, што чужынец, бязродны, ніхто не заступіцца, з самымі ўплывовымі землякамі ў Францыі пасварыўся... За сям'ю будзе баяцца... А тут яшчэ і я ім патрапіўся.

— Божа ж мой... — схапіўся за галаву Жылібер. — А ці не было данясенне Агюста часткай іхняга плана? Каб у дом вас заманіць...

Абодва прыгнечана замаўчалі. Канешне, пэўнасці не мелася — але раптам развялі драгуна ды батаніка, як шчаўлікаў? Затое хапіла ім розуму не пайсці ў абдоймы прагрэсістаў, а Чорны Доктар...

— І вось жа здаецца, сталы чалавек ваш Лёднік — а злавіць яго проста, як бяскрылага матылька... — з прыкрасцю прамовіў Жылібер.

— Не першы раз, — паныла засведчыў Пранціш. — Да апошняга будзе сябе падманваць, потым як раскаецца — і ўсё... Валі, меч, маю галаву. Ніякіх пагадненняў.

За вокнамі дома з зялёнымі аканіцамі сеяўся дробны дождж праз жоўтыя далані каштанаў, занадта нішчымная міласціна, каб паспрабаваць яе ўхапіць. Саламея бліснула сінімі вачыма:

— Я не буду чакаць! Пайду ў суд! Бутрым жа ліёнскага пракурора ад смерці выратаваў...

— Які суд, Саламея? — сумна спыніў яе Вырвіч. — Той пракурор з прагрэсістамі шампанскае піў, калі яны змушалі Лёдніка мяне калечыць. Закон на іх баку. Ні пра якіяператрусы ў палацы й не рэкнеш. Палезем — прыстрэляць, як злодзеяў. А самае горшае — калі зразумеюць, што шукаем Бутрыма, перахаваюць яго так, што ніколі не знойдзем. Не спыняцца ні перад чым. Памніце, я распавядаў пра жанглёра з адрэзанымі рукамі?

Пані Саламея, уявіўшы, відаць, скалечанага мужа, захлынулася ад жаху і выбегла з пакоя, сутаргава рыдаючы. Пранціш з няёмкасцю пачухаў патыліцу... Але пані тут жа вярнулася ўпэўненай хуткай хадой.

— Я пайду туды! Дэ Вард абавязкова мяне прыме. Прыдумаю штось... Папрашу, напрыклад, каб мяне да Бутрыма на Яву адправіў...

— Ён і адправіць! — злосна запярэчыў Пранціш. — Будзеш сядзець з мужам цераз сценку, ён на ланцугу, ты на ланцугу. Дзяцей сіротамі пакінеш!

За акном заскуголіў вецер, зашаргатала лістота, нібыта хтосьці падкрадаўся да дома, у якім ужо чатыры месяцы не было гаспадара. Жылібер задумліва прамовіў:

— Даведацца б, ці праўда Барталам'ю ў доме барона, і дзе яго трымаюць. Але абы да каго таемнага генія не прывядуць. Тут трэба асабліва важны кліент з асабліва складанай хваробай, каб яны баяліся памыліцца. А месье Лёднік — выдатны дыягност, qui bene dignoscit — bene curat[13].

Вырвіч нахмурыўся, успамінаючы расповеды апытаных пацыентаў:

— Адзін маркіз расказваў, што пасля некалькіх няўдалых візітаў — ніяк не маглі падабраць лячэнне, Бяскоўскі змусіў яго на пару хвілін надзець «сляпую» маску — маўляў, хай засяродзіцца на адчуваннях, дзе яму баліць. Тады ў пакой яшчэ нехта ўвайшоў, маркіза хуценька і даволі груба — ён нават трохі абураўся такой непавагай, — абмацалі. Потым доктар з некім раіўся, а калі з маркіза знялі маску, пра ягоныя болі доктар усё і распавёў, як гадалка. Цалкам магчыма, што да кліента, пакуль той не бачыў, і падводзілі Лёдніка.

Жылібер пацёр упартае падбароддзе.

— Верагодна. Але дзе ўзяць маркіза ці якуюсь каралеўскую пасію, якія згодзяцца нам дапамагчы? Можа, вы, пан Вырвіч, пагаворыце з якім земляком, з кола Радзівіла ці Багінскага?

Пранціш пачаў ліхаманкава перабіраць у галаве радавітых знаёмцаў — гэты занадта невысокага палёту для прагрэсістаў, той дзеля здрадніка-доктара і пальцам не варухне... Доктар жа лічыўся ў колах канфедэратаў наёмнікам Тызенгаўза, і, адпаведна, Панятоўскага, якога французскія ўлады з падачы эмігрантаў абвесцілі дыктатарам.

Раптам пачуўся з вітальні спалоханы голас Хвэлькі, і нечыя хуткія абцасікі застукалі па наваскаванай падлозе, як быццам падалі ігральныя косткі, паказваючы «венеру», і глыбокі, усхваляваны жаночы голас вымавіў:

— Магчыма, я вам дапамагу, вашымосці?

У вітальні пераляканы Хвэлька прыціскаў да сябе няўважна скінуты яму на рукі мокры плашч з дарагога чорнага аксаміту. А ў пакой уваходзіла

страчанае шчасце, падступная прыгажосць, птушка Сірын... У яе былі вялікія светла-зялёныя вочы, як у русалкі, велікаватыя вусны з горкай усмешкай, гнуткая постаць і здольнасць заваладваць увагай усіх прысутных — быццам яна стаяла на ярка асветленай сцэне і выконвала трагічную ролю.

Яна і жыла на сцэне... Былая егіпецкая прынцэса Серафіна — асістэнтка вандроўнага мага, былая прыгонная актрыса Слуцкага тэатра, былая нявеста каралеўскага драгуна Пранціша Вырвіча...

— Дзень добры, вашамосць Вырвіч!

Яна глядзела толькі на яго, быццам нікога больш у пакоі. І каб выяўлялася ў гэтым поглядзе насмешка ці халоднасць, дык і Пранціш змог бы падыграць. Але ў светла-зялёных вачах свяціліся ўсё тая ж адданасць, усё тая ж безнадзейная, сумная пяшчота. Калі сусвет перастаў звінець, як нацягнутая цеціва, Вырвіч агледзеў госцю ўважлівей. У шыкоўнай серабрыстай сукенцы, расшытай перлінамі, з брабанцкімі карункамі, у самым модным капелюшы... Маністы, пярсцёнкі, бранзалеты — усё нібыта з куфэрка інфанты. Танклявая постаць са звыкла ганарыстай паставай. Ніхто б не ўсумніўся, што пані — найменш графіня.

Першай апамяталася Саламея, якая з радасным «Раіна!» кінулася абдымаць пані.

— За вашым домам, магчыма, сочаць, дык я пад’ехала ў карэце да суседняга, там мадыстка жыве, а потым — цераз агароджу, яна якраз са зручных каменняў складзена, і бэз у вас пад вокнамі вельмі ўтульны... Пакуль лісце не абляцела, — весела тлумачыла госця, але Пранціш чуў дрыготку ў яе голасе. І праўда, да срабрыстай спадніцы прычапіліся сухія травінкі, і шчыгрэневыя светлыя пальчаткі, якія пані сцягнула, упэцканыя бязлітасна і нягжэчна. Дзе яшчэ ў Францыі знойдзецца пані, каб у такой сукенцы — ды цераз агароджу?

— Падслухоўвала, значыць, — змрочна сказаў драгун, намагаючыся, каб хоць у самога голас не дрыжэў, бо ў грудзях заварочаліся жаронцы застарэлага болю і крыўды так, што паміж імі мог хутка сцерціся на муку адзіна варты шляхціца і мужчыны спакой.

— Я ж абяцала, што буду побач. Каб дапамагаць вам, пан Вырвіч! — ціха прамовіла Раіна, і зноў — гэты ж адданы позірк, ад якога паціху шалееш, бо нічога гэтая адданасць не вырашыць, не выправіць.

— Ты што, у Францыю паехала за мной? — недаверліва папытаўся Вырвіч. Раіна нясмела ўсміхнулася, раптам перастаўшы быць падобнай да графіні, а нагадала тое худзенькае спрытнае дзяўчо, што ў адной шаўковай кашулі прабіралася да маладога драгуна ў пакой цераз фортку, у самую залеву ды холад, абы папярэдзіць аб небяспецы.

— Я ж абяцала вас ахоўваць...

— Чакай... — Пранціш пачаў не жартам гневацца — гнеў як найлепш прыглушае боль і безнадзейнасць. — Дык гэта ты за дом Лёднікаў заплаціла? І за навучанне Алеся?

Раіна нават вачэй не апусціла.

— Пан Лёднік з рабства мяне выкупіў, куды болей грошай аддаўшы, і не лішніх, заступаўся за мяне, я павек з ягамосцю не расплачуся за ўсё.

Драбнюткі французскі дождж зашаргацеў у парудзелай лістоце.

— А год таму, калі я пляменніка біскупа параніў на двубоі, ты пастаралася, каб мяне з турмы адразу ж выпусцілі? А я яшчэ, дурань, гадаў, з чаго б то суддзі раптоўна перамяніліся, намякалі, што хтось за мяне слоўца замовіў...

— І з вамі, пан Вырвіч, мне павек не расплаціцца, — гэтак жа ціха, з пяшчотным сумам у голасе, прамовіла Раіна. Вырвічу хацелася ажно зараўці

ды страсянуць дурную кабету за плечы — анёла-ахоўніка з сябе выяўляе, хаваецца, п’есу на хаду сачыняе... Нявартая яна... У той час, як магла проста заставацца побач і не кроіць драгуну сэрца.

— І як жа цябе цяпер называць? — з горкай насмешкай спытаў Пранціш. — А то й не ведаю, як паспалітай грамадзе прадставіць. Зноў Семпенсетра, прынцэса егіпецкая?

Але Вырвіч забыўся, што Раіну, прыгонную акторку, якая зведала з жорсткімі гаспадарамі не адно кола пекла, збянтэжыць не проста. Яна прысела ў прыдворным рэверансе і з годнасцю прадставілася:

— Мадам Серафіна Мішэль, вашамосць. Артыстка каралеўскага тэатра.

І позірк такі хітручы...

Саламея перапыніла допыт, змусіўшы змерзлую госцю ўсесціся, ды яшчэ ахінула яе футрам — мяркуючы па пасінелых вуснах артысткі, гэта было не лішнім.

— Мадам уваходзіць у блізкае кола караля? — без усялякіх нюансаў нецярпліва спытаўся негалантны Жылібер. — Дэ Вард ведае, хто вы?

Па сэрцы Пранціша правяла вострымі кіпцюрамі лапа пачвары з найменнем рэўнасць, а яшчэ загарчыла расчараванне. Калісьці ж і Станіслаў Панятоўскі за чароўнай артыстачкай упадаў... Няўжо яна такім вось чынам працягнула кар’еру, каралеўскай фаварыткай стала? Стары Людовік перабраў усіх гожанькіх тэатральных кабетаў. Адкуль жа яшчэ такія ўборы ды куча грошай? Але Раіна толькі лёгка і сумна ўсміхнулася, і зблiснулі перліны, як слёзы — вось-вось сцякуць.

— Яго вялікасць мяне бачыў, але не надта надае ўвагі майму існаванню. Я на ягоны густ занадта хударлявая, і ў Аленнім парку Версаля мяне не пасялілі. З дэ Вардам, дзякуй богу, таксама сустракацца не даводзілася... Я не зарабляю паслугамі ў ложку, не пераймайцеся, пан Вырвіч.

Вось жа, здагадалася, пра што былы жаніх думае... У Аленнім парку зладзілі цэлае пасяленне для каралеўскіх палюбоўніц — частку пастаўляла афіцыйная фаварытка караля мадам Дзюбары, кагось самі бацькі прысылалі — вой, якая дачушачка ў нас міленькая, зрабіце ласку, ваша вялікасць, пазбаўце яе цнатлівасці... Цьфу! Ды Станіслаў Панятоўскі на гэтым фоне мніхам выглядае. Тут не дзейнічае раздзел дзевятнаццаты, артыкул трыццаць шосты Статута Вялікага Княства Літоўскага: «Зводнікі і зводніцы дзеля ўтаймавання разбэшчанасці і падбухторвання жанчын да распусты не могуць быць цярпімымі, такім людзям трэба адразаць нос і вушы, калі ж яны будуць працягваць займацца тым самым і пасля гэтай кары, то пазбаўляць іх жыцця».

— Але ў мяне ёсць сяброўкі са спамянутага Аленняга парку, — запэўніла Раіна. — Тая самая Мары Бушэ, мы з ёй у адной трупе былі, прыехала сюды падлячыцца — баіцца, што кароль прагоніць хворую. Так што я вазьму ў яе рэкамендацыю да доктара Бяскоўскага, ну а сыграць сур’ёзна прыхварэлую фаварытку караля я змагу! Пан Вырвіч пацвердзіць, на што я здатная...

Раіна задзірыста засмяялася, адкінуўшы галаву з высокай прычоскай — у напудраных валасах, як слёзы, блішчэлі перліны, быццам нехта зверху аплакваў загінулую душу. А яна ж і сапраўды схуднела... Так, што аж свеціцца. Вочы вялікія, і цёмныя кругі пад імі запудраныя. А рукі ж, як галіначкі... Пранціш здушыў жаданне прытуліць да сябе, адагрэць гэтыя худзенькія да сінізны рукі... Бо ведаў — ён пажадае, і яна дазволіць усё, каб пасля зноў збегчы, не ганьбіць высакароднага Вырвіча сувяззю з «нізкай жанчынай».

— Што ж, у гэтым ёсць шанец, — вынес вердыкт Жылібер, ацэньваючы абмераўшы вачыма страйнюткую постаць госці.

— Яна не павінна ісці адна, — заявіў Пранціш. — Трэба пасвечаны назіральнік ды ахоўнік, каб разнюхаць што, пакуль усе будуць пацыенткай занятыя...

— Вы пра сябе, пан Вырвіч? — напружана папыталася Саламея. — Нават не думайце! Вы пабывалі ўжо ў доме дэ Варда... Нагадаць, чым скончылася?

Та-ак, паслалі сабаку па табаку — ані табакі, ані сабакі. Пранціш міжволі пацёр лоб, нібыта зноў адчуўшы, як галаву сціскаюць жалезныя абручы.

— Значыць, трэба прыдумаць якую маскіроўку! Як у Санкт-Пецярбургу... Памятаеш, Раіна, ты пераапранула мяне ў егіпцяніна, і я змяюку за табой у клетцы насіў?

Жылібер пачаў штось абурана звягаць — пра легкадумнасць ды балаган, але Раіна сур'ёзна задумалася.

— Што ж, скарыстаем, што зараз у Парыжы модна трымаць незвычайных прыслужнікаў. Кітайцаў, маўраў, індусаў, чаркесаў, казакаў, туркаў... У Мары ёсць слуга-сарацын. Ходзіць такі ў чорным, у шальварах ды шырокай кашулі, за поясам дзве крывыя шаблі ды кінжал, на галаве чалма, фізіяномія да вачэй чорнай хусткай закрытая, толькі вачыма бліскае ды рычыць, як звер... Страх глядзець! Праўда, ніхто не ведае, што Мары загадала яму твар захінаць, бо ніякі ён не сарацынскі ваяр, а лёкай родам з Сардзініі, і аблічча, як ні рычыць, недастаткова жудаснае на густ гаспадыні. Так што пазычу ў Мары ейнага гардыяна, ну і вы яму да пары якраз будзеце.

— Гэта ў туарэгаў мужчыны твар захінаюць... — не вытрымаў па-навуковаму дакладны Жылібер, але сам махнуў рукой, разумеючы, што ў свеце маскарадаў на такія адпаведнасці ўсім начхаць. Сарацыны дык сарацыны.

— Я магу намяшаць рашчынення, каб скура смуглявая стала, — раптам падаў голас Давыд. — Вочы таксама можна цёмнымі зрабіць хаця б з дапамогай Hyoscyamus niger[14]...

— Лепш Atropa belladonna[15], — хуценька ўмяшаўся Жылібер. — Эфект устойлівейшы.

— Ну так, — меланхалічна пагадзіўся Давыд. — А мяне можна проста лёкаем. Я не асабліва прыкметны, падумаеш, студыёзус... Ніхто не пазнае.

Пранціш са здзіўленнем павярнуўся да пляменніка полацкага аптэкара, які сядзеў, выцягнуўшы доўгія ногі, у фатэлі, накрытым пухнатай белай посцілкай.

— Гэта небяспечна, Давыдзе.

Фармацэўт гэтак жа меланхалічна паціснуў плячыма.

— Без волі Госпада і волас з галавы не ўпадзе, Майсей вунь па дне мора народ правалок... Хаця, ведаючы, што давядзецца пасля сорак год блукаць у пустцы і пясок жаваць, многія б назад павярнулі, не чакаючы манны нябеснай.

Давыд відавочна ўспадчыннію ад дзядзькі Лейбы вясёлае блюзнерства, якое за адсланёна-журботнай мінай цяжка было западозрыць.

— Небяспечна, небяспечна... — працягваў буркатаць юнак, і ў ягоных цёмных задумлівых вачах скакалі дзёрзкія жарынкі. — Як зелле варыць — дык Давыд згодзіцца... А дзядзьку Баўтрамея выручаць — дык Давыд баязлівец, Давыд слабы. І, канешне, не памятае, як дзядзька Баўтрамей аптэцы нашай зачыніцца не даў, сям'ю выручыў, мяне на вучэнне ўладзіў...

Вырвіч сумніўна агледзеў хударлявую постаць юнага фармацэўта:

— Магчыма, там біцца трэба будзе.

— На ўсё воля Госпада. Мой славуты цёзка Галіяфа каменьчыкам зваліў.

Раптам расчыніліся дзверы ў другі пакой. Паніч Аляксандр Лёднік, трымаючы за руку малую сястрычку, глядзеў упартымі цёмнымі вачыма, задраўшы

падбароддзе, і відавочна збіраўся патрабаваць, каб яго далучылі да вызвалення бацькі. І гэты падслухоўваў, значыць. Саламея ўсхліпнула, кінулася, абняла дзяцей і зашаптала тое, што шэпчуць маці ўсяго свету падчас войнаў, што ўсё будзе добра, і татка вернецца...

Але дабрацца да таго таткі, які зноў нашукаў прыгодаў на сваю вучоную галаву, было не прасцей, чым здабыць дзіду святога Маўрыкія ў полацкіх сутарэннях. Дом дэ Варда ахоўваўся, як важная фартэцыя. У тым крыле, якое барон адвёў пад медыцынскае таварыства, варту неслі венгерцы. Дакладней, французы, швейцарцы, італьянцы ды хто там яшчэ наняўся, у модных венгерскіх касцюмах, з мехавымі шапкамі, упрыгожанымі двума фазанавымі пёрамі, у юлёвых кунтушах з залатымі галунамі.

Але грашавіты кліент — залаты ключык, які любую браму адамкне, нават калі яе ахоўваюць цэрберы, гаргоны і цвярозыя стральцы Пяцігорскага палка.

Пранціш скасавурыўся на свайго напарніка: яны з ім не менш застрашліва выглядаюць! Шаблі за паясамі крывыя і небяспечныя, як зубы ў цмока. Шырачэзныя кашулі ды нагавіцы, плашчы, чалмы — усё з чорнага шоўку, фізіяноміі да вачэй прыкрываюць чорныя хусткі... Галоўнае, вочы, закапаныя блёкатам, пажахлівей лупіць. Не тое, што Давыд у кароценькай лёкайскай куртачцы, жоўтых штанах да калена ды белых панчохах: сунецца прыгорблена за ўрачыстай акторкай Серафінай, нібыта век слугаваў, нясе куфэрак з грашыма.

А Серафіну Мішэль сустракаюць, як каралеву! Яшчэ б... Столькі грошай уваліць за адзін візіт! А паводзіцца як, а пастава ганарыстая! Каралеўская фаварытка, ясна... Даўгалыгі Бяскоўскі (Пранціш так бы і даў кулаком па яго-ных пудраных патлах) ручку цалуе, ветлівы, як малінавае сочыва.

Сузіраць таемства лекарскага агляду Бяскоўскі ахоўнікам дазваляць не хацеў. Але Серафіна запэўніла капрызліва, што ахоўнікі яе людзі дзікія і адданыя, як сабакі, нават пад дзвярыма яе спачывальні начуюць — бо так ім загадаў сам яго вялікасць кароль. Не мусяць выпускаць яе, суцеху каралеўскага сэрца, з-пад нагляду й на хвілю.

Абмежаваліся тым, што паставілі кітайскую шырму, распісаную белымі, як сырадой, лотасамі, і абодва сарацыны, паклаўшы рукі на дзяржальны шабляў, пагрозна сталі за ёй з боку дзвярэй. Пранціш, шпег спрактыкаваны, тут жа прарэзаў у шчыльнай тканіне з лотасамі дзірку для назірання. Напарнік незадаволена скасавурыўся: ды што з яго ўзяць, цельпука: чужы, калі што — не дапаможа.

Між тым Бяскоўскі пачаў агляд пацыенткі. Змушаў глыбей дыхаць, паварочвацца, згінацца, распытваў ціха пра нешта... Раіна ў нейкі момант гэтак натуральна заперхалася — аж страшна, каб не ведаць, што прыкідваецца, дык і паверыў бы ў хваробу. Відаць, Міхалішыўна нездарма запэўнівала — зможа напалохаць лекара, бо Бяскоўскі не на жарт задумаўся. Потым адышоўся, паклікаў свайго лёкая ды штосьці прашаптаў, Пранцішу пачулася слова «Скарамуш». Сэрца ажно зайшлося ад хвалявання. Няўжо ўдасца?

І праўда... Вось ужо Бяскоўскі нясе бязвокую маску з белага аксаміту, расшытую срэбрам ды каменьчыкамі. Угаворвае багатую кліентку прылегчы ў шыкоўным фатэлі з гэтай маскай на твары, засяродзіцца на сваім болю — так дакладней можна дыягностыку правесці.

Бяскоўскі не паленаваўся падысці і зазірнуць за шырму — стаяць абодва жыхары пусткі, як слупы, лупяцца дзікімі адсутнымі вачыма ў сцяну...

А потым бязгучна адчыніліся непрыкметныя дзверцы, якія прыкрываў габелен паміж шафамі, і ў пакой увайшла знаёмая постаць. Высокі хударлявы

мужчына ў белым балахоне, захутаны аж да вачэй не горш, чым абодва «сарацыны», з бязглуздай белай шапачкай на галаве, падобнай да тых, што носяць пекары. Нават здалёк, праз шчыліну, Пранціш пабачыў, што вочы ў прыхадня цёмныя, і глядзяць засяроджана, пільна... І немагчыма было не пазнаць гэтыя ўпэўненыя, адрывістыя рухі, тую ўчэпістасць, з якой доктар Лёднік заўсёды аглядаў пацыентаў, няважна, ці кароль перад ім, ці смяццяр.

Дзякуй богу, Бутрым на нагах, пры памяці...

А яго баяцца, нават у ашыйніку — двое гардыянаў сталі побач, каб сачыць за кожным рухам.

Між тым новы лекар давай выстукваць нешта па грудзях, па скабах пацыенткі — ага, ужывае тую саму пяркусію, якую ўся еўрапейская медыцына высмеяла. Каралеўская фаварытка зноў зайшлася ў сухім, пакутлівым кашлі. Цікава, Лёднік выкрые падман? А можа, пазнае Раіну нават з закрытым абліччам — ён жа назіральны, ды падыграе?

Бяскоўскі папрасіў кліентку яшчэ трохі паляжаць і адышоўся з Лёднікам у самы дальні кут. Бутрым нешта доўга і горача шаптаў, Бяскоўскі, здаецца, незадаволена спрачаўся. Чорны Доктар угневаўся, аж страсянуў свайго ўладальніка за каўнер, але зараз жа быў схоплены за рукі ахоўнікамі і выштурханы за таемныя дзверы.

Пранціш мімаволі схапіўся за шаблю: гэх, зараз кінуцца б, пакуль Бутрым тут, пасячы гадаў... У юнацтве не стрымаўся б — нават ведаючы, што з дому нізавошта не выбрацца.

Між тым Бяскоўскі наблізіўся да пацыенткі і акуратна зняў з яе маску. Запэўніў, што прагнозы самыя лепшыя, трэба толькі піць адмысловыя лекі. А сама лепей звярнуцца да маладога пана Месмера, які пераехаў з Вены ў Парыж і ўсё больш паспяхова практыкуе свой магнетызм.

Пранціш здзівіўся: няўжо Месмер, якога лічылі шалберам, а Лёднік — таленавітым чалавекам, што ўпустую растрачвае свой талент, забаўляючы багацеяў, у хаўрусе з прагрэсіўнымі дактарамі? Такую кліентку перасылаюць!

Ужо на ганку да каралеўскай фаварыткі ды ейных сарацынаў далучыўся Давыд, на хаду з кімсьці раскланьваючыся. Можа, хоць гэты прыемна час прабавіў у д'ябальскім доме?

Калі карэта ад'ехалася ад развалін амфітэатра, Раіна падняла на Вырвіча ўсхваляваныя вочы:

— Гэта быў ён... Пан Лёднік...

— Я ведаю. Бачыў, — коратка пагадзіўся Пранціш. — Вось толькі куды яго павялі?

— А ў правую вежу, на другі паверх, — проста прагаварыў Давыд, разглядаючы незнаёмы герб на гузіку лёкайскай формы. І патлумачыў на здзіўленыя воклічы:

— Ну я ж лёкай, гэткі малады працяк, як жа мне не завесці знаёмства з такімі ж лёкаямі ды служаначкамі, не пажаліцца на капрызлівую гаспадыню ды пра іхніх гаспадароў не паслухаць? — будучы полацкі аптэкар пасміхнуўся. — Хочаш таямніцаў — пасядзі на варыўні. Арыстакраты, прабачце, пан Вырвіч, скрозь фанабэрыю мыш ва ўласнай талерцы не ўбачаць. Яны шчыра лічаць, што прыслуга — штосьці кшталту мэблі, нават калі бачыць і чуе, усведамляе не больш за якога цюцьку. Ды слугі разумеюць усё лепш, чым гаспадары, прыкмячаюць да драбніцаў. Лішняга, вядома, тут не скажуць, напалоханыя лёсам вашага Агюста — ніхто не паверыў, што ён сам па сабе з дому знік. Дапамагаць нам ніхто не возьмецца, выклічы на суд за сведкаў — ад усяго адхрысцяцца. Але калі я сказаў, што не супраць папрасіцца да

барона слугаваць, бо абрыдла ў гаспадыні, парадаў надавалі. Асабліва раілі да сутарэнняў блізка не падыходзіць — «калі не хочаш, браце, сам у іх знікнуць». Дэ Варда лічаць гнюсным і разбэшчаным. Адна панечка намякнула, што ў доме час ад часу таемна збіраюцца кампаніі кшталту тых, што ладзіць мадам Дзюбары для караля. Там, дзе закусваюць віно шпанскімі мушкамі для абуджэння юру, а нараніцу прыслуга дастае з-пад сталоў голыя п'яныя целы. Два лёкаі — тыя, што перабраліся з баронам з Парыжа і трымаюцца ад іншай прыслугі асобна — нават бяруць у тым Садоме ды Гаморы ўдзел.

Давыд скрывіўся, як у пеўня грэбень. Былая егіпецкая прынцэса стоена ўздыхнула — цалкам магчыма, давялося на ўсялякіх застоллях пасядзець... Фармацэўт працягваў расповед:

— Дэ Вард насамрэч цяпер не такі багаты, як удае — у Парыжы распусціў усе свае багацці, апошняе аддаў, каб адкупіцца ад суддзяў. Таму й згуртавалася гэтае Таварыства. Грошы з багатых кліентаў цягнуць хаўрусам, і вялікі працэнт асядае ў барона.

— Відаць, каб выцягваць грошы з арыстакратаў, барон і прыдумаў на пару з Бяскоўскім гэты ідыёцкі план па выратаванні манархіі аперацыямі на мозгу! — усклікнуў Вырвіч. Шкельцы ў вітражы, здзекліва пазвоньваючы, станавіліся на месца. — А я ж дапяць не мог, няўжо ён сам у гэта верыць, прайдзісвет!

Давыд прыўзняў бровы — маўляў, усё на свеце, васпан, шалберства, акрамя цагліны ў лоб, і працягваў:

— Ёсць у доме людзі ў ашыйніках. Гэта мурын, карузлік і некалькі красунек — адну я нават пабачыў, прыбегла за збанам віна, у паўпразрыстай адзежы, валасы распушчаныя да пояса, цьфу... Рабы, гэта значыць, каторыя ў ашыйніках, з дому не выходзяць увогуле ніколі, і астатнія слугі робяць выгляд, што іх не існуе.

— А пра Лёдніка, пра Лёдніка што кажуць? — нецярпліва перапытаў Пранціш.

— In brevi[16], пра таемнага Скарамуша, якога трымаюць пад замком, ведаюць мала, — прызнаўся Давыд. — У твар дык ніхто з непасвечанай прыслугі яго не бачыў. Расказваюць усялякія байкі: вупыра для эксперыментаў злавілі, дэмана ўтаймавалі. Адзін гардэробшчык шапнуў, што Скарамуш — скрадзены сын арабскага шэйха, вялікі чараўнік. Трымаюць яго ў пакоі за жалезнымі дзвярыма. Есці носіць толькі тая панечка ў ашыйніку. Ну і ўсе расповеды перарываліся змрочным «Лепей табе таго не ведаць».

Карэта перастала трэсціся па брукаванцы. Змоўшчыкі выехалі на дарогу, што вяла з Манпелье ў Ліён, і колы пачалі правальвацца ў калюжыны, быццам з пасажыраў карэты нехта хацеў збіць масла. Вырвіч трохі злаваў — вось жа нягеглы Давыд столькі змог разведаць! А ён яго нават браць не хацеў. Сам жа Вырвіч так і не навучыўся па-французску чысценька прамаўляць, ну няма ў яго здольнасці да моў, хоць і вершаплёцтвам займаецца. А юны Ляйбовіч — калі ласка, як бы й адсюль родам.

Але цяпер хоць нешта пэўнае: доктар у доме, і нават вядома, дзе трымаюць.

Праўда, ілбом мур не праб'еш. Давялося шукаць спосабы і сродкі. Гэта заняло яшчэ два тыдні, за якія Саламея зусім змэнчылася. Французская восень аказалася такой жа паганай, як і беларуская, дажджы сабе лілі, вецер дзьмуў, мора ўздыхала, быццам зняволены волат, што вось-вось абудзіцца. Адзіны спадзеў, каб не пачаўся шторм, які скасаваў бы план. Пранціш з'ездзіў у Парыж, дзе давялося ўжыць усе свае дыпламатычныя здольнасці, але вярнуўся не адзін.

І гэтыя клопаты адцягвалі ад тужлівай няёмкасці — як паводзіцца з былой нявестай? Што вынікае з яе новага з'яўлення ў жыцці каралеўскага драгуна? Ці мусіць шляхціц герба Гіпацэнтаўр, які вядзе род ад Палямона, упрошваць былую прыгонную акторку застацца з ім у якасці законнай жонкі? Дый ці магчыма ўсё склеіць наноў? Раіна нічога пра сябе не расказвала, плыткая, як паверхня дрыгвы... Пранціш не ведаў, чаго адчувае болей пры паглядзе на ейную схуднелую постаць — шкадобу, тугу, крыўду, каханне? У зносінах з магнаткай Паланэяй Багінскай усё было прасцей. Вырвіч кахаў і марыў дабіцца, князёўна какетнічала ды пагарджала...

Бізантыйскія пярсцёнкі абвіваюць яе пальцы,
І з карункаў чорных вэлюм яе вочы захінае.
У вушах — жамчужын гронкі, а спадніцы — як палацы.
А вачэй яе — не помню, голас не прыпамінаю.
Помню толькі — бранзалеты са смарагдавай аздобай,
Дыямент на дыядэме, дыяменты на абцасах,
Дыяменты на манжэтах — быццам дажджавыя кроплі.
І высокую прычоску, і апошнюю абразу...
Што ж кахаў я? Што я бачыў за завесаю бліскучай?
Толькі рэчы, толькі тое, што за грошы прадаецца...
А спадніцы шаргаталі — і было душы балюча.
А звінелі бранзалеты — і чамусь палала сэрца...

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

## Як Пранціш Лёдніка з-за двух акіянаў вярнуў

Этрускі рабілі пахавальныя урны ў выглядзе домікаў. З вострым дахам, акенцамі, дзвярыма... А што ж — нябожчык, лічы, вярнуўся дахаты разам з дымам апошняга свайго вогнішча.

А ці мала на свеце дамоў, багатых, вялікіх і тлумных, але насамрэч мёртвых, дзе адно попел ды цвіль граху? На мармуровы ганак ніколі не прыпаўзе да сподачка з малаком вужака, да місы з непасоленай яешняй у падпечча не прыкульгае дамавік... А калі такі дом апусцее — у ім абавязкова паселяцца прывіды. Напрыклад, закатаваных у сутарэннях ахвяр бязбожных эксперыментаў.

Нізавошта не хацеў бы Пранціш Вырвіч атрымаць ва ўладанне шыкоўны дом дэ Варда, каб прачынацца па начах ад прывідных скаргаў ды стогнаў... І ўвогуле блізка б да таго дому смерці не падышоў бы.

Але давялося. А менавіта ў той дзень, калі ў Таварыстве прагрэсіўнай медыцыны мусіў прагучаць скрадзены ў Баўтрамея Лёдніка публічны даклад пра новыя спосабы ўжывання аканіту.

Папраўдзе, большасці шаноўнай публікі было начхаць і на нейкі там аканіт, і на спосабы яго ўжывання, ну, акрамя купкі апантаных кнігагрызаў.

Але нават ускрыцці трупаў у анатамічных тэатрах у слаўную эпоху Асветніцтва ператварыліся ў прыемныя свецкія асамблеі. Так і тут — чакалася шампанскае, безэ і лепшая садавіна з лангедокскіх аранжарэй. Дамам можна было памерацца вышынёй прычосак, у напудраных хвалях якіх луналі цацачныя караблікі і ружавелі птушкі з пер'ямі сапраўдных калібры... Можна было з прыемнасцю абгаварыць апошнія куртуазныя прыгоды Людовіка Пятнаццатага, і што ў мадам Дзюбары з'явіліся зморшчыны ад злоўжывання шпанскімі

мушкамі і эмаліроўкі твару, і пра яе змаганне з герцагам Шуазёлем, які хоча падкласці каралю ў ложак уласную пляменніцу... Ну і, вядома, паказаць сваю прагрэсіўнасць і дасведчанасць тым, што пакруціўся ў салоне праслаўленага ў Парыжы барона дэ Варда, сярод наймудрых, найвучоных мужоў. А можа, удасца якое слоўца новае вывучыць — напрыклад, «трэ-па-на-цыя». Што такое, няважна, а пакрасавацца можна: «Як, вашамосць не ведае, што такое трэпанацыя? Ды ў Парыжы кожны дзіцёнак без яе нават спаць не кладзецца!»

Гэта быў першы раз, калі барон запрасіў на сход Таварыства старонніх — відаць, у цвёрдым спадзеве залучыць новых прыхільнікаў. Таму што ўваход на сённяшні вечар быў па білетах, а білет каштаваў столькі, што можна на гэтыя грошы самому банкет учыніць. Так што стрыгчы залатое руно тут было з каго. Нават некалькі арыстакратаў-эмігрантаў з Рэчы Паспалітай білеты выкупілі, прыехаўшы адмыслова з Ліёна і Парыжа. Тым больш надвор’е спрыяла: ужо тыдзень сонца бязлітасна падсмажвала вераснёвы Лангедок, як на Купалле.

Мадам Серафіна Мішэль у суправаджэнні двух сарацынаў не магла не з’явіцца паслухаць доктара, які яе так паспяхова лечыць. Вось з’яўленне маладога прафесара Жана Эмануэля Жылібера, вальтар’янца і масона, выклікала незадаволенае перашэптванне. Праўда, асабліва не здзівіліся: ну не вытрымаў вядомы батанік, ляснуў сто ліўраў, абы паслухаць канкурэнта на навуковай глебе. Але і Жылібер не застаўся на самоце, і зараз, пагардліва крывячы вусны, пра нешта перагаворваўся з двума вучонымі панамі. Гэткімі ж скептычнымі, з дэманстратыўна не напудранымі галовамі — французскія патрыёты лічылі ганьбай пераводзіць муку, калі народ галадае, і вакол тройцы імкліва ўтваралася Сінайская пустка.

А вось і дакладчык. Альфонс Бяскоўскі нікому не даверыў каштоўны тэкст. Прамаўляе, як салавей з зязюляй. Самы час сарацынам з асабістай аховы каралеўскай фаварыткі ціхенька адысці ў куток залы з бліскучай, як вада ў сонечны дзень, падлогай і калонамі з ружовага мармуру, у цёмны калідор, далей, далей...

У канцы калідора двое венгерцаў перагарадзілі шлях да лесвіцы, сярдзіта замахалі рукамі: няма чаго тут швэндаць... Вырвіч перазірнуўся з напарнікам — сённяшні сарацын нумар два быў шляхціцам, харунжым у войску Радзівіла Пане Каханку і старым знаёмцам. Таму праз колькі імгненняў венгерцы ўселіся на прыступкі лесвіцы, міла прыхіліўшыся адзін да аднаго, без лішняга шуму і без прытомнасці.

Праўда, жывыя.

Амаль.

Ну не пераняў Пранціш у свайго настаўніка Баўтрамея ва ўсіх тонкасцях навуку, як абяззбройваць суперніка, не наносячы яму шкоды. Дый не дужа хацелася.

Сарацыны кінуліся на другі паверх. Пранціш нецярпліва вышукваў жалезныя дзверы... І ледзь не збіў з ног дзяўчыну ў нейкай дужа лёгенькай сукенцы, якая высунулася з пакоя ў калідор, паглядзець, хто гэта тупоча, заміж каб слухаць у зале вучоны даклад пра выкарыстанне нейкай гадасці.

Ашыйнік! На дзеўцы жалезны ашыйнік! Ці не тая, што доктару ежу носіць?

Пранціш адной рукой прыціснуў грэшнае стварэнне спінай да сябе, другой закрыў дзеўцы рот. Але ў небаракі і так мову адняло, відаць, бо ейны твар люстраваўся ў лязе шаблі другога сарацына.

— Не будзеш крычаць — не заб’ем, згода?

Паненка ледзь заўважна хітнула галавой. Пранціш трохі прыняў руку — дзеўка нагадвала яму каценя, якое дзеці так заціскалі, замучылі, што яно ўжо развучылася і вырывацца, толькі пакорліва абвісае ў руках.

— Доктар дзе? Гавары, ну? Той, якога за жалезнымі дзвярыма трымаюць...

Раптам грэшніца неяк спрытна вылузалася з няветлых абдоймаў, павярнулася да Пранціша, не зважаючы на пагрозную шаблю, і ўтаропілася ў закрытую да вачэй чорнай тканінай фізіяномію нападніка з адчайнай надзеяй:

— Вы па Скарамуша? Вы ягоныя сябры?

Трохі пукатыя шэрыя вочы, падведзеныя чорнай фарбай, глядзелі трывожна, вялікія пухльныя, ярка нафарбаваныя вусны — праўда, цалаваць іх нізавошта не хацелася — уздрыгвалі... Пранціш суха пацвердзіў:

— Мы яго сябры. Дзе ён?

— Пайшлі, пакажу! Толькі ў мяне ключоў няма... Ён жа мяне вылечыў, з таго свету выцягнуў!

Дзеўка ў белых шаўковых туфліках бегла па зялёнай дывановай дарожцы, нібыта слізгала, толькі пазвоньвалі тонкія бранзалеты. І Пранціш намагаўся адляпіць пагляд ад пышных формаў, абцягнутых паўпразрыстай тканінай, усыпанай залатымі блішчынкамі. Ну і кліенткі тут у доктара...

У канцы калідора, дзе паміж дзвюма тумбамі з кітайскімі вазамі вісела карціна, на якой лупавокі барадаты цар Давыд спакушаўся вабнасцямі чужой жонкі Вірсавіі, дзеўка падала знак спыніцца

— Тут, адразу за рагом... Але там ахова.

Грэшнае стварэнне не падманула: былі і жалезныя дзверы, і ахова... Дакладней, адзін вусаты гардыян у кунтушы з залатымі галунамі, прысеўшы ў сцянной нішы на банкетку, меланхалічна еў мандарыны з бронзавага блюда. На маленькім мармуровым століку пісталет, графін з чырвоным вінам і збан з вадой спрачаліся за ўвагу гаспадара, патрапаную калоду карт прыціскаў стылет... Сур'ёзны пост, са зручнасцямі, разлічаны на ўвесьчаснае карыстанне, тым больш ахоўнік не адводзіў вачэй ад дзвярэй. Мусіць, Лёдніка так баяцца, што думаюць, быццам жалезныя лісты прагрызе...

Між тым нават у гэты дальні калідор раптам данёсся вэрхал з залы, дзе адбываўся даклад. Заверашчалі абураныя галасы, перабіваючы адно аднаго — відаць, Жылібер, як намерваўся, учыніў скандал, што адкрыццё крадзенае. Пад гэты шум самае то акураценька ўкласці на дыван яшчэ аднаго фальшывага венгерца. Дзеўку пакуль трымалі пры сабе, але пільнавалі — раптам трывогу падыме...

Калі Пранціш справіўся з вялікім ангельскім замком, высветлілася, што за першымі дзвярыма — яшчэ адны, таксама жалезныя, са спецыяльным акенцам унізе — падобна, каб ежу прасоўваць.

— Хутчэй! — прасіпеў другі сарацын, трывожна азіраючы пусты калідор, бо дзесь непадалёк чуліся галасы, крокі... Вырвіч скінуў са змакрэлага твару абрыдлую хустку, абцёр пот рукавом і ўважлівей зашурудзіў дзвюма шпількамі ў замку... Нарэшце пачуўся ціхі шчаўчок, і дзверы ў скарбніцу прагрэсіўных дактароў адчыніліся...

Чорны Доктар, апрануты ў зрэбныя нагавіцы і кашулю, сядзеў проста на падлозе, на худым сенніку — а больш у маленькім квадратным пакойчыку з голымі беленымі сценамі нічога і не было, нават збана з вадой. Прыхінуўся спінай да сцяны, абняў калені, галава нізка апушчаная, твар завешваюць чорныя пасмы з нітамі сівізны... Дзве пасмы над правай скронню чамусьці заплеценыя ў тонкія, з пруток, косы.

— Бутрым!

Толькі тады галаву падняў, але ў цёмных вачах блiснула не радасць, а трывога.

— Вырвіч! Зараз жа ўцякай, я не магу...

Голас хрыплы, вусны перасохлі…

Раптам да полацкага алхіміка кінулася дзеўка, затрэсла яго за плечы, залапатала:

— Скарамуш, апамятайся, бяжы! Цябе тут замучаюць...

Вырвіч варухнуцца не паспеў — красунька падскочыла да стала ахоўніка, схапіла збан з вадой і сунула Чорнаму Доктару.

На шчасце, там сапраўды аказалася вада, а не якісь моцны напой — надта горача сёння, без вады доўга не праседзіш… А мяркуючы па тым, як Лёднік прагна піў, яму й давялося пасядзець. Дзеўка прысела каля вязня, які, захлынаючыся, спатольваў смагу, і спачувальна гладзіла па валасах.

Вырвіч між тым дастаў з-за пазухі скрутак чорнай бліскучай тканіны і кінуў зняволенаму:

— Апранай, хопіць камедыю круціць. Саламея з дзецьмі на караблі, у бяспецы, цябе чакаюць...

Калі хто бачыў, як распростваецца колас, з якога стрэслі цяжкую расу, можа ўявіць, як ускінуўся з месца полацкі алхімік — адным звярыным рухам, і ягоныя вочы загарэліся знаёмым агнём.

— Ну вось, адразу б так... — зазначыў другі сарацын, прыадкрываючы твар, і Лёднік, які з дапамогай сваёй падазронай кліенткі ліхаманкава нацягваў на сябе сарацынскую вопратку, здзівіўся.

— Пан Рысь? Вы? Якім чынам?

Стары знаёмец усміхнуўся.

— Ну, павінен жа я аддаць вашамосці свой доўг яшчэ за Вільню!

Калісьці Лёднік змог выратаваць ад арышту студэнтаў Віленскай акадэміі, што меліся далучыцца да войска Пане Каханку, галоўнага апанента караля, але для гэтага давялося падставіцца самому ды трапіць у катавальню. Пан Рысь, прыбліжаны Пане Каханку, тады выводзіў таемным ходам студэнтаў, пакінуўшы Лёдніка затрымліваць жаўнераў.

Пранціш сунуў у рукі трэцяму сарацыну запасную шаблю... А Лёдніку нават вочы дурнап’янам падцямняць не трэба, чорныя і бліскучыя ад гневу.

— Усё, рушылі!

Але Бутрым схіліўся да губастай дзеўкі і адрывіста папытаўся:

— Каламбіна, дзе яны паставілі прыладу, над якой я працаваў?

Падобна, усіх рабоў у гэтым доме называлі як персанажаў камедыі масак. Каламбіна разгублена лыпнула шэрымі вачыма:

— Скрынка з жалязякамі? У сутарэннях, мусіць.

Пранціш ашалела ірвануў Бутрыма за рукаў:

— Здурэў? Куды сабраўся? Уцякаць з дому трэба!

Палачанін упарта прымружыў вочы і прарычэў:

— Не раней, чым выпраўлю ўсё, што тут нарабіў!

І рвануўся, як чорны віхор — немагчыма было ўявіць, што пару хвіль таму ён сядзеў такі няшчасны і бязвольны... Вырвіч і пан Рысь ледзь паспявалі следам, лаючыся на незразумелай тутэйшым чысцюткай беларускай мове зусім нягжэчна — ды што ж за чалавек такі Полацкі Фаўст, выцягні са смалы — у дзёгаць уваліцца. Ды яшчэ дзеўка ў ашыйніку прыляпілася, бы ліст да абцаса, грудзі ледзь з сукенкі не вывальваюцца, сарамацішча.

Лёднік, падобна, быў яшчэ больш раззлаваны, чым сарацыны, і так налячэў на венгерцаў, якія паспрабавалі былі перапыніць дзікуноў у чорных балахонах, што тыя паваліліся, як алавяныя салдацікі.

— Прэч!

Пранціш перастаў штосьці кеміць, план, такі ясны і просты, распаўзаўся, як паедзены моллю кілім. Лёднік нёсся наперадзе, як гетман.

— Дык што, пане-браце, усіх па дарозе сячы? — задыхліва, але весела папытаўся на бягу пан Рысь, якому баявое шаленства заўсёды было больш даспадобы, чым выверананая стратэгія.

— Сячы, пане-браце! — скрозь зубы прасіпеў раз'ятраны Лёднік, але паспешліва дадаў:

— Толькі не насмерць!

Гуманіст! Каб быў час, Вырвіч пасмяяўся б. А Бутрым, падскочыўшы, так даў нагой па дзвярах, на гэты раз драўляных, з разьбой ды пазалотай, што адчыніліся з першага разу, ліслівa рыпнушы. За імі заверашчалі дзве дзеўкі ў такіх жа бессаромных уборах і ў ашыйніках, як сарацынская спадарожніца. Вялікая верагоднасць, што дзевак звалі Смеральдзіна ды Ф'ямета, згодна камедыі дэль артэ.

— Хто не баіцца — можаце паспрабаваць уцячы з намі!

Дзеўкі зашапталіся: «Скарамуш! Скарамуш!», але з пакоя не выйшлі, і нават так званая Каламбіна засталася з сяброўкамі, на развітанне дзюбнуўшы нафарбаванымі вуснамі Чорнага Доктара ў шчаку. Дзякуй богу, не хапала яшчэ ўвесь баронскі сераль скрасці, то ж пані Саламея радавацца будзе.

А вось і знаёмыя прыступкі ў сутарэнне…. Пранціш мімаволі прымарудзіў крок. У галаве зашумела, як ад Лёднікавага дурману, ледзь расчуў выратавальную прапанову пастаяць на варце. Не, усё-ткі дактары — куды больш жорсткія стварэнні, чым нават вайскоўцы!

Унізе залязгалі шаблі і жалезныя засовы, але Чорны Доктар не забавіўся, узбег па прыступках, прыціскаючы да сябе левым локцем нейкую скрыню. На лязе ягонай шаблі барвавела кроў.

Пан Рысь, які падняўся следам з лабараторыі прагрэсіўных дактароў, змушаны быў прыхінуцца да сценкі і трохі счакаць, каб не званітавала. І яго прабрала відовішча!

А ў зале жарсці кіпелі... Ад уласцівасцей аканіту там перайшлі да складаных медыцынскіх праблемаў. Магчыма, сарацынам, чыя колькасць павялічылася, і ўдалося б прашчаміцца ўздоўж сценачкі да выхаду, але да барона падбег ахоўнік і горача зашаптаў на вуха. Барон стаўся аднаго колеру са сваім парыком і адрывіста штось прамовіў... Заўважылі, халера! Некалькі чалавек пачало праштурхоўвацца праз натоўп да сарацынаў, нейкая дама праліла з-за іх шампанскае і гучна абуралася.

Вось цяпер было не да жартаў, прыпячэ, як блыху на блясе. Трэба паспець скарыстацца з таго, што большасць усё ж не цяміла, якая халера адбываецца. Краем вока Вырвіч бачыў светлую сукенку Раіны...

Раптам нізкі голас былога віленскага прафесара, які звык заклікаць да дысцыпліны наравістых студыёзусаў, перакрыў усе галасы:

— А зараз ягоная мосць барон дэ Вард пакажа нам галоўны сюрпрыз! Усе павінны паглядзець на навуковыя дзівосы, што захоўваюцца ў сутарэнні гэтага дома! Гэта лепей, чым звярынец альбо анатамічны тэатр, панове!

Людзі прыціхлі, заазіраліся. Раіна зараз жа звонка падхапіла:

— Барон, вы неверагодны гаспадар! Неадкладна адпраўляемся ў вашы таемныя сховы! Мне дык проста не церпіцца пабачыць вынікі выдатных эксперыментаў.

Натуральна, у тых, хто бываў у сутарэнні, твары збялелі ды скрывіліся, а іншая публіка ажывілася — бо атракцыён з бойкай паміж дактарамі пачаў ужо надакучваць. Сыплюць сабе вучонымі тэрмінамі, хай бы хоць парыкі адзін з аднаго пасцягвалі... Адзін з чужаземцаў загарлаў, што ў яго ў Літве такі звярынец, якога ніводзін французскі барон не мае, і ён хоча параўнаць яго з баронскім. Другі заявіў, што ўсё роўна тых дзівосаў, якія меў у Нясвіжы князь Радзівіл, ніхто не пераплюне, і таксама горача зажадаў зверыць іх з баронавымі... Дарэмна дэ Вард спрабаваў перакрычаць гармідар, сто разоў шкадуючы, што ўпусціў сюды, паквапіўшыся на вялікія грошы, усіх, хто зажадаў. А людзі ж уплывовыя, не выштурхаеш!

— Калі ласка, панства! Сюды, да канца калідора, і ўніз, па лесвіцы! Уваход вольны!

Нізкі гучны голас рослага сарацына ў трохі прадзіраўленых чорных адзежах гучаў амаль здзекліва. У адной руцэ дзіця пусткі трымала шаблю, другой прыціскала да сябе скрынку...

— У яго шлем!

Бяскоўскі з-за калоны паказваў пальцам на Скарамуша.

Самы час быў пакінуць негасцінны дом.

Дэ Вард, раскінуўшы рукі, спрабаваў затрымаць натоўп, але падпітыя госці, падзуджаныя чужаземнымі шляхцюкамі, павалілі глядзець на абяцаныя дзівы...

Нечакана перад Лёднікам вырасла гіганцкая постаць, абшчаперыла, не зважаючы на ўдары: Гарганцюа! Галем, які не ведае болю і спачування... Вырвіч з жахам зразумеў, што Бутрым нізавошта не стане сячы шабляй скалечанага волата, і гэта самазабойства… Але Лёднік раптам гучна прагаварыўпрасіпеў, гледзячы ў каламутныя вочы гіганта:

— Ёсць два віды законаў: адзін — безумоўнай справядлівасці і ўсеагульнага значэння...

Рукі Гарганцюа расціснуліся і ён, застылы, як слуп, механічна прамовіў, мяркуючы па ўсім, працяг пачутага:

— Другія ж — недарэчныя, абавязаныя сваім прызнаннем адно слепаце людзей або сіле абставінаў.

Зразумела, уцекачы не сталі выслухоўваць мудрыя словы — як пасля патлумачыць Бутрым, яны належалі блюзнеру Дзідро, чыім гарачым прыхільнікам у мінулым сваім жыцці быў Гарганцюа...

Польскія арыстакраты, што з’явіліся на вечарынку, дружненька перашкаджалі пераследнікам. А калі павыхоплівалі шаблі, гарлаючы пра ўрон для гонару, як на якім Рэчыцкім сейміку, а з сутарэння данеслася верашчанне ўражаных відовішчам няпрошаных гасцей, дэ Вард нарэшце зразумеў, што вельмі дарэмна злавіў у сваё сіло аднаго ганарыстага доктара.

Карэта імчала да порта Латэ, наладаваная збеглымі ліцвінамі. Першае, што зрабіў Пранціш, калі ўсеўся побач з Лёднікам — кінуўся здымаць з яго ашыйнік. Не мог бачыць на прафесары сведчанне рабства. Калі з дапамогай той жа шпількі замок быў адчынены, а ашыйнік зняты, пад ім выявіўся крывавы пісяг — відаць, полацкі Фаўст быў не самым паслухмяным рабом.

Лёднік пацёр шыю і стамлёна абсунуўся на сядзенні. Вырвіч паглядзеў на ягоны драпежны профіль і мімаволі ціха папытаўся:

— Моцна білі?

Вусны нядаўняга вязня падціснуліся, ён памаўчаў, адказаў, не падымаючы вачэй:

— Зусім не білі, пан Вырвіч. Барон дэ Вард лічыць гэты спосаб утаймавання брутальным і не вартым разумнага чалавека. У іх ёсць... больш дасканалыя і тонкія спосабы ламаць асобу.

Цвёрда зірнуў на колішняга гаспадара:

— Выканайце маю просьбу, пан Вырвіч: не распытвайце мяне, што было ў доме гэтага тлустага гнюса, ніколі.

Перавёў позірк на акторку, якая ўсміхалася са светлым сумам:

— Я здагадаўся, што аглядаў вас, Раіна... Бяскоўскі... зманіў вам.

Раіна раптам падалася наперад, на імгненне ўзяла далоні доктара ў свае:

— Я ведаю, дарагі пан Лёднік... Усё ведаю. Не трэба...

І адкінулася назад, мройна гледзячы ў акно, за якім, аднак, нічога не адбывалася, толькі ляцелі ў прыцемку дрэвы, як вядзьмаркі з ускудлачанымі, зблытанымі валасамі. Бутрым уздыхнуў і зноў панурыўся — і Вырвіч мог прысягнуць, што чуе ягоныя думкі: перажывае, як там жонка і дзеці, і якога дурня зваляў, звязаўшыся з дэ Вардам, і як замаліць грахі, і куды яму цяпер падзецца... Ні грошай, ні працы... А пан Рысь, ваяўніча тапырачы чорныя вусы, бадзёра ляснуў вызваленага па плячы:

— Ну што, вашамосць, віншую з чынам падхаружага ў канфедэрацкім войску, якое сабраў ягамосць Караль Радзівіл!

У Лёдніка ажно худы твар яшчэ больш выцягнуўся ад ашаламлення. Пранціш з няёмкасцю перхануў і прашаптаў на вуха Чорнаму Доктару:

— Ну а як мне было яшчэ здабыць вояў у дапамогу ды карабель? Так што мы з табой цяпер — канфедэраты, Бутрым!

Той толькі вочы заплюшчыў, пасядзеў трохі, пераварваючы навіну, і здушаным голасам прамовіў:

— Ну, напэўна, дзякуй.

## Заўвагі аўтара:

1 Чорны Доктар (франц.).

2 Нельга лячыць неспазнаную хваробу (лац.).

3 Між панам і рабом сяброўства быць не можа (лац.).

4 Урэшце (лац).

5 Поўнае аднаўленне (лац.).

6 У стане зараджэння (лац.).

7 У найлепшай форме (лац.).

8 Паводле доледу і назірання (лац.).

9 Трактат па чэрапава-мазгавой траўме (лац.).

10 Анатомія мозга (лац.).

11 Прыйшоў! Паслухаў! Асудзіў! (лац.).

12 Эксперымент на малакаштоўным арганізме (лац.).

13 Добры дыягност — добры лекар (лац.).

14 Блёкат (расліна, лац.).

15 Беладонна (расліна, лац.)

16 Папраўдзе (лац.)

***Працяг будзе.***



**Вольга ГАПЕЕВА**

# РАМОНАК З АДНЫМ ПЯЛЁСТКАМ

* * *

сумятлівая магістраль бязважкіх празрыстых макулінак
заціхае пад раніцу
калі неахвотна расплюшчыўшы левае вока
я засведчу стомленасць парушынак
наша сустрэча таксама недзе была прапісана
канешне не ў кнізе лёсу
хутчэй ў нататніку мойры-лайдачы
што накрэмзала даты і числы
пераблытаўшы стагоддзі або імёны
як вынік — абсурднасць здарэнняў і гаваркая мэбля
ў пляме пакінутай сонцам
парэшткі пылу лунаюць у тоўстай палосцы святла
ейны адбітак трымціць на сцяне
а значыцца за акном ёсць рака
а значыцца нехта клапоціцца пра мяне

* * *

ля брамы дома
дзе ў 1807/08 жыў
фрыдрых вільгельм гегель
сяджу на лаве

---

***Гапеева Вольга Міхайлаўна*** *нарадзілася 5 студзеня 1982 года ў Мінску. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт (2004). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт МДЛУ.*

*Аўтар кніг «Рэканструкцыя неба» (2003), «Няголены ранак» (2007), «Метад муаравых крэсак» (2012), «Прысак і пожня» (2013), «(в)ядомыя гісторыі» (2013), «Сумны суп» (2014).*

*Стыпендыятка міжнародных літаратурных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў (Германія, Аўстрыя, Латвія), удзельніца міжнародных літаратурных фестываляў (Літва, Славенія, Германія, Чэхія, Латвія і інш.). Творы Вольгі Гапеевай перакладаліся на англійскую, нямецкую, польскую, македонскую, чэшскую, літоўскую і латышскую мовы.*

*Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2010), пераможца конкурсу дзіцячай літаратуры імя Янкі Маўра (2013), пераможца прэміі «Кніга года» (2015).*

злева валяюцца п’яныя
ровары
і зграі турыстаў пралятаюць
час ад часу
жніве́ньскі вецер ужо зусім не ахаладжае
ён прымушае мерзнуць і ўзгадваць
што бываюць дні ў паліто і капелюшах
шаліках і швэдарах
хаця зрэдчас мінак-італіец адважваецца
на шорты
а я не адважваюся на
размову

і маўкліва перажываю
нашу аддаленасць

* * *

прачнуўшыся раніцай спрабуеш мяне ўзгадаць
як прызабытае граматычнае правіла
памятаеш што нешта было і шкада
але што? і якое там кіраванне?
пасля мяне ў галаве
застаюцца няправільныя канчаткі
парушаны націск
і з’ехала вымаўленне
як і натхненне
ў мяне
паўтараць табе ў кожным лісце
што я — не з вялікай

## ТРЫ П’ЕСЫ

. /

у адсутнасці снегу ўсцешуся пялёсткам яблыні
што заквітнела так рана быццам адчуўшы мой смутак
я ж падманула яе стаіла злачынства
пабачыўшы снег у пялёстках

. /

апошняя стадыя гневу — утаймаванне
рамонак з адным пялёсткам
мае сціжму адказаў

. /

пасмы пажухлай травы
каўтуны смутку і крыўды
рухаецца паветра
і рукі мае бездапаможна
лашчаць тое, што ўжо не разблытаць



**Алесь КАМАРОЎСКІ**

# РАДАСЛОЎНЫ ЛІСТОК*

*Аповесць*

Суддзя, сівы, высокі, плячысты мужчына ў чорнай мантыі, строгі з выгляду, быццам вытачаны з граніту, узняўся з месца:

— Устаць, суд ідзе!

Зала паслухмяна ўстала і застыла, чакаючы, якое рашэнне будзе прынята па гэтай незвычайнай справе. Як заварожаныя, наструніліся псіхолагі, чые выступленні суд мог апраўдаць ці абвергнуць, застылі, гатовыя ў кожную хвіліну «выбухнуць» і рынуцца ў свае рэдакцыі, журналісты, чые допісы і фотаздымкі з гэтага судовага пасяджэння па іх меркаваннях падымуць тыражы заўтрашніх газет.

Ігар вобмельгам убачыў усё гэта, чакаючы прысуду. Што ж, такога яшчэ, здаецца, не было ў юрыспрудэнцыі, ва ўсякім выпадку, пра такое ён нідзе не чуў. Але ж некалі павінна быць першы раз. Жыццё непрадказальнае, заблытанае ў сваіх тонкасцях, дык і павярнуць яго трэба цяпер так, каб потым гэтая блытаніна разматалася ў лёсах тых людзей і ўсё стала ясна. Ігар амаль не чуў, як суддзя называў артыкулы Закона аб сям'і, як здалёку да яго даносіліся словы заключэння прысяжных… Толькі ў канцы, перад самым важным рашэннем, быццам вынырнуў з-пад глыбіні вады і ацверазеў…

— …асноўваючыся на артыкулах Закона… улічваючы згоду двух бакоў, СУД ПАСТАНАВІЎ…

* * *

Горада Ігар не любіў. Здаецца, сваімі шматпавярховымі гмахамі ён цісну на ўсю ягоную істоту: чадам машын вярэдзіў лёгкія, людской гаманой і мітуслівасцю не даваў засяродзіцца на нечым галоўным, перашкаджаў знайсці

---

***Камароўскі Аляксандр Адамавіч*** *нарадзіўся 1 сакавіка 1947 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў на Беларускім тэлебачанні, у часопісе «Маладосць», у выдавецтве «Юнацтва», у часопісе «Вясёлка», у філіяле музея Якуба Коласа ў Смольні.*

*Аўтар паэтычных кніг «Пачатак» (1975), «Зямля маіх надзей» (1988), «Валошкі памяці» (2002), «Азбука жыцця» (2010), аповесцей для дзяцей «Адкрытая тайна» (1979), «Заварожаны мяч» (1989), «Пенальці» (2000).*

---

* Часопісны варыянт.

той стрыжань, вакол якога мацавалася б уласнае жыццё. Радаслоўныя карані, якія глыбока сядзелі ў той зямлі, на якой нарадзіўся, нягледзячы ні на якія няўзгоды, не адмерлі, не струхлелі і былі — дакраніся да іх! — гатовыя праз тоўшчу гадоў выбіцца наверх, выкінуць моцны парастак. Ігар адчуваў гэта, як казаў яго сябра, усімі фібрамі душы. Родная зямля галасамі продкаў клікала яго да сябе, да старэнькай прадзедаўскай хаты на ёй, вабіла да таго кутка, дзе можна было, як кажуць, выпрастацца на ўвесь рост, вольна дыхнуць на поўныя грудзі, пачаць сваю справу. У такія мінуты яму ўспаміналася тое, што аднойчы нагадала цыганка…

Красавіцкае сонца шчодра песціла старадаўні парк. На сугрэвах пасля зімовага застужжа пачынала зелянець трава. Свіслач, сплавіўшы крыгі, яшчэ пагрозліва несла талыя воды, бурапеніла пад лёдарэзамі перад мостам. Спусціўшыся па брукаванай вулачцы ад філфака, Ігар выбраў лаўку, прысеў, падстаўляючы сонцу зблажэлы твар. Апошні тыдзень вучобы быў вірлівы і нечаканы ў жыццёвых паваротах, як і рака. Але калі раз’ятраная веснавая плынь не мяняла рэчышча ў забетанаваных берагах, то апошнія падзеі, якія адбыліся ў яго жыцці, рэзка перавярнулі раней заспакоеныя думкі. Першым ударам было тое, што дэкан «зарэзаў» тэму яго дыпломнай... Гаданні, соннікі, хірамантыя, гараскопы… На Ігараву думку, па іх можна было б даследаваць вусна-паэтычную народную творчасць. Паўгода вывучаў ён хірамантыю, сцвярджаў яе на розных лініях рук, пасля звяраў аповеды сяброў пра сябе з крэсачкамі і галінкамі на іх далонях… Дапякаў роспытамі вясковых бабуль, вывуджваючы значэнні сноў, нават склаў свой соннік… Цяжка было спасцігнуць карцёжную магію, але і гэта ён адолеў, пазнаючы спалучэнні розных масцей, тузоў, каралёў, дам і валетаў… Плаціў са сціплай стыпендыі нават прайдзісветкам-цыганкам, каб знайсці ў іх прадказаннях долю ісціны. Ва ўсім гэтым было нешта і сапраўднае, бо нездарма ж жыло яно ў народзе спрадвеку. Ігар таксама ў многае верыў. І не адчайваўся, выбраў новую тэму дыпломнай. А вось другі жыццёвы паварот крута хіснуў усе планы ў іншы бок. Ваенкамат перад размеркаваннем прыслаў у дэканат паперу, згодна з якой пяць філолагаў пасля заканчэння вучобы пойдуць служыць у армію камандзірамі ўзводаў на два гады. Гэтая нечаканасць мяняла ўсе планы з жаніцьбай, вымушала зрабіць адказны крок значна раней, чым меркавалася…

— Аб чым думкі твае, радзімы?

Ігар аж здрыгануўся, быццам заспеты на нечым крамольным.

— Давай пагадаю, развяду твае хмары… — цыганка прысела на край лаўкі, дастала з сумкі цыгарэту, шчоўкнула срабрыстай запальнічкай, лёгкі дымок ахінуў пасму сівізны, што выбілася ў яе з-пад хусціны, і растварыўся ў веснавым мроіве.

Ігар зірнуў на прыгожыя абрысы не вельмі маладога вобліку. Відаць, у маладосці яна была адной з першых красунь у табары ці ў вясёлай кагорце такіх жа хаўруснiц. Пэўна, не адзін цыган сніў яе гарачыя вочы, а то і хапаўся за ручку вострага нажа, калі бачыў, што нехта іншы заляцаецца да яе.

— Ну што, чавэла, гадаем?

— Гадай…

У руцэ цыганкі бліснула круглае люстэрка, яна зірнула Ігару ў вочы, потым паглядзела ўгару:

— Бачу, рой думак пячэ тваё чало. Год назад ты страціў сваіх родных. І хутка пойдзеш на казённую службу. На плячах — пагоны, збоку — пісталет… Адным словам, чакае цябе армія.

Ігар, пачуўшы гэта, з цікаўнасцю зірнуў на варажбітку.

— Калі я табе скажу, каб не жаніўся, ты мяне не паслухаеш. Зробіш пасвойму, ажэнішся. Яна цябе будзе мучыць дзесяць гадоў.

Ігар слухаў і не вельмі верыў, але не пярэчыў. Ды і ці праўду кажа гэтая мудрая, але, відаць, і хітрая цыганка? Словы яе не праверыш.

— Будуць у цябе нечаканыя грошы. Адтуль, здалёку… — яна лёгка махнула рукой, выдыхнула кольцамі цыгарэтны дым. — І будзе ў цябе сын. Не ад яе, ад другой. Сын твой і не твой… Куплены.

«Як гэта: мой і не мой? Ды яшчэ куплены… У каго, дзе?» — не разумеў ён.

— Кінеш горад і з’едзеш туды, дзе пачаўся. А другая будзе любіць цябе і чакаць. Яна — з нашага цыганскага роду. Ты некалі і прыйдзеш да яе.

Ашаломлены пачутым, Ігар дастаў грошы і працягнуў цыганцы.

— Калі не верыш таму, што сказала, грошы можаш схаваць.

— Не-не, што вы! Вазьміце…

— А яшчэ табе скажу, што мяне ты хутка ўбачыш і выратуеш ад смерці…

— Не можа быць… Як гэта?

— Гэтага і я не ведаю, але бачу…

Цыганка пайшла, а Ігар, уражаны тым, што яна яму нагадала, доўга сядзеў на лаўцы, пакуль у парк не прыйшлі гаманлівыя хлапчукі і, пакідаўшы ля футбольных варот ранцы, не пачалі ганяць мяч.

* * *

Ён і не хадзіў з ёю доўга. Некалькі разоў запрасіў у кіно, звадзіў у тэатр. Яна была старэйшая за яго на два гады, русявая, з адкрытым позіркам блакітных вачэй, здаецца, сярод дзяўчат нічым асаблівым не выдзялялася. Калі ён заходзіў у пакой да старшакурсніц, у якім яна жыла, і тыя запрашалі на чай, аднекваўся, паглядаў на яе крадком, не разумеючы, чым яна яго прывабліваля. Але яе каляжанкі тонка ўлоўлівалі яго позіркі, падахвочвалі да размоў. І ён расказваў пра маці і бацьку, пра коласаўскія мясціны, у якіх нарадзіўся, а цяпер наведваўся толькі на выхадныя ды канікулы…

Яна закончыла філфак на год раней, паехала па накіраванні ў далёкую сельскую школу. Калі ён перайшоў на пяты курс, засыпала яго пісьмамі, намякаючы ў іх, што дарэмна бавіла з ім час, магла б знайсці каго больш сур’ёзнага, выйсці замуж і не ехаць у гэтае задрыпанае балота, дзе — адны трактарысты і спітыя калхознікі. І ў канцы кожнага ліста намякала, што ўспамінае яго кожны дзень: відаць, усё-такі гэта — каханне…

Ігар пакутаваў ад усведамлення незразумелай віны: нашто, ну нашто трэба было хадзіць да гэтай дзяўчыны, даваць ёй нейкую надзею на сумеснае жыццё, тым больш на пятым курсе? Яна ж і сапраўды магла выскачыць за некага старэйшага, больш надзейнага, чым ён, «салага». Ведаў жа, часта ў госці да дзяўчат прыходзілі лётчыкі, каралі неба, як яны сябе называлі, прыгожыя, у форме, з багатымі пачастункамі — вось гэта жаніхі! Куды яму да іх? Але Ігар бачыў, ні ў каго з іх не было сур’ёзных намераў: пасля напружаных палётаў, часта бравіруючы сваёй смеласцю, маўляў, кожны раз рызыкуем жыццём, яны забягалі да дзяўчат, каб зняць стрэсы. Але Ігар, гледзячы, як паводзяць сябе дзяўчаты, разумеў, што ўсе яны, акрамя яе, спадзяваліся: лётчыкі паклічуць замуж...

А ў чым жа ён, Ігар, вінаваты перад ёй? У тым, што не зрабіў ёй прапанову выйсці за яго замуж перад тым, як яе размеркавалі на працу? Але паміж імі нічога сур’ёзнага не было. Ды і ён, здавалася, яшчэ да гэтага не выспеў. А самае галоўнае, што не было трывалага грунту, таго астраўка, на які можна

смела ступіць удваіх: дабрабыту і вялікага адчування, што ён яе кахае. І ўсё ж пачуццё чалавечага абавязку (а можа, і сапраўды вінаваты?) перамагло: Ігар зрабіў ёй прапанову.

Праз колькі дзён яна прыслала свой пашпарт: «Падай заяву з кім-небудзь, а распісацца я прыеду сама». Аднакурсніца, якая згадзілася дапамагчы ім, ужо ў ЗАГСе ці то ўсур’ёз, ці то жартам, гарэзліва бліснуўшы на яго вішнёвымі вачыма, сказала: «Можа, памяняем яе пашпарт на мой?» Ён як не пачуў. Рэгістратарша прагледзела дакументы, запісала даныя ў журнал, нават не паглядзеўшы на фатаграфію ў яе пашпарце, прызначыла дату рэгістрацыі шлюбу: праз два месяцы. За гэты час ці мала што магло змяніцца ў іх адносінах. Для маладых — гэта ой які вялікі адрэзак часу!

Але нічога не адбылося. Ігар ажаніўся.

* * *

Восень, яшчэ па-летняму цёплая і бяздажджлівая, радавала вочы блакітам неба, вабнай зелянінай недалёкага гаю, ледзь кранутага лёгкай пазалотай. Толькі на сэрцы ў Ігара было неспакойна, гнялі цяжкія, як камяні, думкі. Як жа так: распісаліся, а яна зноў паехала ў гэтую сваю далёкую вясковую школу? Вядзе выпускны клас?.. Дык хібы не знайшлося б ёй замены там, у раёне? Прычына ж, каб застацца з ім у сталіцы была важкай: выйшла замуж. Але Ніна настаяла на сваім: «Паеду!» Ігар трохі пасупраціўляўся, а потым махнуў рукой: «Едзь!»

* * *

Мотастралковы ўзвод выйшаў на стрэльбішча. Трыццаць маладых салдат спыніліся перад агнявым рубяжом. Сяржант па рацыі выклікаў «вышку», што ўздымалася над вялізным галам высечкі, і на якой знаходзіліся назіральнікі, атрымаў дазвол на стральбу.

Ігар, малады камандзір узвода, у новай палявой форме, перацягнуты партупеяй, хваляваўся не менш за тых салдат-навабранцаў, якія павінны былі страляць першы раз. Там, на ваеннай кафедры ўніверсітэта, дзе ён спасцігаў азы вайсковай справы, усё было зразумела, а тут... Там, калі выязджалі на палігон, за ўсё адказваў выкладчык — сухарлявы, высокі маёр. А тут за ўсё адказваеш ты сам, камандзір узвода. Трэба пільна сачыць за сітуацыяй: зарадка аўтамата — ствол — у бок мішэні, у сектары стральбы — заўсёды з тымі, хто страляе…

Першымі выйшлі на агнявы рубеж «бывалыя» салдаты, якія адслужылі па году. Яны «клалі» мішэні з першых жа выстралаў. Ігар глядзеў, як вопытныя салдаты акуратна зараджаюць аўтаматы, упэўнена лягаюць на плашч-накідкі і спакойна паражаюць мішэні адзіночнымі выстраламі.

Над стрэльбішчам праляцеў рэактыўны самалёт, пакінуўшы за сабой аблачыністы след, які белай прораззю распалавініў неба, і яго гул яшчэ доўга стаяў у вушах. Ігар прыпыніў стральбу, вырашыў даць салдатам дваццаць хвілін на адпачынак. Сам жа глядзеў на далёкі лес, на гэтую велізарную паляну, дзе некалі таксама калыхаліся ёлкі і сосны, хаваючы пад сваімі шатамі грыбныя нерушы. Цяпер жа на гэтай высечцы пасля летніх залеў прыгожа цвіў верас, пчолы цалавалі яго сінія кветачкі і некуды далёка неслі свой мядовы ўзятак. Салдаты рупна сачылі за сваім стралковым лядам: да мішэняў падвялі аўта-

матыку, акружылі стрэльбішча наглядальнікамі, каб ні адна жывая душа не магла трапіць пад гэтыя трэніровачныя стрэльбы.

На зыходную пазіцыю леглі два маладыя салдаты, доўга цэліліся ў чалавечыя сілуэты мішэняў і — абодва прамазалі. Раптам старшы сяржант закрычаў:

— Таварыш лейтэнант! За мішэнню нехта ёсць!

— Як? Адкуль? Не можа быць…

— Не ведаю… Але мне здалося…

Ігар узняў бінокль, доўга ўглядаўся ў прыбліжаныя мішэні, у верас пад імі, але нічога падазронага не ўбачыў. Па рацыі запрасілі «вышку»: ім там, зверху, відней. Хвілін пяць наглядальнікі маўчалі, пасля далі «дабро»: можна страляць! І ўсё ж нейкая трывога, закінутая ў душу, не дазволіла Ігару даць загад адкрыць агонь. Ён падняў збянтэжаных хлопцаў, адправіў іх да астатніх салдат. Сам жа са старшым сяржантам пабрыў па верасе да мішэняў. Ішоў і глядзеў на выжарыны, на высахлы ягаднік, ледзь не наступіў на баравік, збоку заўважыў падасінавіка… Але цяпер было не да грыбоў: хто там, за кавалкам размаляванай фанеры?

Ужо на падыходзе, за мішэнню, убачыў край каляровай хусціны і міжволі жахнуўся: «А каб забілі?» Былі б вінаватыя наглядальнікі і тыя, што стаяць у ачапленні вакол стрэльбішча. Нехта з камандзіраў пацярпеў бы: за смерць трэба адказваць. Вінаватага знайшлі б…

Падышоў і сцепануўся: тая самая цыганка, што гадала яму вясной!

— Як вы сюды прабраліся?

Поўны кошык грыбоў стаяў у лагчынцы, злёгку прыкрыты мятлушкамі травы.

— Напусціла чары і прайшла. Вунь з таго лесу.

Ігар паправіў кабуру пісталета, узяў кошык:

— Уставайце! Выходзім адсюль. Вас жа маглі забіць…

Цыганка порстка ўзнялася, атрэсла са спадніцы шыпулле:

— Не, мяне не маглі. Я заклятая. Памру не ад кулі… Але ж, камандзір, дзякуй табе. Ці пазнаў хоць мяне?

— Пазнаць то пазнаў, але не чакаў сустрэць.

— Я ж нагадала тады…

— Нагадаць усё можна, а ў жыцці бывае інакш.

Цыганка як страпянулася, бліснула вачыма:

— Не, галубок, лёс не зыначыш. Што наканавана кожнаму, тое і будзе. Помні, што я табе сказала тады.

Ігар вынес кошык на дарогу, аддаў цыганцы.

— А не павядзеш да начальства?

— Не! — Ігар паказаў рукой на неба. — Хай яно, гэтае начальства, судзіць вас.

— Тады, бывай!

Цыганка лёгка ўскінула кошык на руку і не па гадах молада пайшла ў бок ваеннага гарадка. Там — шаша і маршрутныя аўтобусы.

Ігар доўга глядзеў услед.

Маладыя прызыўнікі «палажылі» мішэні з першых жа стрэлаў.

* * *

Ігар у ваенным гарадку жыў без жонкі і таму часцей чым іншыя жанатыя афіцэры па ўласным жаданні заставаўся дзяжурным па батальёне, прасіўся без чаргі ісці начальнікам каравула, а на вучэбных марш-кідках, прыхапіўшы

аўтамат ці кулямёт маладога салдата, бег папярэдзе ўзвода, ці бясконца ганяў па палігоне на баявой машыне — адно б забыцца пра Ніну... І забываўся пра яе, жонку, жанчыну, але як ні дзіўна, успамінаў іншую...

Пасля першага курса студэнцкі будаўнічы атрад ехаў у Казахстан. Камандзір атрада ўключыў яго ў спісак толькі таму, што там, на цаліне, прыйдзецца гуляць на першынство вобласці па футболе і валейболе: «А працаваць навучышся: не багі гаршкі лепяць».

Уральская вобласць, Чапаеўскі раён — месца дыслакацыі атрада. У старэнькім ауле яны павінны пабудаваць з саману, гліна-саломістай цэглы, школу, магазін, лазню, ферму і некалькі жылых домікаў. Ігара, як і ўсіх, хто нічога не разумеў у будаўніцтве, кінулі на саман. Гусенічны трактар расплужваў паласу гліны, вадавоз залівай ворыва вадой, а хлопцы сыпалі зверху салому. Зноў трактар гусеніцамі калатушыў гэтае хлюпастае месіва і, счакаўшы гадзіну, глухнуў на ўскрайку паласы: замес быў падрыхтаваны. Хлопцы ў плаўках, у шыракаполых капелюшах па двое пляскалі гліну ў драўляныя формы, выносілі на цалік, пераварочвалі, каб цэгла добра сохла. І так дзень за днём, з пяці гадзін раніцы да васьмі вечара. Праўда, абед доўжыўся тры гадзіны, бо вылезці ў самую спёку, у самае пекла было немагчыма...

Помніўся, як сёння, той нядзельны дзень. З працы пайшлі раней, стомленыя пабрылі да ўральскай старыцы, што пялёхала выратавальную прахалоду ля самага аула. Пасля абеду на працу ісці не трэба было: хоць палавінны, але выхадны. Ды і вечарам атрад чакала незвычайнае прадстаўленне: артысты прыехалі аж з Уральска. Праўда, канцэрт платны. Але справа не ў грашах. Ігар прыспешыў крок, каб хутчэй дайсці да старыцы. Вось і самаробны дашчаты насціл узвышаецца з-за касагора. Але што там за крыкі, мітусня? Пэўна, нехта топіцца. Скінуў боты і, не баючыся вярблюджых калючак, кінуўся да берага. Артысты (відаць, загаралі перад канцэртам) спалохана бегалі ля вады, а метраў за дзесяць ад берага нехта тапіўся. Ад тапельца спешна плыў Лёня, зухаваты кавалер — трэцякурснік. Ігар з разгону ўзляцеў на трамплін, нырнуў у ваду і выплыў ля самага тапельца. Гэта была дзяўчына-казашка. Глытнуўшы вады, яна амаль у непрытомнасці ўхапілася за яго руку, але Ігар здолеў адарваць яе паўмёртвую хватку, перавярнуў цела на спіну, пад плячыма перахапіў рукі і паплыў да берага. На пяску яе падхапілі. Ігар палажыў дзяўчыну на калена, пачаў выбіваць з яе ваду. Яшчэ б хвіліны дзве-тры і было б позна. Яе званітавала… Вочы, вялікія і няўцямныя, адкрыліся… «Усё, будзе жыць»…

Ігар стомлена пабрыў у лагер. Ля стала на лаўцы сядзеў Лёня, як ні ў чым ні бывала сёрбаў боршч. «Што ж ты бярэшся вучыць плаваць на такой глыбіні?» — «Я не думаў, што там так глыбока…» Не, Лёня ведаў, што там не дастаць дна, але магчымасці пафарсіць перад прыгажуняй-артысткай не прамінуў…

Ігар не збіраўся на канцэрт. Ён нават не выпісаў у касе аванс: нашто яны, грошы, калі і так кормяць?

Вечарам сядзеў з пяцікурснікам Сцяпанам ля маленькага кастра, падкідаў у яго трэскі ад апалубкі, успамінаў бацькоў, родную хату, Нёман… Ніхто не гаманіў, маўчаў магнітафон: усе пайшлі на канцэрт. І раптам з-за плятня выскачыў загарэлы хлопчык-казах: «Дзядзя Ігар, вас ля клуба артыстка чакае…» Як Сцяпан не аднекваўся, Ігар угаварыў і яго пайсці разам. Ля ганка стаяла прыгожая дзяўчына з распушчанымі валасамі.

— Хто з вас Ігар? — збянтэжана спытала яна, пераводзячы позірк з аднаго на другога.

— Я Ігар. А гэта мой сябра.

— Пайшлі хутчэй, — яна правяла іх у запоўненую залу, пасадзіла ў першым радзе перад сцэнай, а сама нырнула за цёмную заслону.

Той канцэрт Ігар амаль не запомніў. Нехта іграў на народных інструментах, нехта спяваў, хтосьці чытаў, расказваў вядучы… Для яго былі толькі два танцы, два ЯЕ танцы!..

* * *

Ніна прыехала ў канцы чэрвеня, змарнелая, стомленая. Месяц адлежвалася ў маленькім пакойчыку, што выдзеліла ім часць, некалькі разоў з’ездзіла ў горад і дадому да бацькоў. Але гэты перадых настрой яе не асабліва ўзняў.

Ігар не прыставаў да яе з роспытамі, не лез, як кажуць, у душу. Сам гатаваў, сам мыў і прасаваў. Яму, вясковаму хлопцу, не прывыкаць да гэтага. Ды і часу асабліва не было: батальён рыхтаваўся да вучэнняў. Стральба на палігоне, марш-кідкі, дымавая паласа, заняткі па тактыцы, паўторы ваенных статутаў… — усё гэта патрабавала часу і вытрымкі. Зранку Ігар спяшаўся ў казарму на «пад’ём», затым са сваім узводам бег на зарадку, а вечарам вяртаўся пасля адбою. Ніна лежма глядзела тэлевізар. У сметніцы валяліся абгорткі ад цукерак і марожанага, побач — упакоўкі ад тартоў. А яму, росламу, здароваму, трэба быў кавалак мяса з гарнірам, цёплы чай. І ён станавіўся ля пліты, кухарыў для яе і для сябе: «Можа, і праўда, для мужчыны шлюб азначае старт, а для жанчыны — прызямленне…» Але пра якое прызямленне можна было думаць, калі іх жыццё толькі пачынаецца? Яны ж — маладыя, поўныя сіл і энергіі! Ім па плячы — усё! Задумай толькі і рабі. А там і дзеці пойдуць, іх галінкі, іх працяг. Радуйся і жыві, працуй і будуй сваё жыццё!

Ніна доўга праседжвала вечарамі ля акна, быццам успамінаючы нешта, таямніча ўсміхалася, а пасля зноў маркотна глядзела тэлевізар…

Праз пяць гадоў іх не надта бурлівае жыццё, як кажуць, перавярнулася... Ніна ці падняла што-небудзь цяжкае, ці яшчэ якая прычына, але іхнія спадзяванні на дачку ці сына не спраўдзіліся: яна страціла плод. А праз дзесяць гадоў сумеснага жыцця Ігар развёўся і з’ехаў у вёску, у бацькоўскую хату.

* * *

…Тады на цаліне, на тым канцэрце для яго былі толькі два танцы, два ЯЕ танцы!.. Ён на ўсё жыццё запомніў яркае жоўтае святло, якое раптам пачало блякнуць па задніку сцэны, па якім адразу ж паплылі лёгкія цені. Здалося, расплаўленая пустыня мройліва закалыхалася перад вачыма. Тым часам пражэктар сафіта выхапіў нерухомае чорна-сіняе цела на сярэдзіне сцэны, а ціхі гук жалейкі абудзіў спачатку правую руку і яна, вывіваючыся, як змяя, пачала павольі падымацца ўверх. Бакавы пражэктар выхапіў узнятую руку, і цень ад яе яшчэ больш падкрэсліваў падабенства да змяі. Цела танцоркі, як працяг рукі, выгінаючыся, пачало прыўставаць над сцэнай, а калі змоўкла жалейка і хуткая тэмпавая музыка, рванула ў віхурным танцы, пластычным і выгінастым. Рукі то скрыжоўваліся ўверсе, то нечакана падалі ўніз і цела качілася — паўзло па сцэне — гэтай мройнай пустыні, адхіналася назад, дастаючы рукамі за спінай кончыкі пятак. Раптам левая рука агалілася і ўхапіла правую, быццам сцяла за горла ўяўную змяю. Цела трапятала і білася ў прыдуманым паядынку. Але яна, гэтая барацьба, была настолькі праўдападобнай, што гледачы затаілі дыханне, сочачы за артысткай. Зноў загучала жалейка, і правая рука, пераціснутая левай, паволі пачала спускацца ўніз. Нарэшце яна плазам

легла на сцэну і цела, канвульсійна страпянуўшыся апошні раз, распласталася ў яркім крузе пражэктара.

Гром апладысментаў быў узнагародай танцавальнаму майстэрству.

«Фаціма Ташманава», — паўтараў вядучы канцэрта, раз за разам выклікаючы артыстку на сцэну. І яна, лёгкая, грацыёзная, выбягала, нізка кланялася гледачам. «Фаціма… Фаціма…» — Ігар прамаўляў у думках яе імя.

Праз некалькі нумароў яна танцавала зноў. Адзетая ва ўсё чырвонае, цяпер яна сядзела на каленях. І калі зайграла музыка, танец яе рук ускалыхнуў празрысты вэлюм, затрапятаў ля кісцяў і локцяў рук. Было ўяўленне, што пачынае разгарацца касцёр: полымя, пакуль не вельмі трапяткое, яшчэ ўнутранае, шукае выйсця. З рукамі ў такт музыцы пачала рухацца галава, выпісваючы ярка-барвовай паранджой кругі. Верхняя палова тулава пачала адхіляцца ўзад-уперад, і паступова цела прыўзнялося, вырасла на поўны рост. Тэмп музыкі ўзрос, і цяпер ужо танцорка, быццам вырваўшыся на волю, пачала поўнасцю ўкладаць свой імпэт і ўнутранае полымя ў танец агню. За сцэнай нябачная рука ўключыла электрычны ветравей, і барвовыя пасмы яе танюсенькага ўбору затрапяталі вакол цела, аблягаючы і падкрэсліваючы гнуткі стан. І яна, разгарачаная, здаецца, сама ператварылася ў полымя, то рвалася насустрач ветру, то адступала, вывівалася ў нясцерпным агні, зноў рвалася насустрач ветравею.

Ігар, як зачараваны, сачыў за незвычайным змаганнем ветру і агню, чалавечага цела і стыхіі. Здавалася, моцны свяжак паветра вось-вось сарве з яе гарачыя ашмоткі ўбору і яна, аголеная, але неперадможная, паўстане перад залай. Але раптам ветравей сціх, а ў руцэ яе затрапятала ярка-пурпуровая стужка, быццам прыручаны агонь прызнаў перамогу чалавечай сілы. Лёгкая прыемная музыка пайшла на спад, на аддаленне, і ўжо не адна рука, а дзве высока трымалі ўяўны агонь, а пасля на далонях працягнулі яго гледачам.

Заварожаная зала доўга не адпускала артыстку са сцэны.

«Фаціма… Фаціма…» — шаптаў Ігар.

* * *

...Ігар кінуўся ў вір вясковага жыцця, як апантаны. За два тыдні перакрыў дзедаву хату, абтынкаваў печ і грубку. Яшчэ паўмесяца аддаў старэнькім сценам: садраў слаёў пяць старых шпалераў, зашпакляваў пазы між бярвеннямі і, самае галоўнае, абабіў вагонкай сцены, пафарбаваў яе жоўтым пінатэксам. Цяпер хата аджыла, засвяцілася нейкім унутраным святлом, сагрэлася яшчэ нарыхтаванымі бацькам бярозавымі дрывамі. Ігар радаваўся, што некалі не даў бацькам прадаць гэты ўтульны куточак, што зараз адрадзіў маленькі карабель свайго дзяцінства. Ці ж такое бывае ў горадзе? У стаяку ад смольнага корчыка займаюцца полымем дровы, потым учарнелы гаршчочак з кавалкам мяса і бульбай, аздобленымі морквай і цыбуляй, нырае на гарачы под і хутка закіпае. Верашчака, бабка, тушанка, каўбаса і рабрынкі… — ці ж так яно ўпрэе і ўварыцца, утушыцца на гарадской газавай пліце, нават у духоўцы? Ніколі! А тут магія прыроднага агню, калянага жару печкі надае смак любой страве.

Некалькі дзён Ігар аддаў саду: прарэдзіў старыя яблыні, павыразаў прыствольныя пасынкі, нагарнуў снегу, добра прытаптаў яго. Вясна можа рвануць нечаканым цяплом, абудзіць глыбінныя сокі, і дрэвы ажывуць, рынуцца ў кіпень цвету і зяляніны. І ўсё ж — чым пазней, тым лепш. Бо прымаразкі таксама могуць нахлынуць нечакана, прыхапіць першацвет. У маі яблыні сваё дагоняць.

З вуліцы цішыню абудзіла паштальёнка:

— Хто рана ўстае, таму Бог дае… Дзень добры, Іванавіч!

— Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць… Прывітанне, Валянціна! І ты — ранняя птушка.

— Думаю, занясу пісьмо, а то яшчэ з'едзеш куды. Вельмі ж нейкае важнае, з трыма пячаткамі…

Ігар паклаў на стол нажоўку, узяў канверт:

— З Польскага пасольства. І нашто я ім?

— Твайго дзеда брат, як казалі старыя людзі, некалі з'ехаў на заработкі ў замежжа. Мо родных хто-небудзь з іх цяпер шукае?

Ігар дастаў ножык з кішэні, асцярожна адкрыў канверт.

Валянціна не сыходзіла:

— Іванавіч, што там?

— Клад, — усміхнуўся Ігар, — але яго трэба адкапаць і аформіць.

Паштальёнка махнула рукой, пайшла.

А Ігар чытаў: «Аформіць грошы ў спадчыну…»

Ну што ж, трэба ехаць!

* * *

«Фаціма… Фаціма… — шаптаў Ігар. — Хто ты, адкуль? Напалову змяя, напалову агонь…»

Канцэрт закончыўся, але гледачы не спяшаліся разыходзіцца: абмяркоўвалі лепшыя нумары, гучна гаварылі аб нечым па-казахску.

Ігар са Сцяпанам праціснуліся ў вузкаватыя дзверы клуба, выйшлі на вуліцу. Бясконцы нябесны полаг, зорны і мігатлівы, прыгожа ахінаў стэп. І ў гэтай спрадвечнасці і вечнасці міжволі думалася: «Некалі мы знікнем, а яна, гэтая нябесная мітульга, мільёнамі зорак будзе аглядаць грэшную Зямлю, на якую прыйдуць новыя пакаленні, такія ж, як мы, а, можа, і лепшыя, разумнейшыя…»

— Ігар, пара ісці: заўтра рана ўставаць, — Сцяпан дакрануўся да пляча.

Ігар схамянуўся, змаўчаў. Раптам нечая рука далікатна ўзяла яго за локаць, павяла ўлева:

— Пастой, не ўцякай, пачакай мяне тут. Нашы пойдуць на калгасны банкет… На ўсю ноч…

— Фаціма, вы?

— Я — фея з гэтага неба. Скокнула адтуль, каб перахапіць цябе. Не ўцякай! Праз хвілін дваццаць сустрэнемся тут. Толькі адзень што-небудзь цёплае і мне прыхапі, — вялікія чорныя вочы працялі аж да сэрца і зніклі, растварыліся ў цемры.

Ігар узяў з атраднай кладоўкі дзве новыя ватоўкі, адну надзеў сам, а другую заціснуў пад пахай.

— Ну, прапаў ты, браток! — Сцяпан зрабіў глыток з вялікай конаўкі. — Я камандзіра папярэджу, не хвалюйся. Вады захапі, а то згарыш у такіх вачах.

Фаціма з'явілася гэтак жа нечакана, як і знікла. У руцэ яна трымала пакет:

— За аулам — горы. Ідзём туды…

Ігар ведаў, якія гэта горы. Летам выспявала пшаніца. Бульдозеры разраўноўвалі велізарную плошчу, і машыны звозілі сюды зерне на часовае захоўванне. Небывалы ўраджай сыпаўся на зямлю і, здаецца, выраслі горы.

Яны ўзабраліся па сыпучай роўнядзі ўверх, разаслалі ватоўку між двух пшанічных узгоркаў. Фаціма прысела, паставіла ў лагчынцы пакет, выняла з яго бутэльку, круг каўбасы, памідоры, хлеб, сказала:

— Адкрывай! Вып’ем за маё другое нараджэнне.

— Ну, не трэба жартаваць. Ні я б выратаваў, нехта другі б памог…

Ігар скруціў закрыўку на бутэльцы, асцярожна пачаў ліць у падстаўлены пластмасавы стаканчык. Фаціма тут жа краем стаканчыка прыўзняла рыльца бутэлькі:

— Вып’ем за жыццё. Толькі нічога не гавары і не пытай. Ёсць мы, ёсць Зямля і гэтае неба. Ёсць міг у гэтай вечнасці. І словы будуць лішнія.

Зрабіў некалькі глыткоў і Ігар. Каньяк, як здагадаўся ён, пякуча прайшоў па нёбе, цяплом разліўся па целе. Не піў ён даўно, аж з выпускнога. Лекцыі, бібліятэка, спорт… — усё гэта не вяло ў хлапечыя застоллі.

Фаціма дакранулася да яго рукі. Яе доўгія тонкія пальцы, як па клавішах, прайшліся па далані, скочылі ўверх, пагладзілі шчаку, скронь, узвіхрылі валасы і ўжо дзве рукі абхапілі шыю, абвілі моцна-моцна, прыгарнулі да сябе… Неба, здаецца, кульнулася і паплыло, паплыло… Зорная мільтуга закружылася, як некалі на каруселі, і ён, каб не страціць свядомасць, заплюшчыў вочы.

* * *

Сідар, Ігараў сусед праз колькі хат, паставіў шуфель ля вушака дзвярэй, адключыў транспарцёр, які толькі што валок гной у трактарны прычэп, спяцоўкай ацёр пот на лбе і выйшаў з фермы. Летняе сонца шчодра ліло цяпло, блакіт неба не затуманьваўся ніводнай хмурынкай. І на душы Сідара было цёпла і сонечна. Ды і як не радавацца, калі дома высіліся два стагі высушанага сена для каня і каровы, у прыхлеўным загончыку сыта рохкалі восем свіней, а паветка аж трашчала ад насечаных дроў. А тое, што ўся вёска празвала яго Сідарам, — не бяда. У сапраўднасці ён — Сяргей. Але Сяргеяў многа, а Сідар — адзін. Гэта па бацьку яго так — Сідаравіч. Ён і не крыўдзіўся: «Хоць гаршком называй, толькі ў печ не стаў». Гадоў сем назад ён са сваёй Галяй, невысокай, увішнай кабетай, пакінуў сваю чатырохпакаёўку ў сталіцы сыну і дачцэ. Падзяліў папалам: па два пакоі. У кожнага з іх было па двое дзяцей. А на кухні як-небудзь разбяруцца. З’ехаўшы ў калгас, атрымаў хату, памалу выкупіў яе, завёў гаспадарку. Сам працаваў падвозчыкам на ферме, а жонка пайшла даяркай. Тут, у вёсцы, Сідар адчуў сілу і вабнасць прыроды, якая з маленства будзіла яго гарачыя ўспаміны, што не пагаслі ў заводскіх цэхах мітуслівага горада. Ён, каржакаваты, гаспадарлівы, ад прыроды надзелены дабратой і гумарам, быццам душой развінуўся тут, па-новаму зірнуў на нечаканы паварот жыцця. Нёман, што апяразваў вёску, сяды-тады частаваў рыбай. Недалёкі лес даваў у падтрымку ягады і грыбы. А ўсё астатняе браў з падвор’я і агарода. Ды і калгас не скупіўся: кацёлкі саломы высіліся за хлявом на папары. У полі выдзяляўся вялікі загон бульбы і ладная дзялка кармавых буракоў. А перад кастрычніцкім святам з калгасных засекаў прывозілі больш за тону збожжа. Як кажуць, жыві ды радуйся, але паспявай варушыцца.

Сідар, задаволены надвор’ем і жыццём, яшчэ раз зірнуў на неба і ўжо хацеў пайсці да сваіх «любуляў» — кароў, як убачыў хлопчыка з вялікім сачком у руцэ. Унук дачніцы Марыны мінуў вадакачку і папраставаў да Сідара.

— Дзень добры, дзядзька Сяргей!

— Здароў, здароў, Андрэй Пятроў! Відаць, ідзеш рыбу лавіць?

— Не, дзядзька Сяргей. Іду лавіць вераб’я.

— Э, браточак, не зловіш ты вераб’я. Ён — птушка хітрая.

— Злаўлю! Андрэй за вераб’я хітрэй!

— Ну-ну, паспрабуй, — Сідар узяў шуфель, глянуў на вясёлага дачніка і нырнуў у прыцемак фермы.

Праз паўгадзіны злосны і сумны Андрэй плёўся з сачком дадому.

— І дзе ж твой верабей? — перапыніў яго Сідар.

— Не злавіў… — ледзь не плачучы, прашаптаў падлетак. — Я хітры, а ён яшчэ хітрэйшы.

— Плюнь, не перажывай, я табе злаўлю вераб'я. Ідзі і чакай мяне пасля абеду.

Калі каровы вярнуліся з пашы, разбрыліся па сваіх стойлах, Сідар цішком забег у мукамольню да Паўтарака, лепшага трактарыста і дружбака.

— Хочаш выпіць?

— Яно не пашкодзіла б. Бочку з вадой на пашу я завёз. Гной заўтра затарабаню. А што, ёсць што?

— Пайшлі вераб'я прадаваць. Я на ферме толькі што злавіў.

— Каму? — здзіўлена ўскінуў бровы Паўтарак.

— Ідзі за мной, убачыш, — Сідар выняў з-за пазухі маладога вераб'я, які трывожна зачырыкаў і затрапятаў у дужых далонях падвозчыка.

Хата Марыны была недалёка ад фермы. Дачніца корпалася сярод кветак у агародчыку.

— Марына, твой унук нам заказаў вераб'я. Мы злавілі і прынеслі.

Андрэй, які боўтаў палкай у бочцы з вадой, страпянуўся, падбег да Сідара:

— Не можа быць! Пакажыце!

Сідар крыху расціснуў далоні і вяртлявы чырычык высунуў галаву.

— Клёва!

Марына спаласнула рукі ў бочцы з вадой:

— Раз так, заходзьце ў хату.

Сідар закамандаваў Андрэю, каб той прынёс вядро:

— Накрыеш вядро якой-небудзь анучай. І кожны дзень кідай яму па дваццаць мух.

Андрэй панёс вядро з вераб'ём у хату. А Марына як бачыш сабрала на стол, дастала з халадзільніка пляшку:

— Ну, за вераб'я!

Сідар з Паўтаракам за тры глыты апусташылі паўлітроўку, але не спяшаліся ўставаць:

— Мы табе, Марына, і гною падкінем, і калі трэба заараць, зробім…

Маладая бабуля выняла з-пад печы яшчэ адну бутэльку.

Сідар з Паўтаракам і яе кульнулі, тады толькі ўсталі:

— Ну, дзякуй, Марына! Хай унук цешыцца.

— Дзякуй вам.

Праз тры дні бабуля і ўнук выпусцілі вераб'я на волю.

* * *

Ігар час дарэмна не бавіў: з'ездзіў у сталіцу, зрабіў патрэбныя дакументы на афармленне спадчыны, атрымаў візу ад Польскага пасольства, адкрыў у банку рахунак для валюты. Наведаўшы двух знаёмых аднакурснікаў, сеў у цягнік «Мінск—Варшава».

Лежачы на верхняй паліцы купэ, падумаў пра нечаканы паварот у жыцці, успамінаў няўдалую жаніцьбу. Колы цягніка выбівалі на стыках рэйкаў сваю адвечную песню і чулася яму ў гэтым рытме незразумелае сугучча: «чыпале-

та-чыпалона, чыпалета-чыпалона…» Праз паўгадзіны мільганулі, пэўна, яго родныя Стоўбцы. Там, за імі, кіламетраў за дзесяць, — яго вёска, той дзедаўскі куточак, што прыгарнуў яго і адагрэў. Ігар у трыко ляжаў паўзверх коўдры. Сон не ішоў. А думаць пра невядомасць, пра рэзкі паварот лёсу не хацелася. Як паўтараў некалі бацька: «Пераначуеш — больш пачуеш». Можа, і пачуеш, але трэба ўлавіць свой унутраны голас, наструнiць інтуіцыю, бо сама падказка проста так не прыйдзе. А калі і прыйдзе, то яе трэба адчуць, прарасціць у думках і сэрцы, выпеставаць, даць ёй моц і сілу. Мільгалі за акном агні вячэрніх паўстанкаў і пераездаў, заставаліся ззаду ланжэроны мастоў, несліся насустрач вокны пасажырскіх электрычак і цяжкія грымлівыя вагоны — цыстэрны грузавых цягнікоў… «І жыццё — як цягнік, — паўсонна думаў Ігар. — Са сваімі паўстанкамі, пераездамі, прыпынкамі… І хуткасць жыцця — імгненная. Калі няма задумы, мэты — праляціш тое галоўнае, для чаго нарадзіўся і жыў…»

У Варшаве было гэтак жа цёпла, як і ў Беларусі. Ігар ішоў і глядзеў, як спяшаліся па маршруце размаляваныя рэкламай трамваі. Дворнікі ў ружовых куртках абыходзілі свае ўчасткі, падмятаючы ў саўкі рэдкія паперчыны. Весела шчабяталі вераб’і, пырхаючы ля лужын. Відаць, рана-рана адкрыліся невысокія шкляныя шалманчыкі, бо ад іх цягнула смачным шашлычным дымком.

Уладкаваўшыся ў гатэль, Ігар перакусіў у маленькай кавярні, распытаў у сустрэчных, дзе знаходзіцца Варшаўскі цэнтральны банк. Палякі добра разумелі яго па-беларуску, як і ён іх, калі тыя гаварылі не спяшаючыся. Відаць, доўгі гістарычны шлях народаў-суседзяў прыўнёс у мову дзвюх нацый столькі сумесных слоў, што ў гутарцы лёгка лавіўся іх сэнс, ды і многія з іх гучалі амаль аднолькава.

Да банка прыйшлося даўгавата патупаць, але Ігар вырашыў зноў жа зрабіць гэта, каб яшчэ больш спазнаць і ўбачыць польскую сталіцу. Таму ішоў няспешна, азіраючы архітэктуру старых і новых кварталаў, раз-пораз спыняючыся перад славутымі помнікамі.

Шкляныя вокны высокага будынка люстрана зіхацелі, калышучы блікі яркага сонца. Ігар нясмела адчыніў дзверы, ступіў у шырокі вестыбюль. Як з-пад зямлі, перад ім выраслі дзве магутныя постаці ахоўнікаў. Зірнуўшы ў пісьмо ад банка і праверыўшы пашпарт, яны ветліва запрасілі:

— Проша пана! Другі паверх, да ўпраўленца.

Худы высокі ўпраўляючы, агледзеўшы ўсе паперкі, прывезеныя Ігарам, лёгка пачаў перабіраць клавішы камп’ютара. Хутка пабеглі на экране лічбы і табліцы, замільгалі тэксты, зноў лічбы і праз хвіліны дзве мітульга спынілася. Усмешка азарыла твар гэтага немаладога і, відаць, мудрага чалавека:

— Вось, гэта ваша!

Ігар зірнуў на экран і ледзь не ахнуў: насупраць яго прозвішча стаяла лічба, якую ён мог вычытаць толькі ў газеце ці пачуць па тэлевізары. Дзедаў брат, які некалі з’ехаў у Францыю, а пасля перабраўся ў Амерыку, пэўна ж, круціўся не проста так, не распыляў свой камерцыйны талент на спакусы замежнага жыцця. Таму, відаць, і не завёў сям’ю, пражыўшы да дзевяноста бабылём.

— Што пан хцэ?

— Я б хацеў мільёнаў пяць перакінуць у Беларусь, на мой рахунак. — Ігар разгублена глядзеў на экран камп’ютара. — А астатняе няхай захоўваецца ў вас.

— Добжа, — з прынтара выплылі тры экзэмпляры паперы. — Сёння ж перавядзём. Прыедзеце ў Мінск, вас будуць чакаць грошы.

— Вялікі дзякуй вам! — Ігар распісаўся на трох экзэмплярах.

— Адзін вам! — упраўляючы падаў сваю шырокую далонь. — Бардзо дзенькую і вам. До відзэння!

— Усяго вам самага найлепшага!..

Фірменны беларускі цягнік «Мінск—Варшава» зноў панёс Ігара між узлескаў, мітульгі прыстанцыйных ліхтароў. Зноў у вушах адстуквала знаёмае «чыпалета-чыпалона…», зноў навальваўся сон, але цяпер не такі цяжкі, як мінулай ноччу. А раніцай ён прачнецца бадзёрым і лёгкім, прачнецца зусім другім чалавекам і падумае: «Гэта было да нашай эры, а цяпер…»

* * *

Старшыня калгаса, малады, высокі, здзіўлена зірнуў на Ігара:

— Кажаш, цэлую ферму выкупіш?

— Цэлую ферму з маладняком, — Ігар з усмешкай зірнуў у вочы старшыні, відаць, свайго аднагодка. — І адразу пералічу грошы.

— Пакуль у мяне не было такіх бізнесменаў. Усё па дробязях: трохі бульбы, трохі капусты, буракоў… А тут — цэлую ферму! Сумняваюся я…

— А чаго сумнявацца? Я прапаноўваю вам выгадны варыянт: вы прадаяце мне ферму з маладняком, а я праз год прадаю вам мяса. Ну, і, вядома, год дапаможаце з тэхнікай, зернем, сіласам, сенам… Усё будзе аплачана. Зарплату тым, хто будзе ў мяне на ферме, я выплачваю.

— Добра, Ігар Іванавіч, ёсць у мяне ферма з маладняком. На былым цагельным заводзе. Трыста галоў адкормліваюцца… Не шкада за іх столькі грошай?

— Грошы не павінны ляжаць мёртвым грузам. Грошы павінны працаваць.

— Ну, тады — па руках! Заедзь дні праз тры, мы падрыхтуем усе дакументы, заключым дагавор. А то ты выкупіш у мяне цялушак, а праз год мяса штурханеш куды-небудзь налева. А мне тады — што будзе: план паставак не выканаў.

— Я сваё слова не мяняю.

— Тады — да сустрэчы! І ў мяне слова цвёрдае.

Ігар паволі ехаў па шашы між лесу і думаў аб рэзкім павароце ў яго жыцці. Ці правільна ён зрабіў, задумаўшы заняцца вясковым бізнесам? Можа, выгадней было б заняцца будаўніцтвам? Хаця няёмка адмаўляцца цяпер. Ступіў крок наперад — зрабі і наступныя два. А пазней — будзе відаць. Як бацька казаў: пераначуеш — больш пачуеш.

«Мерседэс» лёгка каціўся па асфальтаванай роўнядзі. Ігар азіраў калгасныя палі і лугі, шырокія і дагледжаныя, любаваўся лавамі густой пшаніцы і сцяной высокай кукурузы. За Дземяновым Гузам, з гары, адкрывалася пойма Нёмана, што апярэзваў вёску і нёс свае воды аж у Балтыйскае мора. Толькі бакавыя канавы нагадвалі, што тут некалі прайшла меліярацыя. Заліўныя лугі, пэўна, калі не навальвалася сухмень, добра давалі не толькі першы ўкос, але і атаву.

Ігар спыніў машыну, выйшаў з яе, каб адсюль, з вышыні, палюбавацца прыгожай панарамай, што адкрывалася вачам на фоне вясковых хат. Там, справа, — Амброжыкава гара, яе бела-жоўты пясок выдзяляўся пад маладым сасоннікам і вербалозам. Крыху лявей зелянелі раскідзістыя карагачы старых вербаў. Сюды перад Вербніцай прыходзілі мужчыны і жанкі, ламалі пучкі маладых галінак, каб асвяціць іх у царкве. Ды і купал званіцы быў відаць адсюль. «Трэба будзе заехаць да бацюшкі, пагаварыць, можа, дапамагчы чым-

небудзь», — падумаў Ігар, пераводзячы позірк улева. Роўная стужка дарогі ўпіралася ў жалезабетонны мост, раздзяляла вёску папалам. Некалі, як расказваў дзед Пятрусь, з вёскі праз усю пойму Нёмана аж да Дземяновага Гуза, мабыць, на кіламетр цягнуўся драўляны мост, па якім падводы везлі розны тавар на стаўбцоўскі кірмаш. Але ў 1939 годзе драўляны мост, адступаючы, спалілі белапалякі. І доўга абапал дарогі тырчалі ўчарнелыя палі, пакуль калгас іх не павыцягваў, асушваў балаціну.

Вяскоўцам дапамаглі ваенныя. Яны адступілі ад вёскі метраў на сто, выкапалі экскаватарамі новае рэчышча, пабудавалі над ім магутны жалезабетонны мост і пусцілі Нёман па новым шляху. А ля вёскі засталася крывулістая старыца, дзе завяліся ліні і ляшчы, мог пялёхнуць зацягнутую раску завалашчупак.

Ігар глядзеў навокал і думаў: каму старонняму паказаць гэтую прыгажосць, каму перадаць яе ў спадчыну? Былі б у яго сын ці дачка, абхадзіў бы з імі гэтыя мясціны, расказаў бы пра іх усё, што ведаў. А самае галоўнае — навучыў бы любіць і цаніць гэты спрадвечны скарб, з надзеяй, што яны перададуць яго ў спадчыну сваім дзецям, унукам…

Ігар схамянуўся: трэба было ехаць на новую ферму. «Хто не рухаецца наперад, той ідзе назад», сказаў ён сам сабе і закрыў дзверцу машыны, уключыў матор.

Новую ферму перарабілі з велізарнага цэха-сушыльні старога цагельнага завода. Некалі сюды на ваганетках завозілі цэглу-сырэц, вытрымлівалі тыдні два-тры, а пасля перавозілі ў вялізную кругавую печ для абпалу. Што здарылася потым, Ігар не ведаў. Ці то цэгла не вельмі пайшла ў продаж (пачалі ўжо з'яўляцца сілікатныя блокі), ці то глыбінны пласт гліны закончыўся… — як бы там ні было, але завод перадалі на баланс калгаса. Малады старшыня, відаць, добра ўсё падлічыўшы, адраджаць цагельны канвеер не стаў. Печ разабралі, а ў сушыльным цэху з абодвух бакоў прыварылі чацвёра высокіх жалезных варот, паставілі кармушкі, ад воданапорнай вежы пракінулі водаправод. Са старых фермаў прыгналі маладняк. Вось так і пачалася новая старонка былога завода, дзе працавалі Сідар з Паўтаракам. Дапамагалі ім яшчэ два хлопцы, ды амаль кожны дзень пад'язджала з суседняй вёскі асімінатарша Лена і свой, вясковы, ветэрынар.

Ігар спыніўся перад фермай ля вагончыка. Каля адкрытых варот стаялі чатыры мужыкі і аб нечым гаварылі. Двое маладзейшых курылі цыгарэты.

Ігар выйшаў з машыны, пакінуў дзверцу адкрытай, падышоў да падвозчыкаў:

— Дзень добры, мужыкі!

— Дзень добры, дзень добры… І вам не хварэць, — Сідар скінуў з галавы шапачку-аладку, прыгарнуў даланёй чупрыну. — Ці вы не той, хто купляе гэтую ферму?

— Той самы — Ігар Іванавіч. Але пакуль усё аформіцца, месяц пройдзе. Так што, хлопцы, будзем чакаць і думаць…

— Іванавіч, а з намі што будзе? — Паўтарак паклаў сваю магутную далонь Сідару на плячо.

— Як рабілі, так і будзеце рабіць. Толькі без п'янак і прагулаў. Каровы алкаголю не любяць.

— Э, не скажыце… Дзед Пятрусь, што каля вас жыве, некалі як кароў лячыў, калі захворвала, не хацела есці? Браў паўлітра гарэлкі, задзіраў пысу карміцелькі ўгору — ну, а два мужыкі памагалі! — і ўліваў гэтае лякарства ў нутро. І карова здаравела, ачуньвала.

— А пасля гэтым малаком мужыкі пахмяляліся, — сказаў Ігар.

Хлопцы зарагаталі. А Ігар падумаў, што яны ведаюць пра яго больш, чым ён меркаваў. «Бог ведае пра людзей усё, а суседзі яшчэ болей…»

— А што з зарплатай? Калі паменшае, то жонкі з дому павыганяюць, — пераступіў з нагі на нагу Паўтарак.

— Дома камандуе той, хто больш зарабляе, — Ігар перабіраў у руках вязку ключоў ад машыны і хаты. Пэўна ж, хваляваўся пры гэтым знаёмстве.

— А я думаю, — Сідар падступіў на крок бліжэй, — камандуе дома той, хто больш траціць.

Ігар не стаў пярэчыць:

— Жанчына вывела мужчыну з рая, і толькі жанчына можа вярнуць яго ў рай. Не помню, хто сказаў… А наконт зарплаты… Будзе вага — будзе і ўвага.

— Як гэта? — не зразумеў Паўтарак.

— Мяса чым вымяраюць? Кілаграмамі. Вось ад гэтага ўсё і залежыць, — Ігар укінуў ключы ў кішэню курткі-разлятайкі. Відаць, для хлопцаў гэта было знакам развітання.

— Іванавіч, і мяне Іванавічам па бацьку, хаця ўсе за мой рост Паўтаракам дражняць… А скажыце, толькі без крыўды, дарагая ў вас машына? — спытаў Паўтарак.

— Іванавіч, я потым, як выкуплю ферму, вам скажу адзін на адзін. А цяпер паслухайце адну быль, — пачаў Ігар. — Дык вось, праязджаюць «Жыгулі» на святлафоры адно складанае скрыжаванне. Даішнік спыняе і падзывае шафёра: «Вы — адзіны, хто праехаў правільна і не парушыў ніводнага правіла. Давайце, я запішу нумар вашых правоў, распішацеся і атрымаеце прэмію — тысячу баксаў». — «А няма ў мяне правоў…» — «Як? І вы без правоў ездзіце?» — «Езджу…» Тут вылазіць з кабіны жонка: «Я ж табе гаварыла, прыдурак, не едзь, выпіўшы, сюдою… Дык не, папёрся!» — «Дык вы яшчэ і выпілі?» Тут з задняга сядзення вылазіць цешча: «Я ж табе казала, ёлупень, на крадзенай машыне не едзь цэнтральнай вуліцай!» — «Дык і машына крадзеная?!» Тут адкрываецца багажнік, высоўваецца чорная кудлатая галава: «Дык што, і граніцу ўжо праехалі?»

Хлопцы рагаталі да слёз. А Ігар, задаволены першым знаёмствам, сеў у машыну: «Дзень, пражыты без смеха, — згублены дзень…»

* * *

«Былі б бацькі… — часта думаў Ігар. — Як бы спатрэбілася іхняя дапамога! Ды і парада…»

Бацька закончыў чыгуначнае вучылішча, быў машыністам мясцовых электрычак. Здавалася б, месца цёплае і грашовае, але праца патрабавала неймавернай увагі і напружання. Станцыі, раз’езды, аўтамабільныя пераезды, натоўпы пасажыраў у пікавыя гадзіны і выхадныя… — усё гэта накладвала на старшага машыніста павышаную адказнасць за парадак і людскую бяспеку. Ды і хвілінны графік павінен быў вытрымлівацца бездакорна. Сяды-тады, калі не было дзяжурнага нараду міліцыянераў, асабліва ў познія рэйсы, даводзілася шыбаваць па выкліку пасажыраў у які-небудзь вагон, каб уціхамірыць падпітых хуліганаў. Высокая постаць бацькі і сіняя форма службовай асобы дзейнічалі безадказна. Толькі аднойчы двое выхапілі нажы. Бацька апярэдзіў: ударыў аднаго ў прамежжа ног, а ў другога перахапіў занесеную руку з нажом, ламануў з усёй сілай. Нарад міліцыі зняў з электрычкі пабітых бандзюкоў.

Ігар і не ведаў бы пра гэта, але да бацькі завітаў неяк напарнік. Калі бацька пайшоў у краму па хлеб, ён і расказаў пра той выпадак. Толькі папрасіў: «Не выдавай, бо твой бацька не любіць расказваць пра нашу работу».

Маці шчыравала ў бухгалтэрыі аднаго выдавецтва. Фінансы, як паўтарала яна, рашалі ўсё. Дамоў прыходзіла стомленая, але, паляжаўшы крыху, бралася за розныя выпечкі. Ігар дзіву даваўся, адкуль у яе столькі рэцэптаў. Пірагі з грыбамі, рыбай і капустай, аздобленыя карыцай і мёдам, шарлоткі з яблыкамі і грушамі, булачкі з рознымі варэннямі… У яе бралі рэцэпты суседкі і каляжанкі па працы. Сын таксама навучыўся пячы булкі, не асабліва складаныя, але, як хваліў бацька, смачныя.

...Той летні дзень выдаўся сонечным. Ніводнай хмурынкі не калыхала неба. Бацька вярнуўся з начной змены і адразу ж узяўся за свае «Жыгулі». Маці доўга ўгаворвала яго паспаць, адпачыць хаця б гадзіны дзве. Але адказ быў адзін: «Раней прыедзем — болей зробім».

Сабраўшы сумкі, маці паставіла іх у багажнік. Нейкая трывога смутна вярэдзіла ёй душу. Але адгаворваць мужа ад паездкі больш не рашалася: ведала, калі задумаў ён што-небудзь, то так яно і будзе.

З кальцавой выехалі на брэсцкую трасу, шырокую і роўную. Бацька ўключыў радыё, знайшоў музычную хвалю... Фаніпаль, Дзяржынск, а там — і родныя Стоўбцы. Музыка супакойвала, навявала прыемныя ўспаміны… Вочы міжволі замружваліся…

Маці схамянулася, калі «Жыгулі» пераехалі раздзяляльную паласу, выскачылі на сустрэчную трасу:

— Іва-а-ан!..

Магутны лесавоз пачаў браць управа, паволі сыходзіць з трасы. Але двухколавы прычэп, на якім ляжалі вершаліны доўгіх ялін, прыхапіў легкавушку, як цацку, павалок яе ў прыдарожную траву…

Ігар не мог уяўляць, што было далей, цяжка, надта ўсё гэта цяжка...

* * *

Ігар ведаў, што самая цяжкая для разумення рэч на свеце — падаходны падатак. Ты можаш і не заўважыць, што ў цябе ўсе справы ідуць выдатна, але падатковая служба гэтага не прапусціць. Яна — як вартавы на граніцы. Не дарэмна ж радыё і тэлебачанне ў адзін голас паўтараюць: «Заплаціў падаткі — спі спакойна!» І Ігар спаў бы… Працэнт са спадчыны — аддадзены, а гэта — самае галоўнае. Але спаць не давалі іншыя думкі. Трэба было ставіць некага загадчыкам фермы. Дагэтуль камандзіраў было многа: і старшыня калгаса, і два яго намеснікі, і галоўны бухгалтар, і ветурач… А над імі — райвыканкам. А цяпер, калі ферма адышла ад калгаса, усе справы трэба было вырашаць яму. Але ж нехта павінен весці рэй там, між цялушак. Спраў — па вушы: кармы, падсцёл, вываз гною… І лепшай кандыдатуры, як Сідар, на думку Ігара, не было. Ён не толькі языкаты, але і гаспадарлівы. Не пакіне жывёлу галоднай. Ды і свая гаспадарка дагледжаная. А дома гаспадар — ён і ўсюды гаспадар. Хлопцы слухаюць яго. Значыць, справіцца. А вось на месца, хто б вёў увесь улік, трэба некага шукаць.

Сідар брыгадзірства ўспрыняў па-філасофску:

— Камандзір усюды патрэбны. Але, Іванавіч, згадзіцеся: павышэнне без дабаўкі зарплаты з’яўляецца паніжэннем?

Хлопцы прыціхлі, чакаючы адказу.

Ігар выдатна разумеў, што хвалюе іх, таму і не стаў хітрыць:

— Заўтра якое ў нас? Першае ліпеня. З гэтай даты вашу зарплату павышаю ўдвая.

— Не пройдзе і паўгода… — Сідар абапёрся двума рукамі на чаранок вілаў.

Паўтарак змахнуў з рукава курткі саломіну:

— Ты даруй, Іванавіч, але не веру я…

— І Верка не верыла, пакуль не праверыла, — усміхнуўся Ігар.

Хлопцы зарагаталі, бо ведалі, на што намякае іх гаспадар. І Паўтарак тут жа падхапіў любімую тэму:

— Іванавіч, а чаму б табе не жаніцца? Мы і маладзіцу падбяром. Вунь Надзю хаця б… Баба — гром! Пад сто семдзесят кілаграмаў. З любога вяселля на руках дадому прынясе.

— А нашто жаніцца, калі можна пажывіцца, — асмялеў малады высокі хлопец Іван.

— Я адзін раз апёкся, яшчэ не зажыла душа, — Ігар не стаў хаваць даўнішняе.

— Дык і вярнуліся б на тую самую сцежку…

— Мала змагчы сысці, здолей, пайшоўшы, не вярнуцца назад.

— З такой машынай, Іванавіч, можна любую закадрыць. Сэрца жанчыны часам можна адкрыць і ключом ад легкавушкі, — Паўтарак стукнуў адна аб адну рукавіцамі, выбіваючы пыл.

— А калі маеш дачу ў прыдачу, ключ ад кватэры і поўны кашалёк… — усміхнуўся Сідар. — Толькі вы, Ігар, не слухайце гэтых балаболаў. Як кажуць, прыйдзе час — знойдзе нас. Жанчына — гэта добра накрыты стол, на які мужчына па-рознаму глядзіць да ежы і пасля яе. Не помню, дзе я чытаў. Таму, Ігар, не трэба спяшацца.

— Спяшацца трэба, але не ў гэтым. Воля — гэта адзіноцтва. Лепшыя планы і задумы нараджаюцца, калі ты адзін, — Ігар сціснуў ключы ў кулаку.

— Не, Іванавіч, тут ты не праў. Усё лепшае і прыгожае ідзе ад любімай жанчыны. А калі за ёй стаяць дзеці, унукі — сіла ў мужыка ўзрастае ўдвая.

— Ты, Сідар, лепш раскажы, як ты на парозе перад верандай заснуў, — пад'ялдыкнуў Паўтарак.

— І праўда, было раз. Выпіў я тады добра, прыцягнуўся дадому позна. Тыцкаў, тыцкаў ключом у дзверы — не адкрываюцца. Прысеў на ганак, прыхінуўся да дзвярэй — і заснуў. Бо ведама, ашаламеў. А раніцай мая Галя пачала грукаць у дзверы: «Адкрывай! Пара карову даіць!» А я спрасонку і пляснуў ёй: «Ідзі, зараза, туды, дзе ўсю ноч валачылася!»

Хлопцы, хоць і не раз чулі пра гэта, дружна смяяліся.

— А што, мой сябра ў Мінску з-за чаго развёўся? Яго жонка ў сне другое імя назвала, не яго, і сказала: «Табе дадому пара ісці — развідняецца…»

— Усё на свеце бывае… — Ігар укінуў ключы ў кішэню пільчака. — Толькі давайце, хлопцы, адразу дамовімся: усё гаварыць у вочы, а не за вочы. Не мне, дык Сяргею Сідаравічу. Дарэчы, ці ёсць у вас просьбы, прапановы, скаргі?

— Іванавіч, нам бы душ які ўстанавіць… — Паўтарак пераступіў з нагі на нагу.

— Гэта — не пытанне! Шукайце куток — дзе? Адгародзім, кінем трубу на сцёк у кар'ер. А я паслязаўтра начынне рознае прывязу… Толькі адгародку з цэглы самі выкладзіце?

— Запраста! — Сідар пляснуў Паўтарака па плячы. — Міша ў нас — лепшы кладчык у свеце. Мяшкоў пяць цэменту, а цэглу і пясок тут знойдзем.

— Ну, і лады! — Ігар кожнаму працягнуў руку для развітання. — Толькі просьба ў мяне да вас: шукайце талковую дзяўчынку, каб ведала матэматыку і камп’ютар, а то без уліку і кантролю мы ў трубу вылецім.

* * *

«Вядома, Сідар праў, — Ігар прысеў ля стала на калодку ад зрэзанай ліпы. — Калі за табой стаяць жонка, дзеці і ўнукі, мужчынская сіла ўзрастае. Мацнее таму, што ты бачыш свой працяг, адчуваеш родныя галінкі і лісткі на радаслоўным дрэве… Але як ажывіць, як знайсці гэты працяг? Можа, усынавіць якога-небудзь жэўжыка з дзіцячага дома? Прывіваюць жа, прышчапляюць дрэвы іншымі адросткамі… І нічога, прыжываюцца… Ды яшчэ такі ўраджай пасля дае той атожылак! Але ж гэта дрэвы… А ў людзей? Ці прыжывецца чалавек з другім, калі ў яго цячэ іншая кроў? Ці ж не бралі многія сем’і пакінутых, адказных хлопчыкаў і дзяўчынак? Бралі, і выгадоўвалі. Але ж гэта — сем’і. А калі ты адзін? Ці дасі ты дзіцяці ўсё тое, што дае маломў чалавеку сям’я? Відаць, не…»

Рой думак не даваў спакою Ігару. І чым далей, тым больш іх, пэўна, будзе вярэдзіць душу, разбіваць раўнавагу яго існасці, яго будняў.

Навісь цяжкіх пладоў над сталом радавала вочы. Бацькаў сад, дагледжаны, разлапісты, яшчэ малады, кожны год шчодра радаваў адборнымі налівамі: антонаўкай, літоўскімі раннімі і познімі, малінаўкай і плескачамі… А якія грушы калыхаў вецер на выносных кронах! Яны, познія, вялікія, але мяккія і сакаўныя, былі лепшым пачастункам для суседскіх дзяцей. І бацька заўсёды частаваў іх, не шкадаваў, толькі прасіў, каб не лазілі самі, не ламалі галіны.

Рыпнулі весніцы, усунуўся Сідар, прысланіў да шчыкетніка свой веласіпед:

— Іванавіч, давай кульнём па чарцы! За маё брыгадзірства.

— Дзякуй, я за рулём. Яшчэ ў праўленне трэба падскочыць: заўтра «зялёнку» павінны вазіць.

У весніцы ўсунуўся цыбаты, зараслы шчэццю, мужык, без страху і сораму прайшоў да стала:

— Хлопцы, мне б на пляшку. Можа, падкініце пару чырвонцаў. Галава трашчыць пасля ўчарашняга…

— Слухай, Трут, памяняй ты ў сваёй мянушцы апошняя «т» на «д», — Сідар узяў абрэзак сасновай вагонкі, пастукаў па стале. — Бачыш лес? Лісічак — касою касі! Пару гадзін — і будзе табе пітво.

— Чуеш, Сідар, я не ў цябе прашу.

— А я на гарэлку не даю, — сказаў Ігар, як адрэзаў. — Рукі, ногі — здаровыя? Работы — мора.

— Ну-ну… Чуў я пра цябе… — Трут скрывіў ніжнюю губу. — Хата ў цябе новая… Глядзі, каб не згарэла.

— Ты бачыш мой мабільны? Усё, што ты сказаў цяпер, тут запісана, — Ігар раскрыў далонь. Прыгожы японскі тэлефон бліснуў сонечным зайчыкам. — Цяпер у тваіх інтарэсах, каб мая хата не згарэла.

— Сука… — толькі і выціснуў праз зубы Трут, павярнуўся і пашыбаваў на вуліцу.

— Правільна, Іванавіч, — падтрымаў Сідар. — Такіх трэба вучыць. Месяцаў пяць, як з калоніі прыйшоў, штодня бамжуе. Як на працу, на аўтобусны прыпынак ходзіць, пабіраецца, вымагае… Ды я б такіх! Здаецца, быў жа некалі закон ці як яго, тры месяцы не робіш — ідзі ў калонію, укалвай пры-

мусова! І правільна. Ад іх — забойствы, крадзяжы… Раней ці пазней жыццё зноў вернецца да прымусу для валацугаў-гультаёў. А ты, Іванавіч, правільна яго палахнуў. Дасі грошы — потым не адвадзіш яго і іншых. Ён жа ў разведку прыйшоў.

— Я салідарны з табой, Сяргей Сідаравіч. Меркаваў, што калі-небудзь будуць прыходзіць, прасіць… Але каб так хутка…

— Я перажываю за нас і нашу ферму! Каб не прагарэлі…

— Старацца будзем — выйдзем у людзі. Дарэчы, там парадак? Накормлены, напоены?

— Крыўдзіш, Іванавіч. Двое дзяжураць, двое абедаць паехалі. А селядзец у цябе, Іванавіч, кажуць, смачны.

— Сам раблю: дзве лыжкі солі, тры лыжкі цукру, чайная лыжачка прыправў… Перамешваю і сыплю на ачышчаныя кавалачкі. Праз шэсць гадзін — пальчыкі абліжаш! Маці некалі навучала. Заходзь, пачастую.

— О, чуць не забыў, чаго я прыехаў, — Сідар устаў. — Я ж дзяўчынку знайшоў да нас на ферму — Наташку. Пасля школы не паступіла, не прайшла па конкурсе. Хацела быць праграмісткай. А цяпер на паўставўкі падлогі ў школе мые.

— Вядзі! Я заўтра зранку пад'еду. Павінны для душа прычындалы розныя падвезці. Вы ж хоць месца выбралі?

— Ёсць куточак…

— Ну то і добра.

* * *

Ноччу Ігар доўга не мог заснуць. Быццам усё зараз у яго жыцці спакойна, быццам усё ў справе дагледжана і зроблена, нешта вярэдзіць душу, нешта не дае ёй спакою. Адчуванне было такое, што нехта, ці нешта просіцца да яго ў хату... Але ён павінен адчыніць дзверы, упусціць яго ў сваё жытло і сваю душу, убачыць і зразумець, чаго яно хоча. Гэтае «нешта» і гняло ўчора ажно да трох гадзін ночы. І толькі калі пачало світаць, ён цяжка заснуў.

Яму снілася, што ён невядома як раптам апынуўся ў цёмным незнаёмым лесе. Высокія вершаліны елак закрывалі зоры і месяц, звісалі шырокімі лапамі над ім, быццам сіліліся схапіць яго і шпурнуць у бяздоннае неба. Дзе ён? Дзе дарога да людзей? Куды ісці? З аднаго боку пасвятлела і адтуль, са святла, выйшаў бацька, высокі, статны і малады. Нічога не кажучы, узяў яго за руку, вывеў на дарогу і знік, як растварыўся ў залатым свячэнні. Ігар доўга ішоў па дарозе, пакуль не ўбачыў нечую постаць. Заспяшаўся і дагнаў. Гэта быў ляснік, іх, вясковы. Ведаў, што завуць яго Васілём, але ніколі не гаварыў з ім, толькі тады-сяды бачыў на вуліцы.

Яны моўчкі дайшлі да вёскі, прайшліся вуліцай, Ігар убачыў сваю хату, убачыў — і прачнуўся…

Зыркі прамень прабіваўся з-за краю фіранкі, трапятаў на сцяне жоўтай шалёўкі. Колькі ж ён паспаў? Гадзіны тры, не больш. Ведаючы, што не засне, скокнуў з ложка, адзеў трыко, выпіў конаўку калодзежнай вады, выйшаў у двор, завёў машыну. Праехаўшы вёску, мінуў невялікі падлесак, выруліў на шырокую лугавіну, мінуў яе і аказаўся на беразе Нёмана. Рака яго дзяцінства, як заўсёды, колькі помніў яе, спакойна і вольна каціла свае воды. Лёгкі туманок курыўся над старыцай другога берага.

Ігар распрануўся і кінуўся ў прыемную прахалоду. Вада лечыць, вада супакойвае, зачароўвае… Некалькі разоў нырнуў, спужаўшы малькоў, пра-

плыў да старыцы і назад, вылез на бераг, ручніком выцер цела і адразу адчуў: зноў вярнулася маладая сіла, зайграў яго імпэт, зноў акрылілася жаданне ляцець далей, рабіць вялікае і добрае, шукаць сваю сцежку ў жыцці…

Ферма жыла паўсядзённым жыццём. Хлопцы рассоўвалі па баках пад пысы кароў «зялёнку» — свежую траву з вікай.

Ля жалезных дзвярэй стаяў горны веласіпед. «Чый жа?» — Ігар падышоў бліжэй. І тут жа з дзвярэй насустрач яму выйшла невысокая дзяўчына. Светлыя валасы, кірпаты носік з рэдкімі канаплюшкамі, хітрыя вочы… Адразу відаць: кемлівая і разумная.

— Дзень добры, Наташа!

— Дзень добры! — сказала і запунсавелася.

— Во-во, Іванавіч, наша гаспадыня, — Сідар прысланіў вілы да жалезных дзвярэй, рукавом ацёр пот на лбе. — Лепшая з лепшых. Другой у нас няма.

— І камп’ютар ведае?

— Як самую сябе, — глянула смела ў вочы Ігару Наташа. — Толькі…

— Што толькі?

— Яго ж не паставіш сярод кароў…

— А мы табе — даруй, што на «ты» — вагончык новы падгонім. Там і ўладкуешся. І хлопцам будзе дзе перакусіць.

— Нам, смярдзючым, запэцканым, і на двары добра, — Сідар зняў спяцоўкі.

— Ну што ж, бяру. Пад’едзь, Наташа, у праўленне, напішы заяву на маё імя.

— А кім вы мяне берацё?

— Эканамісткай. Увесь электронны ўлік будзе на табе. Усё — пад тваім кантролем: і кармы, і прыбаўка жывёлы, адным словам — нашы грошы. Справішся?

— Будзем бачыць, — зноў зачырванелася Наташа. — А вагончык…

— Гэта — за мной, — Ігар агледзеўся на белы рафік. — О, відаць, душавую прывезлі!

Наташа развіталася, узяла свой веласіпед, лоўка села на сядло і пакаціла па пясчанай каляіне, што вяла ад фермы ў вёску.

Хлопцы хутка перанеслі пластыкавыя лісты і рознае начынне душавой у прыфермны склад. Паўтарак, закрываючы замок, плечуком падціснуў рыпучыя дзверы:

— Люблю, калі слова важкае, са справай не разыходзіцца, — сказаў ён, мабыць, успамінаючы, як Ігар некалі казаў пра душавую.

Ігар прайшоўся па кароўніку, зірнуў, як хлопцы жвава ўпраўляліся з «зялёнкай», у думках пахваліў іх. Хвілін праз дзесяць выйшлі Сідар з Паўтаракам, прыселі на новай лаўцы.

— Я так думаю, Іванавіч, цяжкая гэта справа — мільёны грошай… — Паўтарак хітра зірнуў на Ігара. — Добра, калі які клад адкапаеш, або завяшчанне ўдачу прынясе…

— Завяшчанне — гэта перавод з таго свету. Раптоўны і нечаканы. Як мне, напрыклад. А мільёны… Той, хто шукае мільёны, рэдка іх знаходзіць, а вось той, хто іх не шукае, не знаходзіць іх ніколі.

Не змаўчаў і Сідар:

— А нашто іх шукаць? Грошы зарабляць трэба. Заўсёды так было. Праўда, зараз як што парушылася ў свеце. Модным красці стала. І крадуць, а гэта ж усё багацце народнае…

— Палітыкант ты, — усміхнуўся Паўтарак.

— А што не так? Скажы яму, Іванавіч...

Ігар прысеў на лаўку:

— Так... Ёсць і такое: крадуць, крадуць нахабна, забыўшыся на людзей, сумленне і Бога.

— А як ім не красці, калі кажуць, што грошы рашаюць усё? — працягваў Сідар.

— Ёсць рэчы, важнейшыя за грошы, але без грошай іх не купіць, — сказаў Ігар.

— Калі вы, Іванавіч, пра жанчын, то я з вамі згодны, — усміхнуўся Паўтарак, як звычайна спрабуючы перавесці сур'ёзную размову на жарт..

— Бог стварыў жанчын прыгожымі, каб іх маглі любіць мужчыны, і не вельмі разумнымі, каб яны любілі мужчын, — Сідар таксама перайшоў на жарт.

— От, відаць, дапякла табе твая Галя, — зарагатаў Паўтарак.

— Як і твая. А лепш не чапаць іх, бо гэта — зброя, з якой гуляць нельга, — Сідар устаў з лаўкі. — У мяне дык на сваю ўправа ёсць: аддаваць увесь заробак, от!

Ігар усміхнуўся:

— Вось і мы даверым жанчыне... дзяўчыне фінансы, Наташы. А фінансы — гэта ўменне перадаваць грошы з рук у рукі да таго часу, пакуль яны не знікнуць.

Цяпер па-добраму ўжо засмяяліся ўсе.

* * *

Хоць, здаецца, справы на ферме ладзіліся, усё ж нейкая смутная трывога па-ранейшаму не адступала ад Ігара. Неспакойныя думкі, як пчолы, снавалі ў яго растрывожанай свядомасці. Чаму раптам у яго цяжкі сон завітаў бацька, хаця дагэтуль не прыходзіў ні разу? Чаму на дарозе ён дагнаў Васіля, а не каго-небудзь іншага? Што гэта — папярэджанне ці нейкі таемны знак?.. Аддаўшы два гады працы над незацверджанай дыпломнай, — гаданні, соннікі, хірамантыя, гараскопы — Ігар усё ж верыў, што сны нешта прадказваюць. Але што прадказвае гэты сон?..

Як і раней, у яго было шмат клопатаў: імчаў у райцэнтр, каб купіць нешта для фермы, спяшаўся ў калгасную бухгалтэрыю, каб давесці дакументацыю да ладу, званіў знаёмым у Мінск, калі нешта не мог прыдбаць у Стоўбцах і, здаецца, увесь час штосьці чакаў...

Але калі яшчэ месяц таму ён безуважна праязджаў каля вясковых хат, то цяпер чамусьці пачаў прыглядацца да іх, асабліва да Васілёвай. Жоўтая шалёўка сцен, акуратная шырокая веранда, дагледжаны сад… — усё гэта сведчыла аб стараннасці і руплівасці рук гаспадара і гаспадыні. З Васілём часта сустракаўся на лясной дарозе. Той — на матацыкле з бензапілой і рукзаком за плячыма. Ведаў, што, як казалі хлопцы, — непітушчы. Жонку яго, Вераніку, убачыў першы раз у камерцыйным магазіне. Высокая, стройная, з доўгімі чорнымі, як смоль, валасамі, яна хутчэй нагадвала азіятку, чым беларуску. Вялікія, чуць раскосыя вочы з прыхаванай смяшынкай быццам адкрывалі амаль непадрыхтаванае: «Любуйцеся, якая я прыгожая!» Ігар, загледзеўшыся, схамянуўся, міжволі ўспомніўшы Фаціму: якая яна была пекная!.. І як яму тады было добра ў юнацтве!.. Адзін дзень, адзін вечар — і назаўжды разышліся іх жыццёвыя сцежкі. Дзе яна, што з ёй — хто ведае.. Можа, даўно

выйшла замуж, нарадзіла такіх жа прыгожых, як сама, дзяцей, і шчаслівая, не тое, што ён...

Лесніковых дзяцей ён бачыў часта. Са школьнымі сумкамі на плячах два хлопчыкі шыбавалі па вуліцы. Адзін — гадоў пад дзесяць, а другі — на пару гадоў меншы. Абое — з чорнымі грыўкамі. Акуратныя і, відаць, як усе падлеткі ў такім узросце, дураслівыя. Не пройдуць, каб не штурхнуць адзін аднаго, не кінуць каменьчык у ліпу…

Ігар націснуў на педаль газа: «Эх мне б такіх хлопцаў! Я вылепіў бы з іх сапраўдных мужыкоў!» Ён адчуваў, што павінен быць нейкі нечаканы паварот у яго жыцці, нешта павінна здарыцца. Не плысці ж па цячэнні жыцця вось так, сыта і манатонна, нават з гэтай фермай, якая забірае многа часу, клопатаў і сіл. Ды і для каго? Для гэтых людзей, што ўкалваюць кожны дзень, даглядаючы жывёлу? Для іх — таксама. Яны шчаслівыя, што ён даў ім працу, добрую зарплату. Але і яны жывуць для некага. Хаця б тыя ж Сідар і Паўтарак. Не падаросламу дураслівыя, як кажуць пра іх у вёсцы, хадзячыя анекдоты — без іх тут было б сумна. Бач, сябруюць, пацвельваюць адзін з аднаго, іншы раз ажно занадта, але працуюць, як трэба. Часам здаецца, што гэтая дураслівасць, анекдатычнасць — абалонка, за якой нешта хаваецца вельмі ўжо асабістае... І хто ведае што... Яны, працавітыя ад прыроды людзі, разуверыліся ў тым, што менавіта такія патрэбны зараз. І, можа, бачачы, як іншыя, нікога і нічога не баючыся, твораць тое, што супярэчыць таму ладу сумлення, якім жылі бацькі, знарок узялі на сябе ролю мясцовых камедыянтаў...

Але як бы там ні было, як ёсць так ёсць, і ў Ігара больш надзей і спадзяванняў на іх, чым на розных трутоў, гультаёў і злодзеяў пад маскамі праведнікаў...

Ёсць у вёсцы і тыя і гэтыя, ёсць і такія, як Васіль і яго жонка, і большасць з іх жыве для сваіх дзяцей, жывуць, каб падтрымаць унукаў… «А я для каго? Сам для сябе? Так і памру пустацветам?..»

Ферма, як заўсёды, сустрэла яго рыкам кароў, вясёлымі прывітаннямі хлопцаў. Збоку стаяў новы вагончык. Сідар з Паўтаракам зварылі лесвіцу з шырокімі прыступкамі і нават прыладзілі трубчасты поручань, каб зімой, як будзе слізка, не загрымець уніз.

Ігар пастукаў у дзверы вагончыка, зазірнуў:

— Можна?

— Можна, можна… — Наташа адхінулася ад камп’ютара.

— О, дык вы і ток паспелі перакінуць?

— Гэта ўсё хлопцы… Іван наш — малайчына! Ён жа каледж закончыў, усё ўмее…

— Ну, прэмію не пашкадую!

— Я аб гэтым вас папрасіць хацела, — Наташа сарамліва запунсавелася. — А вы зірніце на экран: я перакінула на наш камп’ютар з бухгалтэрыі…

Ігар глядзеў і радаваўся. Усе цялушкі былі адзначаны нумарамі, з датамі нараджэння, вагой і прывіўкамі. А ніжай пайшоў пералік кармоў, дні прывозу, цэны…

— Думаў я, Наталля Мікалаеўна, што вы старанная, працавітая, але такога не чакаў, — сказаў Ігар. — Пайду, хлопцаў праведаю. «Вось некаму жонка выдатная будзе! За пару дзён усю бухгалтэрыю сюды перавяла…»

— Гэта хлопцы ў нас залатыя. А я за імі — як за сцяной.

— Так і трымаць, — Ігар выйшаў з вагончыка.

Напаіўшы кароў, хлопцы бавілі час на лаўцы, чакаючы прыезду чарговай машыны.

— А мы тут, Іванавіч, маракуем, што ўсё-такі жаніцца вам трэба, — Паўтарак пакруціў у руках саломінку, хітра зірнуў на Ігара. — З жонкай неяк жыць і весялей, і ямчэй. Як-ніяк, а побач — жывая душа. Па сабе ведаю...

— Халасты мужчына дома ўсё робіць сам, а жанатага жонка прымушае, — усміхнуўся Ігар.

— Іванавіч, або хоць часова якую сімпатыю завесці, — падтрымаў сябра Сідар. — Ці ў любоўнікі да якой напрасіцца. А што?..

— Любоўнік — гэта яшчэ адно расчараванне замужняй жанчыны, — адпікіраваў Ігар. — А часова? Было ў мяне часова… Аж дзесяць гадоў. Цяпер жа — толькі як закахаюся.

— Да тваёй Галі ў любоўнікі не наб'ешся, — Паўтарак не зварочваў з выбранай каляіны. — Ты ж ёй напхаў поўную шафу ўбораў. Там жа няма дзе любоўніку схавацца.

— А што? Жонка павінна адзявацца, як царыца. І ты сваёй накупляй, завесь усю шафу, а то, глядзі, прыгалубіць твая залатая якога-небудзь прыблуду.

— Скажу я вам, хлопцы, што жанчыны заўсёды гавораць пра каханне і маўчаць пра любоўнікаў, а мужчыны наадварот, — Ігар прысеў на край лаўкі. — А калі па-сур'ёзнаму, то, я думаю, ходзяць на гэтай зямлі дзве палавінкі, адзінокія, у нечым падобныя адна на адну, і ім калі-небудзь наканавана сустрэцца. Толькі трэба знайсці яе, менавіта сваю палавінку...

— Правільна, Іванавіч: пад ляжачы камень вада не цячэ. Трэба шукаць… — Сідар расшпіліў сарочку на грудзіне.

— Вада не цячэ, таму пад каменем не мокра і цёпла, — Паўтарак перарваў саломінку напапалам. — А нашто яе шукаць, тую палавінку? Сама знойдзецца. Пакуль мы іх выбіраем, яны даўно ўжо нас выбралі. Мая прыціснула мяне аднойчы, як танцавалі, пахваліла — і працавіты, і танцавіты! — і тут жа загадала: «Давай пажэнімся!..»

— А ты і вушы развесіў, галаву між яе грудзей схаваў, як страус…

— Знаеш, Сідар, страус не галаву хавае, а зад свой другім паказвае, — усміхнуўся Паўтарак. — А чаго ж мне было аднеквацца? Загад, калі разумны, трэба выконваць. Я і выканаў, і па сёння не шкадую. А што? Настаўніца, гаспадыня, ды ў маіх вачах — вабная!

— Добра, хлопцы, гэтых гаворак да вечара не перагаворыш, — Ігар выняў ключы ад машыны з кішэні. — Мне яшчэ са старшынёй трэба перагаварыць.

— А я дадому падскочу на хвілін пяць, бурачніку свінням падкіну, — Паўтарак устаў, узяў прыслонены да сцяны Сідараў веласіпед.

— Ага, баішся, каб да тваёй Веркі хто не завітаў, — пад'ялдыкнуў Сідар, — правяраеш…

Паўтарак нічога не сказаў, махнуў рукой, ускочыў на веласіпед, паехаў. Ад'ехаў ад фермы і Ігар.

* * *

Старая царква некалі стаяла на самым высокім месцы ў вёсцы — на Грудку. Сямікупальная, драўляная, з высокай званіцай, яна праглядалася між купчастых ліп з суседніх зарэчных вёсак. Бацька расказваў, што сюды на Вялікдзень і Сёмуху на кірмашы і фэсты з'язджаліся фурманкі з align рознымі таварамі і прадуктамі. Старэйшыя з мяшкамі і кошыкамі снавалі між гандляроў, а малеча насілася па цвінтары вакол царквы, гуляла ў хованкі ці даганялкі. Але ў шасцідзясятых адзін выслужлівы старшыня сельсавета падбухторыў раённае

начальства знесці гэты астравок праваслаўя. І як ні галасілі жанкі, молячы не чапаць царкву, як ні станавіліся сцяной мужчыны на дарозе трактара, нічога не памагло: царква засталася толькі на карціне вясковага мастака. Мінула тры дзясяткі гадоў, і вера ў Бога пачала адраджацца. Яна, гэтая вера, і не памірала ў сэрцах старэйшага пакалення, быццам затоены агонь, які цепліўся пад прыскам. Настаў час, і вяскоўцы надумалі адрадзіць царкву. Выкупілі прамтаварны магазін, узвялі званіцу, вярнулі кліpac і ўсе абразы. Прыехаў са сталіцы мітрапаліт і благаславіў новую царкву і прыхаджан...

Ігар надзеў новы касцюм, зірнуў у люстэрка: яшчэ не стары, але і маладосць, як лета, адцвітае памалу. Чубаты, з ледзь бачнымі маршчынкамі ля вачэй… «Эх, абнялі б мяне родныя дзіцячыя рукі і вусны прашапталі б: «Тата…» Зніклі б і гэтыя павуцінкі ля вачэй і ўспыхнулі б агеньчыкі ў іх…»

Сёння было свята ў гонар святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла. Звон на царкве толькі што адбіў заклік да збору і пачатку першай малітвы. Учора вечарам Ігар адгарнуў энцыклапедыю, каб, як кажуць, не пляснуцца тварам у гразь перад якім-небудзь вернікам, і прачытаў, што Пётр быў простым рыбаком. Характар жа меў жывы і непасрэдны, але ў душы былі гарэнне і цвёрдасць. Першае яго імя — Сімон. Да Хрыста яго прывёў брат Андрэй — будучы апостал Андрэй Першазваны. Калі Гасподзь убачыў Сімона, то сказаў: «Ты нарачэшся Кіфа, што значыць — камень». Камень жа па-грэчаску — Петрас, Пётр. Пазней Пятра і Андрэя, калі яны закідвалі сеткі ў воды Геннісарэцкага возера, убачыў Ісус Хрыстос і сказаў: «Ідзіце за Мною і Я зраблю вас лаўцамі чалавекаў». З таго часу Пётр стаў верным вучнем Госпада і прапаведнікам яго вучэння. Ён — адзіны, хто стараўся абараніць Хрыста ад першасвяшчэннікаў, якія прыйшлі, каб забраць Яго на судзілішча. А ў 67 годзе апостал Пётр па волі імператара Нерона прыняў за Хрыста пакутніцкую смерць, па яго ўласнай волі — распятым на крыжы ўніз галавой.

Першавярхоўны апостал Павел (да святога хрышчэння — Саўл) быў сынам багатага рымскага гараджаніна, адукаваны і жорсткі да хрысціян. Аднойчы з атрадам воінаў ён ішоў у Дамаск, каб разагнаць і пакараць веруючых у Хрыста. На яго шляху адбыўся дзіўны цуд. Незвычайнае святло, ярчэйшае за сонца, раптам асвяціла атрад. Воіны ўпалі на зямлю, а ўражаны Саўл пачуў: «Саўл! Саўл! Што ты гоніш Мяне? Цяжка табе ісці супраць ражна». — «Хто Ты, Гасподзь?» — калоцячыся ад страху, спытаў ганіцель хрысціян. — «Я Ісус, Якога ты гоніш, — быў адказ. — Але падыміся і стань на ногі твае, бо Я для таго і з’явіўся к табе, каб паставіць цябе служыцелем і сведкам таго, што ты бачыў і што Я адкрыю табе». Пасля відовішча Божага Святла Саўл аслеп. Тры дні ён не еў і маліўся. Пасля гэтага Гасподзь вярнуў яму зрок, вылечыўшы фізічна і духоўна. З гэтага часу Божы абраннік стаў іменавацца Паўлам. Падмацаваны сілай Божай, ён прывёў да хрысціянства мноства людзей і заснаваў шмат цэркваў. Апостала Паўла таксама не абышла чаша мучаніка. Ён, як і апостал Пётр, быў пакараны ў 67 годзе, толькі, як рымскі грамадзянін, не распяты, а абезгалоўлены. Ужо ў першым стагоддзі было ўстаноўлена святкаванне ў гонар першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.

Ігар узяў свечкі, купленыя ў сталічнай прыцаркоўнай краме, замкнуў дзверы хаты і няспешна пайшоў па вуліцы. Здаецца, і дзень быў святочны: чысты, ясны, а ў небе, як анёлы, кружылі Паўтаракавы галубы.

Перахрысціўшыся і пакланіўшыся, Ігар зайшоў у царкву, зноў перажагнуўся, падышоў да стойкі, дзе стаялі дзве бацюшкавы дачкі, паахвяраваў некалькі соцень долараў: «На рамонт». Тыя здзіўлена зірнулі на незнаёмца, а пасля прыязна ўсміхнуліся. Жанчыны ўтаропіліся, глядзелі, відаць, не

чакаючы ўбачыць яго тут, некаторыя перашапнуліся. Ігар смела накіраваўся да выявы Хрыста, прыпаліў дзве свечкі, паставіў у вузкія чашачкі: «Памяні, Гасподзь, душы памёршых рабоў Тваіх, бацькоў маіх Марыі і Івана…» Адну свечку запаліў перад абразом Мікалая-цудатворца, у гонар якога была названа гэтая царква. Яшчэ адну свечку паставіў перад іконай праведных Іоакіма і Анны і сваімі словамі, бо не ведаў сапраўднай малітвы, папрасіў паслаць яму дзяцей.

Некалькі гадзін Ігар слухаў пропаведзь бацюшкі, разам з усімі хрысціўся і кланяўся, а сэрца поўнілася радасцю, што аднавяскоўцы адрадзілі такі храм, годна і прыгожа аздобілі яго ўсярэдзіне.

Пасля службы Ігар падышоў да святара:

— Добры дзень, айцец Васілій!

— Рады бачыць отрака Ігара ў нашым храме. Чуў, чуў я ад вернікаў пра твае справы добрыя і нялёгкія.

— Айцец Васілій, я хацеў бы дапамагчы царкве чым-небудзь. Відаць, рамонт і догляд будынка не танна абыходзіцца?

— Блаславі цябе, Госпадзі! Зайдзі, калі я тут адзін буду, пагаворым…

Ігар ішоў і адчуваў, што яму стала лягчэй, здалося, з душы ўпаў груз. А можа, Ігар пакінуў яго там, у царкве.

* * *

Гарачыня не спадала. Пякло так, што, здаецца, плавілася паветра. Хмары з грымотамі, даючы спадзяванне на гаючы дождж, як заклятыя, усё ж абыходзілі вёску.

Ігар адзеў трыко, выгнаў машыну з двара на вуліцу, прыхапіў мыла, шампунь і паволі пакаціў да Нёмана. Трэба было змыць дзённыя клопаты, паплаваць, папялёхкацца ў лёгкіх хвалях і проста паляжаць тварам уніз на плыні вечнасці, каб адрынуліся і адступілі розныя турботы і хваляванні.

У Першым норце — а за паваротам Нёмана быў і Другі — на беразе ля лазняку стаяў матацыкл. Ігар скінуў красоўкі, распрануўся.

— Залазь, вада — як паранае малако! — выйшаў з-за куста Васіль.

— Дзень добры! — Ігар з разгону кінуўся ў ваду.

Трохі паплаваўшы, абодва вылезлі з вады, прыселі на абрыве берага.

— Скажы, Васіль, у якім класе вучацца твае дзеці?

— Адзін у чацвёртым, а малодшы — у другім.

— Не ўбачыш, як закончаць школу, будуць паступаць…

— Не хочацца пра гэта думаць, але час бяжыць. Кажуць, цяпер у большасці навучанне платнае, а не за кошт дзяржавы. А вывучыць хлопцаў хацелася б…

— А якім-небудзь бізнесам не хочацца заняцца?

— У нас бізнес адзін — лес. План нарыхтовак, падчыстак, пасадак… Можна б было, канечне, дровы вазіць людзям, але ж для гэтага трэба трактар. Дзе ж ты грошы возьмеш?

— Ведаеш, Васіль, не буду хітрыць, скажу адкрыта: я хачу, каб твая Вераніка нарадзіла мне сына ці дачку, — раптам сказаў Ігар, здаецца, нават нечакана і для сябе.

— Ты здурнеў ці з глузду з’ехаў?! — Васіль рэзка ўскочыў, атрос з плавак пясок.

— Ты прысядзь, не кіпяціся. Я ж не збіраюся з ёй спаць…

— Ну і жарты ў цябе... — Васіль прысеў.

— Ты ж, відаць, чуў жа пра сурагатных маці?

— Чуў і чытаў недзе… А што?

— Дык вось, я табе кватэру ў сталіцы куплю, трактар з прычэпам падару, легкавушку, ды і харчам памагу… І заплачу, вядома.

Васіль доўга маўчаў. Мабыць, думаў, што жартуе Ігар ці не. Ведаў, што Ігар багаты, на грошы не скупіцца, людзям добра плаціць, на царкву ахвяруе. І наогул... Ён жа. Васіль, як ні стараецца, а не можа зарабіць грошай, каб сям'я ні ў чым не мела патрэбы. Хлопцы растуць, трэба думаць, як іх далей вучыць — як бачыш вырастуць!.. Ды і ён даўно марыў пра трактар з прычэпам, легкавушку. А пра кватэру ў сталіцы — нават і не сніў...

А што да сурагатнага мацярынства, дык яно зараз, як кажуць, паўсюль пачынае працвітаць. Вунь знакамітасці гэтым хваляцца. І нічога: радасць тым, хто такім чынам прыдбае дзіця, ці дзяцей, і добра сурагатнай маці. За гэта ёй грошы плацяць. Праўда, ніхто не ведае, што яна адчувае, аддаўшы дзіця, якое вынасіла. Але, мабыць, не дужа маркоціцца: выношвае не сваё, а чужое. Выходзіць, робіць яна добрую справу, і мужу не здраджвае, і сабе.

— Тут, браток, не я рашаю, — нарэшце сказаў ён. — З ёй трэба гаварыць. Ці згодзіцца яна? Не проста ўсё гэта.

— Дык і пагавары. Дзіцё, як кажуць, з прабіркі, але ж — маё семя, мой працяг…

— А закон што кажа?

— Закон падтрымлівае. Відаць, трэба афармляць нейкія паперкі. Абыдземся без паперак, каб у вёсцы потым не пляткарылі. Даць жыццё чалавеку, а не злачынства здзяйсняць.

Ігар яшчэ хацеў сказаць, што закон можна і абысці, калі ўжо так, але стрымаўся: спалохаецца Васіль і тады яго ніякімі грашыма не ўгаворыш...

— Праўду кажучы, ты мяне ашарашыў, — Васіль устаў. — Пайду нырну, астуджу свае думкі.

Паплаваўшы з паўгадзіны, вылезлі на бераг. Калі Васіль адзеўся, Ігар працягнуў руку:

— Пагавары, Васіль, падумайце разам. Скажаш потым мне.

Пасля купання Ігару захацелася есці. Дома ён нацёр міску бульбы і цыбуліну, дабавіў дзве лыжкі мукі, узбіў яйка, пасаліў, а на скавурадзе падсмажыў з цыбуляй адвараныя грыбы, падораныя суседам: «Будуць дранікі — закачайся!» І праўда, дранікі атрымаліся смачныя. Ігар еў і ўспамінаў словы бацькавага напарніка: «Калі заміж слова «смачна» ты гаворыш «карысна», то ты старэеш». Можа, яно і так. Ігар не думаў аб гэтым, проста еў, пакуль не наталіў голад.

Лежачы на ложку, успамінаў, як некалі з бацькам блукалі яны па сасняках і ельніках, месячы кедамі верас і дзеразу, сноўдалі па беразняках, знаходзячы сляды ласёў і дзікоў. На дне кошыкаў сіратліва сумавалі пару дзясяткаў асавікоў і падбярозавікаў. І тады бацька падбіў яго заглянуць у лясок, што рос на ўскрайку жыта. І колькі было радасці, калі яны на гэтым астраўку знайшлі каля паўтары сотні баравікоў — сапраўдных, здаровых, адзін у адзін! Маці доўга дзівілася, нанізваючы грыбы на пруткі: такія нерушы не так часта трапляліся ў кошыкі такіх гарадскіх «прыблуд». Зімой сушаныя баравікі аздобяць вершчаку ці вараную капусту.

Нехта далікатна пастукаў у шыбу. Ігар прахапіўся, у цемры нагамі знайшоў тапачкі, прабег праз сенцы, адкрыў дзверы. Ля ганка стаяў Васіль:

— Яна згадзілася. Мы вельмі доўга гаварылі пра гэта. Што зробіш: трэба грошы. І табе будзе добра, і нам.

— Дык калі?

— З панядзелка Вераніка за свой кошт бярэ тыдзень адпачынку. Аналізы і ўсё астатняе, што для гэтага трэба. Я думаю, што сямі дзён хопіць.

— Падыдзіце заўтра ноччу да мяне. Выедзем, каб ніхто з суседзяў не бачыў. У вёсцы заўсёды ёсць злы язык. Нашто лішнія гаворкі і вам, і мне.

— Нават сыны не будуць ведаць…

— А з кім яны?

— Сястра дагледзіць…

Васіль моцна пацiснуў Ігару далонь, знік у цемры, як растварыўся.

Ігар скінуў трыко, лёг у пасцель, з палёгкай выдыхнуў. Ведаў: хутка пачнецца новае жыццё, новыя клопаты. Але ён не забаіцца, ён чакаў іх.

Хмара насунулася бязгромна. Кроплі дажджу забарабанілі па шыферы, касяком прайшліся па вокнах, зацурчаў капеж з даху. «Дзякуй богу, хай ідзе…» — падумаў Ігар і заснуў.

* * *

Васіль з Веранікай падышлі да машыны ў тры гадзіны ночы. Ігар адчыніў дзверцы, ціха шапнуў:

— Прашу! — сам сеў за руль. — А сумкі нашто?

— Адзенне, перакус… — Вераніка адсунулася на край сядзення, села якраз за спінай Ігара.

— У Мінску купім ежу. Цяпер маркеты кругласутачна працуюць, — Ігар павярнуў ключ, націснуў на газ. — Ну, з Богам!

Вёску праехалі ціха, не ўбачыўшы ў вокнах ніводнай святлінкі. Вёска моцна спала перад рабочым днём. Але пройдзе гадзіна, заднее і зарыпяць вароты, забразгаюць вёдры, закудахкаюць выпушчаныя з седалаў куры… Усё зажыве, загамоніць, пачне рухацца пяшком і на веласіпедах…

Ехалі моўчкі. Ды і пра што было гаварыць? Пра тую невядомасць, якая чакала іх, траіх? Што думае Васіль, аддаючы яму, Ігару, Вераніку? Аддаючы не фізічна, а маральна… А што думаў бы ён на яго месцы? Нават цяжка ўявіць.

Пасля раённага цэнтра пачало святлець. Роўнядзь дарогі супакойвала. Насустрач з уключанымі падфарнікамі імчалі легкавушкі, шумна праносіліся велізарныя «фуры», абганялі іх імклівыя «рафікі». Ігар не спяшаўся, бо ведаў, што праз гадзіну пачнецца прыгарад сталіцы. Ён вёў машыну, як кажуць, на аўтамаце. Вёў і ліхаманкава думаў: «Да каго звярнуцца? Куды ехаць?» І раптам успомніў: Антон Пятровіч! Бацькаў сябра па рыбалцы. Гэта ж яны ўдвух у выхадныя дні вырываліся на якое-небудзь возера ці рачулку, можа, каб не так налавіць рыбы для наедку, як адчуць прыроду, дыхнуць яе водарам, сфатаграфаваць вачыма і памяццю. Абое не прызнавалі невадаў, трыгубіц і валачкоў. Закон іхняй лоўлі быў суровы: толькі на вуду! Бралі тады-сяды на «вучобу» і яго, падлетка. Дзядзька Антон, калі ў вядры пялёхалася з дзясятак рыбак, раскладваў агонь, забіваў з бакоў яго палкі-вільчыкі, падвешваў на перакладзіну трохлітровы казан з вадой. У кіпень ён закідваў ачышчаную бульбу, галовы і хвасты рыбы, корань пятрушкі і прыправы, саліў, а ў самым канцы клаў у казан большыя кавалкі рыбы, сыпаў здроблены кроп. Але самым дзіўным было тое, што дзядзька Антон, перш чым зняць казан, садзіў на хвіліну ў варыва падгараны асмалак бярозавай палкі. На здзіўлены позірк Ігара ўсміхаўся ў вусы: «Так смачней…»

Антон Пятровіч — Ігар помніў гэта — працаваў у нейкай клініцы гінеколагам, на паўстаўкі быў хірургам, а пасля перайшоў у цэнтр экстракарпа-

ральнага апладнення. У які і дзе ён знаходзіцца — Ігар не ведаў... Але добра помніў, што ў тэлефонным даведніку яго хатні нумар ёсць. Таму і ўзрадаваўся: «Ён дапаможа!»

Па дарозе Ігар заскочыў у маркет, накупляў розных прадуктаў, узяў каву і чай. Праз паўгадзіны яны былі ля Ігаравага пад'езда:

— Будзьце, як дома! Не саромейцеся! — адкрыў родныя, знаёмыя да болю дзверы ў кватэру.

Перакусілі добра. Васіль яшчэ выняў з сумкі вялікі кавалак паляндвіцы і добры адразанец вэнджанага сала.

Ігар разгарнуў невялікую запісную кніжку з тэлефонамі і адрасамі, знайшоў патрэбны нумар, набраў па хатнім. Два гудкі і такі знаёмы голас:

— Слухаю…

— Добрай раніцы, Антон Пятровіч!

— Ігар, ты? Не веру вушам сваім.

— Я, Антон Пятровіч, і не адзін. Трэба ваша дапамога.

— Ты, галубчык, на парозе мяне злавіў. Ведаеш вуліцу Зялёную? Там мой камерцыйны цэнтр сурагатнай маці. Запішы мой мабільны, пазвоніш знізу, я выйду. Там і пагаворым.

Прыгожы вестыбюль цэнтра быў абстаўлены вазонамі. Вераніка з Васілём прыселі ў кутку на скураную канапу. Ігар набраў нумар тэлефона. Антон Пятровіч адказаў з першага гудка:

— Лячу кулём уніз!

Праз пару хвілін выйшаў высокі мужчына ў белым халаце. Ігар пайшоў насустрач: «Такі ж, амаль не змяніўся… Толькі галаву і вусы жыццё пасерабрыла да белізны…» Яны моцна абняліся:

— Ох, як ты вымахаў — асілак! Каб на вуліцы дзе сустрэў, не пазнаў бы… Ну, расказвай, што прывяло цябе сюды.

— Хачу, каб гэтая прыгажуня нарадзіла мне сына. Як кажуць, з прабіркі.

— А хто з ёй побач, — прыцішыў голас Антон Пятровіч, — муж?

— Муж, і ён ведае…

— Ну, калі так, то бярыце пашпарты, плаціце ў касу, а я бяру вас пад сваё крыло.

— Без праблем.

— За два дні вы з маладзіцай пройдзеце сур'ёзнае абследаванне. Асабліва яна. Тут — інфекцыйны і гарманальны скрынінг, пробы на трамбозы, ультрагук, кроў і многае іншае...

— А як народзіцца дзіця, будзеш выхоўваць свайго нашчадка: рэгістраваць, карміць, даглядаць… Дарэчы, мая Пятроўна цяпер на пенсіі. А яна ж акушэркай была, сотні родаў прымала. Калі што — падсобіць. За невялікую плату… Бачу, сумна ёй дома.

— Дзякуй вам, Антон Пятровіч!

— Тады стартуем… А каб ты ведаў, першае дзіцё на Зямлі нарадзілася дзякуючы такому метаду ў 1978 годзе ў Луізы Браўн. У дваццаць шэсць гадоў яна выйшла замуж і нарадзіла сына без дапамогі ўрачоў. Яе малодшая сястра таксама з'явілася на свет «з прабіркі», а потым ад мужа нарадзіла чацвярых дзяцей. Вось так, каб ты ведаў. А хлопчыка я табе гарантую. Ідзі, плаці і ўсе — да мяне!

Два дні Ігар з Веранікай снавалі па кабінетах, здавалі аналізы, праходзілі абследаванні. Васіль, як цень, неадступна хадзіў за імі. На пяты дзень медыкі зрабілі Вераніцы ўсё, што трэба было...

* * *

Ферма жыла сваім жыццём. Хлопцы спраўна рабілі сваю работу. Павышэнне заробку ў два разы прымусіла іх даражыць сваім месцам. Наташа паступіла на завочнае аддзяленне фінансава-эканамічнага факультэта. Усе заўважылі, як глядзеў на яе Іван, быццам на чароўную фею, часта забягаў у вагончык, дарыў ёй кветкі. Сідар недзе прастудзіў вуха, хадзіў у спякоту у цёплай спартыўнай шапачцы. Паўтарак бедаваў, што прапаў адзін голуб з яго галубятні: паляцеў з усімі і не вярнуўся.

Ігар жыў цяпер быццам бы нейкім двайным жыццём. Па-ранейшаму круціўся між калгасам і фермай, гойсаў ад вёскі да райцэнтра. Ноччу раз у тры дні тайком, як віж, заходзіў у леснікоў двор, ціха стукаў у шыбу, перадаваў пакеты з прадуктамі і фруктамі. Васіль аднекваўся, гаварыў, што ўсяго хапае, але Ігар настойліва паўтараў: «Будзе здаровая маці, будзе здаровым і дзіця». Перад самай восенню яны з'ездзілі на чыгуначны вакзал, куды прывезлі новы «Беларус». Ігар сказаў тады Васілю: «Прычэп я куплю табе ў калгасе. А ўсё астатняе, як Вераніка народзіць. Вер майму слову». — «Веру», — спакойна сказаў Васіль.

Вераніку Ігар амаль не бачыў. Ён не ўяўляў, што думае леснікова жонка, выношваючы яго дзіця. Ці ж лёгка гэта: дзевяць месяцаў хадзіць з яго сынам, спяваць яму песні, нават гаварыць, а пасля — гэта ж і яе кроў — нарадзіць і аддаць у чужыя рукі? Хоць і ў надзейныя, дужыя і працавітыя, але чужыя. Кажуць, дзіцё ўсё чуе і разумее, калі зараджаецца ў мацярынскім целе. Можа, і так. Але ж і яго гены перададуцца маламу, а, магчыма, і яго характар, яго падабенства. «Вясной — дай божа, — у красавіку Вераніка павінна нарадзіць».

Ігар павалі каціў на сваёй машыне ў раённы цэнтр: трэба было выкупіць вялікі ўчастак зямлі за вясковым аўтобусным прыпынкам. Аж цэлы гектар марнеў у самай сярэдзіне вёскі без усякага толку, як сказаў бы Паўтарак. Некалі тут, пасярод папара, стаяла велізарнае гумно дзеда і бабы Антоцкіх. Калі яны былі маладзейшыя, трымалі дзвюх кароў, гумно захоўвала сена і салому, слухалі, як на таку бухалі ўвішныя цапы, малоцячы жыта і ячмень, як шахала сячкарня, уцягваючы жалезнай зеўрай залацістую салому. Гады ляцелі, забіраючы сілы дзеда і бабы. Кароў прыйшлося прадаць, а гумно неяк раптам асунулася, спарахнела, сіратліва пазіраючы маленькім акенцам пад вільчыкам на чараду калгасных кароў, што брылі на зарэчны луг. Сельсавет сваім рашэннем знёс гумно, бульдозерам згладзіў зямлю. Падшыванцы-падлеткі прыцягнулі з лесу тры жэрдкі, паставілі вароты і кожны дзень гулялі ў футбол. А цяпер гэты папар пуставаў, чакаючы дбайнага гаспадара. І Ігар надумаў пабудаваць тут прадуктовы магазін, басейн з лазняй… Можа, і яшчэ што, толькі трэба пачаць, уцягнуцца ў гэты праект. Нехта правільна сказаў, што грашыма трэба кіраваць, а не служыць ім.

У райвыканкаме сустрэлі яго прыхільна: бізнес-праект ухвалілі, бо ўжо ведалі па ферме, што гэты нечаканы сяльчанін — не падвядзе. Новыя падаткі, рабочыя месцы і такія будынкі нікому не пашкодзяць. Ды яшчэ прынясуць гонар раёну і вёсцы.

Няспешна Ігар ехаў назад, любаваўся восеньскімі пералескамі, цешыў вочы рознаколернымі фарбамі, глядзеў, як па небе плылі бухматыя, ацяжараныя хмары. І калі восень перад хуткай зімой некага гняла, маркоціла, аточвала жаллівымі і сумнымі думкамі, у Ігара ўсё было наадварот: у яго галаве зараджаліся новыя планы і мары, мроіліся нечаканыя задумы… Гэтак жа на зарунелым полі прадбачыўся новы ўраджай, так жа ў барвова-жоўтых дрэвах, у пабурэлых цаліках зямлі зараджалася новая вясна, будучае жыццё…

На ферме яго сустрэў Сідар з граблямі:

— Іванавіч, радуйся!

— Сяргей Сідаравіч, дай уздыхнуць, а то ад навіны яшчэ прытомнасць страчу. Ну, гавары…

— Паўтары сотні нашых трохгодак вясной ацеляцца.

— Хто сказаў?

— Ветэрынар. А ён не падмане.

— Праз месяц сотню цялушак здаём у калгас. Трэба ж за кармы, тэхніку разлічыцца. А паўсотні самі прададзім. Вось і будзе месца для цельных кароў. А калі што — дабудуем кароўнік.

З варот выйшаў Паўтарак:

— Я доўга думаў і вырашыў: у барацьбе сэрца з мазгамі заўсёды перамагае жывот. Таму і нам пара перакусіць. Так, Іванавіч? А то кішкі марш іграюць.

— Няма больш урачыстага гімна і марша, чым лепет дзіцячых губ, — Ігар усміхнуўся.

— Іванавіч, не веру! — Паўтарак прысеў на лаўку. — Нешта ў лесе вялікае здохла, што вы пра дзяцей загаварылі. Дык мо і вяселле хутка? А то — «буду адзін, адзін…»

— Прывычка да халасцяцкага жыцця не перадаецца па спадчыне. А вяселле, як Сідаравіч кажа, не пройдзе і паўгода… Праўда, трэбы сустрэць яе, адзіную.

— Іванавіч, сама сустрэнецца. Вер! А то Маня Лёпкава, калі пра цябе загаварылі, аж плюнула: «Багаты, нежанаты…»

— Калі табе плююць у спіну, значыць ты — наперадзе. А вяселле? Калі-небудзь абавязкова згуляем. Верце, хлопцы.

— Мы і не сумняваемся, — Сідар граблямі адкінуў каменьчык. — Галоўнае, што ў душы чалавека адбыўся нейкі паварот.

* * *

Зіма нахлынула неяк нечакана. Памяняўся вецер, ударыў мароз, скаваўшы зямлю, а пасля пайшоў густы, разлапісты снег, укрыў лес, луг, вёску… Так і праляжаў ён, пакрэмзаны коламі машын і слядамі людзей, пералінаваны лыжамі дзяцей і лясных бадзяг-паляўнічых, не пераплаўлены сугрэвамі адлігі. Знянацку рана, у сакавіку, рынулася на зямлю і вясна. Схлынулі ў Нёман снягі, разводдзем затапіўшы шырокую пойму. Казалі старыя людзі, што пасля такой вады летам у рацэ будзе многа рыбы.

Ігар прыехаў у Мінск, каб завізіраваць паперы на будаўніцтва. Як-ніяк, а, відаць, чыноўнікі перастрахаваліся, не ўзяўшы адказнасць на сябе. Ды яму і не прывыкаць: чым болей подпісаў, тым болей адказных, лягчэй схавацца сярод іх першаму. Хаця, па вялікім рахунку, адказны ён, адзін, Ігар. На яго плечы ляжа гэтая будоўля, дызайн, тэрыторыі вакол будынін. Будуць яго тузаць пажарнікі, санстанцыя, аддзел будаўніцтва, сельсавет, адшукваючы агрэхі, але гэта — дробязі, якія трэба прайсці, і без гэтага, каб усё было як трэба, нельга.

Паперы падпісаў зычлівы загадчык будаўнічага аддзела адной важнай установы, пацiснуў руку і выдыхнуў: «Маглі б і самі…»

Ігар выйшаў з шырокіх дзвярэй, зірнуў праз плошчу на родны ўніверсітэт і вырашыў памалу прайсціся пяшком дадому. Машыну ён учора вечарам прыпаркаваў ля свайго пад’езда. Ступіў на тратуар, прыпыніўся, яго абмінулі

дзве дзяўчыны, прыгожа адзетыя, гаварлівыя. Раптам нейкая вышэйшая сіла штурхнула яго: «Ідзі!» Хоць было і не ў характары Ігара знаёміцца на вуліцы з сустрэчнымі дзяўчатамі, але на гэты раз, здаецца, нешта звышмагутнае павяло следам, быццам незвычайны магніт з неверагоднай сілай прыцягваў і клікаў яго. Ігар дагнаў дзяўчат:

— Ці дазволяць пекныя пані правесці іх дахаты?

— А мы і не супраць, — адкінула светлую грыўку валасоў трохі паўнаватая прыгажуня, якая ішла справа.

Тая, што была злева, страсянула смоллю чорных валасоў, строга зірнула на яго карымі вялікімі вачыма і прамаўчала.

«... з нашага цыганскага роду...» — міжволі ўспомнілася даўняе цыганскае гаданне. — А калі гэта наканаванне?»

Не паспелі прайсці і ста метраў, як на прыпынку спыніўся аўтобус. Дзяўчаты зайшлі ў яго, Ігар — следам. Убачыў, як яны здзіўлена пераглянуліся. На наступным прыпынку дзяўчаты выйшлі, Ігар таксама:

— Мяне Ігарам бацькі назвалі трыццаць гадоў назад.

— Таня... Вельмі прыемна, — працягнула руку светлая і ўсміхнулася.

— Алёна, — абыякава назвалася чарнявая.

Ігар зірнуў на вуліцу і пазнаў: Маскоўская! Вуліца, дзе ён чатыры гады вунь у тым трохпавярховым будынку праходзіў азы ваеннай навукі. Адсюль яны, студэнты, з ваеннай кафедры ў вайсковай форме на крытых машынах выязджалі на палігон, вучыліся вадзіць цяжкія «УРАЛы», стралялі па мішэнях з аўтаматаў. Гэта тут ён налаўчыўся з закрытымі вачыма разбіраць і збіраць аўтамат. Адсюль пасля чацвёртага курса яны з'язджалі на два месяцы на ваенныя зборы пад Бабруйск. Тут... За дваццаць метраў ад кафедры за дашчаным плотам высіўся пяціпавярховы жылы дом, у двары якога прытулілася гарадская лазня. Менавіта ў гэты дом ішлі дзве сяброўкі. Светлая зазыўна глядзела ў вочы Ігара, гучна смяялася, а ля вугла дома спыталася.

— Адкуль жа вы, такі маўклівы?

— З лесу, — усміхнуўся Ігар.

— Там усе такія мядзведзі?

— Не, я адзін.

Ля пад'езда Ігар дакрануўся да Алёнінай рукі.

— Можна затрымаць вас?

Алёна бліснула на яго вачыма, здаецца, усё цела працяло токам, сказала:

— Можна... — яна расхінула сумачку, аддала ключы ад кватэры Тані, дадала: — Я зараз іду.

Ігар чуў, як па лесвіцы зацокалі абцасікі Алёнінай сяброўкі, глянуў у цыганскія вочы:

— Вы, Алёна, даруйце, што я там, на вуліцы, прыклеіўся да вас. Гэта першы раз. А мо і апошні...

Алёна страсянула прыгожымі кучарамі, упершыню ўсміхнулася:

— Не караць жа вас за гэта...

— Паверце, нейкая сіла штурхнула мяне на гэта. Можа, Божая...

— Вы не толькі мядзведзь, але і вялікі, аказваецца, хлус.

— Алёна, я чатыры гады вучыўся на ваеннай кафедры, хадзіў некалькі разоў у вашу лазню і ні разу не бачыў вас... І ўсё ж сустрэў...

— Ну, гэта выпадкова.

— Выпадковасцей на свеце не бывае. Недзе я чытаў, што нават шчаслівыя сем'і складаюцца на нябёсах.

— Можа, і праўда... Дарэчы, хто вы?

— Я — не мядзведзь, хутчэй воўк-адзінец. Бацькі загінулі ў аўтакатастрофе. Братоў і сясцёр няма. Кім працую? Трымаю ў вёсцы трыста рагатых галоў. Адным словам — фермер. Жыву там жа — на прыродзе.

— Мае карані ідуць таксама з вёскі…

— А праца — калі не сакрэт?

— Санстанцыя…

— О, чаго ўсе баяцца!

— Нас не баяцца, а слухацца трэба.

— Я гатовы, хоць да канца жыцця.

Алёна закінула сумку на плячо, даўшы зразумець, што ёй пара ісці.

— Я не хацеў бы, каб гэтая сустрэча была апошняй. А можа, гэта — наканаванне?

Ігар запісаў нумар Алёнінага тэлефона, працягнуў ёй сваю візітоўку:

— Калі вам захочацца зірнуць на мае лясныя ўладанні, я і мая машына гатовы прывезці вас у наднёманскую казку.

* * *

Суд адбыўся ў маі, перад самым днём Перамогі. Для яго бацькоў гэта было самым вялікім святам. Гэтая памяць перадалася і яму, Ігару. Працэс прайшоў, як у тумане. Выступалі следчыя, адвакат і пракурор, доўга гаварыў Антон Пятровіч, пра жыццё і працяг сказала яго жонка, Марыя Пятроўна, далі згоду Вераніка з Васілём… Як ні дзіўна, яго падтрымалі органы апекі, вядомыя псіхолагі і журналісты… Гучалі лічбы, прыводзіліся прыклады, пералічваліся аргументацыі і довады… Ігар чуў гэта, як у сне, і толькі адна думка пульсавала балюча: «Хаця б не забралі… Хаця б не забралі…» Вобмельгам убачыў, як выцерла слязу Алёна, паказала вялікі палец: «Не хвалюйся, усё будзе добра…»

Суддзя, высокі, плячысты, у чорнай мантыі, быццам вытачаны з чорнага граніту, падняўся:

— Устаць, суд ідзе!

Ігар, як праз мроіва, слухаў пералік артыкулаў і думаў аб іншым: якое прыгожае імя даў ён свайму сыну — Глеб! Глеб Ігаравіч! Ад зямлі, ад глебы. Ад самага дарагога сялянскага здабытку — хлеба. Яму быць яго працягам на роднай зямлі, яму некалі жыць дзеля адвечнага хлеба, каб новыя радаслоўныя лісткі і галінкі адрадзіліся на дрэве іх жыцця…

«Хаця б не забралі…»

— …за парушэнне артыкула…

Ігар ужо не чуў далей, не слухаў, нумар артыкула, ён ведаў, у чым вінаваты: у тым, што раней, як і належыць, не заявіў у адпаведныя органы пра свой намер займець дзіця такім чынам, не аформіў як след усё дакументамі.

— ...выплаціць штраф памерам у дзесяць базавых велічынь…

У графе «маці» паставіць прочырк. У графе «бацька» запісаць: «…Ігар Іванавіч».



Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

# А МЫ КАХАННЯ СЦЕЖКАЮ ПАКРОЧЫМ…

## ПРАЛЕСКАВАЕ

Тут царства цёплых летніх навальніц,
Язмінава-святочнае зіхценне,
І смак пунсова-сонечных суніц,
І яблыняў зялёнае адзенне.

Тут аглушальна-гучны птушкаспеў,
Што дзень і ноч лунае ў паветры…
І слодыч вуснаў… Быццам неспадзеў
Яго адчуў, бы подых-дотык ветру…

* * *

Мы пройдземся па набярэжнай Ялты.
Нам усміхнецца сонны Аю-Даг.
Вясёлы месяц — чараўнік і маг —
Падорыць нам сцяжынку.
                                        І напятай
Стралой-лязом падасца гарызонт.
І да яго мы па зіхоткім срэбры
Пакрочым разам.
                        Наш дзівосны сон

---

*__Пятровіч Дзмітрый Леанідавіч__ нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў г. Заслаўе Мінскай вобласці. Скончыў музычна-педагагічны факультэт (1996), факультэт беларускай філалогіі і культуры (2009), а таксама магістратуру (2011) пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Працаваў настаўнікам, вядучым стылістычным рэдактарам газеты «Звязда». Зараз — вядучы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі «Белая квецень кахання» (першае выданне — 2001, другое, дапоўненае — 2013), «Адзіноты пажоўклыя лісты» (2014), прозы — «Белая Жанчына» (2012). Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Лаўрэат прэміі «Залаты Купідон» (2013).*

Асветліць пацалунак крымскай цемры.
І эльфаў спеў расквеціць цішыню,
І месяц згасне ў стомленае ночы —
Каб пакланіцца сонечнаму дню…

…А мы кахання сцежкаю пакрочым.

* * *

У жніўні лета дагарае
У разнаквецці летуценняў.
Былога шчасця блікі-цені
У вечаровым сне блукаюць.

Ружова-сонныя аблокі
Ў святле дзівоснае зары
Шукаюць свой Эдэм далёкі,
Каб нам натхненне падарыць,

Каб час лісцёва-завірушны
Наладзіў свята цішыні.
Бо восень не бывае скрушнай,
Калі душой ты — ў летнім дні.

Калі азяблыя чаканні
Аблашчыць сонны снегапад —
Зімовай казцы будзеш рад,
Нібыта першаму каханню…

* * *

На халоднай сцяне —
два цені.
Таямнічай любові
танец.
Захмялелая ноч
дурманіць…
Рухаў, словаў
хітраспляценне…

Ночы шэпат-замілаванне…
А на шыбінах —
кужаль снежны.
Цені два…
Тут жыве каханне.
І няма ўжо
ні сцен,
ні межаў…



**Галым ЖАЙЛЫБАЙ**

# ЧОРНАЯ ХУСТКА

*Паэма-рэквіем*

***Не застаюцца безадказнымі***
***і кепскія ўчынкі, і добрыя ўчынкі.***
Ахмет ІГУНЭКІ

***Верце не таму чалавеку,***
***які знайшоў праўду, а таму, хто шукае яе.***
Андрэ ЖЫД

*Найбольш вялікая частка ў структуры ГУЛАГа — Карагандзінскія выпраўленча-працоўныя лагеры (Карлаг), заснаваныя 19 снежня 1931 г. на базе саўгаса «Гігант», які падпарадкоўваўся АДПУ-КазВПЛАГ. Цэнтр знаходзіўся ў вёсцы Далінка Карагандзінскай вобл.*

*У 1939 г. Карлаг па колькасці асуджаных заняў дзявятае месца ў СССР сярод 42 лагераў НКУС.*

(З крыніц)

*Калі ў месцах зняволення і турмах, падпарадкаваных Галоўнаму ўпраўленню лагераў НКУС СССР, знаходзілася каля 4 мільёнаў асуджаных, то больш за 1—1,5 мільёна з іх прайшлі праз Карлаг. Увогуле, калі ў складзе ГУЛАГа быў 61 лагер, то Карлаг — адзін з найбуйшейшых.*

(Д. Шаймахунаў, С. Шаймахунава «Карлаг»)

## КАРАГАНДЗІНСКІ ЛАГЕР

Спыніцца трэба тут,
сваю ходу спыніць,
жалобных каб падзеяў
нам нітку падхапіць.
Зямля Алаша,
кроўю рэк бруіць.
Пакуты, боль няўжо
не пераажыць?
Але спяшаемся:
жыцця віхуры, тлум.
Здаецца, лагер быў,
Карлаг? Ці проста шум?

Ні фанабэрыстай паненцы,
ні табе, лайдача,
дзе тоне род твой быццам у вадзе,
Не адпіхнуцца ад мінулага.
Паўсюль
крывавы след гаворыць пра сябе.
Не, не заўжды
квітнеў мурог Сары-Аркі[1] —
Тут кроў цякла па венах
рэчышча ракі.

І човен роспачы ў пустэчу адплываў.
Дваццатае стагоддзе,
кат ім кіраваў.
Пад караганнікам тваім,
зямля Карлага,
Шкілет, вантроба ненажэрная дзяржаў.
Ладдзя сляпая і пагэтуль тут плыве,
І мы таксама,
тут блукаем у імгле.

Няхай міне і зло, а слёзы ўсё цякуць.
І вось прыйшоў ужо
нібыта
Божы Суд.
Зямля ўся плача
у жалобе з Казахстанам.
І я смуткую,
толькі цень Карлага тут!
Са мною кожнае імгненне,
кожны крок.
Архіпелаг
дваццатага стагоддзя —
змрок.

Драпежны, чорны цмок,
мая Караганды!
Зямля спявае калыханку праз вякі.
Тут дзеці Сталіна
палеглі назаўжды,
Тут заміралі сэрцы,
млелі кулакі.
Палеглі людзі,
на таку галовы клалі,
Душу ад цела веялі,
касцямі засявалі.

Мой аргамак,
мой вольны конь у стэпах рос,
Гаворыш:

стомлены пустэчай завірухі?
Пустэльняй
мёртвых костак,
вадаспадам слёз?
Загінуў блізкі чалавек:
такім быў лёс.
Ты не знайшоў яго магілы,
аргамак.
Адзін палын наўкол,
адзін сухі ціпчак.

Карлаг — музей.
Стаіць там Сталіна вагон.
Да гэтае пары
ў крывавых плямах ён.
Тут косткі пакалення —
не спіць маё сумленне.
Пытанне цяжкае:
мінулае — не сон.
Але што ведаем мы
пра мінулы час?
Карлаг журботны —
эпас сумны, боль і жах.
Рака Ішым,
рака Нура галосяць зычна,
Блізняты вы мае,
мой твар ў слязах.

Ільецца мая кроў
з адкрытых болем вен,
І ветру стэпаў
падпявае жэтыген[2].
Асірацелы вецер
плача над «Алжырам»
«Жаланашколь»[3] тут уздымае
чорны тлен.
Крычыць ў «Кенгіры»,
вязням ставіць мат.
І расплятае ў скрусе валасы «Стэплаг»[4].

І расплятае ў скрусе валасы «Алжыр»,
І расплятае ў скрусе валасы «Кенгір»,
І расплятае косы,
лямантуе боль —
І распускае косы
мой «Жаланашколь».
І лебядзінай песняй
прыгажуні смех
Адрынуўся і стаў Карлагам шэрым,
Смяротнай карай,

быццам шчасце —
грэх.

Рагоча д’ябал,
рассыпае костак мех.
Жаўцее млосна Сарысу[5].
І Кактэнколь[6]
Раскінуў рукі
ў скрусе да нябёс.
Ад слёз людзей
ўзыходзіць стэпу соль.
Спявае, плача жэтыген
бы ветру боль.
У д’ябла злосны твар —
смярдзючы гной.

Ляцяць аблокі навальніцы
над Карлагам.
Ты — пляма чорная,
стагоддзя ты ЗМРОКЛАГ.
Жахлівымі вачамі
ты глядзіш, мярцвяк.
Даруйце, маці!
Браце мой, даруй наш дом!
Магілы блізкіх
нібы ў горле камяком.
У селішчы пустым.
Дваццатае стагоддзе,
на галаве тваёй,
бы цемень пусткі,
Карлаг чарнее —
удовінаю хусткай.

* * *

Ад ветру, што спявае ў Сарыбелі[7]
Праз стэп я чую песню «Ерым-Ай»[8].
То калыханкі хісткія арэлі
Гайдаюць сумных дзён
У хмарах родны край.

Жалоба тут.
Сумуе цёмны гай.
І слушнае мясцовасці пытанне:
«Кабыз[9], на струнах смерці ты зайграй».
Кабыз спявае, што тут ратавання
Няма. Тут лёс кідае ў сэрца жвір.
Ад лёсу не схаваешся нікуды.
Спявай, Кабыз. Жалобнай песні вір —

То слёз ручай:
Не спыніцца ні на секунду.

Спявай, Кабыз, пра чорны лёс,
Калі гады я тыя ўзгадаю,
то раз’ядае вочы
соль гаротных слёз,
то жахі маё сэрца раз’ядаюць!

І зноўку прачытаю ў кнігах я
Шматдумных тых
Пісьмёны хцівых,
развагі ўсіх разумных.
Я чую спеў салодкі птушак
у клетцы
Натоўп бяздумных так
Ілжу глытае без прымусу.

…Патоп мне сніўся
І шматплынныя ручаі…
Праз шумную раку
Тут на арбе[10]
Правозяць рэчы,
неабходныя звычайна:
З гор Каратаў народ ідзе.

І раптам пасярэдзіне дарогі
Спыняе лёс качэўнікаў хаду
Ну што рабіць:
не простая трывога,
То цёмны лёс,
І я за ім іду.

Калі б разумным быў
І ў словах ты, і ў справе,
Ты б папярэдзіў усіх
Пра гэтую бяду.
Калі ж не дасягнуў жаданых мэтаў,
Не ўтрымаў жыцця хаду,

Якім твой быў апошні сказ
І словы развітання?
Не будзе ўжо спаткання.
Усе смяротныя,
Усе сыходзім на світанні.
Усе сыходзім мы
У сташны чорны дол.

«Прыгнечаныя дні
Пакорнасці навучаць».

То прыклад марны
для стадолы быдла.
Не быдла мы, а стэпаў вучні.
— Гэй, гэй! Сары-Арка! —
Гучыць маё прызнанне.

Качэўнікі брыдуць пад сонцам палкім,
Уражаныя развітальным сумам.
За пераваламі
Саланчакі, барханы
у перамешку з міражамі.

Самец-вярблюд, хістаючы гарбом,
Здаваўся аргамакам мне здалёку,
І белы горб, бы белай птушкай зноў
Спявае з вышыні мне незнарокам:

«Пажоўклы перавал Сары-Аркі
Абылай-Хан[11] не здолеў перайсці.
І тыя землі бачу я ў трывожным сне:
Мой стэп бясконца-шэры
У журбе.

Світанак плыў:
мой аксаміт лагчынаў.
Тут у цясніне кожнай
мог знайсці сардар[12]
Прытулак.
І па звычцы,
што з даўніны,
Ласункаў шмат —
вячэры шчодрай дар.

О стэп мой!
Быў ты ясным сонцам
Цяпер зямлёй магілаў стаў.
Ты кроў аблізваеш бясконца.
Я ненажэрны час
не здолею забыць,
Смерць косіць усіх да долу.
Не мае літасці да маладых…

Хачу звязаць парваную я нітку…
Злачынца той, хто біўся за Яік[13]?
Хто на Едыль[14] ішоў
ваярскім чынам?
Змагаўся хто за мару —
ну няўжо бандыт?

Калі ж наш час загоіць раны?
У смутку і журбе смяротны чалавек.
Глыталі бездань,
навальніц атрамант,
Ручай салёных слёз,
магіл начных шкілет.

Здавалася, што тое вечна будзе,
Свет паслізнуўся,
белы горб вярблюда
На хвалях мора-стэпу тоне
у імгле.
Дваццатае стагоддзе
усіх бязвінных судзіць
І падмінае жорнам пад сябе.

Журботы, скрухі, стогн
да нас даходзяць
З забытых некаторымі часоў.
Карагандзінскі лагер,
Ты не проста КАР[15]ны лагер,
ты змрочны пыл узводзіш.
ЗМРОКЛАГАМ паўстаў сярод вякоў.

Адлегласць вымяраецца
крывавым крокам
Пакутнікаў тваіх мой Казахстан:
і рускага,
і немца,
і яўрэя,
і сына стэпаў, Сарыбелі і Сары-Аркі.
І птушка незнарок
спыняецца ў імгненні,
да долу падае
ад смерці
куль.
А наша песня
зноў не застанецца збоку.
Мы Рэквіем жалобы заспяваем,
Наш Рэквіем вышэй за культ.

Над Казахстанам кветкі заквітнеюць.
І грамада людзей,
я веру:
жалобе стэпавай аддасца,
А не пачварам, самі што не чуюць,
пачварам без вушэй,
без племені і роду.

палын, кавыль, ды спеў кізіла,
быццам маці,
захоўваюць пячатку моцнага народа.

І ў Карабасе[16]
з вышыні палёту
птушынага
я чую спеў Кабыза,
і як паўночныя сумёты
халодным болем
акрываўлены хмызы.

## БРАМА КАРЛАГА

У Карабасе
шыбеніцаў цень гайдае вецер.
Да долу голаў тут хілілі
за кавалак хлеба.
У Карабасе зараз
след злачынстваў не прыкмеціш:
Панурая гарыць зямля пад нашым небам.
Пілі тут каты шмат людской крыві.
Мы тут з табою, дружа, не жылі.

Мінулае тут парасло быллём.
Багацце нетраў, выкапняў карысных
вядомае найперш.
Ды пеклам скрозь
пакутнікаў
зрабіўся Стэп вялікі.
Перон вакзала.
Гул шматлікіх ботаў.
Сабакі брэшуць на высокіх нотах.

Стагоддзя пляма…
Трызніць Карабас,
заплюшчыў ён каменныя павекі.
Каныртабе[17] ў дрымоце сумнай згас.
Стагоддзя слёзы льюцца нібы рэкі.
Шэрубай-Нура[18],
у слязах,
крычыць:
«Ты смутак мой вазьмі!»

Квітнее лог Сары-Аркі,
Квітнее і жыццё,
дык радуйся, жыві.
Але ты ведай, што стагоддзя сваркі
Тут плямай канцэнтруюцца крыві.

Тут цэнтр бяды,
стагоддзя сум,
Што паглынае шэры тлум.

Няма ні вязняў
У Карабасе,
ані катаў,
І шыбеніцы згнілі, толькі цень
Мінулага гайдаецца ў бакі
бы полымя,
нібы заўзятар.
Тут плямай чорнай засмучае дзень.
Мой Карабас,
ты вытрываў, Алаш.
Магілы без імёнаў —
смутак наш.

## КЮЙ АХМЕТЖАНА САРМАНТАЙУЛЫ «58 АРТЫКУЛ»[19]

Смутку, скрухі часы…
Як матулі сівой валасы
Цяжар, плач, галашэнне —
Чорная хустка маці.

Слова не верабей.
Вылеціць — не спаймаеш.
Але, калі ворагаў маеш,
Слова куляй заб’е.

«Спёка растопіць снягі.
З выраю птушкі вярнуцца.
Гусі крычаць:
«Га-га-гі».
Вернуцца з выраю гусі», —

Домбра спявае мая
Песні вялікага смутку.
Нібы жабрак без абутку,
Крочыць нядоля мая.
Сонца
доўгага дня
я не забуду.
Струны крану я рукою,
Домбра, ты мой спадарожнік,
Сумныя песні
з жалобнай тугою
Ціха ліюцца на струнах.

Гэй, не сумуй, я спяваю!
Гэй, я схаваю свой боль!
Зараз не час для адчаю:
У міску атрутнай змяі
Я малака наліваю.
Маеш праўду ці не,
Гора цябе абміне?
Сівы ты ці малады:
Злічаны ўсе гады,
І невядома:
застрэліць ці не
Гром у гарах
на глухім перавале.

Плачуць, смуткуюць струны,
Доўгай мелодыі рэчкі.
Песня мая —
стэпу зялёнага рунь.
«58 артыкул» —
бясконцыя труны
ахінулі слязьмі
у пустэчы…

## КЫЗЖЫЛАГАН[20]

Сумуе вецер, стогне ён ад болю.
Сумуе дзень, бы звон гудзіць.
І тут, на беразе «Жаланашколя»
Дзяўчына плача горкімі слязьмі.

Грудное малако,
каб не сцякала,
быццам слёзы,
хусткаю падвяжа
дзяўчына маладая.
Тут лагер жонак.
Тут бязлітасныя каты.
«Жаланашколь»
за мурам пахаваны.

Сумуе вецер, стогне над «Алжырам»
І хутка насцігае навальніца.
Кызжылаган гаротны сёння сніцца,
Дзявочых мараў высахла крыніца.

Тут жонкі, маці распусцілі косы,
І трызніць рэха іх самотны стогн.
Дваццатае стагоддзе пад адхонам.
Але завеяй далятае боль.

Тут лепшых доля смутку захлынула:
Рахіль Плісецкая[21],
Кульджамал Майліна[22]
галовы пахілілі.
Турара Рыскулава[23] жонка
У слязах хавае боль і жаль.

Пяшчота, прыгажосць —
усё дарэмна,
Пажарам паглынулася Зямля.
Зламанае крыло:
Тут лебедзь памірае,
Сцякаючы крывёю спакваля.

Там лебедзь не жыве,
дзе высахлі азёры,
Там песні не гучаць,
дзе жаль нас паглынуў.
Дзе чалавечы род
нясе з сабою гора.
Дзе маці
чорнай хусткай
смутак ахінуў.

На могілках стагоддзя
ціха вецер шэпча…
Калі былі ў пашане
й здрада, і падман,
Нас не было тады…
Але наступствы
той катастрофы
Стэп мой захаваў…

Кызжылаган…
Крумкач ляціць над пустазеллем,
Зямля пад соллю ад дзявочых слёз.
Кызжылаган…
Кызжылаган…
Жалоба вечна.
І помнік,
і малітва слёз —
Жаланашколь.

## КАРЦІНА ІРЫНЫ БОРХМАН «ПЕРАПЫНЕНЫ ВІЗІТ»[24]

Пануры луг, бо вецер вырваў травы,
Спаліў да долу сухавей.

І свішча вецер, чорнай смерці брамнік:
Стэп знішчыў ён, здавалася б, навек.

Прысуд няўмольна ў дрэва раптам цэліць:
Дрэва самоты, веліч сярод Стэпу…
Прыгожага мастацтва
згаслі фарбы
у завеі.
Сцякаюць акварэлі пад дажджом…

І Штарнберг[25], горад маладосці паўстае
у цяжкім сне,
І плача вецер-немаўля.
Губляла бы крыніцу шчасця
зрок Ірына.
Губляла як адзінае дзіця.

Кустоўем задзічэлая
Зямля — як завіруха —
для цябе.
І чэзнуць дрэвы.
Голад. Скруха настае.

Дарога ў Стэпе.
Ад радзімы заблукала.
І шлях твой проста пад адхон.
Як дрэва,
што ад ветру і пажару
тут сканала —
Чорны дол.

Як свет убачыць з цёмнае вязніцы?
Не перасохнуць?
Стаць адной з магіл?
За восенню зіма:
лёд на крыніцы.
Снег выпаў,
шлях дадому перакрыў.

Выгнанне.
І асуджаны з табою
твой талент.
Вязні зараз вы.
Агонь у «Прасторным» запалілі.
Ён попельны. Ён страта ўсіх надзей?
Імгла бясконцая.
Лёд на вадзе.
А «Перапынены візіт» — твая карціна:
карціна страты.
Ці спадзеў?

## МАГІЛА «МАМАЧКІНА»

*У гэтай магіле пахаваны целы жанчын і дзяцей — вязняў Карлага. Магіла знаходзіцца на тэрыторыі пасёлка Жартас Абайскага раёна Карагандзінскай вобл. У Карлагу разам з абвінавачанымі дарослымі знаходзіліся дзеці «ворагаў народа». Нованароджаных забіралі ад сваіх маці і здавалі ў Дзіцячыя камбінаты. У Карлагу існавала сем такіх устаноў. Згодна з архіўнымі дадзенымі, смяротнасць у Дзіцячых камбінатах была вельмі высокай. Напрыклад, у 1941—1944 гг. загінула 924, а ў 1950—1952 гг. — 1130 дзяцей.*

Хто адкажа за тыя злачынствы?
Смех дзіцяці
глынуў жорсткі век.
У Карлагу чынілі бясчынствы.
Як вярнуць зараз праўду? —
Скажы, чалавек.

Калі ў небе груган заклякоча,
Я дзіцёнка пабачу заўжды.
У магіле тварам да долу:
Надзеі смерць без пары.

Сёння дзеці шукаюць расліны —
Дар вясновых зялёных лугоў.
Сад не вырас.
Зламаны галіны.
Навальніца грукоча наноў.

Сярод могілак раптам пачую
Спеў дзіцячы нібыта ў сне.
Думы цяжкія не адпускаюць.
Думы страшныя не абмінеш.

А стагоддзе злачынстваў мінула.
І знявечыла ўсіх нібы звер.
Пралетарыяў казкай гарнулі
У «светлы шлях».
Але дзе ён цяпер?

І чаму пралетарыі спалі,
Калі гінулі мары дзяцей?
Дзе «адзінства», калі выракалі
На смеротны прысуд
без надзей?

А ў паветры зараз яскрава
Свецяць зоркі для іншых людзей.
Слёзы маці.
Слёзы дзіцяці.
Гэта могілкі ў Жартасе.

Бог пачуе вашыя слёзы,
Бо сюды мы прыедзем не раз.
«Мамачкіна» магіла —
Край няўмольных пакутаў — Жартас.

## ГАРМАНІСТ. 1973 ГОД

Мая стэповая айчына,
у вачах тваіх,
у начах тваіх,
мая Караганды,
Зялёныя калючыя ажыны
Цямнее боль мой назаўжды.

Малай-татарын заспяваў рэчытатывам,
Ён словы горкія
дэкламаваў.
Яго гармонь журботнымі матывамі
Іграла рытмы
бы густы паркан:

«Белая сцюжа навокал…
Як жа мне дом свой знайсці?
Хоць бы адным сваім вокам
Убачыць і падысці!

Цямнее ў снягах Майкудук.[26]
Калі ж дапаўзем
да цябе,
Пацісну руку я,
мой друг.
Мы свечку запалім
у імгле.

У Жартасе знайду я курган,
Там паўмесяц будзе стаяць.
Чарнейшы ад ночы груган.
І маці ад смутку не спяць…»

Глядзелі мінакі на хлопца
І слухалі няўцешны спеў.
Дажджамі стэпавымі спорнымі
Аблокі пралівалі іх прыпеў.

Сырымі баракамі
замораныя дзеці.
Ці чуеш ты гэты плач?
Зняволеныя і скамечаныя
Гурбою жыццёвых няўдач.

Плача гармонік.
Хлопец спявае.
Песня шчымлівае сэрца кранае.
Жорсткая праўда.
Цярністы шлях.
У хаты сарваны дах.
А музыка
аб шчасці не дбае.
Ён жа не вязень. На клавішы цісне.
Ён — сын Карлага.
Мастак. Гарманісты.

## КАМЕННЕ І СНЯДАНАК

*«Аднойчы раніцай, зімою, мы ішлі з Жаланашколя і цягнулі на спінах звязкі чароту. Па дарозе сустрэліся бедна апранутыя мясцовыя людзі. Побач з імі ішлі дзеці. Дарослыя, што нас пабачылі, нешта сказалі дзецям, і дзеці адразу пачалі кідаць каменне ў наш бок. Канвойнікі сказалі: «Вы заўважылі, што вас ненавідзяць не толькі ў Маскве, вас ненавідзіць усё чалавецтва!» — і пачалі гучна смяяцца. Асуджаныя жанчыны здзіўляліся: «Ці гэта выхаванне, якое яны даюць дзецям?»*

*Я ўпала, спатыкнуўшыся, аб адзін з гэтых кінутых у нас каменьчыкаў, і быццам пачула пах малака і твярагу. Калі адкусіла кавалачак ад каменьчыка, ён падаўся такім смачным — язык праглынеш. Карацей кажучы, назбірала я каменьчыкаў і прынесла ў барак. Казахстанскія жанчыны ў бараку патлумачылі, што гэта не каменне, а высушаны твbooг — курт».*

(З успамінаў асуджанай «Алжыра» Гертруды ПЛАТАЙС)

Больш каштоўных каменняў
на свеце
Не знайсці вам ніколі, паверце,
Як каменьчыкі з тварагу,
што можна есці.

Казахстанскія простыя дзеці
Іх асуджыным падкідалі.
Маці курт адціскалі.
І народам палонным давалі.

Курт — пячаткі ад скрухі.
Хто іх еў, падымаўся. Ішоў.
І чароўныя словы Гертруды.
Бы паэзіяй поўняцца зноў.

Ранкам гэтым над Сары-Аркою
Далячынь поўніць небам бясконца.
Поўніць Хлебам. Спакой
Разлівае гарачае Сонца.

Жыцця рэкі напоўняць святлом.
І германцам напіша Гертруда
Пра стэповую далеч,
што дорыць любоў.
Пра свайго казахстанскага друга,
Пра дзіцёнка, што кінуў курт,
І пра той ратавальны гурт.

Курт, салёны ад слёз тых жанчын,
У барак свой прынесла Гертруда.
І цяпер я, сціплы акын,
Праслаўляю жанчын тых паўсюдна.

Адціскалі, на сонцы сушылі
Рукі маці спрадвеку той курт.
І не толькі дзяцей ім кармілі,
Але й вязняў,
гаротных ад мук.

Курт салёны і ў песнях маіх
Для казахаў родныя — людзі.
І ніхто з іх галодным не будзе —
Стэп не дзеліць на «нас» і «чужых».

Стэп каменне спрадвеку не кіне.
Да бяды Стэпу дзеці чуллівыя.
Стэп спагадліва бедных ахіне,
І пракормяць рукі руплівыя.

І заўсёды ў думках Гертруды:
Той каменьчык салёны —
не зман.
У лісце Гертруда напіша,
што сяброўства зямля —
Казахстан.

## ЧОРНАЯ КНІГА КАРЛАГА

Сцяна абвіта плюшчам.
Мой голуб узляціць.
Я вочы не заплюшчу.
Пажоўклы аркуш шапаціць.
Гартаю зноў архівы кніг.

Шмат дзён з тае пары прайшло,
Шмат што змянілася ў свеце.
У думках я іду ў «Акой»,
Дзе вязні ў вечны адышлі спакой.
Яшчэ ёсць кропка на планеце,

Што называецца «Бурма».[27]
Брыду туды я не здарма:
Там гінулі эпохі дзеці!

Гады прайшлі. І спрахлі косткі.
Але пагэтуль кожны крок ў нябыце.
Нібыта хрызантэм пялёсткі:
ў Бутырцы,
ў Калыме
мільёнаў страчаныя жыцці…

Стагоддзе катаванняў
і стагоддзе злому
Пакутных адпускаючы на волю
Па следу іх ішло.
Гвалтаўніка дэвіз:
Дагнаць,
дабіць,
знявечыць,
Тых, хто здолеў
Свой першы адпакутваць «срок».

Мой чорны лагер! Мой ЗМРОКЛАГ!
Між пунктамі тваімі
Вязень бы вандроўнік.
І наступаў на горла кат
табе, застаўся што ў «Батыку»,[28]
табе, Ішымская зямля,
табе, радзіма слёзная мая!

Я нарадзіўся
у 58-м годзе…
Калі б не так —
артыкул «58-ы» мне б свяціў
Як здраднік.
Яшчэ адным бы стаў у шэраг
Вязняў.
Яшчэ адзін зняволены «асаднік»…

Пашанцавала мне.
І зараз
мы памятаем — кожны чалавек —
злачынствы, смерць.
І вызвалення радасць.
І той, казахаў чорны век.
І кнігу чорную Карлага.

## КАНЫРТАБЕ[29]

*Сярод асуджаных Карлага разам з навукоўцамі былі зняволеныя больш за 1000 артыстаў, 360 піяністаў, каля 100 мастакоў.*

Беспрытульныя шэрыя Стэпы.
Змрочная чорная далеч.
Хмары паўзуць тут бязмежна
Хмары паўзуць тут і плачуць.

Каныртабе.
Шэры ўзгорак.
Буры йдзе караван.
Чорнае пласкагор'е.
Невыразны тут змрок.
Быццам зроку падман.

Бурая сопка ў пустэчы
Між жоўтых бясконцых пяскоў.
Казахі вандруюць.
І будзе дарэчнай.
У стэпе сустрэча іх галасоў.

Трыста шэсцьдзясят піяністаў
сышліся ў паветры імглістым.
Іх Рэквіем смутку гучыць.
Ён плача, пяе і ляціць…

Але раптоўна ён змоўкне…
Пуста ў магілах, хоць забітыя ўсе.
Рэквіем-песня з магілаў гучыць
Для тых, хто ўцалеў.
Для тых, хто маўчыць.

Зноўку па сопках змрочных вандруе
Вязняў тэатр хорам гучыць.
Браты-артысты на небе
Сэрцы нашчадкаў пагэтуль турбуюць
Сэрцы людзей сваёй праўдай і верай.

Каныртабе.
Ты стаўся лёсам.
Многім — адпачынкам.
Спяваю песню я табе.
Без перапынку.

## ТРЫ АКОРДЫ ЖЭТЫГЕНА

Жаланашколь,
Бідайык,
У Дарыя[30]…
Імкнецца ў неба птушка вольная мая!
Вярніся з выраю ты, пералётная.
Чорная хустка гаротная.
Страху эпоха турботная.
У нябыт адышла.
Вязні схілілі долу галовы.
Сталіна,
Берыі
таксама няма.
І Яжова.

Птушак кармлю я з рукі.
Безліч ахвяраў стрэлам глухім
Паўстануць у шэрым тумане.
Смерць не падманеш.

Расстраляны.
Удушаны.
Укрыжаваны.

Постаці ўсіх, хто ў Стэпе знямог.
Знявечаным выйшаў.

Стаўся ахвярай.

Цячэ бясконца чорная рака.
Цячэ бясконца повязь рушніка.
Чорная хустка —
Дваццатага стагоддзя —
крыві згустак.

## Заўвагі перакладчыка

[1] Сары Арка — каз. «жоўты хрыбет» — стэп у Цэнтральным Казахстане.

[2] Жэтыген — казахскі старажытны сямiструнны музычны інструмент, што нагадвае гуслі ці арфу.

[3] «Алжыр» — лагер жонак «здраднікаў радзімы», «Жаланашколь» — адна з частак «Алжыра».

[4] Стэплаг — адзін з лагерных пунктаў Карлага.

[5] Сарысу — рака ў Цэнтральным Казахстане.

[6] Кактэнколь — вёска ў Карагандзінскай вобласці.

[7] Сарыбель — горны перавал.

[8] «Ерым-Ай» — жалобная пахавальная песня.

[9] Кабыз — казахскі нацыянальны струнна-смычковы інструмент.

[10] Арба — дзвухколы вазок у Сярэдняй Азіі.

[11] Абылай-Хан (1711—1771) — казахскі ваенны лідар, палітык-дыпламат, адной з галоўных мэт якога было аб'яднаць казахскія плямёны ў адзіную дзяржаву.

[12] Сардар — цюркскі военачальнік.

[13] Яік — старажытная назва ракі Урал.

[14] Едыль (еділь) — цюркская назва ракі Волгі.

[15] Кар — чорны (мовы цюркскай групы).

[16] Карабас — селішча ў Абайскім раёне Карагандзінскай вобл.

[17] Каныртабе — цэнтр лагера «Далінка.

[18] Шэрубай-Нура — рака ў Карагандзінскай вобл., левы прыток Нуры.

[19] Кюй (каз.), Кю (кірг.) — традыцыйная казахская і кіргізская інструментальная п'еса для домбры, камуза і іншых інструментаў. Ахметжан Сармантайулы — знакаміты дамбрыст-выканаўца і кампазітар родам з Прыбалхаш'я. Рэпрэсаваны за контррэвалюцыйную дзейнасць па артыкуле 58 Крымінальнага кодэкса. Яго творы былі надзвычай папулярнымі, але людзі баяліся ўзгадваць імя кампазітара нават у 1960-х — 1970-х гадах. Кюй «58 артыкул» А. Сармантайулы напісаў у турме, ён лічыцца самай выбітнай яго п'есай, якая захавалася часткова ў шматлікіх варыянтах. Арыгінал гэтага кюя, на жаль, страчаны.

[20] Кызжылаган — літаральна «дзяўчына плача».

[21] Рахіль Плісецкая — савецкая актрыса, народная артыстка СССР, маці сусветна вядомай балерыны Маі Плісецкай.

[22] Кульджамал Майліна — жонка рэпрэсаванага ў 1937 г. казахстанскага паэта, празаіка і сцэнарыста Беімбета Майліна.

[23] Турар Рыскулаў — савецкі дзяржаўны дзеяч у Сярэдняй Азіі, расстраляны ў 1938 г., рэабілітаваны пасмяротна ў 1956 г.

[24] Ірына Аляксандраўна Борхман (1902—1995) — мастак-графік і прыкладнік, арыштаваная як немка НКУС у 1942 г., абвінавачана ў шпіянажы, асуджана на 10 год выпраўленчых лагераў і пажыццёвай высылцы. Тэрмін зняволення адбывала ў некалькіх пунктах: Карабас, Пасторнае, Пясчанлаг. Рэабілітавана ў 1956 г. Пасля вызвалення жыла ў Маскве. Графічны ліст «Перапынены візіт» уяўляе сабою складаны алегарычны пластычны вобраз, перададзены ў пейзажы.

[25] Штарнберг — горад у Германіі, дзе І. Борхман навучалася ў 1930—1931 гг. у Інстытуце выяўленчага мастацтва.

[26] Майкудук — аддалены раён Караганды.

[27] Акой, Бурма — пункты Карлага.

[28] Батык — пункт Карлага.

[29] Каныртабе — літ. «бурая сопка».

[30] Пункты Карлага.

***Пераклад з казахскай***
***Адама Шостака.***

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ДЗІЎНЫ СВЕТ — ШЧУЧЫНШЧЫНА

*Дваццаць другі раз у пачатку верасня ў нашай краіне пройдзе Дзень беларускага пісьменства. Сёлета месцам правядзення яго стане Шчучын. «Дзень пісьменства, — падкрэсліла на адным з пасяджэнняў Нацыянальнага камітэта па правядзенні Дня пісьменства міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, — гэта вялікае дзяржаўнае свята, якое мае значэнне ў ідэалагічнай культуры краіны. У гэтым годзе праграма свята павінна быць насычана не толькі літаратурнай састаўляючай, але ўключаць паказ самых розных старонак жыцця Гродзенскай вобласці. Гэта важна ў кантэксце Года моладзі і 70-годдзя Вялікай Перамогі». 5 верасня ў Шчучыне плануецца правесці конкурс чытальнікаў з удзелам беларускіх і замежных пісьменнікаў. Адбудзецца міжнародны «круглы стол» «Сугучча», у якім прымуць удзел літаратары з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Балгарыі і іншых краін. 6 верасня пройдуць урачыстасці адкрыцця і закрыцця свята, традыцыйны фестываль кнігі і прэсы, выставы кніг, дзве з якіх пазнаёмяць прысутных з перыёдыкай гадоў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама з патрыятычным плакатам. Упершыню будуць уручаны Нацыянальныя прэміі Рэспублікі Беларусь за лепшыя творы літаратуры. А «Белсаюздрук» адкрые ў Шчучыне новы кніжны магазін. Дый не трэба забываць, што сёлета адзначаецца 250-годдзе з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага — кампазітара, аўтара знакамітага паланэза «Развітанне з Радзімай», больш вядомага як «Паланэз Агінскага», удзельніка паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Касцюшкі. Ён, праўда, доўгі час жыў у сваім маёнтку Залессе, а гэта Смаргоншчына, але, калі глядзець шырэй, то Гродзеншчына. Мы ж у гэтым матэрыяле раскажам крыху пра тое, што ж уяўляе сабой Шчучыншчына, пра знакамітых людзей, якія нарадзіліся тут, ці звязалі свой лёс з гэтай зямлёй.*

## У раёне тры… гербы

Гісторыя гэтага рэгіёна Беларусі, урэшце, як і кожнага, пачынаецца яшчэ з сівой даўніны. Першыя людзі на тэрыторыі сучаснай Шчучыншчыны засяліліся яшчэ 11 900—8 300 гадоў да н. э. Месцы іх стаянак і прылад працы выяўлены ў ваколіцах вёсак Бершты, Зубрава, Орля. У канцы XI — пачатку XII ст. з’явіўся летапісны горад Турыйск. На гэтым месцы знаходзіцца цяперашняя вёска Турэйск. Шчучыншчына можа пахваліцца і яшчэ адным старадаўнім горадам — Астрэя. Ён вядомы па «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», змешчаным у Наўгародскім першым летапісе. Першае ж дакументальнае ўпамінанне пра Шчучын адносіцца да 1436 г., калі трокскі ваявода П. Лелюш разам з А. Вязовічам і І. Прасціловічам заснавалі тут драўляны касцёл св. Якуба. Аднак афіцыйным годам заснавання горада лічыцца 1537-ы. Менавіта гэтым годам датаваны запіс у адной з актавых кніг Літоўскай метрыкі. Праўда, запіс зусім радавы: шчучынец мешчанін Станіслаў Альшанскі пераехаў у Масты, якія належалі каралеве Боне Сфорцы.

Пасля ўваходу ў склад Лідскага павета Віленскага ваяводства Шчучын з'яўляўся ўладаннем роду Кучукоў, С. П. Кішкі, Ю. Радзівіла, Давойнаў і Лімонтаў… У 1718 г. манахі каталіцкага ордэна піяраў, якія пасяліліся ў Шчучыне па запрашэнні яго тагачаснага ўладальніка Ежы Юзафовіч-Хлябіцкага, адчынілі пры касцёле школу. А ў 1726 г. сейм пацвердзіў заснаванне Шчучынскага калегіўма піяраў — аднаго з найбуйнейшых на Беларусі. Са шчучынскімі піярскімі навучальнымі ўстановамі звязаны імёны такіх выдатных навукоўцаў XVIII—XIX стст., як гісторык-археограф Мацей Доўгель, філосаф Казімір Нарбут; філосаф, логік і псіхолаг Анёл Доўгірд; біёлаг Станіслаў Баніфацы Юндзіл; геолаг, мінеролаг, даследчык Чылі і ганаровы грамадзянін гэтай краіны Ігнат Дамейка… Юндзіл, між іншым, у 1785 годзе заклаў у Шчучыне школьны батанічны сад — адзін з першых у Беларусі. А яшчэ ў 1742 годзе пачала дзейнічаць першая на тэрыторыі сучаснай Беларусі абшчына сясцёр міласэрнасці. Але адметнасць Шчучыншчыны не толькі ў гэтым.

Шчучынскі ж раён вылучаецца сярод іншых раёнаў нашай краіны тым, што ў яго ажно тры гербы і адпаведна тры сцягі. Сам Шчучын атрымаў яго яшчэ 25 мая 1761 года. Ён уяўляў сабой сярэбраную манаграму IS — Iqnatus Scipion, размешчаную на блакітным фоне пад залатой каронай. Менавіта Сцыпіоны на той час валодалі гэтым горадам. Цяперашні герб Шчучына зацверджаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 17 ліпеня 2006 года. Ён распрацаваны на аснове даўняга шчучынскага герба. У блакітным полі барочнага шчыта адлюстравана залатая карона, а пад ёй ужо вядомая сярэбраная манаграма «I» і «S». Тады ж быў зацверджаны і сцяг Шчучына — прамавугольнае палотнішча блакітнага колеру, бакі якога суадносяцца 1:2. На вонкавым баку, у цэнтры яго — жоўтая карона, а пад ёй — манаграма «I» «S» белага колеру.

Свой герб Астрын займеў і таго раней. Яго тагачаснаму мястэчку кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV Ваза падарыў у 1641 годзе. Герб гарадскога пасёлка Астрын захаваў свой ранейшы выгляд. У блакітным полі барочнага шчыта на зялёным знаходзіцца сярэбраная вартавая вежа, так званая данжон. Яшчэ ў першым варыянце герба яна сімвалізавала сабой абарону Айчыны. Над чырвонай вастраверхай страхой вежы размешчана рука воіна ў баявых сярэбраных даспехах. У руцэ — аголены меч таксама са срэбра. Сцяг Астрына — прамавугольнае палотнішча з суадносеннем бакоў 1:2. Яно складаецца з дзвюх гарызантальных палос. Верхняя — блакітнага колеру, ніжняя — зялёнага. Ніжняя паласа займае 1/10 шырыні сцяга. На вонкавым баку палотнішча па цэнтры адлюстраваны галоўныя элементы герба Астрына.

Колішняе мястэчка Жалудок, гісторыя якога звязана са знакамітым родам Тызенгаўзаў, атрымаў свой герб у XVIII стагоддзі. У залатым полі шчыта размяшчаўся чорны бык. Падкова пад ім нагадвала аб поспехах у развіцці мястэчка, правядзенні ў ім кірмашоў. Сем цвікоў, забітых у падкову, напаміналі аб колькасці шляхецкіх родаў, чые лёсы былі звязаны з гэтым населеным пунктам. Сучасны герб Жалудка быў зацверджаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 14 чэрвеня 2007 года разам з гербам Астрына. Адлюстраванне па сутнасці ранейшае. У перасечаным на дзве часткі варажскім шчыце ў верхнім залатым полі знаходзіцца чорны бык, а ў ніжнім зялёным — залатая падкова. Сцяг сучаснага Жалудка — гэта прамавугольнае палотнішча з суадносінай бакоў 1 : 2, што складаецца з дзвюх аднолькавых гарызантальных палос. Верхняя — жоўтага колеру. У ёй стаіць чорны бык, а ў ніжняй зялёнай паласе знаходзіцца падкова жоўтага колеру

## Наперадзе — Людвік Нарбут

Шчучынцы ва ўсе часы мужна абаранялі сваю зямлю ад захопнікаў. Так было і ў 1863—1864 гадах, калі ў гэтых мясцінах дзейнічаў атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам **Людвіка Нарбута**. Ён быў сынам вядомага гісторыка Тэадора Нарбута і нарадзіўся ў Шаўрах, што, як і некаторыя іншыя вёскі ў тагачасным Лідскім павеце (сёння Воранаўскі раён) належалі гэтай сям'і. Наконт даты ягонага нара-

джэння няма пэўнасці. Адны называюць 1830 год, другія — 1831. Але, паводле апошніх энцыклапедычных даведнікаў, нарадзіўся Людвік 7 верасня 1832 года. Пад уплывам бацькі змалку зацікавіўся гісторыяй. Гісторыя была яго любімым прадметам і ў час вучобы ў Лідскім павятовым вучылішчы, а затым у Віленскай гімназіі, скончыць якую, аднак, не змог, бо ў канцы 1850 года, калі з'яўляўся вучнем апошняга класа, яго арыштавалі за тое, што агітаваў сваіх сяброў уступаць у рэвалюцыйную арганізацыю, мэтай якой было паўстанне.

Матэрыялы следства трапілі да самога цара. Мікалай I наклаў рэзалюцыю, каб Нарбута пазбавілі дваранскага звання, пакаралі прылюдна розгамі і адправілі ў салдаты. Пасля гэтага Людвік пакляўся, што будзе змагацца з самадзяржаўем. Пра гэтую сваю клятву памятаў і калі служыў радавым на Каўказе. Не забыўся пра яе і тады, калі ў 1859 годзе апынуўся на свабодзе. У Вільні хутка зблізіўся з «чырвонымі», у першую чаргу з Каліноўскім. Без асаблівых цяжкасцей стварыў на Лідчыне ядро паўстанцкага атрада. Існуе меркаванне, што адным з першых у атрад уступіў і паэт Францішак Багушэвіч. Калі Літоўскі правінцыяльны камітэт «чырвоных» абвясціў сябе Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі, Нарбута прызначылі вайсковым начальнікам усяго Лідскага павета. Ад Каліноўскага атрымаў загад «звязацца з паўстанцамі ў Слонімскім павеце і, як толькі мясцовыя ўмовы дазволяць, прабівацца ў напрамку Мінскага ваяводства».

Атрад вырас да 80 чалавек, а з Вільні паступіла вялікая партыя зброі. Гэта станоўча паўплывала на выніку першага бою, што адбыўся 9 сакавіка 1863 года пад Руднікамі, у Трокскім павеце. Паўстанцам проціваставілі сотня казакоў і дзве роты гвардзейскіх стралкоў. Але барацьбіты з царызмам адышлі толькі тады, калі ўзнікла пагроза акружэння. Генерал-губернатар Назімаў (гэта яго неўзабаве замяніў Мураўёў-вешальнік), устанавіў вялікую прэмію таму, хто заб'е Нарбута ці возьме яго ў палон. У Гродне ўлады тэрмінова стварылі спецыяльнае мабільнае падраздзяленне з трох рот Калужскага палка, эскадрона ўланаў Курляндскага палка, 20 казакоў, прыдаўшы ім адну гармату. Усяго амаль 800 прафесійных ваенных трапілі ў распараджэнне палкоўніка Вернера. Паўстанцаў было каля 600 чалавек, бо да нарбутаўцаў далучыліся байцы атрада Навіцкага.

Бой адбыўся каля вёскі Кавалькі паблізу ад возера Думбля. Вернер, паводле яго афіцыйнага рапарта, нікога не страціў, толькі 10 чалавек былі паранены. Паўстанцы, калі верыць падпольнаму друку, мелі 7 забітых і больш як 10 параненых. Іншыя звесткі куды больш трагічныя: 100 забітых і звыш 100 параненых. Вернер паспяшаўся заявіць аб сваёй поўнай перамозе. Ядро свайго атрада Нарбуту ўсё ж удалося захаваць. Людвіку 30 красавіка 1863 года прысвоілі званне палкоўніка паўстанцкіх войск. Адначасова прызначылі галоўнакамандуючым усімі сіламі паўстанцаў Літвы і Беларусі. Невядома, аднак, ці паспеў ён даведацца аб такіх рашэннях свайго вышэйшага начальства.

Карнікі ж прымалі ўсе захады, каб разбіць паўстанцаў, якія перабраліся пад вёску Дубічы, што над ракой Котрай. Яны чакалі прыбыцця падводы з хлебам, аб чым было дамоўлена з жыхарамі Дубіч. Урадаўцы, даведаўшыся пра гэта, прымусілі суправаджаючых падводу аддаць ім сваю апратку, у якую пераапранулі некалькі салдат. У атрадзе паўстанцаў падвоху не заўважылі, а пераапранутыя вайскоўцы, пад'ехаўшы на блізкую адлегласць, адкрылі шквальны агонь. Тут падышлі і іншыя карнікі. Пяхотная рота паспяхова атакавала левы фланг, каб адцясніць паўстанцаў у балота, дзе іх чакала немінучая гібель.

Нарбут зразумеў, што выратаванне ў адступленні. Арганізавана, без панікі. Так званымі перакатамі. Перад праціўнікам пастаянна знаходзіліся дзве лініі нарбутаўцаў. Адна на некаторай адлегласці ад пярэдняга краю, а першая — бліжэй да праціўніка. Адстрэльваючыся, яна перабягала за другую. Чакала, пакуль тая, таксама адстрэльваючыся, апынецца за ёй. Так працягвалася восем разоў. Разам з усімі адступаў Нарбут. Ён даўно ўжо быў без каня. Адыходзіў у суправаджэнні двух чалавек. Раптам захістаўся, страціў раўнавагу, а пасля ўпаў на калені. Апошнімі намаганнямі расшпіліў чамарку. Дастаў з яе нейкія паперы. Перадаў іх аднаму байцу, але тыя, хто суправаджаў яго, неўзабаве былі забіты. Адыходзячы ў вечнасць, паспеў прашаптаць: «Як соладка памерці за Радзіму!»

Многія паўстанцы былі забіты, многія трапілі ў палон. Шмат каму давялося ратавацца ўцёкамі. Сярод іх быў і мастак Міхал Эльвіра Андрыёлі, таксама паранены, але лёгка. Ён дабраўся да Пецярбурга, але яго высачылі царскія шпікі. Даставілі ў Коўна. За кратамі, праўда, знаходзіўся нядоўга, сябры дапамаглі ўцячы за мяжу. Жыў у Парыжы, Лондане. Італьянец па паходжанні, ён нарадзіўся 2 лістапада 1836 года ў Вільні, дзе жыў яго бацька Францішак Андрыёлі. У 1866 годзе Міхал Андрыёлі пакінуў Лондан. Ды не пашанцавала: шпікі даўно сачылі за ім і пад Хоцімам схапілі. Андрыёлі саслалі ў Вятку, дзе знаходзіўся да 1871 года. Вярнуцца ў Вільню не дазволілі. Жыў у Варшаве, потым у Лондане… Памёр 23 жніўня 1893 года.

У яго творчасці значнае месца займае тэма мінуўшчыны, аб чым сведчаць такія творы, як «Смерць Кейстута», «Сутычка літвінаў з крыжакамі», «Хрышчэнне язычнікаў», «Залёты шаўца» і іншыя. Графічны ж ліст «Смерць Людвіка Нарбута пад Дубічамі», у адрозненне ад іншых ягоных работ, вельмі прывязаны да рэалій, сведкам якіх з'яўляўся мастак. Вядома, хутчэй за ўсё ў той момант, калі камандзір атрада быў смяротна паранены, Андрыёлі не знаходзіўся поруч з Нарбутам, але, пачуўшы пра гэта, заспяшаўся к таму месцу.

## Апалон на полі вайны

Жанчыны, асабліва парыжскія, калі ён пасля падаўлення паўстання 1863 года эмігрыраваў у Францыю, ставіліся да яго з вялікім захапленнем. Нярэдка нават праводзілі словамі: «Прыгожы і складзены, як Апалон». Аднак сваё сямейнае шчасце не змог напаткаць, бо цалкам прысвяціў сябе барацьбе за шчасце іншых. У паўстанні 1863—1864 гг. камандаваў атрадамі. Стварыў рэвалюцыйную арганізацыю ў Гродне, дапамагаў Каліноўскаму выпускаць і распаўсюджваць першую на Беларусі нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную газету «Мужыцкая праўда». Звалі гэтага прыгожага і мужнага чалавека **Валерый Урублеўскі**.

Але ў метрычнай касцельнай кнізе ён запісаны пад двайным імем. І першым стаіць не Валерый, а Валерыян. Валерыян Антоній Урублеўскі нарадзіўся 15 снежня 1836 года ў Жалудку. Па старым стылі, а па-новым — 27 снежня. Калі бацька заўчасна памёр, сям'я перабралася ў Вільню. Разам з братам Валерый вучыўся ў Дваранскім, ці, як інакш яго называлі, Шляхецкім інстытуце. Скончыўшы яго, зноў жа з братам паступіў у Пецярбургскі лясны інстытут. Відаць, у сталіцы і пазнаёміўся з Каліноўскім, які ў Пецярбургу з'явіўся летам 1856 года, калі паступаў ва ўніверсітэт. Вярнуўшыся вясной 1861-га на радзіму, Каліноўскі пачаў шукаць надзейных памочнікаў. Неўзабаве яны аб'ядналіся ў арганізацыю «чырвоных» — як супрацьлегласць «белым», якія хацелі далучэння Беларусі і Літвы да Каралеўства Польскага і баяліся ўзброенага выступлення. «Чырвоныя», наадварот, былі за паўстанне. Найбольш радыкальна настроеныя левыя «чырвоныя» ўскладалі асаблівыя спадзяванні на ўзброены народ. Да іх адносіліся і Каліноўскі з Урублеўскім.

Першы бой пад кіраўніцтвам Урублеўскага адбыўся 29 красавіка 1863 года ў Сакольскай пушчы. Пратрымаліся паўстанцы толькі гадзіну і, страціўшы забітымі 32 чалавекі, мусілі адступіць. Царскія ўлады нават паспяшаліся паведаміць, што Урублеўскі забіты, а ён стараўся вывесці паўстанцаў у бяспечнае месца. Гэта было няпроста, бо па пятах за імі ішлі карнікі. Яны напаткалі ўрублеўцаў 8 чэрвеня 1863 года ў Ружанскай пушчы, а гэта ўжо быў Слонімскі павет. Тройчы, не зважаючы на шквальны агонь, Урублеўскі сам вадзіў байцоў у бой. Адступілі толькі тады, калі зразумелі, што далей працягваць бой няма сэнсу.

У сярэдзіне чэрвеня таго ж года аб'ядналіся з ваўкавыска-гродзенскім атрадам на чале з Аляксандрам Лянкевічам і Густавам Стравінскім. Выйграўшы бой з карнікамі, паспяшаліся ў Белавежскую пушчу, куды дабраліся 21 чэрвеня 1863 года. У жніўні Урублеўскі стаў камандуючым усімі паўстанцкімі ўзброенымі сіламі Гродзеншчыны. Імя яго пастаянна знаходзілася ў полі зроку царскіх улад. Сам

Мураўёў-вешальнік сачыў за правядзеннем карных аперацый у гэтай губерні. Была нават створана з лаяльна настроеных аб'ездчыкаў спецыяльная група для высочвання Урублеўскага.

Урублеўскі вырашыў, што мэтазгодней сканцэнтраваць паўстанцаў за Бугам. Што і было зроблена. 19 студзеня 1864 года атрад пад яго камандаваннем апынуўся ў Ядланцы пад Усцінавым. Нечакана з'явіліся кубанскія казакі. Адчуўшы, што яшчэ імгненне і байцы пачнуць адступаць, Урублеўскі з шабляй наперавес павярнуў свайго каня насустрач карнікам. Адбіў удар, другі… Калі яго акружылі некалькі коннікаў, секанаў шабляй па адным і… адчуў пякучы боль у плячы. Чарговы ўдар казака — і туманам засціла вочы…

Польская газета «Глос вольны», што выдавалася ў Лондане, паспяшалася паведаміць пра ягоную гібель. Палічылі Урублеўскага загінуўшым і таварышы. Але ён, падабраны нейкім селянінам, выжыў. Яго занеслі ў маёнтак Завепшыцы, што знаходзіўся непадалёку, а гаспадар яго Складоўскі зрабіў усё, каб паставіць параненага на ногі. Пасля, пераапрануўшы ў жаночае адзенне, пераправіў за мяжу. У рэшце рэшт Урублеўскі трапіў у Парыж. Наладзіў кантакты з польскай эміграцыяй, увайшоў у «Дэмакратычнае аб'яднанне», створанае ёю. У 1871 годзе ў званні генерала камандаваў адной з трох армій Парыжскай камуны. Завочна прыгавораны да пакарання смерцю, эмігрыраваў у Лондан. Пасябраваў з Карлам Марксам і Фрыдрыхам Энгельсам. Памёр 5 жніўня 1908 год і быў пахаваны каля сцяны камунараў на могілках Пер-Лашэз у Парыжы.

## Ідучы па цаліку

**Казімір Альхімовіч** належыць да першапраходцаў у гістарычным жанры ў выяўленчым мастацтве. Нарадзіўся 20 снежня 1840 года ў вёсцы Дамброва. Хоць сям'я была не асабліва багатая — збяднелая шляхта, на навучанне дзяцей не шкадавала грошай. Дарэчы, брат Альхімовіча Гіяцынт таксама стаў мастаком. Калі Казік падрос, яго адправілі ў Віленскую гімназію, пасля заканчэння якой некаторы час працаваў аканомам у адным з маёнткаў пад Кіевам. Калі пачалося паўстанне 1863 года, апынуўся ў шэрагу яго ўдзельнікаў. Пасля разгрому паўстання быў высланы за Урал, у Верхатур'е, дзе знаходзіўся да 1869 года, пакуль не вызвалілі па амністыі. Перабраўся ў Варшаву, дзе ў 1871 годзе паступіў у рысавальную школу.

Школу ўзначальваў Войцех Герсан, выпускнік Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, якая мела над ёю шэфства. Альхімовіч, хутчэй за ўсё, быў любімым вучнем Герсана, бо ён рэгулярна прадстаўляў туды яго лепшыя творы. Работы «Смерць у выгнанні» і «Пахаванне на Урале» былі ўзнагароджаны сярэбранымі медалямі. Пасля завяршэння вучобы паступіў у Мюнхенскую акадэмію мастацтваў.

Гады вучобы ў акадэміі (скончыў яе ў 1875 годзе) аказаліся вельмі плённымі. Шмат выстаўляў сваіх работ на розных выстаўках, прымаў удзел у творчых конкурсах. Атрымаў некалькі залатых і сярэбраных медалёў. Вярнуўшыся ў 1878 годзе ў Варшаву, два гады выкладаў малюнак у школе жывапісу і разьбы. У гэты час і заявіў пра сябе як майстар гістарычнага жанру. Напісаў такія значныя карціны, як «Смерць Міхаіла Глінскага ў цямніцы», «Пахаванне Гедыміна», «Адпачынак Кейстута», «Вітаўт на магіле Кейстута», «Абарона Ольштына», «Падрыхтоўка да смерці Самуіла Збароўскага», «Вясельныя ўрачыстасці Жыгімонта Аўгуста» і іншыя.

Найбольшага поспеху дасягнуў у станковым жывапісе, але спрабаваў свае сілы і ў графіцы. Да таго разам з Т. Попелем і А. Пятроўскім распісваў касцёл Святой Кацярыны ў Пецярбургу. Займаўся і разьбой па дрэве. Не чужой была ў яго ўмелых руках і гліна, распісваў фаянс. Ілюстраваў «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча.

Пражыў для свайго часу нямала: памёр 31 снежня 1916 года.

## Шчучынская старонка …у Льва Талстога

Канешне ж, багаты гэты куток Бацькаўшчыны і на літаратурныя традыцыі. Напрыклад, у XVII—XVIII стст. Шчучын з'яўляўся адным з цэнтраў, дзе ствараліся рукапісныя кнігі. На жаль, яны не дайшлі на нашых дзён. Затое ёсць магчымасць далучацца да творчасці пісьменнікаў — як тых, чыя творчасць ужо стала гісторыяй літаратуры, так і сучасных аўтараў. Пры жаданні ж можна даведацца і такое, пра што ведаюць не ўсе.

У Льва Талстога ёсць апавяданне «За что?». Апавяданне як апавяданне. Як і іншыя творы Льва Мікалаевіча, у тым ліку і тыя, што адносяцца да «малога жанру», напісана псіхалагічна глыбока, з дакладнай вымалёўкай характараў персанажаў, хоць і пачынаецца ў нечым звыкла, што, у рэшце рэшт, характэрна і для многіх яго апавяданняў: «В 1830 году весною к пану Ячевскому в его родовое имение Рожанку приехал единственный сын его умершего друга молодой Мигурский». Аднак той, хто добра ведае тэрытарыяльны падзел Шчучынскага раёна, бадай, запыніць сваю ўвагу на спалучэнні слоў «имение Рожанка». «Няўжо гэта тое месца, дзе цяпер за сем кіламетраў на поўдзень ад райцэнтра знаходзіцца чыгуначная станцыя Ражанка?» — мільгане ў яго думка.

Сапраўды, у апавяданні «За что?» «прапісалася» шчучынская Ражанка. Але не чыгуначная станцыя, бо на той час у тамашніх мясцінах чыгункі яшчэ не было. Маёнтак, пра які ідзе гаворка, быў паблізу ад сённяшняй аднайменнай вёскі, колішняга мястэчка. Чыгунка прайшла ў чатырох кіламетрах ад гэтага населенага пункта. У Ражанку і наведаўся Іосіф Мігурскі, дзе і знайшоў сваю любоў, пакахаўшы малодшую дачку ўладальніка гэтага маёнтка пана Ячэўскага.

Леў Мікалаевіч захаваў не толькі імёны галоўных персанажаў, а і асноўныя перыпетыі іхняга трагічнага жыцця. Даведаўся ж Талстой пра Мігурскіх з кнігі расійскага этнографа Сяргея Максімава «Сибирь и каторга». Прачытаў яе вельмі ўважліва, застаўшыся ўражаным тым, пра што расказаў аўтар. Гэта відаць з прызнання Льва Мікалаевіча ў лютым 1906 года С. Стаховіч, якая гасцявала ў яго ў Яснай Паляне: «Читали вы Максимова знаменитую книгу «Сибирь и каторга»? Историческое описание ссылки, каторги до нового времени. Прочтите. Какие люди ужасы делают! Животные не могут того делать, что правительство делает».

Як і ў кожным мастацкім творы, у гэтым апавяданні, што спачатку называлася «Непоправимо», безумоўна, ёсць і персанажы, народжаныя аўтарскай фантазіяй, але яны, зразумела, таксама працуюць на больш поўнае ўвасабленне аўтарскай задумы. Усё гэта патрабавала ад Талстога добрага ведання тагачасных падзей. Таму ён, перш чым узяцца за напісанне апавядання, звярнуўся да прафесара Пецярбургскага ўніверсітэта Івана Бадуэна дэ Куртэнэ і крытыка Уладзіміра Стасава з просьбай дасылаць яму кнігі па гісторыі паўстанняў 1830—1831 гадоў. Наколькі сур'ёзна ставіўся Леў Мікалаевіч да будучага твора, відаць па такім ягоным прызнанні: «Надо прочесть много книг, чтобы написать пять строк, разбросанных по всему рассказу». Затое апавяданне прагучала, стаўшы гімнам сапраўднаму каханню, але разам з тым у ім моцныя і выкрывальныя матывы насілля, бесчалавечнасці ўладу маючых, якія прыводзяць да таго, што калечацца людскія лёсы. Пацвярджэнне таму і тое, што адбылося з Іосіфам Мігурскім, якога на польскі манер блізкія называлі Юзё, і яго жонкай Альбінай.

Праўда, яго жонкай павінна была стаць не яна, а старэйшая сястра Альбіны: «Ванде он был приятен потому, что она была уверена, что Мигурский приехал для нее и намеревается ей сделать предложение. […] Это думали все в доме — от старика Ячевского до няни Лудвики, хотя никто и не говорил этого». Аднак Мігурскі так і паехаў, не зрабіўшы Вандзе прапанову стаць яго жонкай. Ніхто ў маёнтку і не здагадваўся, у чым прычына. За выключэннем, канешне, самога Мігурскага і Альбіны, бо яны пакахалі адно аднаго. Пятнаццацігадовая Альбіна «всеми силами своей души полюбила Мигурского, полюбила так, как любят сильно только в первый раз и только один раз в жизни», а Мігурскі… Каб зразумець ягоны стан, ужо дастаткова нават такога сцвярджэння: «Нравилось же ему все, что она бы ни делала».

Мужам і жонкай яны сталі пасля таго, як Мігурскага за ўдзел у паўстанні саслалі салдатам у лінейны батальён ва Уральск. Даведаўшыся пра гэта, Альбіна, не вагаючыся, паехала да каханага: «Через год родился мальчик. Через полтора года — девочка. Мальчик был повторением матери: те же глаза и та же резвость и грация. Девочка была здоровый красивый зверек». Толькі нядоўга Мігурскія цешыліся сямейным шчасцем. Праз пяць гадоў дзеці, захварэўшы, адзін за адным памерлі. Яшчэ праз колькі часу Мігурскія вырашылі ўцячы са ссылкі, выпрацаваўшы для гэтага свой план. Альбіна атрымала дазвол забраць з сабой дамавінкі дзяцей, а муж яе на беразе ракі пакінуў свой шынель, а ў ім запіску аб тым, што сабраўся ўтапіцца. Аднак дамавінкі Мігурскія не забіралі. Замест іх у спецыяльнай скрыні пад тарантасам схаваўся Мігурскі. Так і дабраліся да Саратава, дзе хацелі сесці ў лодку: «В лодке Юзё выйдет из ящика, и они поплывут до Каспийского моря. А там Персия или Турция и — свобода». Але казак, які суправаджаў іх, пра ўсё даведаўся і заявіў у паліцыю: «Мигурского судили и приговорили к прогнанию сквозь тысячу палок. Его родные и Ванда, имевшая связи в Петербурге, выхлопотали ему смягчение наказания, и его сослали на вечное поселение в Сибирь. Альбина поехала за ним».

«За что?» — гэтае пытанне неаднойчы хвалявала Альбіну, «задавала она этот вопрос людям и богу. И не могла представить себе возможности какого-нибудь ответа». Гэтым пытаннем напоўнена і ўсё апавяданне, што гучыць, як і задумвалася Талстым, пратэстам супраць сацыяльнай несправядлівасці. І гімнам сапраўднаму каханню, здатнаму пераадолець усе перашкоды.

## З Цёткай, як з роднай маці

Самая знакамітая ўраджэнка шчучынскай зямлі, вядома ж, **Алаіза Пашкевіч**. Упершыню яна назвалася Цёткай у 1906 годзе, калі выйшла яе «Першае чытанне для дзетак беларусаў». На тытульным лісце кнігі значылася: «Напісала Цётка».

Нарадзілася 5 ліпеня 1876 года ў фальварку Пешчын. Тады гэта быў Лідскі павет Віленскай губерні. Стала пятым дзіцем у сям'і Стафана і Ганны (у дзявоцтве Вінча) Пашкевічаў. Усяго ж у сям'і Пашкевічаў гадавалася васьмёра дзяцей. Пашкевічы былі заможнымі, мелі дзвесце гектараў зямлі. Па-сапраўднаму свет жыцця для яе адкрыўся ў шаснаццацігадовым узросце: у 1892 годзе яна з братам Юзікам пераехала да сястры Марыі ў Вільню. Праз два гады паступіла ў чацвёрты клас прыватнай гімназіі Веры Прозаравай. На жаль, вучобу спыніла хвароба. Але ёй пайшлі насустрач: здала спецыяльны экзамен на званне хатняй настаўніцы арыфметыкі. Зарабіўшы крыху грошай, падалася ў Пецярбург. Пайшла на курсы вядомага вучонага, прафесара Пятра Лесгафта, на якіх рыхтавалі выхавацелек і кіраўніц фізічнай адукацыі.

Са сваімі аднадумцамі стварыла арганізацыю «Круг беларускай народнай асветы і культуры». У 1904 годзе выйшлі «Калядная пісанка на 1904 год» і «Велікодная пісанка». У іх змешчаны і вершы Цёткі «Мужыцкая доля», «Мужык не змяніўся», «Нямаш, але будзе» і «Музыкант беларускі». Сваю першую кнігу Цётка назвала «Скрыпка беларуская». Яна пабачыла свет у 1906 годзе ў Жоўкне (цяпер горад Несцераў). Выхад яе прыхільна вітаў вершам «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай» Янка Купала.

Працуючы фельчаркай у псіхіятрычнай бальніцы, яна разгарнула актыўную рэвалюцыйную дзейнасць. Дый партыйную — таксама. Між іншым, яе партыйная мянушка таксама была Цётка. На кватэры ў Алаізы Сцяпанаўны праходзілі канферэнцыі Беларускай сацыялістычнай грамады. Добра ведалі Цётку і сяляне ў навакольных вёсках, куды яна наведвалася даволі часта. Несла народу праўду аб тым, што адбываецца ў краіне. Праўду неслі і яе вершы «Хрэст на свабоду», «Пад штандарам», «Мора», што неўзабаве ўвайшлі ў яе другую паэтычную кнігу «Хрэст на свабоду». Аддрукаваныя ў тысячах асобнікаў, яны распаўсюджваліся як пракламацыі.

Удзельнікам мітынгаў, маніфестацый імпанавала, што Цётка, дзе б яна ні выступала, размаўляла толькі па-беларуску. А тут яшчэ і вершы, пісаныя гэтай мовай. Калі пачаліся арышты, пераехала ў Львоў, у сталіцу Галіцыі. Там выдала «Беларускі лямантар», «Першае чытанне для дзетак беларусаў», «Гасцінец для малых дзяцей». У Пецярбургскай жа выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша ваконца» пабачыў свет «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання». Аўтарства яго, праўда, не ўказана. Але гісторыкі і даследчыкі літаратуры сходзяцца на тым, што напісала лемантар менавіта Цётка. На творчым рахунку яе і кніга для дзіцячага чытання «Гасцінец для малых дзяцей». У 1906 годзе яна з'явілася пад псеўданімам Тымчасовы і была надрукавана лацінкай. Адметнасць зборніка складальніца вызначыла так: «пераказ з украінскай мовы на беларускую з малымі пераменамі». «Перамены» гэтыя звяліся да таго, што асобныя творы Цётка ўвязала з беларускім нацыянальным каларытам.

Доўгі час Цётка жыла марай аб уласнай выдавецкай дзейнасці. Гэтую мару ёй удалося ажыццявіць толькі ў 1914 годзе, калі яна стала рэдактарам першага на Беларусі літаратурнага і навукова-папулярнага часопіса для дзяцей і моладзі «Лучынка». Адначасова гэта быў і першы маладзёжны часопіс, які для свайго часу няблага ілюстраваўся. Цётка з'яўляецца і адным з пачынальнікаў беларускай прозы, дэбютаваўшы апавяданнем «Прысяга над крывавымі разорамі».

Працуючы ў Вільні ў ваенным шпіталі сястрой міласэрнасці, у пачатку студзеня 1916 года даведалася, што на тыф захварэў яе бацька, які тады знаходзіўся ў Лідзе. У жывых яго ўжо не заспела. Паехала ў Стары Двор. Не думаючы пра ўласную бяспеку, ратавала ад гэтай цяжкай хваробы землякоў. Не ўсцераглася, захварэла. Не стала Цёткі 17 лютага 1916 года. Памяць аб ёй увекавечана помнікамі ў горадзе Шчучыне, гарадскім пасёлку Астрын, вёсцы Шастакоўцы Шчучынскага раёна. Яе імя носяць школа ў г. п. Астрын і Гродзенскае культурна-асветнае вучылішча, вуліцы ў Мінску, Маладзечне і Шчучыне.

Вобраз Цёткі ўвасоблены ў шмат якіх літаратурных творах. Дзеля ўвекавечання яе памяці прынамсі шмат зрабіла **Лідзія Арабей** (27.06.1925—20.02.2015). Нарадзілася яна, як вядома, у вёсцы Нізок Уздзенскага раёна, але ў час Вялікай Айчыннай вайны лёс закінуў Лідзію Львоўну ў Шчучын. Пасля вызвалення горада і раёна працавала ў раённай газеце «Чырвоны сцяг». У 1945 годзе ў раёнцы былі апублікаваны два яе першыя вершы, неўзабаве ўзялася і за апавяданні. Калі пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта паступіла ў аспірантуру, тэмай яе будучай кандыдацкай дысертацыі сталі жыццё і творчасць Цёткі. Дысертацыю паспяхова абараніла ў 1958 годзе, а двума гадамі раней асобнай кнігай выйшла яе даследаванне «Цётка (Алаіза Пашкевіч)». З-пад пяра Л. Арабей з'явіліся таксама дакументальна-мастацкія аповесці «На струнах буры» і «Стану песняй», а таксама шэраг артыкулаў, краязнаўчых нарысаў, прысвечаных Цётцы.

## Лёсам паяднаны

**Ануфрый Петрашкевіч** (нарадзіўся ў 1793 годдзе ў Шчучыне, памёр 7 снежня 1863-га) вядомы як паэт, архівіст, а таксама як адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў. Скончыўшы ў родным мястэчку піярскую школу, настаўнічаў, пасля закончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта і філасофскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. У 1824 годзе па справе філаматаў быў сасланы ў Пецярбург, а адтуль — у Маскву, дзе працаваў у бібліятэцы ўніверсітэта. Двойчы — у 1828 і 1830 гг. — наведваў радзіму. За сувязь з удзельнікамі паўстання ў 1832 годзе яго асудзілі да пакарання смерцю, але прысуд замянілі ссылкай у Сібір. Трапіў у Табольск, дзе працаваў губернскім сакратаром. У Вільню вярнуўся толькі ў 1860 годзе. Парадкаваў архівы філаматаў, пісаў вершы, апрацоўваў народныя паданні, гістарычныя легенды, абрады.

Шчучыншчына і радзіма польскіх — публіцыста, грамадскага дзеяча **Станіслава Шчукі** (1654—1710); публіцыста, педагога **Эдуарда Чарнецкага**

(1774—5.03.1831), грамадска-культурнай дзяячкі, пісьменніцы, педагога **Людвікі Кашуцкай** (1869—27.10.1928) і іншых.

У Жалудку нарадзіўся яўрэйскі выдавец, пісьменнік Бен-Авігдора, у сапраўднасці Аўрахам Шалковіч (1867—1921). З 1891 года, жывучы ў Варшаве, выдаваў на іўрыце кніжную серыю «Сіфрэй агора», разлічаную на масавага чытача. Апроч гэтага стварыў у 1893 годзе ўласны друкарскі двор «Ахіясаф», у якім пабачылі свет тры нумары штогодніка «Луах Ахіясаф». Праз тры гады арганізаваў выдавецкае таварыства «Тушыя», што выпускала перакладныя кнігі. Дзякуючы намаганням Бен-Авігдора ў 1901 годзе з'явіўся штотыднёвік для дзяцей «Алам катан». Пісаў Бен-Авігдора і ўласныя творы — аповесці, апавяданні. Увогуле, зрабіў шмат дзеля папулярызацыі кніг на сучасным іўрыце.

З вёскі Клешнякі родам беларускі культурны дзеяч, выдавец, каталіцкі **святар Янка Тарасевіч** (20.10.1892—11.4.1978). З 1911 года жыў у Злучаных Штатах Амерыкі. Выкладаў у духоўнай семінарыі штата Н'ю-Ёрк. На беларускай мове вёў касцельную службу, выступаў з публічнымі лекцыямі на беларусазнаўчыя тэмы. Адзін з заснавальнікаў «Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады». Асабліва шырокую асветніцкую работу вёў пасля Другой сусветнай вайны. Аўтар вершаў, апавяданняў, эсэ, рэлігійна-асветных артыкулаў. У Вільні выйшлі яго філасофска-тэалагічныя і патрыятычныя трактаты «Зло і лякарства на яго» (1928), «Чалавек — шукальнік Бога» (1934), «Беларусы ў святле праўды» (1935), а таксама ўспаміны «На Бацькаўшчыну. Апісанне падарожжа з Амерыкі і назад» (1936).

Адчувальны ўнёсак у беларускую літаратуру і сучасных пісьменнікаў, ураджэнцаў Шчучыншчыны. Найбольш актыўна і плённа сярод іх працуе **Славамір Антановіч**, які нарадзіўся 9 студзеня 1955 года ў вёсцы Пілеўсі. З залатым медалём скончыў Каменскую сярэднюю школу (1972). Вышэйшую адукацыю атрымліваў у Мінскім радыётэхнічным інстытуце (1977) і на юрыдычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1996). Напісаў гістарычныя раманы «Петр Машеров», «Призраки Можейковской крепости», «В августе девяносто первого…», «Черный омут Нёмана», «Диверсант Сталина», дакументальныя кнігі «Приговоренные к расстрелу», «Жизнь вне закона», «Судьба до востребования», выдаў кнігу паэзіі і прозы «Вяртанне ў юнацтва». Для творчасці С. Антановіча характэрна высокае ўменне спалучэння фактаў, рэалій, што мелі месца ў сапраўднасці з тым, што ў пэўнай ступені народжана аўтарскай фантазіяй, але разам з тым ніколькі не супярэчыць лагічнаму разгортванню падзей, яшчэ лепш спрацоўвае на ажыццяўленне аўтарскай задумы. С. Антановіч — лаўрэат Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» і прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», заслужаны журналіст БСЖ.

**Валянцін Блакіт**, у сапраўднасці Болтач (7.10.1938—7.12.2007) нарадзіўся ў вёсцы Вострава. Аўтар кніг гумару і сатыры «Вынаходнік» (1974), «Час прылёту журавоў» (1979), «Шануй імя сваё» (1981), «Усмешка Фартуны» (1984), «Вырай» (1986), «Аповесці» (1988).

З вёскі Ліпічанка родам **Уладзімір Васько**. Нарадзіўся ў 1937 годзе. Аўтар кніг паэзіі «Прасветленасць» (1981), «На схілах берагоў» (1997), «Кругаварот жыцця» (2011), кнігі прозы «Лясная рапсодыя» (2013). Лаўрэат конкурсу рэдакцыі газеты «Звязда» і «Саюза пісьменнікаў Беларусі.

На жаль, жыццёвы і творчы шлях **Віктара Дарашкевіча** з вёскі Цёмнае Балота (з 1973-га Сасновы Бор) кароткі (9.6.1949—12.10.2003). Скончыў Астрынскую сярэднюю школу, філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1971). У 1971—1974 гг. — аспірант Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Працаваў у прэзідыўме Акадэміі навук. Загінуў пры пажары ў г. п. Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна. В. Дарашкевіч напісаў манаграфію «Новалацінская паэзія Беларусі і Літвы. Першая палова XVI ст.» (1979, на рускай мове). Складальнік і навуковы каментатар некалькіх літаратурна-мастацкіх і крыніцазнаўчых выданняў. Падрыхтаваў да друку паэму М. Гусоўскага «Песня пра зубра» (1980). Меў навуковае званне кандыдата філалагічных навук (1977), быў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994).

**Ганна Зінкевіч**, якая нарадзілася 9 снежня 1955 года ў вёсцы Рагачы, пасля заканчэння філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы, звязала свой лёс з Глыбоччынай. Працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Мярэцкаўскай школе. Аўтар кнігі паэзіі «Шляхам любові» (2006).

Разлучыўся з радзімай і **Мікалай Ількевіч**. Ён нарадзіўся 1 жніўня 1958 года ў гарадскім пасёлку Астрына. Скончыў СШ № 3 у Гродне, Кіеўскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча (1979), Вышэйшыя курсы ваеннай контрразведкі КДБ СССР (1982), Акадэмію міністэрства бяспекі Расійскай Федэрацыі (завочна, 1993). Служыў у войску. Удзельнік вайны ў Афганістане. Быў начальнікам Цэнтра грамадскай сувязі ўпраўлення генеральнай службы бяспекі Расійскай Федэрацыі па Смаленскай вобласці. З 1998 г. — галоўны рэдактар смаленскага часопіса «Годы». Аўтар кніг «Душа дваілася…» (1997), «Аляксандр Ульянаў і версія НКУС аб антысавецкім падполлі ў БССР» (1997, у суаўтарстве), «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі: першае сутыкненне з ГПУ. Да гісторыі высылкі за мяжу айчыннай інтэлігенцыі ў 1922 годзе» (1998), «Адам Бабарэка: арышт — лагер — смерць. Расправа з ссыльнымі беларусамі ў Кіраве ў 1937—1938 гг. Дакументальны нарыс» (1999) і іншых.

21 лістапада 1955 г. у Шчучыне нарадзіўся **Мікола Мікалаеў**. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977). З 1978 года жыве ў Санкт-Пецярбургу. Працаваў у Ленінградскім аддзяленні Інстытута археалогіі АН СССР, удзельнічаў у раскопках старажытнага Наваградка, старой Ладагі. З 1978 года ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы — навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела рэдкіх кніг. Пераклаў на беларускую мову працу І. Грыгаровіча «Беларуская іерархія» (1992). Аўтар кніг «Палата кнігапісная», «Гісторыя беларускай кнігі» ў двух тамах. М. Мікалаеў — адзін з сузаснавальнікаў і член Прэзідыума Грамадскага аб’яднання «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў». Адзін са стваральнікаў і член праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу. Шмат намаганняў прыкладае вывучэнню кніг з беларускіх бібліятэк, якія некалі былі вывезены ў паўночную сталіцу Расіі, а таксама даследуе жыццё і дзейнасць беларускай дыяспары ў гэтым горадзе. Доктар філалагічных навук (1997).

Родная вёска **Івана Пяшко** — Лісціцы Гродзенскага раёна, дзе нарадзіўся 4 снежня 1941 года. Жыве ў Шчучыне. Аўтар кніг «Чырвоная клубніка» (1977), «Марго з Казарэзаў» (1992), «На тым беразе» (2007), «Сцэнарыі 70-х», «Валуны» (2011). Зацікавілася літаратурай і яго дачка Таццяна (нарадзілася 1 лістапада 1973 года ў вёсцы Каменка). Яе гумарэскі і апавяданні друкаваліся ў часопісах «Першацвет», «Вожык», «Полымя».

**Вольга Русілка** нарадзілася 17 ліпеня 1959 года ў вёсцы Бершты. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі (1985). Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры СШ №25 г. Віцебска (1981—1984). З 1984 года — у Віцебскім дзяржаўным ўніверсітэце імя П. М. Машэрава (раней Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут). Прайшла шлях ад асістэнта да загадчыка кафедры беларускай літаратуры. Аўтар кніг паэзіі «Табе» (1996), «Ажына» (2004), «В. І. Р» (2009), кнігі вершаў і лірычнай прозы «Сцежка, сцежачка, сцяжынка» (2014); падручніка і вучэбных дапаможнікаў. Лаўрэат літаратурных прэмій імя У. Караткевіча (Віцебск, 2004) і імя П. Броўкі (Віцебск, 2014). Яе маці **Любоў Русілка** нарадзілася 15 мая 1940 г. у Казахстане. Сорак гадоў працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў вёсцы Бершты Шчучынскага раёна. Аўтар кніг паэзіі «Пад сонцам» (2005), «Зямлі і людзям» (2013).

**Марыя Шаўчонак** — родам з вёскі Новы Востраў Клічаўскага раёна, у якой нарадзілася 11 мая 1944 г. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1965), настаўнічала ў Ракавіцкай сярэдняй школе Шчучынскага раёна. З 1966 года працавала ў рэдакцыі раённай газеты «Савецкая

вёска», з 1978-га да выхаду на пенсію — старшы рэдактар аддзела прапаганды Гродзенскай студыі тэлебачання. Выйшлі кнігі паэзіі «Белая ластаўка» (1971), «Свята зямлі» (1976), «Бацькоўскае імя» (1981), «Раса-расінка» (1985), «Белыя свечкі каштанаў» (2005) і іншыя.

Крыніца натхнення **Уладзіміра Фядотава, Рычарда Бялячыца, Гвідона Ждановіча, Віктар Куца, Антона Піліпчыка, Ганны Скаржынскай-Савіцкай** і іншых — таксама шчучынская зямля.

Ёсць шчучынскія радкі і ў біяграфіі польскага этнографа, філосафа, збіральніка фальклору **Уладзіслава Вярыгі** (9.06.1868—27.08.1916). Ён наведваў Астрын, ваколіцы вёскі Новы Двор, дзе запісваў беларускія народныя казкі, а таксама песні, 45 з якіх былі апублікаваны ў перыёдыцы. У зборнік жа «Беларускія паданні», выдадзены ў 1889 годзе ў Львове, увайшлі 32 казкі.

Некаторы час у Берштаўскай сярэдняй школе настаўнічаў ураджэнец вёскі Іскозы Дубровенскага раёна, будучы знакаміты беларускі мовазнаўца **Іван Лепешаў** (23.10.1924—13.10.2014). Іван Якаўлевіч стварыў у школе літаратурна-краязнаўчы гурток. Удзельнікі яго разам са сваім педагогам сабралі нямала цікавых звестак з гісторыі Берштаў, запісвалі мясцовы фальклор. Работа гэтага гуртка была абагульнена ў кнізе «Літаратурна-краязнаўчы гурток (з вопыту)» (1969). Пазней І. Лепешаў выступіў з артыкулам «З лексікі вёскі Берשты Шчучынскага раёна». Асобныя мясцовыя словы, шчучынскія фразеалагізмы можна напаткаць і ў ягоных слоўніках, а таксама даследаваннях.

А вось **Сяргей Гусак** (2.04.1930—20.12.1969), які нарадзіўся ў вёсцы Іванкаўшчына Мазырскага раёна, трапіў на Шчучыншчыну ў 1955 годзе пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ. Выкладаў беларускую, рускую мову і літаратуру ў Жалудоцкай сярэдняй школе. Пазней скончыў апірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю, актыўна выступаў як крытык і літаратуразнаўца.

## Палёт працягваўся на зямлі

Са Шчучыншчынай парадніўся і ваенны лётчык **Іван Шамаў**. Ён жа паэт. І не толькі паэт, а і паэт-песеннік. Гэта ён аўтар песні «Костры горят далекие», якой захапляецца ўжо не адно пакаленне. Памятаеце?

Костры горят далекие,
Луна в реке купается,
А парень с милой девушкой
На лавочке прощается.

Глаза у парня ясные,
Как угольки горящие,
Быть может, не прекрасные,
Но, в общем, подходящие…

Але паэтам Іван Васільевіч станавіцца не збіраўся, хоць і любіў літаратуру, захапляўся паэзіяй. Спачатку хацеў быць бібліятэкарам. Ураджэнец сяла Хлыстова (з’явіўся на свет 19 лютага 1918 года) Маршанскага павета, а гэта на той час была Тамбоўская губерня, ён пасля заканчэння сямігодкі ў 1934 годзе паступіў у Маршанскі бібліятэчны тэхнікум. Праз тры гады яго як лепшага выпускніка накіравалі ў Маскоўскі бібліятэчны інстытут. Аднак усё больш вабіла да сябе авіяцыя, таму ў 1940 годзе, будучы студэнтам апошняга курса, з інстытутам развітаўся і стаў курсантам Батайскай авіяцыйнай школы. Лётчык Шамаў сваё баявое хрышчэнне атрымаў летам сорак другога, каб не развітвацца з авіяцыяй да самай Перамогі.

Пасля вайны служыў паблізу ад Шчучына на ваенным аэрадроме. У час чарговага лётнага выпрабавання адбылося тое, пра што пяецца сёння ў у вядомай песні — «не вышел полет». На вышыні 500 метраў у самалёта нечакана адказаў рухавік і крылатая машына рухнула на зямлю. Шамаў цудам застаўся жывы, але

яго паралізавала. Два з паловай гады, праведзеныя ў шпіталях, так і не паставілі яго на ногі.

Падчас лячэння знайшоў уратаванне ў паэзіі. Перачытваў Уладзіміра Маякоўскага, якім захапляўся яшчэ ў маленстве, пачаў чытаць іншых паэтаў. Пакрысе і сам за пяро ўзяўся, а ў 1949 годзе дачакаўся і сваіх першых публікацый. Тым больш з паэзіяй не развітаўся, калі з жонкай Наталляй Фёдараўнай у Маскве нарэшце атрымаў невялікі, усяго дзевяць квадратных метраў, пакой у камунальнай кватэры пяціпавярхоўкі на Ізмайлаўскім бульвары. Да напісання ж песень далучыўся дзякуючы кампазітару Барысу Макравусаву. На яго выйшлі лётчыкі-сябры Шамава. Паведалі Барысу Андрэевічу, што іх таварыш не толькі вершы піша, а і напісаў «Марш авіяцыі».

Барыс Макравусаў прыехаў недзе гадзін у адзінаццаць вечара. Ніяк не мог знайсці неабходны дом, бо Ізмайлаўскі бульвар толькі забудоўваўся, а тэлефона ў Шамавых не было. Праўда, пісаць музыку да гэтага марша адмовіўся. Але сказаў, што ў яго ёсць гатовая мелодыя, да якой так і просяцца вершы пра каханне. «Напішыце пра каханне», — папрасіў ён Івана Васільевіча. «А чаму б і не напісаць?!» — падумалася Шамаву. Па словах яго жонкі, «ён успомніў, як мы вырашылі паехаць у Валадарск на цягніку. Унеслі яго ў вагон, пасадзілі і мы паехалі. Іван Васільевіч бачыў гэтыя мясціны з паветра, а цяпер, разбіты, бачыў усё гэта з зямлі. Яму было гэта вельмі цікава.

— Ты паглядзі, якая прырода, Клязьма! Такая прыгажосць!

А там месяц адлюстроўваўся ў вадзе і рыбакі сядзелі на беразе, рыбалілі.

«Костры горят далекие, луна в реке купается…»

Вось так ён успомніў усё гэта і да чатырох гадзін раніцы пісаў варыянты. Пазней дашліфоўваў напісанае, пасылаў Макравусаву. Пакуль не атрымаўся варыянт, які кампазітару спадабаўся. Знешне простыя, але такія шчырыя, пяшчотныя радкі, а таксама цудоўная мелодыя Барыса Андрэевіча зрабілі сваю справу. Песня «Костры горят далекие» па сутнасці стала народнай.

Не забываў Шамаў і пра горад, які назаўсёды прапісаўся ў ягонай біяграфіі. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць верш: «Приезжай, товариш, в Щучин»: «Край наш толком не изучен, // Как же он богат! // Приезжай, товарищ, в Щучин, // Тихий город-сад. // Тополиная дорожка, // К городу ведет… // Вот и домик в три окошка, // Садик и огород. // Тонут улочки прямые // В зелени садов, // Яблонь ветви молодые // Гнутся от плодов. // Есть и речка, и плотина, // Старый парк зовет. // Ну, и главная причина — // Добрый здесь народ. // Если думой ты измучен — // Где бы отдохнуть, // Приезжай, товарищ, в Щучин // Летом как-нибудь».

На вершы Шамава песні пісаў не толькі Макравусаў, а і іншыя кампазітары. Выйшла ў яго і нямала паэтычных кніг. На жаль, той, якой даў назву «Костры горят далекие», не дачакаўся: памёр 20 снежня 1965 года. Кніга ж з такой назвай з'явілася толькі ў 2007 годзе, выйшла ў серыі «Литературные родники Томбовского края». Глыбокі сэнс набывае верш Шамава «Улетают летчики»: «Улетают летчики далеко, высоко, // Чертят по-над городом свой прощальный круг… // Улетают летчики… Улетают соколы...» Дзякуючы паэзіі Іван Шамаў паляцеў далёка. Шкада толькі, што паэтычных вышынь ён дасягнуў такой вялікай цаной.

Ды не аднымі паэтамі і празаікамі багатая Шчучыншчына.

## Вечная песня Чэслава Немена

Аматары музыкі, песні, канешне ж, ведаюць, што **Чэслаў Немен** — ніхто іншы, а знакаміты спявак, кампазітар, рок-музыкант. І не толькі польскі, як яго звычайна называюць, а чалавек з сусветным імем. А таксама ён наш, беларускі, а калі больш канкрэтна, то шчучынскі. Нарадзіўся 16 лютага 1939 года ў вёсцы Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна. Гэта калі прытрымлівацца цяперашняга тэрытарыяльнага падзелу, а тады гэта была Польшча. Дый ніякага Немена яшчэ не было. Быў Чэслаў Выджыцкі, бацька якога працаваў арганістам у мясцовым

касцёле. Зразумела, што сын рана далучыўся да музыкі, хлопчыкам спяваў у касцельным хоры.

Калі паўстала пытанне пра выбар жыццёвай дарогі, доўга не вагаўся, у 1954 годзе паступіў у Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча. Аднак не скончыў яго. Адлічылі, паколькі не падабаўся ні знешні выгляд, ні манера выканання. А тут прыйшоў час ісці ў армію. Ад войска яго выратавала тое, што гэта быў 1958 год — апошні тэрмін, калі палякам дазвалялася выязджаць у Польшчу. Бацька Чэслава выкарыстаў такую мажлівасць, і сям'я пакінула Беларусь. Жыла ў некалькіх гарадах, пакуль не спынілася ў Гданьску, дзе Чэслаў паступіў у сярэднюю музычную школу па класе фагота. Аднак і яе не скончыў, пакінуў вучобу па сямейных абставінах. Дый музыка клікала да сябе, часу праседжаваць штаны не было. У 1962 годзе стаў салістам групы «Небеска-Чарні». Потым быў заснавальнікам і вакалістам груп «Акварэле», «Немен Энігматык», «Немен», «Немен Аэраліт».

Псеўданім Немен узяў сабе ў гонар ракі Нёман, да якой, праўда, ад Старых Васілішак кіламетраў сорак, але ўсё адно Нёман з маленства запаў у ягонае сэрца. Па-польску ж Нёман гучыць як Немен. Хоць бытуе і версія, паводле якой гэты псеўданім выбраў не сам Чэслаў Выджыцкі, а прыдумала яго жонка вядомага польскага журналіста Францішка Валіцкага.

Шырокую вядомасць Чэслаў Немен набыў пасля выступлення ў 1963 годзе на першым Фестывалі польскай песні ў горадзе Аполе. Праз чатыры гады стаў лаўрэатам Міжнароднага фестывалю эстраднай песні, што таксама праходзіў у Аполе. Гэткага ж звання быў удастоены ў Сопаце (1979). На гэты час ужо быў зоркай першай велічыні. Сама Марлен Дзітрых уключыла ў свой рэпертуар ягоную песню «Ты яшчэ помніш мяне?», выконваючы якую нязменна прысвячала сваёй маці. Па колькасці выпушчаных дыскаў Немен мог спаборнічаць з сусветна вядомым ансамблем «Бітлз». Дарэчы, у знакамітай парыжскай «Алімпіі» выступіў раней за яго. Паспяхова заявіў аб сабе і як кампазітар. Прынамсі, ён аўтар і выканаўца музыкі і песень да спектакляў, фільмаў, сярод якіх «Гульня» Е. Каваляровіча, «Выйшаў у ясны, пагодны дзень» К. Вайцяхоўскага, «Вяселле» А. Вайды.

Самая вядомая песня Немена «Гэты дзіўны свет». Так называецца і фільм пра яго, створаны журналістам Верай Савінай у суаўтарстве з Аляксандрам Нілавым. Здымкі праходзілі ў Беларусі. Пра выдатнага спевака-самародка, свайго роду вучнямі якога з'яўляліся Уладзімір Мулявін, Андрэй Макарэвіч, Аляксандр Градскі, прыгадвалі яго аднавяскоўцы, аднакласнікі. Дзякуючы ім яшчэ больш аб'ёмным станавіўся дзіўны свет Чэслава Немена, якога не стала 17 студзеня 2004 года, але які назаўсёды прапісаўся ў гісторыі польскай музыкі. Ды ён ніколі не забываў аб сваіх вытоках, заўсёды памятаў, што нарадзіўся ў Старых Васілішках, падкрэсліваў, што з'явіўся на свет менавіта ў Старых Васілішках, бо ёсць яшчэ і вёска Васілішкі. Як ні загружаны быў выступленнямі, стараўся бываць на радзіме. Таму і з Масквы паехаў туды, хоць у яго распараджэнні былі ўсяго суткі. Запрасіў сваіх землякоў на канцэрт, які даваў у 1976 годзе ў мінскім Палацы спорту ў рамках «Беларускай музычнай восені». На адным жа з канцэртаў у Вільнюсе прысутнічалі ўсе Старыя Васілішкі — вёска ж невялікая. Тым больш цяпер, але ў ёй знаходзіцца музей Чэслава Немена. У той хаце, у якой ён некалі нарадзіўся.

## Галіна акцёрскага дрэва

Народная артыстка Беларусі **Вольга Галіна**. Праўда, не Галіна была, а Грудзінская. Пазней па мужу стала Александроўскай. Галіна — сцэнічны псеўданім, з якім Вольга Уладзіміраўна і ўвайшла ў гісторыю беларускага тэатральнага мастацтва. Прапанаваў ёй такі псеўданім сам Якуб Колас, з якім яна пазнаёмілася яшчэ дзяўчом у Вільні. Зноў сустрэлася з ім толькі ў 1923 годзе ў Мінску, куды прыехала па школьных справах, калі настаўнічала на Віцебшчыне. Праўда, спачатку напаткала не самога песняра, ягоную жонку. Марыя Дзмітрыеўна, узрадаваўшыся гэтай сустрэчы, запрасіла яе да сябе. Якуб Колас пачаў распытваць у Вольгі, што і як у яе жыцці, бо ведаў пра яе не так і шмат.

Нарадзілася Вольга Грудзінская 23 сакавіка 1899 года ў мястэчку Жалудок у сям'і настаўніка. У 1906 годзе Грудзінскія перабраліся ў Вільню, бо гаспадар Уладзімір Іосіфавіч быў запрошаны на працу ў губернскае праўленне. Праз тры гады Вольга паступіла ў жаночую гімназію. Гэта і паспрыяла яе далучэнню да тэатра, бо гімназісты раз на тыдзень наведвалі ранішнія спектаклі. З бацькамі ж яна хадзіла на канцэрты сімфанічнага аркестра. Часам слухала і знакамітых оперных спевакоў, якія прыязджалі на гастролі ў Вільню. Тады ж адбылося і знаёмства Вольгі з Якубам Коласам. Аднак ён Вільню ў 1912 годзе пакінуў, паехаў настаўнічаць на Піншчыну. Грудзінскія ж з пачаткам Першай сусветнай вайны эвакуіраваліся ў Тулу.

У Туле Вольга прадоўжыла вучобу ў мясцовай гімназіі, якую скончыла з залатым медалём. Калі ж бацькі з-за цяжкага матэрыяльнага становішча мусілі перабрацца на Украіну, з імі не паехала, засталася жыць у сваёй цёткі. Пакольк ўжо марыла аб сцэне, паступіла ў тэатральную студыю. Разам з іншымі студыйцамі прымала ўдзел у спектаклях самадзейнага калектыву Дома Чырвонай Арміі. Калі ж памёр бацька, пераехала ў Ахтырку Харкаўскай губерні, дзе на той час жыла іхняя сям'я. Займалася ў прафесійнай акцёрскай трупе, якая працавала пры Народным доме. У 1921 годзе яна перайшла ў ваенную трупу палітаддзела 45-й дывізіі. Калі праз нейкі год гэты калектыў расфарміравалі, Грудзінская пераехала на Віцебшчыну, дзе і пачала настаўнічаць…

Выслухаўшы яе, Якуб Колас сказаў:

— Трэба табе, Галінка, у наш БДТ-1 ісці. І бяры сабе сцэнічнае прозвішча Галіна.

Паслухалася Грудзінская Канстанціна Міхайлавіча. А ў тэатры да яе прыязна паставіўся Еўсцігней Міровіч, які тады быў мастацкім кіраўніком БДТ-1, а гэта цяперашні Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы. Еўсцігней Афінагенавіч рупліва збіраў пад сваё крыло таленавітых акцёраў, тых, каго сёння называюць першым пакаленнем купалаўцаў: Уладзімір Крыловіч, Уладзімір Уладамірскі, Глеб Глебаў, Барыс Платонаў, Лідзія Ржэцкая, Ірына Ждановіч… З гэтай кагорты і яна, Вольга Галіна.

На сцэне БДТ-1 дэбютавала роляй Ганны ў спектаклі «Машэка» самога Міровіча. Затым увасобіла не менш цікавыя вобразы ў спектаклях «Кастусь Каліноўскі» і «Запяюць верацёны» Міровіча, «Мешчанін у шляхецтве» і «Жорж Дандэн» Жана Батыста Мальера, «Вір» Яўгена Рамановіча і іншых. Далучылася і да рускай класікі, выканаўшы ролю Купавінай у «Ваўках і авечках» Аляксандра Астроўскага, увасобіўшы Соф'ю Каламійцаву ў «Апошніх» Максіма Горкага. Плённа працала таксама ў ваенны і пасляваенны час. Сорак гадоў працягвалася яе дзейнасць у Купалаўскім тэатры. Апошняя роля — Карэніна ў спектаклі «Жывы труп» Льва Талстога па сведчанні крытыкі «прагучала моцным і гучным фінальным акордам. Вольга Уладзіміраўна яшчэ раз прадэманстравала сваё майстэрства, пакарыла гледача тонкасцю і велічнасцю свайго таленту».

Не стала Вольгі Галіны 4 снежня 1980 года. Пакінула след не толькі на Купалаўскай сцэне. Працавала таксама і як педагог, выкладаючы майстэрства акцёра ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, цяперашняй Акадэміі мастацтваў. Выступала таксама ў спектаклях аматарскіх тэатраў. Розныя пытанні тэатральнага мастацтва закранала ў сваіх артыкулах, што публікаваліся ў перыёдцы.

* * *

Гэта толькі некалькі старонак з жыцця Шчучыншчыны. Расказваць пра гэты прыгожы куток нашай зямлі беларускай можна шмат і шмат. Дый, безумоўна, яшчэ нямала што будзе сказана ў час самога свята, якое, як і папярэднія Дні беларускага пісьменства, несумненна, пройдзе хораша і арганізавана, упэўніўшы ўсіх, які гэта дзіўны свет — Шчучыншчына.

**Любоў ГЛАЗМАН**

# САМАІДЭНТЫФІКАЦЫЯ АСОБЫ Ў ФІЛАСОФСКІМ АСЭНСАВАННІ ПІСЬМЕННІКА
## (на матэрыяле апавяданняў Леаніда Андрэева і Максіма Гарэцкага)

У першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя, якія насілі па многіх параметрах пераломны, крызісны характар, на фоне шматлікіх сацыяльна-эканамічных, геапалітычных, нарэшце, светапоглядных узрушэнняў не магло не адбыцца таго «ўсплёску пошукавых і трансфармацыі вядомых» [6, с. 95] мастацка-эстэтычных парадыгмаў, якія прадвызначылі фарміраванне — побач з праверанымі папярэдняй эпохай рэалістычнымі і рамантычнымі літаратурнымі напрамкамі — разнастайных мадэрнісцкіх плыняў. Вядома, дзве блізкія культурна-літаратурныя традыцыі — руская і беларуская — у той час апынуліся ў вельмі розных умовах. Як адзначаў М. Мішчанчук, наша нацыянальная літаратура, у адрозненне ад рускай, не стварыла выключна-мадэрнісцкай канцэпцыі быцця, «але ў баку ад агульнаеўрапейскага працэсу <…> не засталася» [8, с. 104]. Гэта сцвярджэнне цалкам суадносіцца з творамі аднаго з самых буйных наватараў слоўнага мастацтва Максіма Гарэцкага, у апавяданнях якога знайшлі сваё гарманічнае спалучэнне ўсе актуальныя для тагачаснага мастацкага мыслення тэндэнцыі. Вялізную цікавасць у такім кантэксце выклікае і проза рускага пісьменніка, які так афіцыйна і не далучыўся ні да рэалістычнага, ні да мадэрнісцкага лагера. «Кто я? Для благороднорожденных декадентов — презренный реалист; для наследственных реалистов — презренный символист» [3, с. 351], — з усмешкай канстатаваў Л. Андрэеў у лісце Максіму Горкаму. Насамрэч, і Гарэцкі, і Андрэеў, не стрымліваючы свой талент нейкімі фармальна-строгімі літаратурнымі канонамі, знаходзілі і выбіралі адэкватныя сродкі для адлюстравання ўласных мастацкіх ідэй, якія ў той час ужо нярэдка проста не ўкладваліся ў рамкі рэалістычнага светабачання з яго рацыяналізмам і прычынна-выніковай абумоўленасцю падзей.

Між тым, адной з галоўных светапоглядных трансфармацый першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя стала змяненне стаўлення да асобы. Увага да самаадчування і самавызначэння асобы, спробы акрэсліць месца чалавека ў надзвычай зменлівым свеце, спасцігнуць асновы, на якіх грунтуецца чалавечае існаванне, памнажаюцца ў пісьменніцкім асяроддзі падчас гістарычнага развіцця, якое характарызуецца і прагрэсам, і, адначасова, разбуральнымі тэндэнцыямі. Таму не дзіўна, што ў творчасці пісьменнікаў менавіта таго часу адной з ключавых паўстае праблема самаідэнтыфікацыі асобы. Аўтарэфлексія «з'яўляецца падставай для фармавання «я», якое ў нармальным стане заўсёды ўяўляе нейкую стабільную цэласнасць» [4, с. 502]. Пытанне пра захаванне гэтай цэласнасці вельмі востра ставіцца ў «малой» прозе і Л. Андрэева, і М. Гарэцкага ў коле агульначалавечых праблем філасофскага кшталту.

Абодва пісьменнікі, апроч іншага, звяртаюцца да тэмы знаходжання чалавека паміж відавочным, рацыянальна абгрунтаваным, лагічным і звышнатуральным, хаатычным бокам быцця. Пры гэтым і рускім, і беларускім аўтарам робіцца спроба пераасэнсавання месца і ролі чалавека ў свеце, знешняя ўпарадкаванасць якога аказваецца такой уяўнай і так лёгка разбураецца. Таму крызіс асобаснай ідэнтычнасці ў дадзеных аўтараў перажываюць не толькі пакалечаныя вайной героі твораў *«Чырвоны смех»* (1904) Андрэева, *«Рускі»* (1915), *«Дурная»* (1928) Гарэцкага, але і ахвяры мірнага часу, як, напрыклад, у апавяданнях *«Сын чала-*

*вечы»* (1909), *«Іпатаў»* (1911) Андрэева, *«Дурны настаўнік»* (1921)*, «Супакой»* (1921) Гарэцкага.

У творах Андрэева з падобнай праблематыкай канфлікт чалавека са светабудовай і агульнапрынятымі нормамі часам выліваецца ў своеасаблівы бунт героя, які часта мяжуе з багаборніцтвам (аповесць *«Жыццё Васіля Фівейскага»* (1903), апавяданні *«Маўчанне»* (1900), *«Вясновыя абяцанні»* (1903), *«Сын чалавечы»*, шматлікія п’есы). З апавяданняў найбольш яскравым з’яўляецца *«Сын чалавечы»*, дзе паказаны крызіс ідэнтычнасці героя ва ўмовах рэлятывізму каштоўнасцей, якія церпяць метамарфозы, на вачах папа Івана Багаяўленскага пераўтвараючыся ў пустыя формулы, аб’екты для маніпуляцый. Галоўны герой праходзіць некалькі фармальных этапаў асобаснага крызісу: праз адмаўленне ад уласнага прозвішча, скандальнае набыццё грамафона (здатнага падмяніць голас нават самога Хрыста) да цвёрдага намеру пагаліцца і змяніць веру. Такую будову сюжэта можна трактаваць як праходжанне папом адпаведных стадый страчвання самаідэнтычнасці, дзе змяненне прозвішча абазначае ўласную неабавязковасць, сімвалічную адмову ад уласнай асобы — псіхалагічны крызіс; замена людзей на грамафон сведчыць пра неабавязковасць іншых — крызіс сацыяльны; а закон аб дазволе мяняць веру звязаны з адмаўленнем ад Бога. Увогуле бунт айца Івана з’яўляецца вынікам своеасаблівага пратэсту супраць маралі, якой можна свабодна карыстацца ў сваіх інтарэсах, што поп і паспяшаўся прадэманстраваць на ўласным прыкладзе ўсяму святарскаму асяроддзю. Парадыйнасць, гратэскавасць апавядання толькі ўзмацняе яго экспрэсіўнасць і драматычнасць сітуацыі, якая перарастае ў сур’ёзны асобасны пошук: адмаўленне ад прозвішча як ад неадпаведнага «знака» выліваецца ў шукальніцтва нейкага вышэйшага знака.

Падобную накіраванасць па сюжэце мае апавяданне Гарэцкага *«Дурны настаўнік»*, галоўны герой якога таксама паўстае супраць усталяванай светабудовы. Калісьці паважаны чалавек, настаўнік Кубраковіч страчвае ўласную ідэнтычнасць, становячыся звар’яцелым жабраком, мясцовым блазнам. Істотную ролю, як і ў андрэеўскім творы, у вар’яцтве настаўніка адыгрывае «добрапрыстойнае грамадства».

Аднак, нягледзячы на сугучнасць, прыведзеныя творы маюць істотныя адметныя рысы, паколькі фіксуюць усё ж розныя бакі адной з’явы: выкрыцця мастаком стэрэатыпнага мыслення, а таксама тых жыццёвых стэрэатыпаў і арыенціраў, якія даўно страцілі сваё першапачатковае гуманістычнае значэнне. У рускага аўтара дадзеная ідэя носіць агульнафіласофскі характар, у яе аснове — спроба знайсці маральны падмурак, на якім цвёрда будзе трымацца сучасны яму чалавек. Адсюль узнікае парадаксальная андрэеўская ідэя пра «подлецки-благородную человеческую природу» [3, с. 135], паводле якой чалавек можа ачысціцца ад крывадушных «добранамеранасці» і «высакароднасці», ад застылых стэрэатыпаў апушчэння ў самы бруд. Гэтая думка суправаджае многія творы пісьменніка, сярод якіх знакамітыя скандальныя *«Цемра»* (1907), *«Іуда Іскарыёт»* (1907), *«Сашка Жэгулёў»* (1911). Маральны пошук прымушае Андрэеева звяртацца да самых нечаканых рашэнняў: паказу беспадстаўнага пакарання рокам (*«Іпатаў», «Чамаданаў»* (1916)), безуважнасці вышэйшых сіл (*«Вясновыя абяцанні», «Маўчанне», «Сцяна»* (1901)), бунтоўнага імкнення парушыць межы паміж жыццём і смерцю, магчымым і непадуладным чалавеку (*«Елеазар»* (1906), «*Палёт»* (1914)). Гэты ж пошук падштурхоўвае аўтара да вызначэння месца чалавека ў светабудове і яго адказнасці за ўласнае існаванне (*«Праклён звера»* (1908)).

У творах беларускага пісьменніка пытанні «вечности и бесконечности» [10, с. 238, 357, 534] рэалізуюцца ў іншым ракурсе. Як і Андрэева ў эпоху мадэрнісцкага пераасэнсавання рэчаіснасці Максіма Гарэцкага надзвычай цікавіць сувязь рацыянальнага і неспасціжнага, «патаемнага» боку існавання — пачынаючы з ранніх апавяданняў і на працягу ўсяго творчага жыцця. Аднак, адлюстроўваючы і таямніцы свету, і таямніцы чалавечай душы (што пазней акцэнтуецца ў яго творчасці ў «дваістасці» характару), Гарэцкі ўвесь час прапускае агульначалавечыя каштоўнасці праз нацыянальнае ўспрыманне. Гэтую скіраванасць В. Каваленка слушна называе «тенденцией поднять национальное до уровня общечеловеческого»

[5, с. 118]. Такой тэндэнцыяй і абумоўлены «надрывно-мучительные мотивы» [5, с.118] у творчасці пісьменніка, што і дазваляе некаторым даследчыкам параўноўваць творы Гарэцкага з мадэрнісцкімі, у тым ліку з андрэеўскімі [7, с. 100—101].

У апавяданнях Гарэцкага быццё чалавека ў свеце асэнсоўваецца, між іншым, як пошук пэўнага балансу паміж разумным, навуковым падыходам да жыцця і неспасціжным, інтуітыўным, які падчас уяўляе сабой забабоны «цёмнага», неадукаванага народа (*«У лазні»* (1912), *«Роднае карэнне»* (1913), пазнейшы твор *«Стары прафесар»* (1921)). На думку пісьменніка, якімі б дзіўнымі і часам прымітыўнымі ні здаваліся адукаванаму чалавеку народныя ўяўленні, яны з’яўляюцца тым неабходным складнікам, без разумення якога немагчыма адэкватная самаідэнтыфікацыя беларускага народа, у прыватнасці інтэлігенцыі; тым «родным карэннем» [2, с. 73], адэкватная повязь з якім дапаможа адрадзіць нацыю.

У супастаўленні «малой» прозы Андрэева і Гарэцкага варта таксама звярнуць увагу на апавяданні з выразнымі філасофскімі матывамі, сярод якіх *«Цёмны лес»* (1913), *«Патаёмнае»* (1913), *«Што яно?»* (1913) М. Гарэцкага, *«У цягніку»* (1900), *«Уваскрэсенне ўсіх мёртвых»* (1914) Л. Андрэева. Іх адметнасць — у асаблівым спалучэнні філасофскай думкі і эмацыянальна-лірычнага ўздзеяння на чытача, якое дае падставы гаварыць пра імпрэсіяністычную накіраванасць апавяданняў. Пра гэта сведчыць жаданне абодвух аўтараў уздзейнічаць не столькі на чытацкі розум, колькі на ўражанне, эмоцыі, нешта падсвядомае, што дасягаецца прыёмамі відавочнай урыўкавасці, лірызму, хаатычнасці падзей, выразнымі матывамі трывогі, страху смерці, прысутнасці нячыстай сілы. Сам аб’ект увагі, даволі спецыфічны, патрабаваў адэкватнай формы выражэння. Бо такім глабальным, філасофскім разважанням пра сэнс жыцця, нябачную і неспасціжную наяўнасць звышнатуральнага, немінучасць смерці нельга даць рацыянальнага тлумачэння, іх можна толькі ўлавіць, адчуць. У апавяданнях такога тыпу Гарэцкі свядома сцірае межы паміж рэальным і ўяўным. Так, у апавяданні *«Што яно?»* іх практычна нельга вылучыць нават фармальна з шэрагу цесна пераплеценых падзей, якія нібыта адбываюцца то насамрэч, то ў свядомасці чараўніка Янкі, а то і ў думках самога наратара.

Фантасмагарычныя разважанні пісьменнікаў пра жыццё і смерць, мінулае і сучаснасць адбіліся ў апавяданнях *«Руіны»* (1921)*, «Пакінутыя хаты»* (1921). Гарэцкі ў іх з дапамогай сну звяртаецца да мінулага, перад вачамі апавядальніка то ажывае цэлая шляхецкая эпоха, то ўзнікае «старасвеччына», якой нібыта цікавіцца герой: вялізны пакой, «поўны чалавечых касцей, чарапоў і яшчэ недагнілых трупаў» [2, с. 280] — водгаласы мінулай вайны. Часавы вектар апавяданняў *«Цудоўна жыццё для ўваскрошаных»* (1900), *«Уваскрэсенне ўсіх мёртвых»* Л. Андрэева з падобнай тэматыкай — напісаных дарэчы напярэдадні тых падзей, якія водгаласамі гучаць у «Пакінутых хатах» Гарэцкага — накіраваны ў процілеглы бок. Яны прасякнуты прадчуваннямі героем надыходзячых змен. І наколькі радасныя чаканні нейкага абнаўлення, прыбліжанага нават да рэлігійнага, у Андрэева, настолькі ж цяжкім успамінам яно суправаджаецца ў сведкі ваеннай трагедыі — беларускага аўтара.

Абодва пісьменнікі добра адчуваюць тую ілюзорнасць жыцця, якая прымушае мераць адны і тыя ж здарэнні рознымі меркамі, на працягу гадоў то надаючы ім асаблівую значнасць, то бязлітасна адсяваючы ў разрад «драбніц». Самі героі на ўласным вопыце перажываюць гэтую адноснасць, залішнюю суб’ектыўнасць падзей: «Я ж успрымаю так, як на тое паказала маё ўзгадаванне, мой светагляд, мае пачуцці…» [2, с. 265], «Глаза обманывают» [1], «…говорили мы и о жизни, о ее красоте и богатстве, о глубинах ее бездонных, над которыми беззаботно и слепо плавают люди-щепки» [1]. Адноснасць чалавечых спраў, пераацэнка іх па значнасці ў пераламленні жыццёвых дробязяў і няспынным колазвароце гісторыі паказана Гарэцкім у апавяданні «Габрыелевы прысады». Тое, што здаецца надзвычай важным у адзін момант жыцця, праз некалькі гадоў адыходзіць у нябыт (п’янства, грахі Габрыеля). І наадварот, вонкава непатрэбнае, пустое — прага героя да насаджэння дрэў, якую не разумелі людзі — цягам часу набывае найвышэйшы сэнс, становіцца «прысадамі жыцця» праз гады для апавядальніка

[2, с. 215]. Але і прысадам, паводле законаў лёсу, надыдзе час саступіць месца для нечага іншага. Пісьменніку ўдалося добра адлюстраваць гэтую парадаксальнасць рэчаіснасці і адноснасць чалавечых меркаванняў і ўражанняў.

У цэлым, беручы пад увагу нярэдкую сугучнасць твораў пісьменнікаў у адлюставанні падзей, у праблематыцы можна гаварыць пра некаторыя істотныя адметнасці ў характары самаідэнтыфікацыі іх персанажаў, бо да «праклятых пытанняў» пісьменнікі падыходзяць рознымі спосабамі. Андрэеў малюе героя, які шукае сапраўднае праз адмаўленне чалавечага вопыту, пратэстуючы супраць яго прагнілых прынцыпаў і дагматаў; героя, які спрабуе «дакрычацца» да безуважных нябёсаў і чэрствых душ людзей. Гэта надае апавяданням, у якіх пісьменнік імкнецца паўплываць на свядомасць і ўзварухнуць пачуцці чытача, асаблівую надрыўнасць і экспрэсіўнасць. Герой Гарэцкага таксама знаходзіцца ў пошуку, але гэты пошук не адмаўляе здабыткаў чалавецтва, а, наадварот, спрабуе выйсці да сапраўднай, «не фальшывай праўды» [2, с. 233], захоўваючы народжаныя беларускім народам ідэалы. Свядомае імкненне героя да самавызначэння, усведамленне неабходнасці так званага ўласнага адраджэння ў кантэксце асэнсавання адказнасці за адраджэнне ўсяго беларускага народа спалучаецца ў прозе Гарэцкага з экзістэнцыйнымі матывамі, якія даследчыкі (Л. Сінькова [9, с. 189], Т. Тарасава [11], інш.) вылучаюць у апавяданнях беларускага аўтара.

Такім чынам, і Гарэцкі, і Андрэеў, на пачатку пераломнага ХХ стагоддзя пераасэнсоўвалі праблемы існавання чалавека, акрэсліваючы новымі рысамі становішча асобы, яе самаідэнтыфікацыю і самаўсведамленне. У апавяданнях Гарэцкага герой імкнецца спасцігнуць асновы і сутнасць жыцця, прыходзячы да сваёй самаідэнтыфікацыі праз своеасаблівае спалучэнне асобаснага, рацыянальнага і неспасцігальнага, падсвядомага, якое карэніцца ў багатай духоўнай спадчыне народа. У творах «малой» прозы Андрэева значнае месца займае герой-бунтар, які востра адчувае фальш як іншых людзей, так і вышэйшых сіл ва ўмовах прыгнёту злога Року ці чалавечых прымхаў. Па гэтай прычыне ён адмаўляе каштоўнасці папярэдніх стагоддзяў, якія ў шматлікіх спробах спажывецкага выкарыстання даўно страцілі сваю цану.

## Спіс літаратуры:


1. Андреев, Л. Н. В поезде / Л. Н. Андреев // Lib.Ru: Классика [Электронный ресурс]. — 2005. — Режим доступа: http://az.lib.ru/a/andreew 1 n/text 0132.shtml. — Дата доступа: 09.02.2014.

2. Гарэцкі, М. Збор твораў. У 4-х т. / М. І. Гарэцкі. — Мінск: Маст. літ., 1984. — Т. 1.: Апавяданні 1913—1930. — 446 с.

3. Горький и Леонид Андреев: неизданная переписка / АН СССР. Ин-т мировой лит. им. А. М. Горького; под ред. И. С. Зильберштейн. — М.: Наука, 1965. — 630 с. — (Литературное наследство, т. 72).

4. Зяленская, Я. С. «Паміж сваіх і чужакоў» — у пошуках беларускай ідэнтычнасці / Я. С. Зяленская // Мировоззренческие и философско-методологические основания инновационного развития современного общества: Беларусь, регион, мир. Материалы международной научной конференции, г. Минск, 5—6 ноября, 2008 г. / Ин-т филос. НАН Беларуси; редкол.: Т. И. Адуло (гл. ред.) [и др.]. Минск: Право и экономика, 2008. — С. 501—503.

5. Коваленко, В. Трагическая мечта о буйном колошении… Философия национальной жизни в творчестве М. Горецкого / В. Коваленко. // Неман. — 1995. — № 3. — С. 115—129.

6. Лапин, И. Л. Компендиум по истории зарубежной литературы: Античность. Средневековье и Возрождение. Современность: курс лекций / И. Л. Лапин. Витебск: УО «ВГУ им. П. М. Машерова», 2008. — 149 с.

7. Мішчанчук, М. Вобразная сістэма прозы Максіма Гарэцкага ў кантэксце пошукаў мадэрнісцкай літаратуры першай палавіны ХХ стагоддзя / М. Мішчан-

чук // Максім і Гаўрыла Гарэцкія і спадарожніцы іх жыцця і творчай дзейнасці. Матэрыялы XIV Гарэцкіх чытанняў (прысвячаюцца Году Маці). Мінск, 8 чэрвеня 2006 г. / Калектыў аўтараў; рэдкал.: Р. Гарэцкі (адказны рэд.) [і інш.]. — Мінск: 2007. — С. 100—106.

8. Мішчанчук, М. Творчасць М. Гарэцкага ў святле мадэрнісцкіх пошукаў / М. Мішчанчук // Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць. Матэрыялы XIII Гарэцкіх чытанняў (да 105-годдзя з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага) / Калектыў аўтараў; рэдкал.: Р. Гарэцкі (адказны рэд.) [і інш.]. — Мінск: 2006. — С. 103—107.

9. Сінькова, Л. Д. Сюжэт з прозы Максіма Гарэцкага ў мастацкай рэцэпцыі С. Дубаўца / Л. Д. Сінькова // Русская и белорусская литературы на рубеже XX — XXI вв.: сборник научных статей. В 2 ч. / редкол.: С. Я. Гончарова-Грабовская (отв. ред) [и др.]. — Минск: РИВШ, 2007. — Ч. 2 — С. 189—194.

10. Скороход, Н. С. Леонид Андреев / Н. С. Скороход. — М.: Молодая гвардия, 2013. — 430 с.

11. Тарасава, Т. М. Беларуская проза XX стагоддзя ў еўрапейскім літаратурным кантэксце: экзістэнцыялізацыя духоўнага свету героя: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. Навук: 10.01.01 / Т. М. Тарасава; Цэнтр даслед. бел. культуры, мовы і літ-ры НАН Беларусі. — Мінск, 2013. — 46 с.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 22 красавіка 2015 года.

**Любоў ГЛАЗМАН**

## Самаідэнтыфікацыя асобы ў філасофскім асэнсаванні пісьменніка
### (на матэрыяле апавяданняў Л. Андрэева і М. Гарэцкага)

### Рэзюмэ

Даследуецца спецыфіка самаідэнтыфікацыі асобы ў апавяданнях Л. Андрэева і М. Гарэцкага. Аналізуецца асэнсаванне аўтарамі асобы і яе месца ў свеце ў кантэксце філасофскіх праблем першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя ва ўмовах суіснавання рэалістычных і мадэрнісцкіх культурна-літаратурных тэндэнцый. Канкрэтызуецца ўяўленне пра даміnanты мастацкага свету даследуемых пісьменнікаў.

**Ключавыя словы:** самаідэнтыфікацыя асобы, апавяданне, мадэрнізм, крызіс ідэнтычнасці, асобасны пошук, нацыянальнае ўспрыманне.

**Liubou HLAZMAN**

## Self-identification in the writer’s philosophical perception
### (based on L. Andreyev’s and M. Haretsky’s short stories)

### Summary

The article deals with specificity of self-identification in L. Andreyev’s and M. Haretsky’s short stories. It analyzes authors’ understanding of personality and the place of a person in the world in the context of the philosophical problems in the first decades of the 20th century in the coexistence of realistic and modernistic cultural and literary trends. It focuses the dominating ideas in writers’ oeuvre.

***Key words:*** self-identification, short story, modernism, identity crisis, identity search, national perception.

# ПАДЗЕІ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ Ў РАМАННАЙ ХРОНІЦЫ УЛАДЗІМІРА ГНІЛАМЁДАВА

*У Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні». Работа яе ажыццяўлялася ў трох асноўных напрамках — літаратуразнаўчым, культуралагічным і гістарычным. У канферэнцыі прынялі ўдзел вучоныя з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Вялікабрытаніі і іншых краін, паслы і прадстаўнікі пасольстваў дзесяці замежных краін і Еўрасаюза. Усяго на пленарным пасяджэнні і сямі секцыях было заслухана больш за сто навуковых дакладаў.*

*У межах літаратуразнаўчага напрамку канферэнцыі працавала пяць секцый: «Развіццё беларускай прозы і Першая сусветная вайна» (кіраўнікі — Таццяна Шамякіна і Галіна Адамовіч), «Паэзія і драматургія славянскіх народаў і Першая сусветная вайна» (кіраўнік — Сцяпан Лаўшук), «Першая сусветная вайна і літаратуры краін Еўропы» (кіраўнік — Таццяна Камароўская), «Выяўленне Першай сусветнай вайны ў творчасці Максіма Гарэцкага: беларуская традыцыя і сусветны кантэкст» (кіраўнік — Міхась Мушынскі), а таксама «Падзеі Першай сусветнай вайны ў раманнай хроніцы Уладзіміра Гніламёдава» (кіраўнікі — Тамара Тарасава і Мікола Мікуліч).*

*Увазе чытача прапануем даклады, што былі прачытаны на гэтай секцыі.*

## Яўген ГАРАДНІЦКІ

### Гістарычны вопыт XX стагоддзя і мастацкі стыль у літаратуры

Стыль — з’ява надзвычай сэнсава ёмістая і шматгранная. Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў як даследчык стылявой шматстайнасці беларускай літаратуры заўважыў у адной са сваіх прац, што *«індывідуальны стыль можна зразумець толькі з улікам калектыўнага вопыту»* [3, с. 13]. Сапраўды, у кожным значным літаратурным творы, якім бы індывідуальна своеасаблівым, па-мастацку адметным ні быў яго вобразны лад, заўсёды выяўляецца тое агульна-тыпалагічнае, універсальна-заканамернае, што характэрна для светаадчування пэўнай культурна-гістарычнай эпохі, што адносіцца да вялікага стылю як арганічнай спалучанасці канкрэтнага, зменлівага і адвечнага, архетыповага.

У той жа самай манаграфіі — «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» — У. Гніламёдаў выказаў вельмі істотную для разумення характару літаратурнага развіцця думку: *«Ёсць падстава гаварыць аб літаратурным працэсе, — заўважыў ён, — як аб руху стылю, паэтыкі»* [3, с. 12]. Такім вось дыялектычна зменлівым, рухомым бачыцца выдатнаму вучонаму-гуманітарыю, акадэміку У. Гніламёдаву працэс раскрыцця творчага патэнцыялу літаратуры, яе існаванне ў гістарычным часе.

Асноўную ўвагу як даследчык У. Гніламёдаў надаваў заўсёды нацыянальнай паэзіі, разглядаючы гэты ўнікальны эстэтычны і духоўны феномен менавіта ў яго пастаяннай зменлівасці, абнаўленні сродкаў мастацкага выражэння. У кнізе «Ад даўніны да сучаснасці» аўтар разглядае беларускую паэзію ХХ стагоддзя як *«вынік працяглага, шматвекавога працэсу развіцця мастацкага слова, якое ўвабрала ў сябе непаўторныя фарбы роднай зямлі, адметныя асаблівасці народнай гаворкі, мыслення, светапогляду»* [1, с. 3], зыходзячы якраз з такіх пазіцый, з усведамлення дыялектычнай паяднанасці быццёва-анталагічных, сацыяльных і эстэтычных з'яў. Ва ўступе да гэтай кнігі, як падсумаванне ажыццёўленага ў літаратуры ў мінулым стагоддзі, важка гучыць роздум вучонага: *«ХХ стагоддзе завяршылася, пакінуўшы ў свядомасці людзей агромністы гістарычны вопыт, што ахоплівае ўсе бакі грамадскай жыццядзейнасці, у тым ліку літаратуру, мастацтва, якія таксама з'яўляюцца ўвасабленнем чалавечага вопыту, яго спрадвечным духоўна-практычным эквівалентам»* [1, с. 3].

Агульнае паміж літаратуразнаўчымі, літаратурна-крытычнымі працамі У. Гніламёдава і яго празаічнымі творамі заключаецца, на нашу думку, у тым, што і ў адным, і ў другім выпадку праяўляецца ў поўнай меры такая якасць творцы і даследчыка, як павышаная ўвага да кожнай дэталі, падрабязнасці, улічванне разнастайных нюансаў, узаемапераходаў з'яў. Адносіны з вялікай ашчаднасцю і ўвагай да кожнай быццёвай і мастацкай праявы сведчаць пра шырыню поглядаў выдатнага вучонага і мастака слова, ступень яго асабістай далучанасці да ўсяго, што становіцца прадметам успрымання і асэнсавання ў яго полі зроку.

Беларуская паэзія, асабліва паэзія ХХ стагоддзя, грунтоўна даследавана У. Гніламёдавым менавіта з такой увагай і ашчаднасцю, з пільным углядваннем ва ўсе больш або менш значныя творы, творчыя індывідуальнасці, жанравыя разнавіднасці і стылёвыя плыні. Вернасць жыццёвай і мастацкай праўдзе — вызначальны крытэрый, з якім У. Гніламёдаў падыходзіць да кожнай літаратурнай з'явы. Гэтым галоўным крытэрыем вывяраецца ўсё астатняе: адметнасць творчай індывідуальнасці пісьменніка, адзінства мастацкіх формы і зместу, багацце выяўленчай палітры твора.

Імкненне да гарманічнай ураўнаважанасці, «залатой сярэдзіны», сінтэтычнага паяднання супрацьлегласцей прывяло да таго, што навуковая літаратуразнаўчая праца Уладзіміра Васільевіча Гніламёдава і яго мастацкая творчасць прадстаюць у суладнасці, як узаемадапаўняльныя адна адну сферы дзейнасці.

Стыль прозы У. Гніламёдава своеасаблівы. Яго адметнасць праяўляецца на ўзроўні фразавай пабудовы, інтанацыйнага ладу, сінтаксісу. Чытаючы гніламёдаўскія раманы ў храналагічнай паслядоўнасці непаспешліва разгортваемага аповеду, звяртаеш увагу на тое, што фразы, з якіх ён складаецца, гучаць лёгка, разгоніста. Яны не абцяжараныя празмерна сінтаксічнай складаназалежнасцю, груваcткімі спалучэннямі перыядаў. Яны сціслыя, лаканічныя, як бы сувымерныя з тым запасам паветра, якое патрабуецца для аднаго выдыху. У гэтым бачыцца вялікая мэтазгоднасць, разлічанасць на доўгую дыстанцыю — каб выявіць цэлую гістарычную эпоху з эпічнай угрунтаванасцю, усебаковасцю ахопу. Калі паспрабаваць пашукаць аналогіі ў галіне спорту, то дарэчы будзе згадаць спартсмена-марафонца, які ашчадна і прадумана размяркоўвае свае сілы на ўсю працягласць дыстанцыі.

Звяртае на сябе ўвагу і такая асаблівасць гніламёдаўскага празаічнага дыскурсу, як яго насычанасць дыялогамі. Аўтарскае слова пастаянна суправаджаецца, густа перамяжоўваецца дыялагічным словам персанажаў. У гэтым сэнсе ёсць усе падставы гаварыць пра дыялагізм як вызначальную прыкмету стылю пісьменніка. Праз дыялагічнае, гаваркое слова герояў выразна выяўляецца характар народнага самаўсведамлення, духоўнае адзінства камунікатыўнай прасторы чалавека, які трывала з'яднаны з родным для яго светам. *«Увесь свет трэба ведаць — але пільнавацца свайго месца на зямлі»* [2, с. 39], — такой спрадвечнай мудрай высновы

прытрымліваецца галоўны герой цыкла раманаў У. Гніламёдава — Лявон Кужаль, які пабываў нават у Амерыцы, але душой прырос да роднага краю. Гэты герой, які найбольш блізкі аўтару, праходзіць праз сюжэтную прастору ўсіх раманаў цыкла, спалучаючы іх сваёй неардынарнай асобай. Апрача яго, як цэнтральнай постаці, раманы У. Гніламёдава шчодра населены многімі іншымі персанажамі: яго роднымі, суседзямі, блізкімі і дальнімі вяскоўцамі — усімі тымі, хто сваёй сукупнасцю стварае агульны вобраз народа.

Народныя менталітэт і светабачанне знаходзяць шматбаковае ўвасабленне ў раманах У. Гніламёдава, выяўляючыся і праз маўленне герояў, і праз іх паводзіны і дзеянні, іх адносіны да быццёвых з'яў. Калі гаварыць пра суадносіны маўлення аўтара і герояў, то ў дадзеным выпадку варта прызнаць, што паміж імі непрыкметна кантраснага адрознення. Тут няма такога рэзкага размежавання, калі аўтар карыстаецца выключна літаратурнай мовай, а яго героі гавораць на дыялектнай. Слова «марыканец» (амерыканец) бярэцца ў аўтарскім наратыве, вядома, у двукоссі, але ў цэлым для маўлення аўтара характэрна стылёвая раскаванасць, свабоднае валоданне ўсімі рэгістрамі народнай мовы. Вось, напрыклад, якім экспазіцыйным апісаннем пачынаецца адзін з раздзелаў рамана «Расія»: «Мінала яшчэ адна зіма. Ужо добра бралася на вясну. Яна была незвычайнай — вясна 1914 года! Дзіўная рэч! Шпакі і жаваранкі прыляцелі ў Пруску ўжо ў канцы лютага, а гусі і качкі яшчэ раней. На сонечных угрэвах затаўкаліся густыя раі камароў» [2, с. 37].

Дзеянне ў гэтым рамане пачынаецца з вясны трагічна памятнага 1914 года, які ўвайшоў у сусветную гісторыю пачаткам небывалай дагэтуль па сваіх наступствах вайны між народамі, падзеі, якая стала прадвесцем глабальных зрухаў у сістэме светапоглядных каардынат сучаснай цывілізацыі. Раман «Расія» якраз і прысвечаны асвятленню наступстваў гэтай катастрафічнай для беларускага народа падзеі, і ў першую чаргу таго, як яна адбілася на лёсе герояў твора, якія вымушаны былі падацца ў бежанства, пакінуўшы свае родныя селішчы. Да тэмы бежанства падчас Першай сусветнай вайны, як і да самой гэтай падзеі глабальнага маштабу, беларускія пісьменнікі звярталіся нячаста, таму раман У. Гніламёдава мае адметнае значэнне як мастацкае сведчанне эпохі, як дэталёвае і падрабязнае выяўленне адной з самых драматычных старонак беларускай гісторыі XX стагоддзя.

Пярэдадзень вялікай гістарычнай падзеі адлюстраваны ў рамане У. Гніламёдава з уласцівай пісьменніку ўвагай да паўсядзённага бытавання герояў, якія жывуць звычнымі для іх клопатамі і зусім не падазраюць пра набліжэнне жорсткіх выпрабаванняў. «Вясна і лета 1914 года выдаліся сухімі і вельмі спякотнымі, — адзначае апавядальнік. — У чыстым блакіце там-сям бездапаможна бялелі хмаркі. Драмалі затравелыя двары і прыгуменні» [2, с. 59]. Дакументальная дакладнасць аповеду з'яўляецца, несумненна, вынікам вялікай падрыхтоўчай працы аўтара па скрупулёзным вывучэнні гістарычнага матэрыялу, але гэтыя атрыманыя з розных крыніц веды ажыўляюцца, набываюць мастацкае ўвасабленне ў тэксце твора дзякуючы здольнасці мастака пранікнуцца атмасферай тагачаснага жыцця, глыбока ўвайсці ў свет сваіх герояў, узнавіўшы яго ў выразна ўяўленых вобразах.

## Літаратура

1. Гніламёдаў, У. Ад даўніны да сучаснасці : Нарыс пра беларускую паэзію / У. Гніламёдаў. — Мінск : Маст. літ., 2001. — 246 с.

2. Гніламёдаў, У. Расія / У. Гніламёдаў. — Мінск: Маст. літ., 2007. — 672 с.

3. Гніламёдаў, У. Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс / У. Гніламёдаў. — Мінск : Навука і тэхніка, 1983. — 304 с.

**Валянціна ЛОКУН**

## Вайна як трагедыя народнага лёсу

Томас Ман невыпадкова пачынаў адлік часу з Першай сусветнай вайны: «*...гэта гістарычная вяха, якая абазначыла канец аднаго свету і пачатак чагосьці зусім новага*» [6, с. 359]. Вайна была прайграная з усіх бакоў, але яна спарадзіла вялікі духоўны рух, спарадзіла літаратуру адметнага творчага накірунку, у тым ліку і літаратуру «згубленага пакалення», моцную сваім антываенным пафасам, якая суіснавала ў цесным узаемадзеянні з філасофіяй і эстэтыкай авангарда.

У 1929 годзе, амаль адначасова, выходзяць раманы англічаніна Р. Олдынгтана «Смерць героя», немца Э. Рэмарка «На заходнім фронце без змен» і амерыканца Э. Хемінгуэя «Бывай, зброя!». Пазней гэты шэраг будзе дапоўнены трылогіяй «ЗША» (1930—1936) амерыканца Дос Пасаса. Менавіта гэтая літаратура наклала адбітак на ўсю далейшую «шматколерную» атымілітарысцкую літаратуру, шмат у чым вызначыўшы яе развіццё. За выключэннем савецкай літаратуры, якая тым часам была занятая ў першую чаргу мастацкім асэнсаваннем Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. і адышла ад тэм і праблем заходнееўрапейскай літаратуры. Праўда, былі і выключэнні: цыкл вершаў Я. Купалы «Песні вайны», паэма Я. Пушчы «Цень Консула» (і інш.), дзе вайна адлюстроўвалася як нацыянальная катастрофа, як фізічнае і маральнае вынішчэнне нацыі. Артэфактам літаратуры аб Вялікай вайне можна лічыць дакументальна-мастацкія запіскі М. Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне». Кніга М. Гарэцкага найбліжэй стаіць да вопыту літаратуры «згубленага пакалення»: дэгераізацыя вайны, трагедыя індывідуальнага духу. Яна з’явілася ў беларускай культурнай прасторы як першы мастацкі летапіс вайны. Але надрукаваны ў 1926 г. твор не атрымаў належнай ацэнкі ў крытыкаў, з цяжкасцю прабіваўся да чытацкай аўдыторыі, таму і не мог адыграць адэкватнай ролі ў развіцці нацыянальнай літаратуры.

Р. Олдынгтан адчуваў сябе глыбока абавязаным усім, хто загінуў на полі бою. Англійскі пісьменнік адчуваў асабістую адказнасць і асабістую віну за ўсіх забітых на вайне, за ўсіх яе ахвяр. Да такога ж пачуцця адказнасці і віны ён заклікаў кожнага чалавека паасобку. Такім жа пачуццём адказнасці ў савецкай літаратуры пазней будзе прасякнута «лейтэнанцкая проза» — асабліва «ваенная» проза Васіля Быкава.

Такой адказнасцю ўжо напрыканцы XX — пачатку XXI ст. кіруецца і сучасны пісьменнік Уладзімір Гніламёдаў. Адказнасцю перад памяццю свайго роду і памяццю ўсяго народа беларускага. Яго «сямейная хроніка» — унікальная з’ява ў кантэксце сучаснай беларускай прозы: «Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне», «Валошкі на мяжы», «Вайна».

Адлюстраванне вайны 1914 г. У. Гніламёдава — гэта якасна іншы ўзровень мастацкай свядомасці, які спраўдзіўся ўжо ва ўмовах змены культурнай парадыгмы. Гэта адлюстраванне гісторыі праз адчуванні народа, праз духоўную памяць свайго роду, генную памяць. Толькі У. Гніламёдаву, як і некалі М. Прусту ў яго геніяльнай працы «У пошуках страчанага часу», разам з рэальнымі фактамі і падзеямі вельмі важна перадаць **сваё** адчуванне радзімы, **сваё** адчуванне часу, гісторыі Крэсаў Усходніх праз сукупнасць **адчуванняў** сваіх продкаў, землякоў-вяскоўцаў, праз сукупнасць фактаў чалавечага перажывання ўвогуле. Як і раней М. Прусту, У. Гніламёдаву цяпер невыносна цяжка, што свет, які ён адчувае, носіць у сабе, знікне, сыдзе ў нябыт разам з ім. Знікне яго Пруска, яе гісторыя, а разам з ёю знікнуць і тыя глыбінныя духоўныя каштоўнасці, носьбітамі якіх былі яго суродзічы. Адсюль вынікае і адна з галоўных задач пісьменніка: вярнуцца да сваіх каранёў, да сакральнага, адлюстраваць жыццё роднай вёскі Пруск і — народнае жыццё. Жыццё «ў вайне». Жыццё анталагічнае па сваёй сутнасці, жыццё «быційнае». Менавіта гэтае

«прыроднае» жыццё, малапрыкметнае на знешнія падзеі, жыццё-сузіранне, жыццё-існаванне і было галоўным «генератарам» «духоўнага капіталу нацыі» (С. Гаранін), ва ўмовах сацыяльнага ўціску і ваеннага ліхалецця. Пісьменнік адыходзіць ад суб'ектыўнасці літаратуры «згубленага пакалення», яго тэксты набываюць рысы аб'ектываванай прозы. Больш за тое, У. Гніламёдаў у сваіх творах дыялектычна спалучае індывідуальна-асабовае бачанне свету і калектыўна-родавае, спрадвечнае. Адсюль, дарэчы, і поліфанізм яго прозы — як адзнака маштабнага светабачання і глыбіні пранікнення ў сутнасць быцця.

Соцыум, перакананы аўтар «Расіі», дэфармуе асобу, ператварае яе ў функцыю. Ідэя абсурднасці свету, шырока распаўсюджаная ў літаратуры «згубленага пакалення», шмат у чым вызначае і арганізацыю мастацкай прасторы рамана «Расія». «*Бальшавізм — гэта прыпадак, які здарыўся з нашым вопчаствам, асляпленне...*» [2, с. 480], — адзначыць Ілья Аляксандравіч Платонаў, які раней хлебам усю Бельгію карміў і быў перакананы, што «*ўласнасць на зямлі асвечана Богам!*» [2, с. 413]. «*Рэвалюцыя — гэта памрока, зацьменне. Як зацьменне сонца*» [2, с. 512], — абагульніць свае назіранні Фёкла. Гэтая простая непісьменная жанчына верыла, што «*забіваючы іншага, чалавек знішчае адначасова і сябе... ахвяры вартыя сваіх катаў*» [2, с. 512]. «*Белыя, чырвоныя, яшчэ нейкія... Нічым яны фактычна паміж сабой не розняцца. Ваююць, ваююць, б'юцца...*» [2, с. 461]. Бо «*гвалт нараджае гвалт*» [2, с. 512], — па-філасофску глыбакадумна адзначыць прускавец Ламака.

Да ідэі абсурднасці свету ў Гніламёдава далучаецца матыў страты бацькоўскага «дома» як «дома» нацыянальнага. У структуру рамана «Расія» ўводзяцца вобразы-канцэпты зямлі і бацькоўскага «дома». Насычаныя глыбокім філасофскім зместам, яны набываюць статус архетыпа **нацыянальнага** «дома». «*Зямля ўсё ж такі нешта большае, чым тыя простыя рэчывы, з якіх яна, здавалася б, складаецца...*» [3, с. 29], — заўважыць пісьменнік ужо ў рамане «Вяртанне». Цэнтрам гэтай вялікай нацыянальнай прасторы з'яўляецца Пруска. Вёска жыла сваёй храналогіяй, дакладней, па кругавароце — сяўба, касьба, жніво. Падаецца мадэль устойлівага і згарманізаванага вясковага жыцця. Зло, персаніфікаванае ў вобразе вайны, парушыла гэты спрадвечны рытм, спыніла кругаварот, і вось вынік — знік разумны пачатак, свет апынуўся на мяжы апакаліпсісу. Прускаўцы вымушаны былі пакінуць свой «дом», сваю зямлю.

Раманная прастора У. Гніламёдава, пазначаная прыкметай эпічнай запаволенасці, пераклікаецца з паэтыкай класічнага эпасу з яго няспешным рухам, з адчуваннем усеагульнага адзінства. Гэтая мастацкая прастора, яе рытм нібыта ідэнтыфікуецца з рухам самога жыцця прыпушчанскага краю. Няспешлівасць, запаволенасць — гэта рытм жыцця-існавання Прускі і прускаўцаў, народа па сваёй сутнасці абшчыннага, які, набыўшы статус бежанцаў, рухаўся на ўсход, а «*з неба на ўсё гэта сумна глядзеў месяц*» [2, с. 103]. Пад пагрозай знішчэння аказалася жыццё прыроднае, якое развівалася субстанцыянальна, па-за чыёйнебудзь воляй. І вось цяпер гэтае жыццё перарвалася. «*Лявону на нейкі момант нават здалося, што яны коцяцца ў нейкае незразумелае бяздонне, якое ўсё глыбей і глыбей паглынае іх усіх разам з коньмі і вазамі, з няхітрым дарожным скарбам*» [2, с. 103]. *«Лёс дарэшты хоча выкараніць наш народ...»*, — адзначыць стары Кірыла. «*Не спрыяе нам лёс*» [2, с. 103], — падтрымлівае яго і маладзейшы прускавец Трафім. Гэта — галасы «стомленага» народа. Прускаўцы, па логіцы развіцця мастацкай думкі, сталі ахвярамі свайго лёсу-наканавання. «*Вайна — гэта чыясьці забава, нейкі вялікі падман, змова сатанінскіх сіл, пра якую ніхто не ведае, але яна, змова гэтая, існуе...*» [2, с. 349]. «*Увесь свет ахапіла вайна...* ***Гэта за грахі нашы!***» [2, с. 100—101] (выдзелена мною. — *В. Л.*). Гэта вельмі характэрны момант. Народ быў далёкі ад палітыкі, ад бунтоўнасці, ад абвінавачванняў кайзераўскай улады. Ён «скупляў» свае грахі. Годна скупляў. Гэта адзін з парадоксаў народнай свядомасці пачатку XX стагоддзя.

Пісьменнік тут ставіць важнейшае для асэнсавання нацыянальнай ідэнтычнасці пытанне. Пытанне **ўнутранай** няскоранасці простых людзей.

Вяскоўцаў страшыла дарога, яны адмаўлялі само слова «бежанец», бо «бежанцы мы, уцекачы, значыць» [2, с. 93]. Людзі адрываліся не толькі ад звыклага ладу жыцця, роднай зямлі, роднага парога, але і ад магіл продкаў:

— *«Крыж трэба паставіць, — сказала Марыля.*

— *Які крыж?*

— *На могілках. Каб назад вярнуцца! Калі крыж будзе стаяць, дык цягнуць сюды будзе! <...>*

— *Зямлі з сабой трэба ўзяць — жменьку хаця б. Людзі так робяць...»* [2, с. 95—96], — нагадаў Кірыла.

У тэкст уводзіцца яшчэ адзін вобраз-канцэпт — дарогі. Сваёй метафарычнай сутнасцю ён выходзіць за межы аднаго індывідуальнага лёсу, закранае і іншыя «ўзроўні», больш агульныя. Дарога, па якой выбраліся прускаўцы ў бежанства, сімвалізуе рух усяго беларускага народа ў сваім гістарычным прадвызначэнні. Запаволенасць руху бежанцаў — гэта запаволенасць руху самой беларускай гісторыі.

Узнікае трагічная па сваёй сутнасці бязмежная быційная прастора, пасярод якой рухаюцца прускаўцы, рухаецца ўвесь народ беларускі. У невядомасць. У залежнасць. Ад самога свайго пачатку. Усё далей ад свайго прыроднага ці першароднага «я». «*Ехалі... паціху калдыбаліся... Спусціліся са стромкай Бабіцкай гары... Мінулі Ліпну, Мікалаева, праехалі Замасты... Рухаліся марудна*» [2, с. 97—98]. Так напісаў У. Гніламёдаў у рамане «Расія». Яшчэ больш выразная паралель акрэслена ў рамане «Валошкі на мяжы»: «*Наперадзе і ззаду, даганяючы Лявона, скрыпелі чыесьці калёсы... Ён ведаў і любіў гэты спрадвечны скрып колаў на прасёлачных дарогах, рух як нейкую ўсюдыісную галоўную прыкмету жыцця, як напамінак, што побач такія ж, як і ты, людзі, аб'яднаныя адной сялянскай доляй*» [4, с. 9]. Спрадвечны запаволены рух беларусаў — гэта і ёсць іх доля, прадвызначаная самім Творцам.

У раскрыцці духу народа В. Бялінскі бачыў прыкметы эпапеі. У цэнтры эпапейнага па сваіх маштабах адлюстравання У. Гніламёдаў «паставіў» дух «стомленага народа», якому «*надакучыла думаць пра будучыню, ён даўно ўжо адвык ад гэтага занятку. Проста — жыў, па інерцыі*» [2, с. 205]. Але разам з тым менавіта гэты народ умеў выжываць ва ўмовах, у якіх і «*звер не можа*» [2, с. 101].

Уладзіміру Гніламёдаву-раманісту XXI стагоддзя ўдалося вельмі глыбока спасцігнуць драматычную сутнасць сацыяльных, духоўных перамен першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя, маштабна адлюстраваць унутраную драму беларускага народа, які ў дадатак да вайны 1914 г., бежанства і рэвалюцыі 1917 г. павінен быў прайсці і праз польскі ўціск, калі бальшавікі аддалі Польшчы заходнюю частку Беларусі.

Заслуга У. Гніламёдава яшчэ і ў тым, што ён імкнецца адшукаць анталагічныя адзнакі адзінства беларускага і рускага народаў. Ён сінтэзуе «хоры» галасоў двух славянскіх народаў, высвятляючы пры гэтым і іх карані.

З аднаго боку — нашчадкі старажытнага племені: «*прусаў, яцвягаў, велетаў*», мужнага і ваяўнічага народа, які прыйшоў з-пад Карпат. З другога — «*далёкія нашчадкі беглых разінцаў і пугачоўцаў*» [2, с. 124]. Апынуўшыся ў глухой патрыярхальнай расійскай вёсцы, прускаўцы ўбачылі, што і там жыццё «*цякло марудна і аднастайна*» [2, с. 123]. «*У нас жыццё вялае*, — адзначыць Лявон, — *але і тут яно не надта паспешлівае. Таксама як бы хто стрымлівае яго... Але сіла жыцця такая, як гэтая трава, што прабіваецца дзе толькі можна, каб сцвердзіць сябе, умацавацца, закрасавацца...*» [2, с. 183] Узнікае ідэя духоўнай моцы агульнага славянскага свету. І агульнасці трагічнага лёсу славянскіх народаў. Першая сусветная вайна і рэвалюцыя паяднала «*малодшых брацціяў*» і старшага, бо «*ацечаства ў нас адно, адзінае і недзялімае!*» [2, с. 121].

Годным прадстаўніком свайго народа з'яўляецца Лявон Кужаль, саліруючы голас якога выразна гучыць у тэксце «Хронікі». Акаляючыя ўмовы, зразумела,

удзельнічаюць у фарміраванні ўнутранага «я» Лявона, але яго духоўная сутнасць падпарадкоўваецца ў большай ступені генам роду, прыроднай існасці. Ён дбае пра мінуўшчыну, сваіх продкаў, бо для яго гэта не толькі гісторыя, але і бацькаўшчына. «*Пра сваё забываць не варта. Гэта — бацькаўшчына!*» [3, с. 264] Бацькаўшчына як неад'емная частка вялікага нацыянальнага «дома». У. Гніламёдаў, такім чынам, пацвярджае ідэю Г. Гачава аб тым, што «*Нацыянальны свет расце адразу з розных канцоў: і з зямлі, і з неба, з мінулага (паходжанні), і спераду — з мэты, прызвання, якое змяшчаецца ў мары, ідэалах, у клічу-памкненні наперад*» [1, с. 161].

Па сваёй анталагічнай сутнасці Лявон Кужаль стаіць упоравень з коласаўскім Міхалам і мележаўскім Васілём Дзятлам. Менавіта стаўленне да зямлі вызначае характар і сацыяльную пазіцыю гэтых герояў. Лявон хацеў жыць, як некалі ладзіў сваё жыццё дзед Кірыла. «*Той жыў як чалавек і адначасова быццам як дрэва, спалучыўшыся ў адно цэлае з зямлёй і з усім прыродным улоннем… «Вось каб і мне так! А што? Можа, гэта і ёсць выйсце! І я буду мацней за ўсіх вас — і збуічаў, і санацыю, і камуністаў, і самога Пілсудскага!..*» [3, с. 386]. У логіцы развіцця вобраза Лявона Кужаля сцвярджаецца настойлівая неабходнасць самабытнага ўдзелу чалавека ў стваральным жыцці.

Прызыў у царскую армію, на вайну, Лявон успрыняў як чарговае наканаванне лёсу: «*Вайна патрабуе ахвяр, як вогнішча — дроў. Значыць, трэба ісці насустрач лёсу — яго не абмінеш*» [2, с. 246]. Так, змірыўшыся, разважаў Лявон.

Пісьменнік не шкадуе змрочных фарбаў, адлюстроўваючы царскую армію Першай сусветнай вайны. Як не шкадавалі іх у свой час пісьменнікі «згубленага пакалення». Запазычыўшы барбюсаўскую метафару факта, яны ўспрымалі вайну як несупынную лаву смерці, крыві і разбурэння. Адсюль — іх страшэнны адчай, крык душы. Адсюль і найвялікшы пафас адмаўлення. У. Гніламёдаў у перадачы «вобраза» вайны вельмі блізка стаіць да вопыту літаратуры «згубленага пакалення». Пераемнасць традыцый тут відавочная.

Эрнест Хемінгуэй драму свету бачыў найперш у страце рамантыкі жыцця, у страце індывідуальнага «я», у нівеліроўцы — праз вайну! — гэтага «я» да ступені «ніхто».

Аўтар «Расіі» таксама сведчыць, што людзей ператваралі ў безгалосыя аўтаматы ўжо ў вучэбным палку. Жыццё чалавека тут не мела аніякай каштоўнасці. «*Памерці за радзіму на полі брані — што можа быць прыгажэй, гаспада*» [2, с. 253], — пафасна ўнушаў навабранцам армейскі палкоўнік. Неўзабаве Лявон адчуў, што ён таксама становіцца паслухмяным аўтаматам, выканаўцам чужой волі. Ён прыходзіць да высновы, што «*армія — ды яшчэ ў час вайны — суцэльны здзек над чалавекам*» [2, с. 251].

Вайна з цяжкасцю ўваходзіла ў свядомасць Лявона: «*гукі стрэлаў праціналі густы туман, упіваліся ў вушы і дзейнічалі на нервы*» [2, с. 256]. Яму здавалася, што нібыта сама зямля «*глуха стагнала*», яму «*хацелася як мага шчыльней уціснуцца ў зямлю, забіцца ў нейкую шчыліну*» [2, с. 256]. Яму, селяніну па сваёй сутнасці, г.зн. ***стваральніку*** жыцця, цяжка станавіцца разбуральнікам, забойцам. Герой не адчуваў ніякай асабістай нянавісці да ворага. Ён закалоў свайго першага «*рыжага доўгага немца*» толькі таму, што «*не я б яго, дык ён бы мяне. Усё проста, і ўсё складана…*» [2, с. 270].

Як засведчыла еўрапейская літаратура аб Першай сусветнай вайне, працэс пераўтварэння чалавека ў салдата-забойцу, выканаўцу чужой злой волі, заўсёды быў пакутліва-супярэчлівым, трагічным. Чалавек не вытрымліваў неймаверна цяжкага псіхалагічнага ўціску вайны. Нават тыя, што выжылі фізічна, духоўна заставаліся памерлымі.

Лявон Кужаль — таксама ахвяра вайны. Назіраючы за тым, як «*рускія салдаты мясілі нямецкія акопы, а нямецкія — варушылі зямлю па гэты бок»,* героя «*даймала не столькі фізічная, колькі нейкая больш глыбокая, нутраная стомленасць, якая напаўняла чалавека нерухомасцю і раўнадушшам да ўсяго навакольнага*»

[2, с. 271]. Лявон становіцца інакшым, адрозным ад сябе ранейшага, *«штосьці ў ім моцна пахіснулася. Узмацніўся скепсіс, прыгнечанасць. Жыццё здавалася суцэльным ланцугом драм і трагедый»* [2, с. 306].

Перадаючы атмасферу страты старых ідэалаў, Э. Хемінгуэй часоў Першай сусветнай вайны сцвярджаў, што вайна забівае кожнага, і шукаў альтэрнатыву непазбежнасці, пакуль нарэшце зразумеў, што толькі каханне да жанчыны выратуе душу чалавека («Бывай, зброя!»). Герой У. Гніламёдава на вайне ратуецца іншым — памяццю аб бацькаўшчыне, адчуваннем земляробчай працы. Бо і ў акопах Лявону снілася Пруска. «*Як бы мы ўсе разам выйшлі ў поле жаць жыта. Нават чуў пах пруcкаўскага палыну…*» [2, с. 266]

Лявон быў хрысціянінам па сваёй маральнай сутнасці. Палітыка, а тым больш палітыканства, яго не цікавілі. «*Відаць, я лішні сярод тых, хто будуе новы свет. Мне трэба заставацца ў старым. Па-новаму я ўжо не патраплю…*» [2, с. 595] Ды і ўвогуле, «*нашто селяніну палітыка, калі хапае зямлі? Вырасціў што — прадаў*» [3, с. 108]. Герой упарта імкнецца адстаяць сваю ўнутраную свабоду, свабоду ад рэвалюцыі, ідэалогіі і палітыкі, ад усіх злых сіл, якія актывізаваліся ў час міжваеннага ліхалецця. «*Чаго ж яны ад мяне хочуць?.. Чаго ім ад мяне трэба?*» [3, с. 233] — дзівіўся Лявон, з усіх сіл баронячы свой суверэнітэт.

Лявон 20-х—30-х гг. — сцвярджэнне ідэі захавання ўнутранага «я» беларуса, яго нацыянальнага «дома», захавання пераемнасці духоўнага ладу жыцця. Лявон 40-х гг. — гэта ўжо матыў страчанасці спрадвечных духоўных сувязей паміж людзьмі, паміж чалавекам і «домам». Трагедыя яго ў тым, што ён становіцца апошнім з магікан сялянскага роду Кужаляў.

Першая сусветная вайна — складаны этап у выпрабаванні прускаўцаў. Услед за ёю зло ў тэкстах пісьменніка набудзе іншыя персаніфікацыі: Кастрычніцкая рэвалюцыя, бальшавіцкі тэрор, уціск Рэчы Паспалітай. Гэты «стомлены» ад сацыяльнага ўціску народ павінен будзе зноў і зноў адстойваць сваю нацыянальную адметнасць і неўміручасць.

У. Гніламёдаў напружана шукае суровую праўду нацыянальнага быцця, яго духоўны базіс. Творчая інтуіцыя аўтара, угрунтаваная еўрапейскім літаратурным і гісторыка-культурным вопытам, дазволіла яму па-новаму асэнсаваць складанасці развіцця нацыянальнай свядомасці, спасцігнуць вайну як духоўную трагедыю народа, актуалізаваць яе маральныя наступствы. «*Тэма вайны*, — адзначыць пісьменнік, маючы на ўвазе галоўным чынам Вялікую Айчынную вайну, — *з'ява фенаменальная, разлічаная на будучыню. Вайна не становіцца і не павінна станавіцца гісторыяй — каб не было надалей, як учора <…>. Тэма невычэрпная. Ды не зняўшы шапку перад народам-пакутнікам, не будзе нашчадак паўнавартасным чалавекам*» [5, с. 8].

## Літаратура

1. Гачев, Г. Национальные образы мира / Г. Гачев // Вопросы литературы. — № 10. — 1987.

2. Гніламёдаў, У. В. Расія: раман / У. В. Гніламёдаў. — Мінск : Маст. літ., 2007. — 672 с.

3. Гніламёдаў, У. В. Вяртанне : раман / У. В. Гніламёдаў. — Мінск : Маст. літ., 2008. — 429 с.

4. Гніламёдаў, У. В. Валошкі на мяжы: раман / У. В. Гніламёдаў // Полымя. — 2009. — № 8.

5. «Круглы стол» на тэму «Вялікая Айчынная вайна ў літаратуры: учора, сёння, заўтра» / ЛіМ. — 2013. — 3 мая.

6. Манн, Т. Художник и общество / Т. Манн // Называть вещи своими именами: Программные выступления мастеров западноевропейской литературы XX века. — М., 1986.

**Мікола МІКУЛІЧ**

## Проза Уладзіміра Гніламёдава
*(суб'ектыўныя назіранні)*

Унікальнай з'явай на этапе навейшай літаратурнай гісторыі Беларусі стала сямейная хроніка Уладзіміра Гніламёдава. Яго раманы «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008), «Валошкі на мяжы» (2014), «Вайна» (2014) заключаюць у сабе адзнакі вялікага нацыянальнага беларускага эпасу. У іх пісьменнік глыбока выявіў гісторыю жыцця беларускага народа на скразняках самага складанага і супярэчлівага — XX стагоддзя, стагоддзя рэвалюцый і войнаў, шматлікіх грамадска-сацыяльных катаклізмаў, змен і пераўтварэнняў. Асоба героя ў яго сямейнай хроніцы паварочваецца і высвечваецца самымі рознымі гранямі і асаблівасцямі. Трэба пагадзіцца з З. Драздовай, якая, аналізуючы тэтралогію У. Гніламёдава, падкрэслівае наступнае: *«Чалавек даследуецца ў раманах пісьменніка не толькі ў сямейных, сяброўскіх, класавых, прафесійных, філасофскіх, але і ў сувязі з жыццём народа ў цэлым, з яго гісторыяй у дадзены перыяд». Раманісту цікавыя розныя пошукі і блуканні чалавека, дзейнасць яго свядомасці. Яму ўдалося паказаць «бязмежную разнастайнасць» чалавека, яго багатыя магчымасці, шматаблічнасць народжаных ім ідэй. Пісьменнік здолеў выказацца па надзённых пытаннях першай паловы XX стагоддзя, паказаць залежнасць чалавечага жыцця ад ідэй, палітычных тэорый і грамадскіх рухаў, паставіць праблему выбару»* [1, с. 239].

Раманная хроніка У. Гніламёдава ўражвае шырынёй ахопу грамадска-сацыяльных працэсаў і ў той жа час увагай да прыватнай канкрэтыкі з'яў і фактаў народнага жыцця, праблемна-тэматычным багаццем і разнастайнасцю зместу. Пісьменнік раскрыў асаблівасці вялікага беларускага нацыянальнага свету з цэнтрам у вёсцы Пруска, у якім усё прасякнута глыбіннай унутранай логікай і высокім сэнсатворным пачаткам, знаходзіцца ва ўзаемазвязанасці і ўзаемаабумоўленасці дэталей і кампанентаў, малога і вялікага, у суладнасці і гармоніі зместу і формы, функцыянуе ў адпаведнасці з даўно ўсталяванымі і адладжанымі прынцыпамі і законамі. Гэты свет жыве на аснове адвечных духоўна-сацыяльных традыцый і каштоўнасцей беларускага народа, звязаных з жыццядайнымі земляробчымі заняткамі — ворывам, сяўбой, касавіцай, жнівом і інш. У ім канец аднаго з'яўляецца пачаткам другога, і наадварот.

Разам з тым тут не толькі традыцыйныя карціны працоўных будняў і свят беларусаў, але і адлюстраванне іх бежанства падчас Першай сусветнай вайны, жыцця ў Расіі, стасункаў і ўзаемадачыненняў з мясцовымі жыхарамі, цяжкіх ваенных катаклізмаў і г. д.

Тыповае для беларускага мастацкага эпасу хранікальна-падзейнае адлюстраванне рэчаіснасці спалучаецца ў Гніламёдава з філасофска-заглыбленым асэнсаваннем жыцця і чалавека, тонкімі лірычнымі замалёўкамі і відарысамі. У выніку з-пад пяра пісьменніка паўстае жывы летапіс часу, жывая гісторыя эпохі ва ўсёй яе дынаміцы складаных грамадска-сацыяльных супярэчнасцей і канфліктаў, змен і зрухаў.

Адлюстраванне звычайных — канкрэтна-бытавых — падзей і фактаў народнага жыцця ў Гніламёдава арганічна сумяшчаецца з аналізам значных грамадска-гістарычных працэсаў, дапаўняецца маштабнымі духоўна-сацыяльнымі абагульненнямі. Глыбокая праўдзівасць карцін і малюнкаў, тонкая пластыка выяўлення рэчаіснасці забяспечваюцца ў творчасці пісьменніка за кошт цеснага перапляцення, з аднаго боку, рэалістычна-аб'ектывізаванага паказу з'яў, а з другога — індывідуальна-аўтарскага, эмацыянальна-пачуццёвага, суб'ектыўнага асэнсавання і інтэрпрэтацыі складанага жыццёвага матэрыялу. Адсюль, па справядлівай заў-

вазе В. Локун, і *«паліфанізм яго прозы — як адзнака маштабнага светабачання і глыбіні пранікнення ў сутнасць быцця»* («Вайна як трагедыя народнага лёсу ў творчасці У. Гніламёдава»). Шараговае, бытавое, прыватнае, зменлівае, часовае абавязкова прадугледжваюць у мастака наяўнасць сацыяльна важнага, агульнанароднага, быційнага, анталагічнага, вечнага. У той жа час глыбокая праўдзівасць апісанняў і характарыстык абумоўліваецца ў Гніламёдава майстэрскім спалучэннем аб'ектыўнага адлюстравання знешняга свету падзей і фактаў і дэталёвага раскрыцця тых змен і зрухаў, якія адбываюцца ў душэўна-псіхалагічным свеце героя. У сваёй раманнай хроніцы пісьменнік стварыў галерэю самабытных чалавечых характараў. Несумненна, вялікая ўдача празаіка — вобраз Лявона Кужаля. Ацэньваючы духоўна-сацыяльную місію галоўнага героя У. Гніламёдава, наша крытыка адразу — і абгрунтавана — паставіла яго ўпоравень з коласаўскім Міхалам і мележаўскім Васілём Дзятлам. Іх чалавечая свядомасць базіруецца на хрысціянска-рэлігійных традыцыях і каштоўнасцях. Яны сціплыя, сумленныя, справядлівыя, дабрадушныя, клапатлівыя, спагадлівыя. Іх вызначае любоў да жыцця, да людзей, да роднай зямелькі-карміцелькі. Яны звернуты да сваёй адвечнай прыродна-генетычнай сутнасці, земляробчай наканаванасці. Героям Я. Коласа, І. Мележа і У. Гніламёдава мала цікавяць грамадска-палітычныя працэсы. І Міхал, і Васіль Дзяцел, і Лявон Кужаль максімальна набліжаны да асноў народнага жыцця, можна сказаць, непасрэдна забяспечваюць гэтыя асновы. Яны мудрыя сваёй практычнасцю і дальнабачнасцю, ураўнаважаныя, памяркоўныя, спакойныя і перакананыя ў сваіх дзеяннях і ўчынках, сканцэнтраваныя на зямлі і працы на ёй як сэнсе жыцця і працягу роду. *«Нас выратуе працавітасць*, — кажа Лявон Кужаль пра беларусаў, — *мы ўмеем працаваць»* [2, с. 137]. Варта заўважыць, што герой У. Гніламёдава не проста і не толькі ўмее працаваць, з'яўляецца руплівым, дбайным, умелым ці, як сёння б сказалі, паспяховым гаспадаром, — ён чула і клапатліва адносіцца да сваіх бацькоў, уважліва і добразычліва — да сясцёр. Лявон — шчыры, пяшчотны і надзейны муж і бацька.

Яркімі, пераканаўчымі, каларытнымі, жывымі паўстаюць у пісьменніка і іншыя вобразы-персанажы — Фёкла, Андрэй Кляновік, Трахім, Кузёмка, Ілля Аляксандравіч, Таццянка Чудайкін… Яны розныя па ўзросце, па сваіх схільнасцях і сімпатыях, выхаванні, маралі, поглядах на свет і яго першакаштоўнасці, па самой жыццёвай філасофіі, сацыяльным статусе, душэўна-чалавечых якасцях і г. д.

Вось сябар ці прыяцель Лявона — чалавек свету Андрэй Кляновік, непакорны бунтар, самаахвярны рэвалюцыянер, дарэшты аддадзены «чарадзейнай казцы аб камунізме». *«Мы вызвалім чалавека ад хвароб*, — захоплена гаворыць ён Лявону, — *палепшым яго прыроду, гатунак, і нават смерць прымусім адступіць! Не верыш? Мёртвых ажывім! Так, ажывім! Гэта будзе, калі хочаш, новая папуляцыя, новы, чысты, стэрыльны чалавек!»* [3, с. 156]. Вядома, Кляновік не ўсведамляе сваіх ідэйных памылковых поглядаў, не разумее няправільнасці свайго жыццёвага шляху. Наадварот, ён лічыць, што памыляюцца тыя, хто пакуль марудзіць, не салідарызуецца з рэвалюцыйным змаганнем, камуністычным рухам, хто не далучаецца да яго і яго аднадумцаў і паплечнікаў.

А гэта — непасрэдны сапернік Лявона прускавец Трахім, грубы, самаўпэўнены, высакамерны, эгаістычны, у нечым як і мележаўскі Яўхім. *«Праз колькі дзён сустрэў і Трахіма*, — чытаем у пісьменніка. — *Здаравец, як і быў. На галаве суконная фуражка з бліскучым брылём. На нагах дабрэнныя боты, са скрыпам. Над жоўтымі вачыма навісалі густыя рудыя бровы, а рот закрывалі такія ж рудыя вусы. Загадаваў. Погляд цяжкі: зірне — быццам калоду табе на плечы ўзваліць»* [2, с. 89]. Многае ў паводзінах Трахіма разлічана на знешні эфект: ён усюды імкнецца звярнуць на сябе ўвагу, зрабіць уражанне, паказаць сваю перавагу над іншымі. З. Драздова, думаецца, правільна заўважае: *«Гэты персанаж выглядае ў Гніламёдава шмат у чым памерлым для душэўнага росту, бо мае сэрца звужанае, чэрствае, няздольнае для любові нават да самых блізкіх людзей. Трахім — чала-*

*век, які жыве не сэрцам, а ўласнымі хаценнямі, ён, кажучы словамі чорнаўскіх гераінь (аповесць «Люба Лук'янская»), пазбаўлены «сардэчных сувязей», усялякіх «сардэчных дачыненняў»* [1, с. 247].

Апісанні і характарыстыкі пісьменніка не проста, як прынята ў такіх выпадках гаварыць, дакладныя і трапныя, а яскравыя, маляўнічыя, дыялектычна-пластычныя, нават у многіх выпадках хлёсткія і афарыстычныя. Вось як, да прыкладу, уражліва і запамінальна ён прэзентуе чытачу асобу расіяніна Таццянкі Чудайкіна: *«Апрануты ён быў у кароткі зіпунок са шматлікімі латкамі, а абуты ў лапці з аборамі. На галаве — злінялая шапка, на нагах — старыя апоркі. У вачах — спакой і нейкая як бы бессэнсоўнасць»* [2, с. 123]. А калі мець на ўвазе, што гэта быў чалавек зусім малога росту ды яшчэ з маршчакаватым тварам, дык перад намі паўстае надзвычай каларытная і своеадметная натура.

Бясспрэчнай заслугай У. Гніламёдава з'яўляецца тое, што ён першым у айчыннай літаратуры шырока і аб'ёмна паказаў пошукі беларусам чалавечага шчасця ў Амерыцы. Патрапіўшы за акіян, яго Лявон Кужаль працуе спачатку мыйшчыкам вокнаў, ліфцёрам, а затым ліцейшчыкам на заводах Форда, рыбаком на Вялікіх азёрах, у фермера Бузука ў Маршалтаўне. Ён з вялікай цікавасцю пазнае законы жыцця новай і дзіўнай краіны, блізка знаёміцца з яе жыхарамі. Упершыню ў нашай літаратуры пісьменнік вывеў шэраг яркіх вобразаў іншаземцаў. Сярод іх, вядома, найперш звяртае на сябе ўвагу каларытная асоба фермера Бузука, які аказаў вялікі ўплыў на Лявона, на развіццё яго жыццёвых уяўленняў і прынцыпаў, кругагляду, працоўных навыкаў і г. д. Мы бачым, што містар Бузук з павагай адносіцца да справядлівай улады, законаў Амерыкі, з'яўляецца яе вялікім патрыётам, але заўсёды помніць пра свае нацыянальныя карані, пра сваё ўкраінскае паходжанне. Ён глыбока верыць у Бога, шмат і прадуктыўна працуе, актыўна цікавіцца грамадскімі працэсамі, палітыкай, дасягненнямі ў навуцы, механіцы і інш. Несумненна, пераканаўчым атрымаўся ў пісьменніка і вобраз негра Букера. На кожным кроку церпячы дыскрымінацыю і несправядлівасць, ён трагічна гіне падчас малацьбы пшаніцы на ферме Бузука.

Трэба сказаць, гэта вялікая заслуга пісьменніка, вялікае яго творчае дасягненне — паказаць багацце і разнастайнасць жыцця ў такой стракатай і насычанай вобразна-чалавечай палітры. Нічога падобнага ў сучаснай беларускай прозе мы болей не назіраем. Героі У. Гніламёдава — тыповыя прадстаўнікі геаграфічных беларускіх, расійскіх і амерыканскіх абшараў. Яны з гонарам нясуць свой род, сваю сацыяльную місію, прыналежнасць да сваёй зямлі і працы на ёй.

Пісьмо У. Гніламёдава палоніць чытача характэрнай сугестыўнасцю мастацкага мыслення, у якім густая рэчыўнасць рэалістычнага паказу жыцця і чалавека паўстае ў абрамленні тонкіх духоўна-псіхалагічных сентэнцый і рэфлексій, раскаванасць, нязмушанасць аўтарскага аповеду, пільная ўвага да прыроднага каларыту натуры вядуць да яркіх, насычаных малюнкаў. Пісьменнік валодае дарам літаральна лічанымі жывапісна-акварэльнымі штрыхамі стварыць жывую, стэрэаскапічную карціну, паўнакроўную ў сваёй адмысловай дыялектычнай субстанцыйнасці, у якой ёсць і адлюстраванне, і выяўленне, і аналіз, і ацэнка. Напрыклад, звернемся да надзвычай вобразнага пачатку рамана «Уліс з Прускі». Вясковы дзівак-вандроўнік Кузёмка, чалавек «у ботах з бліршчастымі халявамі», «са звыклай усмешкай на твары», прыносіць пруcкаўскім мужчынам навіну: *«Стаіцё?! А вунь у двары кажуць — дваццатае сталецце пачалося! Дваццатае!..*

*Па вуліцы якраз праязджаў у сваім дубовым вазку, грузна калдыбаючыся на ўхабінах, айцец Глеб — бацюшка мясцовага прыхода, накіроўваўся збіраць асяніну. Ззаду прытуліўся дзяк Садоўскі.*

*Убачыўшы Кузёмку, айцец Глеб незадаволена чмыхнуў у старасвецкую, з сівізной, бараду:*

*— Пра такіх і ў Пісанні гаворыцца: не сеюць, не жнуць, не збіраюць у жытніцу. Здзівіў! Я ўжо год пра сію навасць ведаю…*

*Вазок уваліўся спачатку пярэднімі, а потым заднімі коламі ў глыбокую калдобіну.*

*— О-о-о! — не то здзівіўся, не то застагнаў айцец Глеб.*

*Вазніца, мясцовы селянін, счакаўшы, пакуль бацюшка супакоіцца, таксама хацеў нешта сказаць, але толькі крактануў, невядома да каго звяртаючыся — да бацюшкі з дзяком ці да каня. Неяк яно будзе, маўляў, жывём жа... І ён меў падставы так думаць, бо, сапраўды, людзі тут трывала прыстасаваліся да жыцця, аціхлі ў сваёй бясконцай і нялёгкай працы, нібы паснулі, зачараваныя замаруджанай плынню штодзённага існавання. Нягледзячы на тое, што гэта быў амаль што геаграфічны цэнтр Еўропы, гістарычны час чамусьці абмінуў яго, несучы змены і навіны іншым краям і народам.*

*— Гэта — апошнія ліцвіны, — уголас падумаў айцец Глеб, пазяхнуўшы і адвярнуўшыся ад мужчын, што стаялі зняўшы шапкі»* [3, с. 5—6].

Такімі ці падобнымі да іх карцінамі і апісаннямі літаральна перасыпана ўся раманная эпапея У. Гніламёдава.

Нельга не звярнуць увагі на свабоду і раскаванасць мастацкага дыскурсу пісьменніка, у якім традыцыйная для беларускага эпасу запаволенасць, непаспешлівасць аўтарскага аповеду спалучаецца з вострымі сюжэтнымі сцэнамі і эпізодамі і — ў цэлым — дынамічным дзеяннем і займальным сэнсарадам, а непасрэдны расказ-адлюстраванне перамяжоўваецца з дзённікавымі запісамі герояў, іх ліставаннем, матэрыяламі шматлікіх дакументаў, газетных вытрымак і інш.

Раманная хроніка У. Гніламёдава скіравана да асэнсавання экзістэнцыяльных праблем жыццядзейнасці чалавека, сутнасці яго духоўна-сацыяльнай місіі на зямлі. Раскрываючы асаблівасці складанага і супярэчлівага перапляцення шматлікіх грамадска-гістарычных падзей і працэсаў і асабова-чалавечых лёсаў на шляхах XX стагоддзя, пісьменнік глыбока выявіў асноватворныя прынцыпы і кампаненты філасофіі мыслення, нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, іх менталітэту, беларускага народнага характару.

Раманная эпапея У. Гніламёдава — гэта гімн роднай зямлі і яе народу, гімн духоўна-філасофскім традыцыям і каштоўнасцям беларусаў. Яна з’яўляецца сведчаннем вялікага ідэйна-эстэтычнага патэнцыялу айчыннай літаратуры, невычэрпных магчымасцей беларускага мастацкага слова.

## Літаратура

1. Драздова, З. Новыя вехі беларускага гістарычнага рамана / З. Драздова // Уладзімір Гніламёдаў: «Заставацца сабой...» — Мінск: Выдавецтва «Четыре четверти», 2012. — 574 с.

2. Гніламёдаў, У. Расія: раман / У. Гніламёдаў. — Мінск: Харвест, 2007. — 672 с.

3. Гніламёдаў, У. Уліс з Прускі: раман / У. Гніламёдаў. — Мінск: Маст. літ., 2006. — 382 с.

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

Іван САВЕРЧАНКА

# ЖЫВЕ ПАМІЖ НАМІ ДУДАР НАШ...

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1807—1884) — беларускі паэт і драматург, пачынальнік новай беларускай літаратуры. Галоўны мастацка-эстэтычны здабытак яго — літаратурныя творы на беларускай мове. Яны сталі выдатным узорам адметнай рамантычнай эстэтыкі і бліскучым мастацкім увасабленнем новай творчай стратэгіі, заснаванай на каштоўнасцях народнай культуры.

У першым значным творы пісьменніка — лібрэта оперы «Ідылія» (1844) — сяляне прамаўляюць па-беларуску, паны — па-польску. Удалая спроба аўтара, відавочна, акрыліла яго, надала ўпэўненасці і веры. Цалкам па-беларуску напісаны вершаваныя аповесці — «Гапон» (1854), «Вечарніцы», «Купала» (1856), «Шчароўскія дажынкі», «Травіца брат-сястрыца» (1857), «Быліцы, расказы Навума». Яны шэдэўры нацыянальнага паэтычнага эпасу, у якіх зафіксаваны сімвалы і коды беларускай ментальнасці, закладзена матрыца народнай духоўнасці.

Найбольш значны драматычны твор В. Дуніна-Марцінкевіча — камедыя *«Пінская шляхта»* (1866), напісана на пінскім дыялекце. Майстар слова стварыў абагульненыя нацыянальныя вобразы, што зрабіла твор неўміручым, неацэнным помнікам беларускай класічнай драматургіі. У 1870 г. В. Дунін-Марцінкевіч напісаў камедыю «Залёты». Мова арыгінала твора — макаранічная (беларуска-польская), што зроблена, відаць, наўмысна, з мэтай узмацнення камічных эфектаў.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у сваёй творчасці звярнуўся, перадусім, да народных крыніц, мастацкага асэнсавання яркіх народных *абрадаў і свят*, якія ўражвалі кожнага, хто іх назіраў, незвычайнай гармоніяй і прыгажосцю. Невыпадкова галоўнай мастацкай мэтай вершаванай аповесці *«Гапон»* стала літаратурнае ўзнаўленне беларускага вясельнага абраду. Мастацкімі сродкамі бліскуча раскрыта яго непаўторная чароўнасць і прыгажосць. У якасці сюжэтнай асновы прыдумана прыгожая гісторыя кахання Гапона і Кацырыны, шчасцю якіх перашкаджаюць жыццёвыя абставіны і кепскі чалавек — панскі эканом.

Кульмінацыйная сцэна — вяселле герояў, якія перад гэтым прайшлі праз цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. Аўтар цудоўна зафіксаваў амаль усе дэталі вясельнага абраду, — сватанне, запоіны, выпечку каравая, прыезд маладога па нявесту, пачастунак, раздаванне падарункаў:

Тут настала частаванне
Дый падаркаў раздаванне, —
Сотню паясоў, маўляў!
Свата ручнікам звязалі,
Баклагу ў рукі ткалі,
Штоб гарэлкі больш дастаў.

Яркі элемент вяселля — саджанне маладой на лубку з жытам. Напэўна, яно сімвалізавала добры прыплод і дастатак у доме:

Лубку з жытам падстаўляюць,
Маладу на ёй саджаюць,

Як каралеўну на ўрад:
Яна жа усцяж галосіць,
Кругом паклоны разносіць
Дый зноў сядзе на пасад.

Вясельныя рытуальныя дзеянні ў творы, якія мелі глыбінны сімвалічны сэнс, нязменна суправаджаліся мілагучнымі абрадавымі песнямі. Як і ў жыцці, іх выконвае хор дзяўчат і хлопцаў.

У «Гапоне» наогул шмат яркіх літаратурных сцэн і мастацкіх здабыткаў. Твор пачынаецца падзеямі ў карчме, дзе сабраліся вясковыя людзі, каб адпачыць і ўдосталь павесяліцца. Яны па-заліхвацку скачуць, выконваюць сакавітыя прыпеўкі. У паветры лунае радасць, бадзёрасць, аптымізм. Гранне скрыпкі нікога не пакідае абыякавым, усе бестурботна скачуць і весяляцца:

Схапіў Гапон Кацярынку,
Смела к сэрцу прыцягнуў,
Абняўшы рукой за спінку,
«Лявоніху» успрыгнуў.
Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеўкі, хлопцы, хто як змог
Дрыжаць чупрыны, спадніцы,
Суматоха — што крый Бог!

Несумненнай творчай удачай аўтара з'яўляюцца вобразы Гапона і Кацярыны. Гапон — адукаваны юнак, смелы і адважны, сяброўскі. Герой усім сэрцам кахае Кацярыну — прыгажуню, якая застаецца вернай свайму абранніку:

У Грыпіны ж Кацярына,
Крый Божа! Бяды не знала,
Як у садочку маліна,
Расла, цвіла, даспявала.

Цудоўна перададзена атмасфера жыцця ў тагачасным Магілёве, пададзены каларытныя партрэты прадстаўнікоў гарадской эліты.

У аснове паэтычных *«Вечарніц»* — пацешныя народныя гісторыі, легенды і паданні. Першая частка твора пад умоўнай назвай — «Дурны Зміцер, хоць хітры», — маляўнічае мастацкае адлюстраванне народнай карнавальнай культуры. Містэрыя адбываецца ў Мінску. Галоўны герой твора — мужычок Зміцер з Лошыцы — трапляе ў камічныя сітуацыі. Пасля кірмашу, дзе ён прадаў кароўку, герой наведваецца ў карчму. Там, пасля добрай выпіўкі, разам з селядцом з'ядае сінюю пяцірублёвую купюру, якая выпадкова прыліпла да рыбіны. Наступным разам захацеў прадаць пеўня. Але паны вырашылі пажартаваць з яго. Яны па чарзе падыходзілі да Зміцера і пыталіся, колькі каштуе яго «заяц». Зміцер страчвае розум і пачынае прапаноўваць усім купіць у яго «зайца». Як і належала чакаць, ён, урэшце, трапляе ў рукі да дзясятнікаў. Пісьменнік дасягнуў выдатнага камічнага эфекту, стварыўшы запамінальны вобраз нягеглага Зміцера, які, з-за сваёй дурноты, надоўга насмяшыў людзей.

У «Вечарніцах» В. Дунін-Марцінкевіч апявае прыгажосць Мінска, які выгодна адрозніваўся ад іншых гарадоў і мястэчак Беларусі. У ім пануе казачная весялосць, паўсюль чысцюткія вуліцы, упарадкаваныя і дагледжаныя хаты і белыя, нібы снег, мураваныя палацы. Па словах аўтара, у Мінску «і цару не было б нуды». В. Дунін-Марцінкевіч стварыў гімн Мінску і яго жыхарам — добрым, шчодрым, заўжды ветлівым і гасцінным:

А людзі, людзі! — дзеткі дарагія!
Не заморскія, маўляў, не чужыя,
А ўсё свае — веры хрысціянскай,
Шчодры, добры, натуры не панскай.

У другой частцы «Вечарніц», якая мае назву *«Стаўроўскія дзяды»* — літаратурная апрацоўка народнага падання пра Стаўроўскую дзеву. У якасці апавядальніка выступае той жа дзед Ананія, які прамаўляў і першую вечарніцу. Дзеянне адбываецца ў Лагойску, «над Гайнай-ракой», дзе валадарыў князь Грамабой — абаронца простых людзей, які заўсёды трымаўся праўды і спавядлівасці.

Напачатку ў вершаванай форме раскрываецца сутнасць народнага абраду — святкавання дзядоў. Фіксуюцца ўсе дэталі і элементы рытуалу, прыгадваюцца магічныя словы, якія прамаўляліся падчас ушанавання духаў продкаў, асвятляецца абрадавая роля міфічных сабак-брытанаў — Стаўры і Гаўры.

Галоўная гераіня «Стаўроўскіх дзядоў» — сірата Кацярына. Менавіта яна абрана духамі продкаў, каб стаць жонкай князя Грамабоя. Кацярына — дачка Данілы, першая прыгажуня лагойскай зямлі. Ужо ў юнацкія гады яна вылучалася сярод іншых сваім абліччам, добрымі норавамі і працавітасцю:

Расла, як тычынка, цвіла, як каліна;
Бывала, вочкам як на цябе гляне,
Нехаця сэрца тваяго дастане;
Серабрысты голас, як у салавейка,
А гаспадарная, быццам муравейка,
Ціха, як авечка, прыгожа, як краска.

Паводле сюжэта, з Касі здзекуецца злая мачыха Параска і яе брыдкая дачка Мархва. Гераіня цярпліва зносіць здзекі і абразы. Але менавіта сіраце Кацярынцы міфічныя сабакі Стаўры і Гаўры, падчас абраду ўшанавання дзядоў, прыпадносяць на шчасце падарункі — залаты абразок з выявай бога Лада і металічны крыжык. Мачыха і яе дачка спрабуюць падмануць Грамабоя, яны адбіраюць у сіраты залаты абразок. Але іх хлусня хутка раскрываецца.

У адпаведнасці з эстэтыкай Рамантызму князь Грамабой бачыць сваю абранніцу ў сне. Яе прыводзіць да яго старэнькі дзядок. Князь зачараваны яе прыгажосцю.

Князь Грамабой прачынаецца, вяртаецца ў замак і загадвае неадкладна адшукаць Стаўроўскую дзеву. Злым героям — мачысе Парасцы і яе дачцэ Мархве — не ўдаецца падмануць князя, ён хутка распазнае хлусню.

Кульмінацыйная сцэна твора — сустрэча Кацярыны з яе суджаным князем Грамабоем. Калі ён убачыў Касю, яго вочы заблішчэлі ад невымоўнага шчасця. Князь Грамабой бярэ яе ў жонкі і абвяшчае «царэўнай крывічан».

Вершаваная аповесць «Стаўроўскія дзяды» насычана шматлікімі этнаграфічнымі дэталямі і вобразамі. Аўтар вельмі падрабязна распавёў пра розныя сялянскія стравы — боршч, верашчаку, каўбасы, бліны, крупнік, кашу і сала.

Прыгожае летняе свята кахання і шлюбу — у цэнтры вершаванай аповесці *«Купала»* (1856). Дзеянне разгортваецца ў «Лошыцкім сяле», якое на той час знаходзілася непадалёк ад Мінска. В. Дунін-Марцінкевіч дэталёва фіксуе ўсе важнейшыя элементы старадаўняга абраду, які, на яго думку, у значнай ступені быў скіраваны на ўшанаванне бога Лада. Аўтар пералічвае ўсе просьбы, з якімі людзі звярталіся да Лада ў прамінулыя часы:

Вось у Рудабелцы вяліка грамада
Збеглася ў бажніцу паганскага Лада
Дзень яго свяціці, яму памаліцца,
На ўсё дабро ладу ад яго дабіцца.
Штоб ладзіў у клеці, аборы, у полі,
Штоб жаніхам ладзіў шчаслівыя долі,
У пшчольнай ахвоце, у звярынай лоўлі,
У канях, скацінцы дамашняй гадоўлі.

Вуснамі вясковага дзядка пісьменнік распавёў легенду пра ўзнікненне свята Купалы, якое распальвае агонь кахання, стварыў выдатны вобраз дзяўчыны

Агаткі, для якой шлюб і вернасць каханаму з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю жыцця.

У аснове выдатнага эпічнага твора — *«Травіца брат-сястрыца»* — народная песня пра грахоўнае каханне брата і сястры, жыццё якіх скончылася трагедыяй. Выдатная літаратурная апрацоўка народнай гісторыі-песні стала сапраўдным мастацкім шэдэўрам. Пісьменнік істотна дапрацаваў песенныя вобразы, стварыў паўнавартасныя сюжэтныя лініі, намаляваў яркія літаратурныя сцэны і падаў насычаныя дыялогі паміж персанажамі.

Перад усім, пададзены цудоўны партрэт Алёнкі — крывічанкі-прыгажуні, якой літаральна ўсе захапляліся:

Яе губкі — баш каралі,
А лічка — з малаком кроў!
Сіні вочкі сэрца бралі!
Волас чорны, чорна броў.

Кульмінацыйная сцэна вянчання Мірона і Алёнкі ў Слуцкім касцёле — вельмі драматычная. Паводле звычаю, маладыя па чарзе расказвалі ксяндзу пра ўласнае паходжанне. Калі Мірон распавёў пра свайго бацьку Данілу Краковіча з Белай Русі і пра тое, што ён недзе мае сястру, якую звяла мачыха Усціння, Алёнка ўсё зразумела. Яе сэрца не вытрымала, і яна неўзабаве памірае. Мірон ад адчаю кідаецца з кручы ў раку і таксама гіне.

Пра народныя вытокі паэмы сведчыць тэкст песні, якую аўтар цалкам падаў у канцы, як заключны кампазіцыйны элемент твора. Менавіта з песні вынікае, што на магілцы брата і сястры, пахаваных разам, вырасла невядомая дагэтуль травіца, якой людзі далі адмысловае найменне — «брат-сястрыца». У паэме народны хор спявае мілагучную вясельную песню, якая арганічна ўваходзіць у сюжэтную лінію твора, узбагачае яго.

Да несумненных ідэйна-мастацкіх вартасцей твора належаць гістарычныя сюжэтныя лініі. Аўтар згадвае часы Альгерда і Кейстута, перыяд змагання крывіцкіх гарадоў і земляў з кіеўскімі князямі за ўласную незалежнасць. В. Дунін-Марцінкевіч праводзіць вельмі важную думку аб тым, што велічнае мінулае Беларусі, аднаўленне гістарычнай памяці беларусаў — адна з галоўных крыніц адраджэння нацыі, яе паўнавартаснага развіцця і росквіту.

Прыгожы народны звычай — святкаванне дажынак — натхніў В. Дуніна-Марцінкевіча на стварэнне выдатнай вершаванай аповесці ў дзвюх дзеях *«Шчароўскія дажынкі»*. Аўтар дэталёва ўзнавіў цудоўны старадаўні абрад. Паводле мастацкай канцэпцыі твора, дажынкі з'яўляюцца яскравым сімвалам паўнавартаснага жыцця народа, неабвержным сведчаннем яго духоўна-культурнай самабытнасці.

Дзеянне адбываецца «на Русі Белай», за Барысавам, у сяле Шчароўскім. Важная сюжэтная лінія — гісторыя кахання сіроткі прыгажуні-крывічанкі Тадоркі і панскага кухара Домкі. Героі праходзяць праз розныя складанасці і выпрабаванні, але ў рэшце рэшт усё завяршаецца добра — яны цалуюцца і прызнаюцца ва ўзаемным каханні.

У творы шмат этнаграфічных дэталяў, у прыватнасці, вельмі яскрава паказаны звычай абрання «царыцы дажынак» і варажбы з дапамогай пеўня, прыведзены цікавыя жніўныя песні, якія выконваюць шчаслівыя жнейкі. Пісьменнік адзначае народную кемлівасць, уменне хутка адрозніваць праўду ад хлусні, лёгка выяўляць падманшчыкаў і хітруноў. Ён стварыў каларытны вобраз мясцовай варажбіткі — старой Грыпінкі, якая ўмее разгадваць таямніцы, дапамагае людзям у бядзе, лечыць ад розных хвароб настоямі траў і добрым словам.

Паказана адсутнасць на Беларусі непераадольнага антаганізму паміж сялянамі і панам. Невыпадкова хор жнеек усляўляе Бога, а разам з ім — добрага і клапатлівага пана, зычыць яму сямейнага шчасця і доўгага жыцця. Аўтар дэманструе

сацыяльны аптымізм, веру ў духоўную моц народа. Паводле высновы майстра слова, беларускі народ мае законнае права на шчаслівае жыццё, ён мужна праходзіць праз цяжкія выпрабаванні, пераадольвае ўсе рагаткі, расстаўленыя нядобразычліўцамі і ворагамі

Місію літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч бачыў у тым, каб рабіць жыццё людзей лепшым, дапамагаць ім пазбегнуць памылак. Менавіта з мэтай паляпшэння дачыненняў паміж людзьмі і ўдасканалення чалавека ён узнаўляе цікавыя здарэнні і павучальныя гісторыі з народнага жыцця.

У вершаваных *«Быліцах, расказах Навума»* першую частку займае адметная паэма «Злая жонка», галоўнымі героямі якой выступаюць два браты — Тодар і Сак. Старэйшы ажаніўся з Ульянай, дачкой заможнага гаспадара. Але дзяўчына аказалася злой і разбэшчанай. Яна пасварыла братоў. Тодар запіў, а Ульяна пачала гуляць з іншымі хлопцамі. У выніку сям'я распалася. Спробы бацькоў дапамагчы дзецям не мелі аніякага поспеху.

Малодшы — Сак, наадварот, пасябраваў з сіроцінай Зоськай, ажаніўся з ёю, пачаў весці гаспадарку. Зоська мела добрае сэрца, яна шчыра кахала Сака, клапацілася пра яго. Праз нейкі час шчаслівая сям'я зажыла ў дастатку, хата напоўнілася дзіцячым смехам:

І скора забагацелі,
Любаваўся з іх усяк;
І дзетачкі загудзелі —
Забыў гора добры Сак!

Паэма адметная яшчэ і тым, што у ёй В. Дунін-Марцінкевіч упершыню ў беларускай літаратуры апявае прыгажосць роднага краю. Беларусь для яго — лепшая ў свеце краіна, маляўнічы куток зямлі, усцелены травяністымі лугамі і расквечаны дзівоснымі фарбамі. Паэт не марыць пра «заморскія землі», якія вылучаюцца багаццямі і чысцінёй. Менавіта родная краіна, з багатымі лясамі і шчодрымі палеткамі, дагледжаная працавітымі рукамі руплівых людзей — найлепшае месца для шчаслівага і раднага жыцця:

Ох, нямаш зямелькі, як Беларусь радзона!
На лугах дыванам сцелецца зялёна
Травіца па пояс, кветкамі мігае!
А лес, вось тычынка, неба падпірае!

Створаны абагульнены вобраз беларускага селяніна — працавітага і кемлівага, а галоўнае — заўсёды гасціннага. Ён з адкрытым сэрцам гатовы прытуліць у сваёй хаціне чужога чалавека, нібы да яго завітаў нябесны пасланец. Ён накорміць і напоіць госця лепшай стравай, якую мае ў хаце:

А госць паявіцца — то ж прыслан ён небам!
Рад з ім падзяліцца сэрцам, стравай, хлебам!
Дзякуй, што навясціў мой дамок старэнькі,
Пі, еш — покуль змога, госцік дарагенькі!

Селянін пачуваецца шчаслівым са сваёй сямейкай, жонкай і дзецьмі, асабліва пасля таго, як збярэ шчодры ўраджай з палетак, дагледзіць гаспадарку.

Каб высмеяць фальшывасць заяў цара і яго чыноўнікаў, якія ўвесь час трубілі аб тым, што клапоцяцца пра беларусаў, В. Дунін-Марцінкевіч напісаў паэму *«Халімон на каранацыі»*. З мэтай дасягнення найлепшага камічнага эфекту, пісьменнік шырока выкарыстоўвае гіпербалу. Так, галоўны герой паэмы Халімон Забалотны — звычайны вясковы Гарадзецкі старшына — раптам атрымлівае персанальнае запрашэнне ад самога цара прыехаць на каранацыю ў Маскву. Высокі чыноўнік у Магілёве, да якога наведаўся Халімон перад тым як накіравацца ў сталіцу імперыі, робіць незвычайны ўчынак, ён прапануе здзіўленаму і ашалом-

ленаму старшыні столькі грошай, колькі той захоча, каб ён мог задаволіць усе патрэбы ў дарозе і падчас знаходжання ў Маскве. Лагодным і ліслівым голасам, чаго ніколі не здаралася, чыноўнік ветліва запрашае:

Дарагенькі мой старшынка!
Вось расчынятая скрынка,
І царска міласць табе;
Бяры грошы, сколькі стане,
Паедзь на каранаванне —
Цар у госці жджэ к сабе.

Шлях у Маскву напоўнены разнастайнымі прыгодамі. У Смаленску Халімон сустракае Базыля Шавалончыка — Стахоўскага старшыну з Піншчыны, які таксама запрошаны на каранацыю. Героі робяць няўдалую спробу пачаставацца ў карчме, гаспадаром якой з'яўляецца іншаземец. Сцэна наведвання карчмы відавочна мае сімвалічны сэнс. Там не разумеюць мовы наведвальнікаў з Беларусі і не могуць задаволіць іх элементарнай просьбы. Не знайшоўшы паразумення, героі пакідаюць карчму і вымушаны харчавацца хатнімі прыпасамі.

Праезд царскага картэжу, пра які аўтар падрабязна піша ў паэме, — сімвал рэзкіх сацыяльных кантрастаў у імперскай Расіі. З аднаго боку — беднасць і жабрацтва, а з іншага — багацці і раскоша, нібы ў казцы. Парадак і строгасць падчас урачыстага рытуалу спаткання цара — поўная супрацьлегласць незвычайнаму тлуму, бедламу і анархіі, якія панавалі сярод простых жыхароў Масквы і запрошаных у горад гасцей. Нікому да іх няма аніякай справы, а тым больш цару: «Налегла на сэрцы, стала мне маркотна, // Што царок дабрэнькі забыў Забалотна».

Пісьменнік прывёў свайго героя ў сталіцу акурат на каранацыю з тым, каб данесці да вярхоў уласную думку пра неабходнасць усеагульнай адукацыі народа. Халімон Забалотны вельмі спадзяецца на асабістую сустрэчу з царом, бо хоча сказаць яму вельмі важныя словы — падзякаваць за шчыры клопат пра жыхароў Белай Русі і папрасіць яго адкрыць школкі для мужыцкіх дзетак, каб палепшыць іх долю. Ён разлічвае на разуменне з боку цара, тым больш, што і паны хочуць мець справу з адукаваным народам, але без волі манарха не адважваюцца распачынаць асвету простых людзей:

Яму б са слязінай у ногі пакланіўся,
Прасіў да маліў бы, вось пакуль дабіўся,
Штоб над мужычкамі шчыру меў апеку,
Вялеў справіць розум цёмну чалавеку,
Штоб дзетачак нашых чытаць навучылі,
Штоб бога па ксёнжцы за цара малілі.
І панкі б хацелі разумных мець людзі,
Да чакаюць, яка царска воля будзі.
Згаварыцца б рады з суседамі ўсполкі
Для мужыцкіх дзетак стаўляць малы школкі.
Ды боязка самім начаць таку справу,
Царскую паруку хочуць мець ласкаву.
А тагды б нам доля лепша засвяціла!

Вітанне людзьмі цара паэт падае ў выразна камічным святле. Падчас з'яўлення манаршай асобы натоўп ахоплівае суцэльнае шаленства, пачынаецца незразумелы вэрхал і натуральны псіхоз, якія суправаджаюцца страшэнным гоманам і істэрычнымі крыкамі. Толькі пазней, калі ўсё ўляглося, герой пачынае аналізаваць і разважаць над тым, чаму ён разам з астатнімі ўдзельнікамі каранацыі «дзёр горла» і «рваў жывот». Халімон паступова ўсведамляе абсурднасць уласнай нястрыманасці і дурноту натоўпу: «Чаму ж мы так дзерлісь? Згадаць я не ў стане. // Чы мо цар прыехаў на каранаванне?»

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч звяртае ўвагу на незлічоныя багацці, сабраныя ў Маскве. Галоўны герой бачыць у сталіцы дзівосным чынам упрыгожаны Крэмль

і раскошныя палацы вяльможных асоб. Яны жывуць у такой светласці, якая ёсць толькі «на небе ў Бога». Але ўсе багацці, дарагія крамы, рэдкія стравы і золатам упрыгожаныя маёнткі існуюць толькі для абраных, набліжаных да цара асоб. Астатнія людзі — згаладалы і некіруемы натоўп, праз які не прайсці без штурханіны і боек. Першы дзень, праведзены ў Маскве, не прыносіць героям аніякага задавальнення. Іх абакралі маскоўскія жулікі. Расчараваныя, змучаныя і галодныя, а галоўнае — нікому не патрэбныя, яны з цяжкасцю вяртаюцца на кватэру: «Прыстаў Забалотны, казаць людзям дзіва, // Штоб прамачыць горла, выпіў шклянку піва».

У паэме змешчаны прыгодніцкі сюжэт пра выратаванне Халімонам жанчыны з дзіцем, якія ледзьве не загінулі ў страшнай даўцы ў дзень царскага каранавання. Яны аказалася з заможнай сям'і. Муж прапануе ўзнагароду, але Халімон адмаўляецца ад золата і грошаў. Ён матывуе свой учынак звычайным чалавечым імкненнем рабіць дабро іншым людзям: «А я з іх дзівіўся, што за добра дзела // Плаціць хрысціянам ў галаве прыспела». Майстар слова, такім чынам, зноў падкрэсліў поўную абыякавасць вышэйшых уладных колаў да людзей і адзначыў спагадлівасць простага беларускага селяніна, яго натуральную здольнасць бескарысліва дапамагаць іншым у бядзе.

Паводле сюжэта твора, Халімон Забалотны не сустрэўся з царом, бо той быў акружаны іншаземцамі і генераламі. Чаканні героя не спраўдзіліся. Усё роўна як дзеля насмешкі і здзеку, яму на развітанне ўручылі юбілейны медаль у гонар дня каранавання. Такім чынам, паводле мастацкай высновы В. Дуніна-Марцінкевіча, спадзяванні простых людзей на дапамогу цара — цалкам марныя і ілюзорныя.

Пасля бязлітаснага падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г. і ўсталявання на Беларусі жорсткай рэакцыі В. Дунін-Марцінкевіч напісаў даволі вострую для таго часу сацыяльную п'есу *«Пінская шляхта»*. Падзеі твора адбываюцца, як адзначана ва ўступным слоўцы да яго, « у ваколіцы О… паміж балотаў, у глушы Пінскага павета». Каб замаскіраваць палітычную скіраванасць п'есы майстар слова назваў яе «фарсам-вадэвілем».

У аснову канфлікту лягла побытавая спрэчка паміж пінскімі шляхціцамі — Ціханам Пратасавіцкім і Іванам Цюхай-Ліпскім, якія напіліся і, пасля ўзаемных абраз, пабіліся. Адзін з іх падаў у суд. Спрэчка шляхціцаў шкодзіць шчасцю іх дзяцей — Грышкі і Марысі, якія кахаюць адно аднаго і не могуць атрымаць блаславення бацькоў на шлюб. Яны гаруюць і таксама спадзяюцца на прыстава, які прыедзе ў вёску і памірыць іх бацькоў. Паводле задумы аўтара п'есы, іх пакуты павінны былі яшчэ больш схаваць галоўную мэту твора — раскрыць сапраўднае аблічча царскай бюракратыі, паказаць канчатковы заняпад дзяржаўнай судовай сістэмы.

Пісьменнік яскрава даводзіў: ніводная справа ў царскай Расіі не прымалася судом да разгляду без паднашэнняў і хабару. Так, Грышка прыязджае ў места да асэсара і вязе яму ў якасці падарунка «двух зайцоў, тры пары цеценукоў ды кадобчык мёду». Усе героі твора добра ведаюць, што прыезд асэсара ў ваколіцу скончыцца для іх значнымі матэрыяльнымі стратамі. Ціхан Пратасавіцкі ў адчаі прамаўляе: «Ну, абдзярэ, як ліпку!» Шляхціц Куторга не толькі пацвярджае яго меркаванне, але яшчэ больш узмацняе думку: «Вот дзіво, — на тое ён і асэсар! Заўваж толькі — у яго і рукі даўжэй, як у другіх людзей». Хор выконвае песню, у якой гутарка ідзе пра неверагодную сквапнасць і несправядлівасць судовых чыноўнікаў. Галоўныя ў песні — апошнія радкі, дзе гаворыцца пра вышэйшых недатыкальных асоб — сапраўдных д'яблаў:

Гдзе ўнадзіцца юрыста,
Вымеце хату дачыста.
Такіх дзіваў нагаворыць,
Так многа кручкоў натворыць,
Што пачасаўшы затылак,

Не рассупоніш памылак.
Не дасі, — цябе замучыць.
Добра стара казка вучыць:
Дзярэ коза ў лесе лозу,
Воўк дзярэ ў лесе козу.
А ваўка — мужык Іван,
А Івана — ясны пан,
Пана ўжо дзярэ юрыста,
А юрыста — д'яблаў трыста.

Галоўны герой, а дакладней — антыгерой твора — станавы прыставў Кручкоў. Ён звычайны хабарнік, хоць і прыкрываецца напускной строгасцю. Свайму пісарчуку Пісулькіну ён адкрыта кажа: «Тут, брат, нам харошае жніво!» Кручкова цікавіць галоўным чынам тое, каб усе паднашэнні ад шляхты фурман добра спакаваў на возе. Яго суд — імітацыя пошуку справядлівасці, пародыя на сапраўдны судовы працэс. Усім жыхарам ваколіцы, незалежна ад віны, ён прысуджае вялікія штрафы і пакаранне лазой. Праўда, за дадатковы выкуп, каб не ганьбіць шляхецкі гонар, ён пераглядае толькі што вынесены ім прысуд — «строгі дэкрэт», і адмяняе «лазу». Такім чынам, суд ператвараецца ў фарс, абсурднае дзеянне, якое ўсімі ўспрымаецца як здзек над здаровым сэнсам.

«Пінская шляхта» — надзвычай дасканалы ў мастацкіх адносінах твор. У п'есе шмат яркіх песенных маналогаў і дыялогаў, рамансаў. Народныя прымаўкі і прыказкі, а таксама яркія выслоўі, ужытыя да месца, істотна ўзбагачаюць выразнасць мовы герояў: «Калі абора цячэ, — гаспадыня бліны пячэ, а калі гумно цячэ, — гаспадар з хаты ўцячэ»; «Уехаў твой родны ў нерат — ні ўзад ні ўперад»; «Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе».

Такім чынам, важнейшай крыніцай літаратурнай творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча з'яўляўся беларускі фальклор — песні, казкі, паданні, легенды, святы, абрады і даўнія звычаі. Ён шырока выкарыстоўвае здабыткі вуснай народнай творчасці, паказвае незвычайную прыгажосць свят і абрадаў, раскрывае іх глыбінную духоўную сутнасць.

У творах В. Дуніна-Марцінкевіча мноства этнаграфічных элементаў, апісанняў штодзённага побыту і рэалій народнага жыцця. Ён з захапленнем распраўядае пра штодзённыя заняткі сялян, адзначае дэталі іх вопраткі, абутку, маляўніча піша пра народныя стравы.

Сацыяльныя адносіны таго часу пісьменнік асвятляе пераважна ў рэчышчы рамантычнай эстэтыкі, філасофіі класавага паразумення і дыялогу. Героі твораў В. Дуніна-Марцінкевіча — простыя людзі, сяляне, збяднелая шляхта і дробныя чыноўнікі. Выбар персанажаў — красамоўнае сведчанне дэмакратычнай скіраванасці творчасці майстра слова.

Літаратурная мова твораў В. Дуніна-Марцінкевіча надзвычай сакавітая, насычаная беларускімі народнымі прымаўкамі, параўнаннямі, яркімі выразамі і павучальнымі выслоўямі.

Пятро МАКСІМЕНЯ

# СТРАСЦІ З МУЗЫЧНЫМ УХІЛАМ

## Сябар Жан Жака Русо?

У Рэчы Паспалітай паведамленне аб смерці Жана Жака Русо (пайшоў з жыцця вядомы французскі філосаф, палітык і мысліцель 2 ліпеня 1778 года) сустрэлі неаднaзначна.

Тыя, хто стаяў за моцную дзяржаву з захаваннем у нязменнасці ўсіх яе інстытутаў, ніяк не маглі дараваць яму напісанне працы «Меркаванні аб спосабе праўлення ў Польшчы і аб праекце яго змянення, складзеным у красавіку 1772 г.», у якой канстатавалася цяжкае становішча сялян у Польшчы, Літве і на Беларусі і называліся практычныя меры вызвалення іх ва ўсіх правінцыях. Гэта ўспрымалася многімі, як умяшанне ва ўнутраныя справы краіны, якое вядзе да падрыву спакою і стабільнасці ў грамадстве, а таму вестку аб адыходзе аўтара падобных рэкамендацый у іншы свет яны ўспрынялі з непрыхаваным задавальненнем, цешачы сябе тым, што на аднаго бунтаўшчыка стала менш.

Прыхільнікі ж рэвалюцыйных пераўтварэнняў, удасканалення інстытутаў улады, наадварот, смуткавалі, бо разумелі, што са смерцю Русо менш трывалай становіцца тая аснова, на якой трымаюцца найлепшыя памкненні ва ўпарадкаванні грамадскага жыцця. Сярод іх, бадай, асабліва балюча сустрэў паведамленне аб смерці філосафа Антоній Тызенгаўз, які, як вядома, у мясцовых умовах развіваў ідэі Русо аб неабходнасці ўсталявання цвёрдай законнасці ў дзяржаве і забеспячэння неабходных патрэб усяго насельніцтва, а яшчэ прапаноўваў яму пасяліцца ў Гродне ці ў Белавежскай пушчы.

Але ў асяродку прыхільнікаў знакамітага філосафа і мысліцеля ўсё ж найбольшую ўвагу да сябе ў сувязі з яго смерцю выклікаў вялікі гетман Вялікага Княства Літоўскага Міхал Казімір Агінскі. Праўда, сваё стаўленне да сканання Русо ён не абнародаваў, а толькі выказваў каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, ды, як амаль заўсёды бывае тады, калі адбываецца штосьці надта неардынарнае, пагалоска пайшла далёка. Тым больш, што выпадак гэты інакш, як да анекдатычных, не аднясеш.

Як толькі сумная вестка дайшла да Варшавы, Агінскі паспяшаўся да Панятоўскага. Яго адносіны са Станіславам Аўгустам былі далёкімі ад сяброўскіх, але, па-першае, кароль з'яўляўся кузенам жонкі Міхала Казіміра, а па-другое, нягледзячы на рэальнасць, часам любіў засведчыць, што ў іх з вялікім гетманам стасункі самыя прыязныя, таму ў неабходных выпадках Агінскі і спяшаўся да яго. А цяпер, на думку гетмана, якраз і быў такі выпадак, калі ён проста не мог не выказаць каралю сваё стаўленне да смерці Русо. Не зважаючы на тое, што Панятоўскі не надта хацеў закранаць гэтую тэму.

Убачыўшы ў сваім кабінеце Агінскага, Станіслаў Аўгуст паспяшаўся яму насустрач. На твары караля расплылася прыязная ўсмешка — калі б за гэтым назіраў хто-небудзь з тых, хто не ведаў пра яго сапраўдныя адносіны з наведвальнікам, можна было б падумаць, што Панятоўскі толькі і жыў чаканнем Міхала Казіміра:

— Рад бачыць вас, вялікі гетман літоўскі!

Здаецца, яшчэ імгненне і кароль працягнуў бы рукі, каб абняць Агінскага. Аднак Міхал Казімір нават для прыліку не падаў выгляду, што яму гэта будзе

прыемна. У адказ на словы Панятоўскага прамовіў на дзіва самотліва і разам з тым да таго цвёрда, што ніводзін мускул не ўздрыгнуў на ягоным твары:

— Не бачу падстаў для радасці, ваша Вялікасць.

Станіслаў Аўгуст разгубіўся, бо не чакаў падобнай рэакцыі, але хутка саўладаў з сабой:

— Прабачце, пане Агінскі... Прабачце... Як гэта я і забыўся, — пачаў ён апраўдвацца. — Сапраўды, як можна радавацца. Усе мы на гэтым свеце не вечныя, а тут памёр такі чалавек...

Цяпер ужо здзівіўся Міхал Казімір. У ягонай галаве маланкава прамільгнула: «Няўжо і Панятоўскі шчыра смуткуе з нагоды смерці Русо? Гэта штосьці новае!» Але Станіслаў Аўгуст зняў усе ягоныя сумненні:

— ...Памёр жа польны гетман Сасноўскі. Светлая яму памяць...

Сапраўды, амаль адначасова з Русо адышоў з жыцця і Сасноўскі. Таму кароль і падумаў, што менавіта смерць апошняга і засмуціла Агінскага, але той, на здзіўленне Панятоўскага, не хаваючы раздражнення запярэчыў:

— Пры чым тут Сасноўскі!

— Нічога не разумею, — зусім разгубіўся Станіслаў Аўгуст. — Тады ў чым прычына вашага смутку?

— А што тут разумець! Мой сябар памёр!

— Ваш сябар? — Станіслаў Аўгуст працягнуў правую руку, паволі пацiснуў руку Агінскаму. — Яшчэ раз прабачце, пане вялікі гетман. Прабачце і прыміце мае самыя шчырыя спачуванні. Але дазвольце ўсё ж запытацца ...

— Хто мой сябар?

— Канечне, канечне...

— То хіба не чулі, ваша Вялікасць?

— Прабачце, пане Агінскі, не чуў.

— Вы не чулі пра смерць Русо?!

— А прычым тут Русо?

— Ваша Вялікасць, ды ён жа — мой сябар!

Панятоўскі глядзеў на вялікага гетмана літоўскага так, як звычайна глядзяць на нешта надзвычайнае, на тое, пра з’яўленне чаго менавіта ў гэты момант і падумаць не маглі, але, як высвятляецца, яно — рэальнасць. Аднак якім вялікім ні было ягонае здзіўленне, Станіслаў Аўгуст усё ж дазволіў сабе засумнявацца:

— Русо — ваш сябар, шаноўны вялікі гетман?

Чакаў, што падобнае запытанне можа выклікаць у Агінскага рэзкую рэакцыю, што за вялікім гетманам літоўскім часта назіралася, калі ён быў нечым асабліва не задаволены, але, на здзіўленне караля, той павёў сябе даволі спакойна і на пытанне адказаў пытаннем:

— Вы, мабыць, ведаеце, што Русо напісаў музыку да оперы «Вясковы чараўнік»?

Усё ж па тым, якім тонам гэта было прамоўлена, адчувалася, што Міхал Казімір сумняваецца ў добрым веданні ім творчасці Русо, але Панятоўскі вырашыў прамаўчаць і ніяк не зрэагаваў, хоць наўрад ці паспеў бы гэта зрабіць, бо Агінскі выпаліў на адным дыханні:

— Я ж таксама напісаў лібрэта і музыку да опер, якія былі пастаўлены ў Слоніме. Ці забыліся, ваша Вялікасць?

— Як вы можаце казаць такое? — Станіслаў Аўгуст ужо не змог стрымаць сябе і шчыра абурыўся.

— То чаму не разумееце тады, што Русо ў гэтым сэнсе, можна сказаць, — мой калега. І не толькі калега, — спахапіўся Міхал Казімір, — а і сябар.

Панятоўскаму нічога не заставалася, як выказаць Агінскаму самыя шчырыя спачуванні ў сувязі са смерцю ягонага сябра ... Жана Жака Русо. І хоць прамаўляў гэта кароль з цяжкасцю хаваючы іронію, вялікі гетман літоўскі прыняў іх усур’ёз і яшчэ падзякаваў, што ў асобе Панятоўскага знайшоў чалавека, які, як ніхто іншы, зразумеў цану той страты, якую ён, Агінскі, панёс.

Ці то сам Панятоўскі прагаварыўся, ці нехта з блізкага каралеўскага акружэння пачуў, пра што ішла гаворка, але неўзабаве Агінскага за вочы інакш, як сябрам

Жана Жака Русо і не называлі. Ды пра гэта Міхал Казімір наўрад ці здагадваўся. Як і пра тое, што знаходзіліся ахвочыя даваць яму такія нядобразычлівыя ацэнкі, як «аперэтачны воін», «элегантны панок». І нават — «мокрая курыца».

Хоць, магчыма, асобныя з гэтых ацэнак, як і некаторыя іншыя, і даходзілі да яго, ды надта не засяроджваў на іх увагу. Хто-хто, а сам добра ведаў, што жыццё вядзе такое неўтаймаванае, калі часта даводзіцца трапляць у пераплёты, з якіх далёка не кожнаму ўдаецца выйсці з гонарам, а да падобных паводзін цяжка паставіцца адназначна. Таму і знаходзяцца жадаючыя папляткарыць. То няхай хоць у гэтым сабе задавальненне маюць, калі на штосьці большае няздатныя. Як у той прымаўцы: «Мялі языком, Апанас, твой цяпер час». Яму ж што — калі трэба, перачакае, пакуль абгаворы скончацца, а не, дык такой бяды, усё адно валасы з галавы ад гэтага не ўпадуць.

Праўда, была ўсё ж адна мянушка, да якой Агінскі, калі чуў пра яе, не мог паставіцца абыякава. Аднак не абураўся, хоць падобная рэакцыя ўспрымалася б заканамернай, а, наадварот, пачутае выклікала ў ягонай душы непрыхаванае задавальненне, бо часам Агінскага называлі «гетманам-кларнетам». А што можа быць больш прыемнае для чалавека, які не толькі да самазабыцця любіў тэатр, оперу, музыку, а і сам пісаў яе, а таксама небыякавы быў да паэзіі?!

Гэтая любоў была настолькі моцнай, што нават многія іншыя справы станавіліся для яго неістотнымі ў той момант, калі далучаўся да прыгожага, ці жыў прадчуваннем сустрэчы з ім. Нядобразычліўцы ж былі ўпэўнены, што не да твару вялікаму гетману літоўскаму, дзяржаўнаму дзеячу займацца такой несур'ёзнай справай. Ды Міхал Казімір, не зважаючы на папрокі і кпіны, прыкладаў усе намаганні, каб яго галоўная рэзідэнцыя, што знаходзілася ў Слоніме, адпавядала б найменню «сядзіба муз» ці «палескія Афіны», а гэта ўжо ацэнка зробленага ім тымі, хто ведаў сапраўдную цану здзейсненаму «гетманам-кларнетам».

## Калі прыгожы, дык і гожы

Агінскія — адзін са старадаўніх магнацкіх родаў, якія меў герб «Агінец». Карані гэтага роду дакладна не ўстаноўлены. Самі Агінскія сваё паходжанне выводзілі ад Рурыкавічаў. Аднак існуе і версія, паводле якой іх родапачынальнік — смаленскі князь Іван Васільевіч Глушонак. Гэты Глушонак у пачатку 1480-х гадоў перайшоў на службу да вялікага князя маскоўскага Івана III, але ягоныя сыны Дзмітрый і Іван засталіся ў Вялікім Княстве Літоўскім і сталі заснавальнікамі двух, пазней вядомых родаў — Агінскіх і Пузынаў. Калі ж канкрэтней, то ля вытоку роду Агінскіх стаіць сын старэйшага сына.

Дзмітрый Іванавіч атрымаў ад вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра маёнтак Агінты пад Коўнам. Потым Агінты па спадчыне перайшлі сыну Дмітрыя Іванавіча Багдану, які, як і яго бацька, яшчэ насіў прозвішча Глушонак, але, калі ў 1510 годзе пацвердзіў свае правы на Агінты, памяняў прозвішча і стаў Агінскім. У далейшым Агінскія адыгрывалі значную ролю ў дзяржаўным, грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі.

У сям'і троцкага ваяводы Тадэвуша Юзафа Агінскага і яго жонкі Ганны, у дзявоцтве Вішнявецкай, у 1728 годзе нарадзіўся сын, якога бацькі назвалі Міхалам Казімірам. Праўда, у беларускіх энцыклапедыях і энцыклапедычных даведніках згадваецца 1730 год, але, відаць, усё ж правільней называць 1728-ы, якога прытрымліваецца найбольш дасведчаны даследчык жыцця і дзейнасці Агінскага, аўтар кнігі «Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба муз» у Слоніме» Анджэй Цеханавецкі.

Міхал Казімір быў адзіным хлопчыкам у даволі вялікай сям'і Агінскіх і выхоўваўся ў асяродку сваіх шасці сясцёр. Гэта ў пэўнай ступені наклала ў будучым адбітак на ягоны характар. Па сведчанні таго ж Цеханавецкага «асабліва на яго вельмі дзіцячае ці, хутчэй, жаночае самалюбства, на ўвагу да свайго вонкавага выгляду». Пацвярджэнне апошняму і выпадак, які згадвае Юльян Нямцэвіч.

Калі Нямцэвіч неяк разам з Агінскім разглядаў яго партрэт з часоў юнацтва, дык заўважыў вялікае падабенства з «арыгіналам», на што Міхал Казімір незадаволена запярэчыў: «Я — прыгажэйшы».

А ўвогуле абставіны складваліся так, што Агінскі з маленства мусіў знаходзіцца пад уплывам самых розных людзей, паколькі рана страціў бацьку. Ягоная маці і бабуля Элеанора, якая была жонкай віленскага ваяводы, хоць і праславілася сваімі дзівацтвамі, у сітуацыі, што склалася, дзейнічала разважліва і рашуча. Яна адразу ўзяла ўсю маёмасць пад свой часовы арышт, каб не знайшліся ахвочыя паквапіцца на спадчыну ўнука.

Апекуном жа Міхала Казіміра спачатку быў дзед па матчынай лініі гетман Вішнявецкі, а калі ён у 1744 годзе памёр, аб ім рупіўся блізкі сваяк, віцебскі ваявода Марцыят Агінскі. Аднак і гэта доўжылася нядоўга, бо ў справу ўмяшаўся нават сам кароль і са згоды яго чарговым апекуном Міхала Казіміра стаў князь-канцлер Міхал Чартарыйскі, які, безумоўна, аказаў немалы ўплыў на фарміраванне ягонага светапогляду, шмат паспрыяў у атрыманні належнай адукацыі.

Праўда, наконт грунтоўнасці адукацыі Агінскага даследчыкі разыходзяцца. Адны схільны меркаваць, што Міхал Казімір усё ж меў па асноўных навуках павярхоўныя веды. Іншыя ж упэўнены, што ў авалодванні імі праявіў сябе належным чынам. Добра разбіраўся нават у галіне механікі, але асноўнай ягонай схільнасцю былі музыка і выяўленчае мастацтва. Няблага маляваў, а таксама навучыўся ігры на скрыпцы і арфе. Аднак апошняе захапленне, бадай, прыйшло крыху пазней, таму што спачатку было не да гэтага, бо ў раннім юнацтве далучыўся да актыўнага грамадскага і палітычнага жыцця.

Ужо 18 верасня 1744 года яму даверылі пасаду вялікага літоўскага віначэрпія. 20 чэрвеня 1748-га быў прызначаны польным літоўскім пісарам. Яшчэ праз тры месяцы, 20 верасня 1748 года прысвоілі званне генерал-маёр.

Падобны хуткі службовы рост, зразумела, не быў бы магчымым, калі б Міхал Казімір не меў такога аўтарытэтнага і ўплывовага апекуна, як Чартарыйскі, які, між іншым, прапанаваў яму цалкам звязаць свой лёс з арміяй, і Агінскі, паслухаўшыся яго, напачатку выбраў ваенную кар'еру. Нельга не прымаць таксама пад увагу і яго знатнае паходжанне. Але, несумненна, і тое, што Міхал Казімір належаў да людзей, якія сваімі справамі хутка прыцягваюць да сябе ўвагу, а таму і знаходзяць належную падтрымку.

Так адбылося і ў тым жа 1748 годзе, калі праходзілі чарговыя выбары ў сейм. Дваццацігадовы Агінскі без асаблівых цяжкасцей стаў дэпутатам. На гэты ж час прыпадае і ўпарадкаванне яго маёмасных спраў. Да атрыманых каронных маёнткаў потым была далучана Пінская эканомія, а яшчэ пазней шэраг старостваў, у прыватнасці, такія, як Чачэрск, Мерач, Пінск і іншыя. Аб'яднанне іх з багатай спадчынай бацькі адразу ж зрабіла Міхала Казіміра вельмі багатым чалавекам.

З 1748 годам даследчыкі звязваюць і выпадак, які, на іх думку, паспрыяў таму, што Агінскі ў далейшым шмат рабіў дзеля навядзення ў сваіх уладаннях парадку, пачынаючы ад добраўпарадкавання дарог і завяршаючы будаўніцтвам будынкаў культурнага прызначэння. Калі ж прытрымлівацца гэтага меркавання, з дарогі ўсё і пачалося.

На другі дзень калядных свят, няблага адпачыўшы, Міхал Казімір захацеў больш «вострых» адчуванняў, а паколькі з павагай ставіўся да простага люду, чаго нельга сказаць пра большасць тагачасных магнатаў, выказаў жаданне папрысутнічаць на імшы ў звычайнай вясковай хаце. А ягонае слова для падначаленых — закон. Тут жа была пададзена раскошная карэта, а яшчэ праз нейкалькі мінут гэтаксама раскошна апрануты Агінскі ўсеўся ў яе і ў суправаджэнні слуг накіраваўся ў шлях.

Але чым далей ад'язджалі ад дому, тым менш радасці станавілася ад гэтага падарожжа. Дарога была да таго кепская, што карэта моцна пахіствалася з боку на бок, рызыкуючы паваліцца. Усе гатовы ўжо былі павярнуць назад. Усе, аднак толькі не Міхал Казімір. У яго і ў думках не магло з'явіцца жаданне аб «адступленні».

Не астудзіў рашучасць Агінскага і мост, што паказаўся наперадзе. Правільней, тое, што засталося ад яго. Па логіцы цяпер трэба было б абавязкова павярнуць назад, але самалюбства не дазваляла Міхалу Казіміру прыняць такое рашэнне. Са слуг жа ніхто па-ранейшаму не асмельваўся яму запярэчыць, хоць і кожны добра разумеў, што пераадоленне гэтай перашкоды дабром не скончыцца.

Коні, відаць, таксама адчувалі небяспеку, таму, калі па загадзе Агінскага той слуга, якія сядзеў наперадзе, моцна сцебануў іх лейцамі, імкліва рванулі з месца, спрабуючы з ходу праскочыць дзіравы і хісткі насціл. І гэта ім, бадай, удалося, да другога берага заставалася ўсяго нейкага паўметра, але карэта да таго расхісталася, што не ўстаяла і звалілася ў ваду. Спуджаныя ж коні ўсё ж ўтрымаліся на мастку, але, зразумела, да іх цяпер нікому не было ніякай справы.

Усе кінуліся ратаваць Агінскага, аднак Міхал Казімір не запанікаваў і сам здолеў вылезці з карэты. І адразу ж апынуўся ў вадзе. Балазе рэчка аказалася не глыбокай, а таму, брудна лаячыся, без чыёй-небудзь дапамогі выбраўся на бераг. Калі ж крыху прыйшоў у сябе, заявіў:

— Трэба будаваць дарогі! — і дадаў: — Масты таксама!

Магчыма, і сапраўды было так. Але нельга адмаўляць і таго, што на падобнае рашэнне Агінскага нямала паўплывала і ягонае знаходжанне за мяжой, куды неўзабаве паехаў і дзе паспеў пераканацца, наколькі там больш удзяляецца ўвагі добраўпарадкаванню дарог, тэрыторый, населеных пунктаў, чым на радзіме.

## Свет пабачыць і сябе паказаць

Аднак, несумненна, мэта паездкі была іншай. Маладому, энергічнаму генерал-маёру хацелася і свет пабачыць, і сябе свету паказаць. А паколькі працягваў лічыць сябе прыгожым (у чым яму і сапраўды нельга было адмовіць), дык і спадзяваўся весела правесці час у лепшых арыстакратычных салонах, завёўшы шэраг знаёмстваў з прадстаўніцамі прыгожай палавіны чалавецтва, якія гэтаксама, як і сам ён, любілі амурныя прыгоды.

Усё гэта, канечне, было. Дарэчы, адна з падобных прыгод (якая канкрэтна, сказаць немагчыма) на пэўны час затрымала яго ў Берліне, але не настолькі, каб мог страціць галаву ад пачуцця, якое нечакана напоўніла ягоную душу. Не абышлося без умяшання Амура і ў Вене, куды перабраўся з Берліна. Не сказаць, каб адмаўляўся ад амурных паходжанняў і ў Парыжы, які быў наступным горадам яго замежнага ваяжу. Але менавіта Парыж стаў для Агінскага і горадам, які ў многім паўплываў на яго далейшае жыццё.

Адкінуўшы поспехі на любоўным фронце, а таксама ўдзел у паходзе герцага Арлеанскага (падчас другога наведвання Парыжа Міхал Казімір у 1757 годзе з'яўляўся яго ад'ютантам), паколькі ўсё гэта ў той ці іншай ступені звязана з ягоным авантурызмам, пастаяннай прагай чагосьці незвычайнага, нельга не сказаць, што пражыванне ў сталіцы Францыі паспрыяла і ягонаму культурнаму росту, і наладжванню кантактаў, карысць ад якіх была відавочнай.

На першы план трэба аднесці знаёмства Агінскага з Дзідро. Паспрыяла гэтаму тое, што Міхалу Казіміру быў заказаны артыкул пра арфу для першага выдання Французскай энцыклапедыі, што само па сабе сведчыць аб значнасці ягоных пазнанняў у галіне музыкі. А ёю захапляўся і Дзідро. У тым ліку і ігрой на арфе.

Пры якіх абставінах яны сустрэліся, сказаць немагчыма, але Дзідро настолькі быў уражаны майстэрствам Міхала Казіміра, што яго выкананне на арфе шэрагу мелодый слухаў на працягу трох гадзін. А праз некаторы час пісьмова засведчыў вялікія тэхнічныя магчымасці Агінскага ў гэтым накірунку, як і адзначыў яго таленавітасць.

Менавіта Міхалу Казіміру прыпісваюць і ўдасканаленне згаданага музычнага інструмента. Выказваецца меркаванне, што ніхто іншы, а Агінскі, вынайшаў для арфы падножку, а ўжо Эрард давёў яе да ладу.

Хутчэй за ўсё Дзідро слухаў і ігру Міхала Казіміра на скрыпцы, бо, па некаторых сведчаннях, ён і скрыпкай валодаў гэтаксама дасканала, як і арфай. Са

скрыпкай, між іншым, звязаны яшчэ адзін анекдатычны выпадак у жыцці Агінскага (калі б сабраць іх усе разам, відаць, атрымаўся такі вясёлы жыццяпіс гэтага неардынарнага чалавека, што можна было б пасмяяцца ад душы).

Калі Міхал Казімір вымушаны быў на некаторы час пакінуць Радзіму, хаваючыся ад праследавання расійскіх улад, ён з’явіўся ў Парыжы перад адным сваім знаёмым са скрыпкай і карцінай у руках і прамовіў: «Вось тое, што сёння будзе мяне ўтрымліваць у жыцці!» Нельга не ўбачыць у гэтым і пэўную тэатральнасць, жаданне зрабіць эфектнае ўражанне, але сутнасць падобных яго паводзін гаворыць шмат. Калі Агінскі і разлічваў на эфект, дык гэта рабіў там, дзе на гэта былі падставы і тады, калі разлічваў, што яго намаганні належным чынам ацэняць.

Знаходжанне ў Парыжы звяло яго і з князем Рэпніным. Карыснасць гэтага знаёмства Міхал Казімір (хоць і не ставіў пры знаёмстве перад сабой якой-небудзь карыслівай мэты), адчуў пазней, калі пасля падзелу Рэчы Паспалітай Рэпнін стаў рускім губернатарам літоўскага краю. У асобе Рэпніна Агінскі знайшоў прыхільніка, што асабліва спатрэбілася пасля таго, калі над гарызонтам Міхала Казіміра згусціліся чорныя хмары. Менавіта Рэпнін дзякуючы свайму вялікаму ўплыву і, безумоўна, правам, якія былі дадзены яму, паспрыяў таму, што Агінскаму ўдалося захаваць свае асноўныя ўладанні...

## Каханне на вогнішчы прыхільнасці

Сталіцу Францыі ён пакідаў па настойлівай просьбе свайго апекуна Чартарыйскага. Адна з прычын Міхалу Казіміру была добра вядомая: 12 кастрычніка 1760 года памёр падканцлер літоўскі Міхал Антон Сапега, трэцяй жонкай якога з’яўлялася дачка Чартарыйскага Аляксандра. Агінскі мог здагадвацца, што ягоны апекун цешыць сябе спадзяваннем аддаць яе замуж менавіта за яго.

З Аляксандрай Міхал Казімір быў знаёмы, але, разумеючы, што яна замужам, якіх-небудзь планаў адносна яе не ставіў, хоць Аляксандра і падабалася яму. Не асмельваўся завесці з ёй і раман, таму што разумеў, чым гэта можа скончыцца. І не столькі самога Сапегі баяўся, колькі Чартарыйскага, бо неаднойчы мог упэўніцца, які страшны князь, калі на некага разгневаўся. Цяпер Аляксандра — свабодная, свабодны і ён сам...

Аднак не толькі з падобнай нагоды адклікаў Чартарыйскі Агінскага з-за мяжы. Была і іншая, пры чым не менш істотная, а ў нечым і больш значная. Паспеўшы добра прыгледзецца да Міхала Казіміра, Чартарыйскі не мог не зразумець, што ягоная кандыдатура пры належнай падачы яе можа стаць добрай казырнай картай у вострай палітычнай барацьбе паміж рознымі магнацкімі групоўкамі. Зразумела, на яго, Чартарыйскага, баку.

Князю якраз і неставала чалавека, падобнага Агінскаму. Ён падыходзіў Чартарыйскаму ва ўсіх адносінах. Малады, карыстаецца аўтарытэтам, паспеў многага дасягнуць, а яшчэ, што таксама немалаважна, не пазбаўлены самалюбства, таму, калі з’явяцца прапановы павесці барацьбу за ўладу, ахвотна згодзіцца. А якраз яго і ставіў Чартарыйскі на першае месца ў сваіх далёка ідучых планах, якія не спяшаўся абнародаваць. Пакуль жа хацеў ажаніць Міхала Казіміра на сваёй дачцэ-ўдаве.

Але ні сам Чартарыйскі, ні тым больш Агінскі і не здагадваліся, што ўжо з’явіўся ўплывовы прэтэндэнт на руку Аляксандры — Юзаф Сангушка. Чартарыйскі пэўны час знаходзіўся ў няведанні, бо дачка, захоўваючы жалобу па мужу, не магла аддаваць каму-небудзь перавагу з тых, хто, карыстаючыся момантам, пачаў заглядвацца на яе, а Сангушка спачатку маўчаў аб сваіх намерах. Тым больш далёкім быў ад усіх гэтых перыпетый, знаходзячыся за мяжой, Агінскі.

Прыехаўшы на радзіму без канкрэтнага намеру адносна Аляксандры, Міхал Казімір, аднак, калі даведаўся, што ягоны апекун і сапраўды не супраць, каб менавіта ён, Агінскі, стаў ягоным зяцем, пачаў бліжэй прыглядацца да маладой удавы. Чуткі ж, што прасіць руку Аляксандры збіраецца Сангушка, выклікалі ў

яго жаданне любой цаной адпрэчыць з дарогі свайго саперніка, а што Сангушка — ягоны сапернік, ужо ніколькі не сумняваўся. Неспакойная натура Міхала Казіміра прагнула перамогі. Ён зразумеў, што ніколі не даруе сабе, калі ўпусціць птушку шчасця са сваіх рук. А галоўнае, пераканаўся, што кахае Аляксандру.

Схіліць маладую ўдаву на свой бок яму ўдалося без асаблівай цяжкасці, бо меў тое, чаго не ставала Сангушку: вытанчанасць манераў у паводзінах (знаходжанне за мяжой не прайшло бясследна), цудоўная ігра на скрыпцы і арфе, уменне маляваць. А хіба шмат трэба, каб заваяваць сэрца ўражлівай жанчыны?! І Аляксандра хутка ўпэўнілася, што кахае Агінскага.

То было каханне, якое хутка ўспыхвае на вогнішчы колішняй прыхільнасці, прысак ад якога яшчэ не паспеў астыць. То была любоў, пра якую кажуць, што яна — незямная. Не хаваў сваіх пачуццяў і Міхал Казімір, прамаўляючы сваёй абранніцы пяшчотныя словы, а гэта ён умеў рабіць. Праўда, калі ў іншых выпадках гаварыў іх не надта задумаючыся над сэнсам сказанага, абы толькі паланіць сэрца той, на каго скіраваў свае памкненні, дык цяпер рабіў гэта шчыра. Прынамсі, так падавалася яму.

Вяселле гулялі ў Волчыне 18 кастрычніка 1761 года — праз год і шэсць тыдняў пасля смерці папярэдняга мужа Аляксандры. Памятаючы пра гэта, вырашылі не рабіць пышных урачыстасцей, таму ўсё адбывалася вельмі сціпла. Магчыма, нават празмерна сціпла. Ды ні Аляксандра, ні Агінскі гэтаму не надавалі асаблівай увагай. Яны былі па-сапраўднаму шчаслівымі, яны проста хацелі быць разам. Таму неяк звыкла выслухоўвалі віншаванні. Спакойна паставіліся і да слоў, прамоўленых кузенам нявесты Станіславам Панятоўскім. Яшчэ не каралём, а звычайным літоўскім стольнікам. І не Станіславам Аўгустам, а Станіславам Антоні. Аўгустам ён стане, калі ўзначаліць Рэч Паспалітую. Праз тры гады, у 1764-м.

Лёс наканаваў ім быць жонкай і мужам трыццаць сем гадоў (Аляксандра памрэ 28 жніўня 1798 года). Менавіта быць, але не жыць, бо хутка зразумелі, што, нягледзячы на каханне, па сутнасці чужыя адзін аднаму. На адчужанасць шмат паўплывала і тое, што не мелі дзяцей, але не ў меншай, а ў чымсьці і ў большай ступені сказвалася рознасць інтарэсаў. Таму кожны быў прадастаўлены самому сабе, а праз некаторы час пасля вяселля нават дайшло да таго, што рэдка сустракаліся. Аляксандра ў асноўным турбавалася сваёй рэзідэнцыяй у Седльцах, дзе і жыла, а Міхал Казімір паступова ўсё больш пачаў любіць Слонім, які і ператварыў у галоўную рэзідэнцыю.

## Кацярына II — не для яго

Слонімская эканомія дагэтуль з'яўлялася ўласнасцю Міхала Антона Сапегі, які, трэба аддаць яму належнае, апекаваўся навукамі. І, відаць, утрымліваў маёнтак не ў абы-якім стане, бо Чартарыйскі, арганізаваўшы ў 1756 годзе з'езд вышэйшых дзяржаўных асоб Вялікага Княства Літоўскага з прыцягненнем уплывовай шляхты, месцам правядзення яго выбраў менавіта Слонім, а пасля завяршэння з'езда ўсіх запрасіў у дом свайго зяця. Але менавіта пры Агінскім гэты, на той час невялікі гарадок, набыў сусветную вядомасць, ператварыўшыся ў сапраўдную «сядзібу муз», стаўшы «палескімі Афінамі», як называлі Слонім тыя, каму тут пашчасціла пабываць і пры самім Міхалу Казіміру, і пазней, калі яшчэ быў відавочны плён ягоных намаганняў у галіне культурна-тэатральнага будаўніцтва. Праўда, саму рэзідэнцыю Агінскі пашырыў, шмат займаўся павелічэннем тэрыторыі парку, узвядзеннем новых будынкаў, тым самым пераўтвараючы яе ў непаўторны паркава-сядзібны ансамбль.

Але ў Слоніме ён з'явіўся не адразу. Як і не адразу прыйшоў да высновы, што менавіта тут трэба зрабіць сваю галоўную рэзідэнцыю. Пасля жаніцьбы з жонкай паехаў у Пецярбург, але разам з ёй там знаходзіўся нядоўга. Аляксандра хутка пакінула сталіцу Расіі і паехала ў свой маёнтак. Адлучаўся з Пецярбурга і сам Міхал Казімір, але па іншай прычыне.

У 1762 годзе Агінскі арганізаваў абарону Волчына і, нягледзячы на адсутнасць ваеннага вопыту, дзейнічаў так паспяхова, што яму прапанавалі пасаду віленскага ваяводы. Нічога супраць не меў і кароль, але Міхал Казімір ваяводам так і не стаў, бо вымушаны быў адмовіцца ад гэтай пасады на карысць Караля Станіслава Радзівіла, больш вядомага як Пане Каханку. Аднак з-за гэтага асабліва не перажываў, бо разумеў, што як яго прыхільнікі, так і праціўнікі маюць свае ярка выражаныя палітычныя інтарэсы, яму ж яшчэ хацелася знаходзіцца па-за палітыкай. І не ўдавалася. Асабліва пасля таго, як ім па-сапраўднаму зацікавіўся дацкі пасол у Варшаве Зігфрыд фон Остэн.

У поле зроку барона Агінскі трапіў раней, але акурат цяпер, калі не стала караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III, Остэн далучыўся да закулісных гульняў, якія вяліся адносна будучага стаўленніка на каралеўскі трон, і пачаў ускладаць на Міхала Казіміра вялікія спадзяванні, як на таго, хто можа стаць яго фаварытам. А паколькі ў сітуацыі, якая ўзнікла, апошняе слова заставалася за расійскай імператрыцай Кацярынай II, Остэн вырашыў пазнаёміць з ёю Агінскага.

Авантурнасць намераў дацкага пасла была больш чым відавочная, як і камічнасць сітуацыі, у якую ён хацеў уцягнуць Міхала Казіміра. Аднак сам Агінскі пра гэта не здагадваўся. Дый і была прычына, якая падштурхоўвала яго пабыць у ролі каханка Кацярыны II. Як вядома, у якасці прэтэндэнта на каралеўскі прастол выступаў і Панятоўскі, з якім у Агінскага адносіны не складваліся. Значыць, з'яўлялася магчымасць даказаць, хто з іх абодвух варты большага.

Таму згадзіўся з прапановай Остэна, пры дапамозе якога і апынуўся пры царскім двары, дзе знаходзіўся каля года. І нават меў сустрэчы з Кацярынай II, якая спачатку паставілася да яго прыхільна, але потым Міхал Казімір ёй чымсьці не спадабаўся. Кацярына II не толькі не жадала яго бачыць, а і пагарджала ім. А каралеўскі прастол, як вядома, заняў Панятоўскі.

Падобнае завяршэнне заляцанняў да расійскай імператрыцы стала для Агінскага сапраўдным ударам. Узненавідзеў усіх. І Панятоўскага, і Остэна, і саму імператрыцу. Першаму разам з жонкай паслаў халоднае віншаванне. Остэна пачаў пазбягаць. Нянавісць да Кацярыны II стала часткай нянавісці да ўсёй Расіі.

Адно ўсцешвала Міхала Казіміра: у гэты цяжкі для яго момант руку падтрымкі прапанаваў Пане Каханку. Перад тым, як апынуцца ў эміграцыі, Кароль Станіслаў прысвоіў яму тытул віленскага ваяводы. Калі раней да ўсяго гэтага Агінскі ставіўся спакойна, дык цяпер згаданы тытул хоць неяк кампенсаваў перажыванні. Аднак меў і матэрыяльнае задавальненне, бо да яго перайшоў шэраг маёнткаў, а таксама радзівілаўскі квартал Юрыдыка ў Вільні. Падоранымі маёнткамі Міхал Казімір валодаў да вяртання Пане Каханку з эміграцыі, пасля чаго аддаў іх законнаму гаспадару. За гэта Кароль Станіслаў 29 лютага 1768 года ўручыў яму булаву вялікага гетмана літоўскага.

Але ні Вільня, ні той жа Слонім пакуль не прыцягвалі ўвагу Агінскага. У 1766 годзе ён набыў маёнтак Нябораў, што знаходзіўся непадалёку ад Варшавы. Ва ўладанні яго перайшоў і тамашні замак. Відаць, Міхал Казімір хацеў ператварыць Нябораў у сваю галоўную рэзідэнцыю, бо пачаў шматлікія рэстаўрацыйныя работы. Гэта тычылася і паляпшэння знешняга выгляду замка, і ягонага ўнутранага аздаблення.

Рукі да Слоніма пакуль не даходзілі і па іншай прычыне. Неяк незаўважна ўсё больш пачаў цікавіцца палітычным жыццём. Актывізацыя падобных яго памкненняў стала ў многім вынікам перажытага пасля таго, як не змог заняць каралеўскі трон (што ён не «падыходзіў» для Агінскага, іншая справа). Цяпер хацеў хоць у нечым наверстаць упушчанае. А яшчэ на гэта паўплывала правядзенне Панятоўскім пры пастаянным націску Кацярыны II прарасійскай палітыкі, што Агінскаму не падабалася.

Аднак пакуль трымаўся крыху адасоблена, не шукаючы саюзнікаў. І толькі тады, калі пераканаўся, што адзін мала што можа зрабіць, далучыўся да ўдзельнікаў Барскай канфедэрацыі — ваенна-палітычнага аб'яднання часткі польскай шляхты і некаторых магнатаў Рэчы Паспалітай для барацьбы супраць Панятоўскага і Расіі.

Гэты рух узмацніўся, стаў больш уплывовым якраз пасля таго, як Міхал Казімір 7 верасня 1771 года апублікаваў свой маніфест аб падтрымцы канфедэратаў. І словы Агінскага не разышліся са справай, бо заўсёды, калі за нешта браўся, прывык дзейнічаць рашуча. Са сваім войскам смела рушыў на расійскія пазіцыі. Чым нямала здзівіў. Наўрад ці хто-небудзь нават з бліжэйшага акружэння вялікага гетмана верыў у поспех, бо дагэтуль Міхалу Казіміру, не лічачы поспеху пад Волчынам, не даводзілася ўдзельнічаць у сур'ёзных баявых аперацыях.

Не ўспрынялі ўсур'ёз ягоны намер і самі канфедэраты. Дый у распалажэнні рускіх войск спакойна паставіліся да ўсяго. І зрабілі непапраўную памылку, бо адбылося, здавалася б, немагчымае: Агінскі пад Бездзежам разбіў праціўніка.

Усё ж Міхал Казімір быў улюбёнцам лёсу. Калі не шанцавала яму, дык у асобных выпадках, а так часта ішоў па жыцці не надта абцяжарваючы сябе намаганнямі, робячы ўсё лёгка і эфектна. Але бяда ў тым, што калі яго нечакана напаткоўваў які-небудзь поспех, часта станавіўся падобным на глушца, які, спяваючы, да таго захапляецца, што нічога навокал не заўважае і з-за гэтай адчужанасці можа трапіць у небяспеку.

Падобная сітуацыя назіралася і пасля ўдалага разгрому Агінскім расійскага войска. Іншы б на месцы Міхала Казіміра, радуючыся такой бліскучай перамозе, зрабіў бы ўсё магчымае, каб, падначаленыя яму людзі, перажываючы эйфарыю ад такога поспеху, не забывалі, што наперадзе будуць іншыя, пры тым больш цяжкія баі, да якіх трэба старанна рыхтавацца, каб не быць разгромленымі. А што ў хуткім часе неабходна чакаць сутычкі, сумнявацца не даводзілася. Але Агінскі нічога гэтага рабіць не збіраўся. Ведама, які быў з яго стратэг. А да ўсяго, як і падначаленых, ап'яняючае ўсведамленне, што ім спадарожнічае сама фартуна, настолькі авалодала ім, што, па сутнасці, забыўся аб усім на свеце. Нават забыўся пра ўсякую асцярогу, не выставіў належную варту.

Праціўнік жа не драмаў. Дый разведка ў рускіх вялася належным чынам, таму данясенні яе пацвердзілі, што сапраўды Агінскі, хоць і мае званне генерал-маёра, у ваеннай справе разбіраецца слаба і цяжка сказаць, як яму пад Бездзежам удалося перамагчы. У далейшым жа яго не толькі не трэба асцерагацца, а і неабходна хутчэй узяць ініцыятыву ў свае рукі.

Непадрыхтаванасць Міхала Казіміра да вядзення далейшых баявых дзеянняў, а таксама ягоную бесклапотнасць і выкарыстаў Сувораў, атрады якога ў ноч з 22 на 23 верасня 1771 года акружылі войска вялікага гетмана пад Сталовічамі і цалкам разграмілі іх. Самому Агінскаму, праўда, удалося ўцячы. І гэтым разам яму, калі можна так сказаць у дачыненні да сітуацыі, што склалася, пашанцавала. Паспеў выскачыць праз акно, калі хату, у якой знаходзіўся, акружалі расійскія салдаты.

Магчыма, яны не прынялі пад увагу, што гетман можа кінуцца ў акно, таму сачылі за ўваходам. А магло стацца і так, што не здагадваліся аб яго знаходжанні там, таму асаблівай асцярогі і не праявілі.

Па некаторых звестках Міхал Казімір у гэты момант быў у адных споднiках, бо, няблага правёўшы час з каханкай, моцна і бяспечна спаў з ёю ў ложку, а таму не чуў ні выстралаў, ні крыкаў, і толькі калі салдаты былі зусім блізка, прачнуўся і, цалкам не ўцяміўшы, што і да чаго, кінуўся ў акно. Пагаворвалі і аб тым, што якраз у час наступлення Суворава, на Агінскага найшло чарговае творчае натхненне, таму з вялікім задавальненнем пісаў... оперу. Захапіўся так, што забыўся, дзе знаходзіцца.

Абодва варыянты праўдападобныя, бо абодва маюць пад сабой глебу. Калі Міхал Казімір аддаваўся свайму першаму, ці другому захапленню, для яго сапраўды больш нічога на свеце не існавала. І, вядома ж, ніхто ў гэты момант не мог патрывожыць яго.

## Уцякаць, дык за мяжу

Адзінае, што заставалася Агінскаму пасля разгрому пад Сталовічамі, гэта — уцячы як мага далей, дзе яго не змогуць знайсці. Гаворкі ж пра тое, каб сабраць сваё войска, якое ў паніцы таксама разбеглася, не магло ісці. А ўратаванне існа-

вала толькі адно: падацца за мяжу, а там ужо, ведаючы, што Кацярына II яго не дастане, супакоіўшыся, вырашыць, як быць далей.

За мяжу накіраваўся праз Кёнігсберг. Ды не быў бы Агінскі Агінскім. Хоць і паводзіў сябе, як звычайны палахлівец, пра што, дарэчы, адразу ж стала вядома ў вышэйшых колах Рэчы Паспалітай, калі апамятаўся, стараўся трымацца, наколькі гэта магчыма, годна, таму ў адным з лістоў так падаў сваё паражэнне: «Усё я страціў: грошы, рэчы і паперы, але ніколі не страчу стойкасці, мужнасці, імкнення да абароны краіны».

Толькі ні для кога не з'ўлялася сакрэтам, што за падобнымі развагамі — нішто іншае, як боль сэрца, а яшчэ закранутае самалюбства, і ўсё гэта Міхал Казімір спрабаваў хоць неяк прытупіць напышлівымі словамі. А душэўных пакут яму ставала. Асабліва пасля таго, як пагардліва паставілася да яго Кацярына II. І так Агінскага за вочы, пра што не мог не ведаць, называлі няўдалым каханкам расійскай імператрыцы, а тут адбылося тое, што яшчэ больш падахвоціла нядобразычліўцаў кпіць з яго.

Калі Міхал Казімір знаходзіўся ў Кёнігсбергу, аднойчы паведамілі, што Кацярына II падрыхтавала яму падарунак, які неўзабаве перададуць. Вельмі здзівіўся, бо даўно паміж імі прабегла чорная кошка. Дый пра які падарунак ад расійскай імператрыцы можа ісці гаворка пасля таго, як прымаў удзел у баявых дзеяннях супраць Расіі. Аднак не адмовіўся атрымаць яго. Звычайная цікаўнасць узяла верх. Дый, відаць, спадзяваўся, што, магчыма, Кацярына II (чаго не бывае!) змяніла свой гнеў на літасць і выбрала менавіта такі момант, калі яму асабліва цяжка і нестае падтрымкі.

Ды калі пабачыў падарунак, ад абурэння ледзь не вылаяўся. Ніхто дагэтуль яго так не абражаў: у маленькім пакуначку, які перадалі яму, знаходзілася парфума, а ў дадатак атрымаў ад імператрыцы некалькі музычных інструментаў. Падтэкст быў відавочны. Нагадвала, што не мужчына, а звычайная баба. Напаміняла, каб займаўся сваёй музыкай, іграў на скрыпцы і флейце і не лез у палітыку. Не твая гэта, маўляў, справа. Моцныя, валявыя там патрэбны, а ты...

Пасля гэтага ён прасякнуўся яшчэ большай нянавісцю і да Расіі, і да той, хто з'яўляўся яе ўвасабленнем. Але як адпомсціць і за гэтую знявагу, як і за аплявухі, што атрымаў, калі быў адлучаны ад царскага двара? Як адплаціць за паражэнне пад Сталовічамі? Выйсце бачыў у адным: неабходна знайсці тых, хто згодзіцца паслаць на дапамогу канфедэратам войскі. Таму і пачаў весці наконт гэтага перамовы.

Аднак ні ў Берліне, ні ў Вене так і не знайшоў паразумення. Пасля гэтага ўскладаў немалыя спадзяванні на сустрэчу з Людовікам VI. Аўдыенцыі з ім дамогся 6 жніўня 1772 года, аднак і яна нічога канкрэтнага не дала, усё абмежавалася агульнымі развагамі, але Міхалу Казіміру не развагі былі патрэбны, а канкрэтныя дзеянні. І чым хутчэй, тым лепш.

Становішча станавілася ўсё больш безнадзейным. І чым пакутлівей абдумваў сітуацыю, у якой апынуўся, тым больш схіляўся да высновы, што яму нічога не застаецца, як паспрабаваць наладзіць масты, якія сам жа спаліў. А дапамагчы ў гэтым, канечне ж, можа Панятоўскі, які з'яўляецца для Расіі сваім чалавекам, а і знаходзіцца ў блізкіх стасунках з Кацярынай, таму яна не толькі ўплывае, а ў некаторых выпадках і прыслухоўваецца да ягоных меркаванняў. А значыць, Станіслаў Аўгуст можа паўплываць на імператрыцу адносна яго, Агінскага, лёсу. Таму і пачаў з Панятоўскім перапіску, у лістах да якога выказваў жаданне пайсці на пэўны кампраміс.

Адчуўшы, што Станіслаў Аўгуст да ягоных прапаноў паставіўся празмерна спакойна, не сумняваўся ў боязі караля прымаць якое-небудзь важнае рашэнне, не параіўшыся з Кацярынай II. А што ў сваіх здагадках не памыліўся, пераканаўся, калі ў чарговым адказе Панятоўскі запатрабаваў ад яго поўнага адмаўлення ў далейшым ад якой бы там ні было барацьбы. Безумоўна, сам Станіслаў Аўгуст прад'явіць яму ледзь не ўльтыматум не мог. Не такі смелы, бо ведае, хто перад ім. Папярэдне параіўся з Кацярынай II, а тая і паставілася да ўсяго належным чынам.

Ад усведамлення гэтага лягчэй не станавілася. Поўнасцю здавацца ён, праўда, не хацеў, але з атрыманнем гэтага запатрабавання Панятоўскага яшчэ раз упэўніўся, што апынуўся ў тупіку, у які сам сябе і завёў і з якога не бачылася ніякага выйсця. А каб выжыць, выйсце з яго трэба было абавязкова знайсці. Грошы заканчваліся, на чыю-небудзь фінансавую падтрымку разлічваць не даводзілася. У гэты момант ён гатовы ўжо быў пайсці на любую авантуру.

## Алі Амета: песня няспетая

Трэба ж так надарыцца, што якраз цяпер, калі жыццёвы небасхіл апальнага вялікага гетмана не проста завалаклі свінцовыя хмары, а такія, што гатовыя выбухнуць ударамі грому, на ягоным шляху сустрэлася адна з тых жанчын, напаткаўшы якіх, Міхал Казімір адразу страчваў галаву.

Маладая, прыгожая, разняволеная ў паводзінах, яна з першай жа сустрэчы лёгка пакарыла сэрца шчадралюбнага Агінскага. Можна толькі здагадвацца, якія ласкавыя словы гаварыў ёй Міхал Казімір — на кампліменты ён быў мастак. А калі яшчэ даведаўся, што Алі Амета — так звалі гэтую красуню — цудоўна іграе на арфе, хараша малюе і з'яўляецца неблагой знаўцай архітэктуры, дык Агінскі гатовы быў пайсці за ёй хоць на край свету.

Аднак, як высветлілася, увесь свет Амету не цікавіць, а толькі Расія. Тая Расія, якую гэтак ненавідзеў Міхал Казімір. Не сказаць, праўда, каб яе асабліва любіла і Амета, але яна, у адрозненне ад Агінскага, проста не магла жыць без гэтай краіны, бо менавіта з ёю звязвала сваю шчаслівую будучыню.

Міхал Казімір і не здагадваўся, што перад ім была тая самая авантурыстка Алі Амета, якая больш вядомая як княгіня Вальдамірская, а ў гісторыю ўвайшла пад прозвішчам Тараканавай.

У адрозненне ад Аметы ён хоць і з'яўляўся ў душы авантурыстам, усё ж разважаў крыху больш цвяроза, таму і не падтрымаў яе намераў авалодаць царскай каронай. А мо таму і не падтрымаў, што гэтая самая карона «чакала» яго новую знаёмую менавіта ў Расіі, а ў Расіі яму самому нішто не свяціла. Нават карона.

Што дзіўна, дык тое, што ва ўзаемаадносінах з Аметай абмежаваўся звычайным знаёмствам, а пасля перапіскай. Гэта так не падобна на Агінскага, які заўсёды з жанчынамі, што падабаліся яму, дзейнічаў рашуча. І, бадай, за выключэннем Кацярыны II, ніколі не цярпеў паражэння.

Але падобныя паводзіны няўдалага палкаводца няцяжка апраўдаць, калі прыняць пад увагу, што ён, лёгка паверыўшы ў тое, што ў Аметы ў Персіі знаходзяцца мільённыя багацці, хацеў за яе кошт паправіць сваё фінансавае становішча. Верыў Міхал Казімір і ў тое, што яна — княжацкага паходжання. Аднак, апёкшыся на імператрыцы, асцярожна ставіўся і да «княжны».

Разумеў: каханку, пры жаданні, заўсёды можна знайсці, а мільёны на дарозе не валяюцца. Таму і хацеў атрымаць ад Аметы як мага большую прыхільнасць, выстаўляючы сябе ў ролі сур'ёзнага мужчыны, стаўленне якога да багатай жанчыны самае паважлівае. Дзеля гэтага пайшоў нават на тое, каб нейкаму Эмбсу, які суправаджаў «мільянершу» і інакш як «баронам», сябе не называў, прысвоіць званне афіцэра літоўскага войска.

Багацця аднак ад гэтай авантурысткі не атрымаў, узаемнасці хутчэй за усё не меў, інакш наўрад ці заставаліся б іхнія ўзаемаадносіны на мяжы звычайнага сяброўства. Дый хутчэй патрэбен быў Амеце толькі для таго, каб дапамагчы ў авалоданні царскай кароны. А няма кароны — няма і мільёнаў.

Расставаліся без асаблівага шкадавання. Цудоўна разумелі, што не каханне звяло іх разам, а жаданне кожнага атрымаць ад гэтага знаёмства як мага значную выгоду. Хоць Агінскі адчуваў сябе куды ў больш незайздросным становішчы, чым яго новая знаёмая. Прыкра станавілася ад таго, што яго без асаблівых цяжкасцей абвяла вакол пальца звычайная авантурыстка. Сябе ж, вядома, авантурыстам ён ніколі не лічыў.

Калі што і заставалася, дык, забыўшы ўсе крыўды і суняўшы хоць крыху самалюбства, вяртацца на Радзіму. Што будзе, тое і будзе. Адкладваць надалей ад'езд не выпадае.

У канцы 1774 года і падаўся назад, па сутнасці едучы ў невядомасць, бо ніякіх гарантый адносна свайго будучага лёсу не меў.

## Тэатр — любімае дзецішча

Радзіма ж спаткала Міхала Казіміра  няветліва. Ды і як яшчэ магла сустрэць, калі пакідаў яе як палахлівы ўцякач, а вяртаўся ў не менш прыніжаным стане. Ды трэба было не звяртаць увагі на гэта, думаць, як і на што жыць. Адчуваючы фінансавыя цяжкасці, прадаў Нябораў сваёй пляменніцы і яе мужу. Цяжка было развітвацца з маёнткам, у які ўклаў столькі грошай і працы, аднак іншага выйсця не заставалася, бо яго ўладанні, што знаходзіліся за рускай мяжой, секвесціравалі, а потым і ўвогуле канфіскавалі — так Кацярына II пакарала Агінскага за выступленне супраць Расіі. Для паляпшэння фінансавага становішча мусіў і частку сваіх маёнткаў прадаць пляменніку Міхалу Клеафасу Агінскаму.

Адабраныя ж уладанні спрабаваў вярнуць. Каб дабіцца праўды, звяртаўся і да самой імператрыцы, і да іншых уплывовых асоб, але гэта нічога не дало. Давялося задавальняцца тым, што засталося. У гэты, вельмі цяжкі і неспрыяльны для яго час, і вырашыў зрабіць Слонім сваёй галоўнай рэзідэнцыяй, а таксама ператварыць яго ў сапраўдную «сядзібу муз».

Дзеля гэтага і пачаў прымаць захады па далейшым добраўпарадкаванні маёнтка, а таксама па ўзвядзенні і новых будынкаў, найперш для культурных патрэб. У шэрагу першаступенных планаў Міхала Казіміра было і будаўніцтва асобнага тэатральнага памяшкання, у якім маглі б ставіцца оперныя спектаклі, так званага «Опергаўза».

Для ажыццяўлення сваёй задумы запрасіў вядомага італьянскага дэкаратара Іначэнца Мараіна, які апроч гэтага праславіўся і як выдатны архітэктар па ўзвядзенні тэатральных будынкаў. Мараіна, азнаёміўшыся з ваколіцамі замка, заявіў, што найлепшае месца для «Опергаўза» — участак за замкам, поруч з ракой.

З такой прапановай Агінскі пагадзіўся і 21 красавіка 1780 года падпісаў з Мараіна кантракт. Пасля гэтага і пачаліся будаўнічыя работы, якія вяліся вельмі хутка. Ва ўсякім разе, калі чакалі візіту ў Слонім Панятоўскага, які адбыўся ў верасні 1784 года, яны былі ўжо практычна закончаны і толькі сёе-тое даводзілі да ладу, каб яшчэ больш уразіць саноўнага госця. Праўда, рабілася гэта ў адсутнасці Агінскага, не было яго і ў час візіту караля.

Панятоўскі застаўся задаволены пабачаным, бо і сапраўды тэатр уразіў яго. Пра тое, як выглядаў «Опергаўз», сёння можна даведацца па тых сведчаннях, што дайшлі да нашых дзён. Праўда, запісы рабіліся несістэмна і з рознай нагоды, пры тым рознымі аўтарамі і ў розны час, але ўсё ж  малюнак атрымліваецца даволі пераканаўчым.

Паколькі тады ў Вялікім Княстве Літоўскім асабліва славіўся Радзівілаўскі тэатр, дык слонімскі міжволі параўноўвалі з ім. Гэтае супастаўленне, праўда, было не на карысць таму тэатру, які ўзвёў Мараіна, бо ён з'яўляўся ў  два разы меншым за нясвіжскі, які меў не двух'ярусныя, а чатырох'ярусныя ложы. Але гэта ніякім чынам не паўплывала на ўнутранае аздабленне.

У кожнай ложы, як і ў лепшых тагачасных тэатрах, паслалі паркетную падлогу і ўстанавілі камін. Каралеўскую ж упрыгожваў картуш з гербам караля. Для асвятлення памяшкання выкарыстоўваліся некалькі раскошных крыштальных люстраў, а таксама мноства свяцільнікаў, размешчаных ля сцен. На саміх жа сценах знаходзіліся спецыяльныя свяцільнікі з падстаўкамі.

Для таго, каб можна было ставіць спектаклі, найлепш набліжаныя да самога жыцця, былі ўзяты на ўзбраенне найноўшыя для таго часу тэхнічныя сродкі, якія дазвалялі лёгка мяняць дэкарацыі, а пры неабходнасці «выводзіць» на сцэну нават

сапраўдныя караблі. Дзеля гэтага яна была падзелена папалам. Пярэдняя частка, як і традыцыйна ў тэатрах, выкарыстоўвалася па сваім непасрэдным прызначэнні, на ёй ігралі акцёры.

Задняя ж пры неабходнасці лёгка запаўнялася вадой. Ажыццяўлялася гэта праз сістэму труб, што праходзілі да самых тэатральных падмосткаў. Вада паступала з сажалкі, што знаходзілася непадалёку ад будынка. Гэтая частка сцэны аказвала добрую паслугу і тады, калі па ходзе спектакля разгортваліся баявыя дзеянні, ці неабходна было паказаць войскі на маршы. У гэтым выпадку ваду спускалі, а зверху клалі тоўстыя шчыты. З тыльнага ж боку сцэны адкрывалася вялізная брама, праз якую магла ўварвацца кавалерыя ці прайсці пяхота.

У рэшце рэшт у гэтым нічога новага не было. Штосьці падобнае можна было назіраць і ў іншых тэатрах. І не толькі ў тых, што працавалі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, а і ў Польшчы, замежных краінах. Прынамсі, сваім хуткім пераабсталяваннем сцэны славіўся венскі тэатр. Але такое параўнанне служыць толькі на карысць таму, што Агінскі ў сваіх тэатральных памкненнях не шкадаваў грошай і арыентаваўся на лепшыя сусветныя дасягненні.

Як і шмат рабіў для таго, каб у яго рэзідэнцыі працавалі таленавітыя акцёры, танцоўшчыкі, музыканты, а іх патрабавалася нямала, бо ставіліся оперныя і балетныя спектаклі з немалым прыцягненнем дзейных асоб. Шматлікім па колькасці выканаўцаў быў і слонімскі аркестр. Некаторыя даследчыкі называюць яго лічбу ў 53 чалавекі, а гэта толькі спецыялісты вакальнай і інструментальнай музыкі. Дырыжорамі з’яўляліся канцэртмайстар Юзаф Паўлі і капельмайстар Аляксандра Данесі, які ў тэатры Агінскага сфарміраваўся як выдатны знаўца сваёй справы, але асабліва праславіўся пазней, калі пачаў працаваць у Нясвіжы.

Італьянцамі па паходжанні былі і асобныя спевакі. Прынамсі, некалькі месяцаў у Слоніме выступала італьянская прымадонна Ганна Давія дэ Бернуці, якая стала чарговай каханкай Міхала Казіміра. Яны пазнаёміліся падчас яе гастрояў у Варшаве ў 1776 годзе. І хутка зблізіліся. Амурныя справы не перашкодзілі Агінскаму прыняць і канкрэтныя захады, звязаныя з ягоным тэатрам. Ганна пайшла яму насустрач і дала згоду на працягу трох гадоў жыць у Слоніме. Зразумела, пастаянна выходзячы на сцэну. Дамова наконт гэтага завяршылася кантрактам, падпісаным 1 сакавіка 1777 года. Ды, мабыць, паміж каханкамі нешта разладзілася, бо Бернуці, як хутка прыехала ў Слонім, так хутка і пакінула яго.

Сярод дырыжораў, інструменталістаў Слонімскага тэатра сустракаліся і немцы, чэхі, а гэта гаворыць аб тым, што Міхал Казімір ахвотна шукаў лепшых спецыялістаў за мяжой. Часам запрашаў да сябе і прафесійных музыкантаў з Ружан ці Нясвіжа. Аднак многія акцёры, танцоўшчыкі, музыканты рыхтаваліся з таленавітых юнакоў і дзяўчат, якіх гетман шукаў у навакольных вёсках, а таксама ў іншых сваіх уладаннях, а затым пасылаў на вучобу.

Як вядома, Агінскі быў не толькі выдатным арганізатарам, а чалавекам, пасапраўднаму захопленым музыкай, тэатрам, таму ён не мог стаяць у баку ад таго шматграннага мастацкага жыцця, што, дзякуючы ягоным намаганням, і сапраўды ператварыла ціхі правінцыйны гарадок у «сядзібу муз». Менавіта у гэты, слонімскі перыяд у жыцці Міхала Казіміра і з’явілася мянушкі, на якую ён не крыўдзіўся.

Ды і як крыўдзіцца было, калі амаль штодзённа ці то іграў сольную скрыпку ў сваім аркестры, ці то выконваў партыю ў яго суправаджэнні. Часам «гетман-кларнет» адважваўся нават на цэлы канцэрт, і прысутныя віталі яго выступленне дружнымі воплескамі. І не з-за павагі да яго, як гаспадара рэзідэнцыі, а гэтак аддзячвалі яму за высокае майстэрства. Не ў апошнюю чаргу скрыпічнае, бо ёсць звесткі, што ён браў урокі ў самога Джвані Бацісты Віёці, калі той знаходзіўся ў Рэчы Паспалітай пры каралеўскім двары. Былі гледачы і ў захапленні тады, калі на сцэне ажывалі вобразы ў спектаклях, да якіх Агінскі меў дачыненне як аўтар музыкі.

## Памяць і ў пекных рыфмах

Хуткаплынны час зрабіў сваю справу, і сёння цяжка дакладна сказаць, якія канкрэтна творы былі напісаны самім Міхалам Казімірам, а якія народжаны фантазіяй ягонага пляменнніка, аўтара знакамітага паланэза «Развітанне з Радзімай» Міхала Клеафаса Агінскага. Часам сёе-тое з мастакоўскай спадчыны апошняга прыпісваецца першаму. Нярэдка аўтарства асобных паланэзаў, якія бытавалі тады (гэты музычны жанр быў вельмі распаўсюджаны) увогуле не ўстаноўлена.

Няма пэўнасці і наконт опернай музыкі Міхала Казіміра. Многія сыходзяцца толькі ў тым, што ён аўтар лібрэта і музыкі да оперы «Елісейскія палі», якая была пастаўлена ў Слоніме ў 1788 годзе і адразу ж увайшла ў другі том «Баек і не баек» Міхала Казіміра. Не адмаўляецца і яго аўтарства музыкі да оперы «Цыгане» (лібрэта Ф. Князніна). Не выклікае сумнення, што Міхал Казімір напісаў і оперу «Зменены філосаф». На карысць гэтага, як мяркуе Цеханавецкі, сведчыць і вершаваная прадмова да яе:

Польская опера. Пэўна, праца таго
Чалавека, які поўнасцю сябе бацькаўшчыне прысвяціў.
Бо ён не толькі здзейсніў вялікія справы,
Але ён прыдаў яшчэ большы бляск тым,
Што дабрачыннасць уславіў, а заганы выкрыў.
*(Тут і далей пераклад Уладзіміра Сакалоўскага.)*

Дакладна немагчыма сказаць і якія кнігі выдаў Агінскі. Калі наконт ягонага аўтарства «Баек і не баек» сумненняў няма, а тым больш — «Гістарычных і маральных аповесцей, напісаных грамадзянінам са Слоніма», дык нельга адназначна паставіцца да «Кніжкі ў вялікую актаву». А тым больш да некалькіх паэтычных твораў. Яны хутчэй прыпісваюцца Міхалу Казіміру, як і пераклады п’ес Кацярыны II «Ашуканец» і «Імяніны пані Варчалкінай».

Адно несумненна: да ўсяго Агінскі яшчэ валодаў і дзівосным талентам арганізатара, меў гаспадарскую жылку. У Слоніме апроч тэатра стварыў таксама некалькі прадпрыемстваў, заснаваў друкарню. Але, безумоўна, асабліва праславілі яго слонімскі аркестр і опера. І водгукі сучаснікаў, якія дайшлі да нас, пацвярджаюць, што падобныя цуды не часта можна ўбачыць.

Уражанне многіх, хто наведваў тады Слонім (і несумненна — найперш сваё ўражанне) найлепей перадаў у панегірыку «Да Агінскага, Вялікага Гетмана Літоўскага» Каятан Вянгерскі:

Калі між вамі генія няма,
Хай хоць на момант хто спусціцца ў Слонім.
Ён ветлівей, чым у доме Лота, напэўна, будзе там прыняты,
Адчуўшы сорам, што спяваў: святы, святы, святы,
А музыку зямную, параўноўваючы са сваім хорам,
Не ведаю, ці ён не стане неба дэзерцірам.
Агінскі! Перш чым анёл прыйдзе цябе наведаць,
Мушу яго я, пэўна, шчыра папярэдзіць.
І мушу быць хоць раз у жыцці шчаслівым:
Бачыць цябе ў Слоніме і цуды ўсе тыя,
У якіх знойдуць асалоду анёлы і святыя,
Каб у пекных рыфмах памяць вечную пакінуць.

## Без справы не сядзеў

Памяць аб сабе Міхал Казімір пакінуў і дзякуючы штучнай воднай артэрыі, збудаванай ім на Палессі, якая носіць назву канал Агінскага, Вялікі Пінскі канал, Порт Агінскага. Правільней насіла, бо сёння гэтая частка воднага шляху з Дняпра ў Нёман, якая злучае прыток Прыпяці Ясельду і Шчару (прыток Нёмана) і скла-

дае з Выганаўскім возерам 54 кіламетры, не суднаходная, а калі і прыгадваюць яе, дык у асноўным мясцовыя жыхары, звесткі пра канал Агінскага можна напаткаць толькі ў даведніках, а таксама ў спецыяльнай літаратуры.

Марыў аб гэтым штучным водным шляху яшчэ Багуслаў Радзівіл, які ў сваёй «Інфармацыі дамашняй і палітычнай» — свайго роду запавеце, пакінуў і такі запіс: «Калі б хто з нашчадкаў маіх хацеў бы пакінуць аб сабе памяць, то няхай закончыць ці распачне тое, што я хацеў пасправабаваць, а менавіта Днепр з Нёманам злучыць праз раку Лошу. Запэўніваю, што ён зробіць справу, вартую памяці».

Гэтую ідэю канкрэтызаваў пінскі мечнік і гарадскі суддзя Марцін Бутрымовіч, які з 1767 года быў блізкім да двара Міхала Казіміра, а потым арандаваў частку ягоных маёнтках. Безумоўна, і сам Агінскі разумеў, што пабудова гэтага канала адкрые шырокія магчымасці для экспарту лесу, а таксама іншых тавараў праз балтыйскія парты. Сваімі планамі ён падзяліўся на Варшаўскім сейме 1768 года. Сейм не толькі падтрымаў прапанову Міхала Казіміра, а нават падарыў яму мястэчка Лагішын і вёску Мышкоўцы з прылеглымі землямі, а на перспектыву дазволіў спаганяць мыта «па 8 злотых з вясла ці ад спіцы».

Работы на будаўніцтве канала праводзіліся з перапынкамі, што было звязана з адлучкамі Агінскага за мяжу, асабліва калі ён знаходзіўся ў эміграцыі. Але справа паступова рухалася. Важна і тое, што не засталася ў баку ад будаўніцтва і дзяржава. За яе кошт ачышчаліся рэкі, у тым ліку і Нёман, прыводзіліся ў парадак прылеглыя дарогі.

У 1775 годзе, хоць канал і не быў яшчэ цалкам добраўпарадкаваны, сейм аб'явіў аб пачатку сплаву. Не спыніліся работы і пасля таго, як гэтая тэрыторыя далучылася да Расіі, бо новыя ўлады таксама разумелі важнасць такой воднай артэрыі. Былі нават прыцягнуты афіцэры Генеральнага штаба, якія праводзілі інструментальныя здымкі, ажыццяўлялі рэкагнасцыровачныя работы, прамервалі глыбіню канала, правяралі яго прапускную здольнасць. А поўнасцю канал уступіў у строй толькі ў 1804 годзе і меў 10 шлюзаў...

Упарадкаванне «сядзібы муз», працяг будаўніцтва канала, пракладванне дарог праз палескія балоты, забірала нямала часу. З-за гэтага Агінскі на некаторы час адышоў ад актыўнага грамадскага жыцця, але гэта не значыць, што заставаўся пасіўным назіральнікам працэсаў, што адбываліся ў краіне і за мяжой.

Не парываў сувязі з масонскай ложай, у якую, мабыць, уступіў яшчэ падчас свайго першага наведвання Францыі. І нават спрыяў распаўсюджванню гэтага руху, за што на агульным сходзе прадстаўнікоў масонскіх ложаў, які прысвячаўся гэтай праблеме, 27 снежня быў выбраны «дэпутаваным вялікім майстрам правінцыі Літва».

Зрабіў працяглую паездку за мяжу, наведаўшы некалькі краін. Нямала, у прыватнасці, дало яму знаходжанне ў Англіі, дзе далучыўся не толькі да багатай культуры, а і знаёміўся з развіццём прамысловасці. Паездка, відаць, паспрыяла таму, што ў хуткім часе наладзіў габеленавую і дывановую вытворчасць у Слоніме, пабудаваў фаянсавую фабрыку ў Целеханах, бо ў англічан шмат чаму навучыўся.

І яшчэ меркаваў, што хоць неяк удасца аслабіць расійскі ўплыў. Пэўныя спадзяванні ў сувязі з гэтым ускладаў на Прусію, бо знаходзіўся ў някепскіх адносінах з Фрыдрыхам Вільгельмам ІІ, з якім быў добра знаёмы па масонскай ложы. Марыў аб заключэнні саюзу з Прусіяй, што дазволіць павялічыць войска, якое б знаходзілася ў яго распараджэнні, як вялікага гетмана літоўскага.

У Берліне ж да ўсяго паставіліся холадна, бо не хацелі абвастраць адносін з Расіяй А тут яшчэ ўзнікла Таргавіцкая канфедэрацыя — саюз магнатаў Рэчы Паспалітай, якія пераканаліся ў бесперспектыўнасці далейшага супрацьстаяння з Расіяй. Акт гэтай канфедэрацыі назваў расійскія войскі сяброўскімі. Да яе Агінскі не далучыўся, але 6 ліпеня 1793 года склаў з сябе гетманскія паўнамоцтвы на карысць пляменніка. Ды Міхал Клеафас вялікім гетманам так і не стаў, бо ўмяшаўся расійскі генерал Я. Сіверс.

Добраахвотнае адмаўленне ад гетманства можна расцэньваць, як нежаданне Міхала Казіміра несці хоць якую-небудзь адказнасць за Таргавіцкую канфедэра-

цыю. Але ўсё ж да падобнага яго ўчынку нельга паставіцца адназначна, бо, ідучы на такі крок, Агінскі меў і матэрыяльную выгоду. У якасці свайго роду кампенсацыі пляменнік заплаціў свайму дзядзьку 300 тысяч злотых. Дый з канфедэратамі Міхал Казімір падтрымліваў цесныя сувязі, а з некаторымі і пасябраваў. Кіраўніку ж іх Шчаснаму Патоцкаму нават наладзіў урачысты прыём у Седльцах.

Наблізілася старасць, а з ёй прыйшлі хваробы. Дый пераканаўся, што ад яго ўжо мала што залежыць, бо адзін у полі — не воін. Таму і хацеў знаходзіцца далей ад палітычнай барацьбы, якая паступова адыходзіла ў бок ад агульнадзяржаўных інтарэсаў, а тычылася задавальнення амбіцый асобных магнатаў.

Калі што і радавала яго яшчэ, дык ранейшае захапленне музыкай. Яна стала для Міхала Казіміра духоўнай аддушынай і ў час паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. А яшчэ ўсцешвала сяброўства з Гайднам, які з разуменнем паставіўся да ягонага таленту, падказваў тэмы новых твораў.

Калі адбыўся Трэці падзел Польшчы, Агінскі, як ні цяжка было яму адважыцца на падобны ўчынак, нарэшце прысягнуў на вернасць Кацярыне II, ды ўсё адно мала што змянілася што ў ягоным жыцці. Імператрыца ўсё адно канфіскавала Слонім, вырашыўшы размясціць там губернскія ўлады, і адмяняць сваё рашэнне не збіралася. Гэта ажыццявіў толькі Павел I. Дапамог і даўні знаёмы Рэпнін, які вярнуў яму частку даходаў ад Пінскай эканоміі. Нарэшце, удалося атрымаць назад маёнткі, у свой час прададзеныя Міхалу Клеафасу.

Фінансавае становішча палепшылася, аднак гэта прынесла мала радасці, бо ўжо даўно не быў тым маладым і прыгожым мужчынам, які любіў жанчын, амурныя прыгоды. А на ўсё патрабаваліся грошы. Шмат грошай. І ён іх ніколі не шкадаваў. На жанчын і на музыку, на мастацтва.

* * *

Музыка па-ранейшаму і заставалася тым адзіным, што хоць крыху прыхарошвала аднастайнае жыццё некалі бравага «гетмана-кларнета», які бавіў свае апошнія дні (памёр Міхал Казімір 31 мая 1800 года) у маёнтку Галенаў і толькі зрэдку наведваўся ў Варшаву. Жыў ён на вуліцы Рымарскай у палацы, які атрымаў у спадчыну ад сваёй цёткі Ганны Агінскай. Каб паехаць куды-небудзь далей, неставала сіл, таму больш так і не наведаўся ў Слонім, а калі б і прыехаў, то ад пабачанага яшчэ больш самотліва стала б у яго на душы.

Яшчэ нядаўна выдатны архітэктурны комплекс, цудоўны тэатр, якія прыцягвалі ўвагу многіх і куды нават наведваліся шматлікія замежныя госці, паступова разбураліся, бо да іх нікому не было ніякай справы. А старадаўні парк прыходзіў у запусценне. Вароны ж, якія гнездаваліся на векавых дрэвах, агалошваючы сваімі крыкамі наваколле, выклікалі ў душы, асабліва восенню, калі і так было ёй балюча-тужліва, гнятлівыя думкі. Асабліва назойлівым станавілася ўсведамленне ад таго, што нічога вечнага няма на гэтай зямлі і самая пекная прыгажосць з гадамі блякне, а найлепшыя людскія пачынанні бясследна знікаюць, як адыходзіць у нябыт і ўсё жывое. Калі што і ўсцешвала, дык тое, што яно дае працяг у сабе падобных. А следам зноў наступалі журботныя думкі: зробленае ж людзьмі апантанымі, на жаль, далёка не заўсёды знаходзіць сваіх належных прадаўжальнікаў...

Падобныя думкі не пакідалі і Міхала Казіміра. І тады ён браў у рукі старую скрыпку, што яшчэ памятала ягоныя чуйныя пальцы. Яны ў яго ўжо страцілі былую гнуткасць, часта балелі, але калі пачынаў іграць, гэтага не заўважаў. І стараўся гэтаксама, як і раней, упэўнена трымаць смычок, што лёгка кранаўся струн. І толькі мелодыя, якая нараджалася ад судакранання, была куды больш самотлівая, а часам і зусім нейкая жаласлівая, нібыта і струнам станавілася балюча, як і ягонаму сэрцу.

Балюча па тым, што адышло ў нябыт.

Балюча ад усведамлення, што жыццё заканчваецца...

# ЦІ ЛЁГКА СТАЦЬ ПРЫМАДОННАЙ?

*Колькі часу патрабуецца маладой артыстцы музычнага тэатра, каб стаць вядучай салісткай? Зрэшты, не ўсе такімі і становяцца. Але калі ў 1999 годзе ў Беларускім музычным тэатры з'явілася выпускніца Акадэміі музыкі Маргарыта Александровіч, то з першых жа спектакляў з яе ўдзелам было зразумела, што сярод салістак яна хутка выйдзе на вядучыя пазіцыі. Чаго варта было толькі яе насычанае, сакавітае сапрана вельмі прыгожага тэмбру, якім яна так умела валодала! А да таго ж яшчэ і прыроджаны артыстызм, і акцёрская арганіка, і неверагодна эфектная сцэнічная знешнасць. Яна не пачынала з масовак, а адразу ўвайшла ў рэпертуар, прычым даволі хутка на амплуа гераіні.*

*І неўзабаве маладая салістка атрымала сваю першую ўзнагароду: за стварэнне шэрагу яркіх вобразаў на сцэне музычнага тэатра ў 2005 годзе Маргарыце Александровіч была прысуджана Нацыянальная прэмія ў галіне тэатральнага мастацтва імя Ларысы Александроўскай. А праз чатыры гады за высокае выканальніцкае майстэрства і значны ўклад у развіццё беларускага музычнага мастацтва яна была ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны. Ёсць у артысткі і іншыя дзяржаўныя ўзнагароды: Ганаровая грамата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і Ганаровая грамата Міністэрства адукацыі — за яе педагагічную дзейнасць. А ў канцы 2014 года, калі Маргарыта Александровіч служыла ў тэатры ўжо 16-ты сезон, ёй было прысвоена ганаровае званне заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.*

**— Маргарыта, але ж вы не адразу вызначыліся з выбарам прафесіі. Вядома, што спачатку вы закончылі Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Але нешта не верыцца, што вы сапраўды хацелі працаваць у гэтай сферы…**

— А я ні аднаго дня і не працавала па сваёй першай спецыяльнасці. Мае патэнцыяльныя працадаўцы сказалі мне: «Паглядзіце на сябе ў люстэрка — вы бачыце там майстра-будаўніка, які можа трымаць у абцугах рабочых? Ды я і сама да таго часу зразумела, што вельмі хачу спяваць. І зрабіла рашучы крок насустрач сваёй мары — паступіла ў Акадэмію музыкі.

**— Многія студэнты, будучыя вакалісты, пачынаюць спрабаваць сябе на сцэне тэатра яшчэ ў час вучобы — звычайна як артысты хору ў масавых сцэнах. Некаторыя, праўда, атрымліваюць і ролі, і сольныя партыі. А вы прыйшлі ў тэатр ужо дыпламаванай вакалісткай. Сцэна музкамедыі — ваш свядомы выбар?**

— Яшчэ на трэцім курсе Акадэміі музыкі, я, разважаючы пра свой творчы лёс, звярнулася да Наталлі Віктараўны Гайды, каб пачуць яе аўтарытэтнае меркаванне, ці варта мне наогул думаць пра тэатр. Наша першая сустрэча адбылася ў студэнцкай аўдыторыі Акадэміі мастацтваў, дзе Наталля Віктараўна выкладала

вакал. Я паказала ёй тыя хітовыя нумары, дзе найбольш яскрава можа праявіць сябе салістка ў гэтым жанры: «Карамбаліну» і «Джудзіту» з аперэт Кальмана і Легара і «Пепіту» з апэрэты Дунаеўскага. І Наталля Віктараўна падказала мне, як больш выразна выконваць гэтыя творы. А яшчэ я прыслухалася да яе парады: не спяшацца хутчэй трапіць на сцэну — спачатку трэба закончыць вучобу і атрымаць належную адукацыю і вакальную падрыхтоўку.

**— Вядома, што навучанне вакалу адбываецца статычна і спяваць лягчэй за ўсё, проста стоячы на сцэне — засяродзіўшыся на якасці выканання. Але ж упэўненае валоданне голасам — далёка не ўсё, што патрабуецца ад артыста музычнага тэатра…**

— Так, маладым вакалістам, якія прыйшлі ў тэатр, спачатку вельмі нязвыкла проста рухацца па сцэне, не кажучы ўжо пра ўменне танцаваць і ўвесь комплекс акцёрскіх навыкаў. Але я лічу, што калі яны могуць добра спяваць і валодаць голасам у статычным стане, то ў працэсе работы ў тэатры змогуць усё гэта звязаць разам — кожны ў меру сваіх артыстычных здольнасцей. Мне пашанцавала, што пры ўваходжанні ў рэпертуар са мной працавала рэжысёр па ўводах Зінаіда Віктараўна Вяржбіцкая, заслужаная артыстка, якая раней сама была адной з вядучых салістак тэатра. Некалі я проста любавалася яе ігрой — яна была вельмі выразнай і запамінальнай у сваіх ролях. Зінаіда Віктараўна строгая, патрабавальная, але пры гэтым добра адчувае, у які момант маладога артыста можна памуштраваць, а ў які трэба падтрымаць. Для мяне асабіста вельмі важнымі былі яе наступныя словы: «Ты навучыся любіць на сцэне, і тады глядач даруе табе ўсе недахопы!..»

І асобна хочацца сказаць пра ролю Наталлі Віктараўны Гайды ў маім творчым станаўленні. Гэта — мега-зорка недасягальнай велічыні! Яе адказныя адносіны да работы і працаздольнасць самі па сабе былі найлепшым прыкладам для мяне. І яна ў свой час, і я выходзілі на сцэну ў адным і тым жа амплуа, выконвалі адны і тыя ж партыі. Як прафесіянал Наталля Віктараўна мне вельмі блізкая, таму я яе разумею з паўслова. А такое сустракаецца не часта. Бывае, што парады і падказкі іншых, няхай сабе і вельмі слушныя, ты проста не можаш успрыняць, бо інакш мысліш…

**— Для заўзятых тэатралаў шаснаццаць сезонаў, што вы адпрацавалі ў тэатры, — такі ж тэрмін з уласнай прафесійнай дзейнасці. Зазначу: помніцца ўсё. З першых спектакляў з вашым удзелам стала зразумела: вось яна — сапраўдная гераіня і будучая прымадонна. І гэта пры тым, што спачатку вы выйшлі да гледача ў амплуа субрэткі, а на амплуа гераіні вас сталі прызначаць крыху пазней. Што з таго пачатковага перыяду вашай творчасці застанецца ў вашай памяці назаўсёды?**

— Ніколі не забуду, як я хвалявалася, выходзячы на сцэну ў сваім першым спектаклі: ад майго нястрымнага дыхання нават калыхалася кветка, якой быў упрыгожаны мой сцэнічны ўбор. Гэта была роля Валянціны ў «Вясёлай удаве». Крыху пазней я выйшла на сцэну ў гэтай самай аперэце ўжо ў ролі Ганны Главары — той самай вясёлай удавы. Так было і ў наступных спектаклях: напрыклад, у «Лятучай мышы» я спачатку іграла Адэль, а потым галоўную гераіню Разалінду; у «Марыцы» — Лізу, а потым саму Марыцу; у «Сільве» — Стасі, а потым Сільву… Канешне, гэта розныя амплуа, але я знаходзіла ў гэтых, здавалася б, супрацьлеглых вобразах нейкія паралелі. Напрыклад, у Стасі шмат агульнага з Сільвай: яны прыкладна аднаго ўзросту, абедзве — разумніцы, маюць уласны погляд на свет, але пры гэтым Стасі, будучы арыстакраткай, лёгкая і бесклапотная ў жыцці, а Сільва вымушана сама забяспечваць сваё існаванне. А ўзяць Лізу і Марыцу: яны таксама паходзяць з розных сацыяльных слаёў, але ў жыццёвых перыпетыях



*Маргарыта Александровіч у ролі Сільвы ў аднайменнай аперэце.*

падобныя, як дзве сяброўкі. І ўжо цяпер я магу сказаць, што гэта былі якраз такія ролі, якія я ў пачатку свайго творчага шляху і павінна была выконваць. Прычым я рабіла гэта з задавальненнем. У іх жа быў той акцёрскі сінтэз, які малады артыст абавязаны ў сабе развіваць. І потым я ўжо больш раскавана адчувала сябе ў амплуа гераіні.

**— У апошнія пяць гадоў у вашым творчым калектыве склалася вельмі спрыяльная сітуацыя менавіта для вакалістаў: мастацкі кіраўнік тэатра Адам Асманавіч Мурзіч — вядомы вакальны педагог, вучні якога праявілі сябе далёка за межамі Беларусі, зразумела, уважліва сочыць за кожным салістам тэатра і дапамагае яму падтрымліваць добрую вакальную форму. Наколькі важнай з'яўляецца яго падтрымка асабіста для вас?**

— О, Адам Асманавіч па сваім таленце, аўтарытэце і ўплыве — педагог нумар адзін! І не толькі ў маштабах Беларусі. А ў дачыненні да салістаў нашага тэатра ён вельмі дакладна ведае, што трэба кожнаму з нас, как лепш спяваць. І з кожным ён працуе індывідуальна. Раней я нават марыць не магла, што змагу паказаць сваю партыю педагогу такога ўзроўню! Я б звярталася да Адама Асманавіча кожны дзень (нават па два разы на дзень!), але яго занятасць гэтага не дазваляе. Лічу, што ўсім нам проста казачна пашанцавала, што ў тэатры ёсць такі высакакласны спецыяліст, здольны трымаць у належным тонусе ўсіх салістаў.

**— Некалькі гадоў назад у тэатры пагаворвалі аб раздзяленні трупы на дзве часткі: у першую ўвайшлі б салісты з акадэмічнай вакальнай падрыхтоўкай, якія б удзельнічалі ў класічных пастаноўках, а ў другую — тыя, якім бліжэй мюзікл і іншыя сучасныя стылі. Нават не ўзнікае пытання, у якой**



*У ролі Васілісы ў мюзікле «Соф'я Гальшанская».*

**частцы трупы вы б аказаліся, калі б такі падзел сапраўды адбыўся. Падобная практыка сёння існуе ў многіх музычных тэатрах, і яна апраўдана, бо сапраўды, манера выканання і галасавая падача ўжывую і ў мікрафон зусім розныя. Канешне, ёсць вакалісты, якім аднолькава добра ўдаецца спяваць і ў адной, і ў другой манеры, да якіх адносіцеся і вы, аднак усё ж гэта не ідзе на карысць голасу… Як вы асабіста ставіцеся да гэтага пытання?**

— З такім рацыянальным падыходам да справы нельга не пагадзіцца, але наша трупа не настолькі ўкамплектавана салістамі, каб яе можна было раздзяляць. І рэжысёры бачаць, хто з нас можа паспяхова працаваць у двух жанрах, а каму той ці іншы стыль або амплуа супрацьпаказаны. Сапраўды, з аднаго боку, для вакаліста лепш і лягчэй працаваць у адным жанры, а з другога — яго творчы дыяпазон пры гэтым будзе ў пэўным сэнсе абмежаваны. Мне асабіста цікава спрабаваць сябе ў розных жанрах і стылях, бо гэта развівае тваю акцёрскую сутнасць. Зразумела, я вельмі люблю класіку. «Сільва», «Прынцэса цырка», «Лятучая мыш», «Вясёлая ўдава», «Граф Люксембург»… Гэта спектаклі, дзе выходзіш на сцэну і, спяваючы ўжывую, проста купаешся ў музыцы!.. Але, напрыклад, я з задавальненнем працую і ў мюзікле «Шклянка вады», які вызначаецца яркасцю музычных вобразаў. Там вельмі прыгожая музыка Уладзіміра Кандрусевіча, якая дапамагае раскрыць вобраз маёй гераіні герцагіні Мальбара — жалезнай лэдзі, непахіснай і ў палітыцы, і ў каханні. У «Блакітнай камеі» таксама цікавая работа — роля Кацярыны Вялікай, якая на працягу амаль трох з паловай дзесяцігоддзяў правіла Расійскай імперыяй. А ўзяць ролю Панінай у «Паручніку Ржэўскім» — вобраз былой актрысы, якая вучыць дачку фліртаваць! А якая драматургічна насычаная роля Васілісы ў «Соф'і Гальшанскай»! Музыку да гэтага твора, якая вельмі моцна бярэ за душу, напісаў Уладзімір Кандрусевіч, лібрэта — Алена Турава. А пастаноўку ажыццявіў наш галоўны рэжысёр Міхаіл Кавальчык. У такіх спектаклях ёсць магчымасць акунуцца ў сапраўдныя драматычныя калізіі, праявіць свае акцёрскія здольнасці, больш ярка паказаць сябе ў дыялогу, у пластыцы, у танцы… Пасля гэтага ты ўжо больш раскавана адчуваеш сябе і ў класічнай пастаноўцы, бо сёння ж і аперэты ставяць не так, як 100 ці нават 50 гадоў назад.

**— Значнае месца ў вашым творчым жыцці займае і канцэртная дзейнасць. Ёсць праграмы, якія рыхтуюцца ў тэатры і нагадваюць тэатралізаваныя канцэрты, напрыклад, «Цудоўны свет аперэты», «Мюзікл-гала» або «Вечар раманса». Але ж вы выступаеце і на многіх канцэртных пляцоўках з самым разнастайным рэпертуарам, у тым ліку і з масавай песняй. Вам цікава адчуваць сябе проста спявачкай?**

— Так, я вельмі люблю канцэрты. На пачатку маёй творчай дзейнасці быў выпадак, калі я ў Дзень горада выступіла на пяці канцэртных пляцоўках! І цяпер, калі, напрыклад, з-за сваёй занятасці не магу прыняць прапанову, узнікае адчуванне своеасаблівай настальгіі — я люблю проста спяваць. Але не трэба думаць, што кожны канцэрт праходзіць для спевака лёгка і нязмушана. Часам даводзіцца

зедваць і пэўнае псіхалагічнае напружанне, якога не бывае ў тэатры. Напрыклад, калі цябе не раздзяляе з гледачом рампа і ты адчуваеш на сабе не проста зацікаўленыя, а пранізлівыя позіркі…

**— У апошні час у Мінску здымаецца шмат фільмаў, у асноўным расійскіх, і многія артысты нашых тэатраў прымаюць у іх удзел, здымаючыся звычайна ў эпізодах. А ці даводзілася вам гэтым займацца?**

— Даводзілася. Здымалася ў невялікіх эпізодах у некалькіх фільмах. Мяне гэта работа прыцягвала сваёй навізной. Тут усё зусім не так, як у тэатры. Напрыклад, калі сёння ў спектаклі ў цябе нешта атрымалася не вельмі добра, то ў наступны раз можна зрабіць лепш. А ў фільме ўжо нічога не пераробіш, таму на здымкі, скажам, трохххвіліннага эпізоду траціцца шмат гадзін работы.

**— Нельга абысці ўвагай і яшчэ адну важную сферу вашай дзейнасці — педагагічную. Вядома, што пасля заканчэння Акадэміі музыкі вы паступілі ў магістратуру і атрымалі акадэмічную ступень магістра мастацтваў. Відавочна, што вас прыцягвае паглыбленне ў сферу прафесійных ведаў і імкненне перадаваць іх другім. Якое месца ў вашым творчым жыцці займае педагогіка і як вы яе сумяшчаеце з работай у тэатры?**

— Працаваць у тэатры і выкладаць на кафедры вакалу ў педуніверсітэце я пачала адначасова — у 1999 годзе, пасля заканчэння Акадэміі музыкі. У маім дыпломе запісана, што па спецыяльнасці я «Оперная і камерная спявачка і выкладчык вакальных дысцыплін». На працягу 15-ці навучальных гадоў я выкладала вакал на музычна-педагагічным факультэце, дзе рыхтуюць настаўнікаў музыкі і спеваў, і была проста ў захапленні ад гэтай работы. На жаль, апошні навучальны год вызначыўся тым, што ў педуніверсітэце спынілі набор студэнтаў на дзённае аддзяленне па гэтай спецыяльнасці і шэрагу выкладчыкаў давялося пакінуць займаемыя пасады. А ўся гэта сітуацыя выклікана тым, што ў школе адбылося рэзкае скарачэнне ўрокаў музыкі і спеваў і адпаведна — колькасці настаўнікаў. Калі раней гэты прадмет выкладалі да сёмага-восьмага класаў, то цяпер толькі да чацвёртага. Але я ўсё ж спадзяюся, што гэта — не назаўсёды. Наогул, музыка — тая дысцыпліна, якая развівае не толькі культуру і творчыя здольнасці, але і спрыяе развіццю вобразнага мыслення, якое патрэбна ў розных відах дзейнасці. І я лічу, што для звычайных вучняў агульнаадукацыйнай школы адзін такі ўрок на тыдзень да восьмага-дзявятага класаў трэба захаваць.

Цяпер я працягваю займацца педагагічнай дзейнасцю ва ўніверсітэце культуры, дзе выкладаю вакал на курсах павышэння кваліфікацыі — гэта значыць, працую з людзьмі, якія ўжо маюць адпаведную адукацыю і хочуць павысіць сваю кваліфікацыю ці атрымаць новую спецыялізацыю. Але я спадзяюся, што да сваёй ранейшай работы са студэнтамі ў педуніверсітэце я рана ці позна вярнуся і што прафесія настаўніка музыкі не стане вымiраючай.

**— Ёсць такое паняцце — рэжым спевака, пра які ўсе вакалісты ведаюць, але які не заўсёды ў поўнай меры выконваюць. А вы, як вакальны педагог, да таго ж павінны прывіваць яго іншым. Цікава, а як вы асабіста ставіцеся да гэтага рэжыму і наколькі строга прытрымліваецеся яго ў штодзённым жыцці?**

— Мне рэжым спевака і гігіена голасу проста неабходны! Інакш могуць узнікнуць праблемы. У першую чаргу трэба выконваць самае простае: засцерагацца ад пераахалоджвання і ў тым ліку ад банальнага скразняку, не піць у разгарачаным стане халоднае, і наадварот, прыйшоўшы з холаду, адразу не піць гарачае, бо гэта можа выклікаць захворванне органаў дыхання і, адпаведна, галасавога апарату. Трэба берагчы слізістую абалонку гартані і галасавыя звязкі ад раздражнення,



*Баядэра ў аднайменнай аперэце.*

якое ўзнікае пасля ўжывання ў ежу, напрыклад, цытрусавых, вінаграду, арэхаў, мёду… Шкодныя таксама і газіраваныя напіткі. Таму ў дзень спектакля ці канцэрта ад іх трэба адмовіцца. Не гаворачы ўжо пра марожанае, якое, дарэчы, я вельмі люблю, але дазваляю сабе толькі ў час адпачынку, калі не спяваю.

Ёсць, канешне, унікумы, якія, разгарачыўшыся, могуць, напрыклад, малако адразу з халадзільніка выпіць і пры гэтым не мець ніякіх праблем. І як тут не ўспомніць выпадак пра аднаго з лепшых тэнараў сучаснасці Пласіда Дамінга, апісаны ў кнізе яго мемуараў «Мае першыя сорак гадоў». У час гастроляў у Маскве на банкеце славутаму тэнару падалі цёплае піва — ніхто б не рызыкнуў падаць яму ахаладжанае! Але Дамінга адрэагаваў на гэта зусім нечакана — загадаў паставіць яго ў халадзільнік!..

Вакалісту вельмі важна мець моцны імунітэт, каб супрацьстаяць прастудным захворванням. І наогул яму як артысту трэба знаходзіцца ў добрай фізічнай форме. Бо, напрыклад, калі ў цябе задышка, а ў спектаклі многа руху і танцаў, дык як ты будзеш спяваць? Акрамя таго, галасавы апарат павінен увесь час знаходзіцца ў тонусе. А калі ты некаторы час не спяваеш, то гэты тонус зніжаецца. Таму я і ў час адпачынку стараюся ў гэтым плане не расслабляцца. Канешне, бываюць сітуацыі, калі спяваць проста няма дзе. У мяне аднойчы быў выпадак, калі я прыляцела з Турцыі, а назаўтра — адразу канцэрт. Праграму праспявала добра, але адразу адчула, што голас падсеў. Вось што значыць не падтрымліваць галасавы апарат у тонусе.

**— Улічваючы вашу занятасць, вы не можаце шмат часу адводзіць, скажам, на актыўны адпачынак ці розныя аздараўленчыя працэдуры. Але ж фізічную форму, па ўсім відаць, пастаянна падтрымліваеце. Як вам гэта ўдаецца?**

— Я выкарыстоўваю кожную магчымасць, каб пабыць на прыродзе — гэта ж зараджае энергіяй і проста прыемна. Вельмі люблю ваду, плаванне, таму кожны год еду ў адпачынак на мора, дзе, здаецца, набіраюся сіл на цэлы год. Ну а тут, у Мінску, па магчымасці наведваю басейн, але не зімой, бо там скразнякі і можна прастыць.

Відаць, любоў да прыроды, да ўсяго жывога ў мяне з дзяцінства. Бо я нарадзілася і вырасла ў доме, размешчаным у прыватным сектары Мінска. І да гэтага часу з настальгіяй успамінаю свае дзіцячыя і юнацкія гады… Мы жылі ў раёне вуліцы Чарвякова: выходзіш з дому — і ні з чым не параўнальнае адчуванне блізкасці зямлі!.. Свой садок, свой парнічок, градкі, кветкі… І незабыўны пах чаромхі!.. А зімою — свежы белы снег. І як у кожным прыватным доме — сабачка з коцікам, якія раскашуюць сабе на волі…

Ужо даўно, з 1991 года, я жыву ў шматпавярхоўцы ў мікрараёне Малінаўка, на вуліцы Касманаўтаў. Спачатку мне цяжка было прывыкнуць да гэтай, так бы

мовіць, абмежаванасці жыццёвай прасторы… Але з цягам часу я прызвычаілася да новых умоў жыцця і адчула іх перавагі. Самы просты прыклад: у доме раптам прапала электрычнасць, але я ведаю, што адпаведныя службы хутка ўсё наладзяць. А вось жывучы ў прыватным сектары, трэба ўсе пытанні жыццезабеспячэння вырашаць самім, не кажучы ўжо пра розныя рамонтныя работы… І паступова я пачала адчуваць сябе камфортна ў гэтым мікрараёне, ацаніла яго інфраструктуру і галоўнае — шыкоўны прыродны ландшафт, дзе знаходзіцца выток ракі Лошыца і закладзены цудоўны парк, які носіць імя былога мэра Мінска Міхаіла Паўлава.

* * *

*Важна, як артыстку ацэньвае публіка, што пра яе пішуць крытыкі, але найбольшае значэнне мае вага яе творчага патэнцыялу ўнутры тэатра, сярод яго галоўных спецыялістаў. І яшчэ: для салісткі музычнага тэатра, якая выступае ў амплуа гераіні, вельмі важна мець пастаяннага партнёра — асабліва ў спектаклях класічнага рэпертуару. І калі такі трывалы дуэт у тэатры існуе, то і поспех пастановак ужо ў многім будзе прадвызначаны. І хто яшчэ больш кампетэнтна можа паразважаць аб гэтых пытаннях, як не кіраўнікі тэатра, якія адказваюць за яго пастановачны працэс і працуюць з кожным салістам.*

**Мастацкі кіраўнік тэатра Адам Мурзіч:** Ідэальным партнёрам для Маргарыты Александровіч на сённяшні дзень з’яўляецца, канешне, Антон Заянчкоўскі. Па зладжанасці выканання, па сваёй сцэнічнай выразнасці, па фактуры яны вельмі адпавядаюць адзін аднаму. І галоўнае, як ніхто іншы, яны адчуваюць дух класічнай аперэты. Я ж займаюся і з Маргарытай, і з Антонам, і з задавальненнем гэта адзначаю. У класічных пастаноўках Маргарыта, бясспрэчна — чыстая гераіня. Вельмі выразная і надзвычай арганічная. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова ўбачыць яе, напрыклад, у ролі Сільвы. Бог надзяліў гэтую артыстку яркай сцэнічнай знешнасцю, дзе ёсць усё — і прыгажосць, і рост, і стан; і вельмі прыгожым голасам, якім яна так умела карыстаецца. Ад прыроды ў Маргарыты лірыка-каларатурнае сапрана, але яна перастроілася на лірычнае сапрана, што больш адпавядае яе амплуа. Яна вельмі музыкальная, і свае вобразы ў спектаклях раскрывае перш за ўсё музычнымі, вакальнымі сродкамі.

І ў мюзіклах Маргарыта не менш выразная і яркая. Надзвычай тонка адчувае музычную драматургію твора і ўмела праводзіць яе праз увесь спектакль. Гэта вельмі яскрава праяўляецца, напрыклад, у «Соф’і Гальшанскай», дзе артыстка паказвае шматгранны вобраз сваёй гераіні, раскрываючы яе ўнутраную драму. Здавалася б, такі прыгожы, пяшчотна-лірычны голас, а колькі ў ім адценняў і драматызму!

Наогул, Маргарыта можа працаваць у любым жанры, спяваць у розных стылях, бо мае выдатную музычную адукацыю і добра арыентуецца ў свеце музыкі. У яе шмат канцэртных праграм, у якіх яна спявае і ў сучаснай манеры, але заўсёды стыльна і высакародна. Нават выконваючы масавую песню, яна ніколі не здрадзіць густу, не апусціцца да той планкі, дзе пачынае губляцца прафесіяналізм.

А на творчы лёс Маргарыты ў тэатры вельмі дабратворны ўплыў аказала Наталля Віктараўна Гайда. Яна яе і вучыла, і падтрымлівала, і нават ў чымсьці аберагала. Гэта той рэдкі выпадак, калі старэйшая прымадонна сваімі рукамі вырошчвала малодшую. І сёння Маргарыта — бясспрэчная прыма, на якой трымаецца 75 працэнтаў рэпертуару.

**Галоўны рэжысёр тэатра Міхаіл Кавальчык:** Маргарыта Александровіч — тая артыстка, якая, можна сказаць, ідэальна выконвае задачу рэжысёра. Але пры гэтым яна не слепа падпарадкоўваецца яго волі! Яна ўмее ў рэжысёрскую канцэпцыю прыўнесці нешта сваё, аўтарскае, што ў выніку толькі ўзбагачае ствараемы ёю вобраз. Гэта вельмі ўдумлівая артыстка, строгая і адказная ў рабоце, якая ніколі не дазваляе сабе на рэпетыцыях неяк расслабіцца ці працаваць напаўсілы. Яна і ў рэпетыцыйнай зале такая ж, як і на сцэне. Да таго ж Маргарыце ўласціва вельмі дакладнае пачуццё жанру: калі глядач прыйшоў, скажам, на класічную пастаноўку, то ў яе асобе ён бачыць на сцэне сапраўдную аперэтачную гераіню. Яна валодае поўным комплексам артыстычных якасцей і выразных сродкаў, якія патрабуюцца для гэтага амплуа. Да таго ж у яе вельмі яркая і выразная сцэнічная знешнасць, што разам з яе прыцягальнасцю і абаяннем проста заварожваюць гледача — у такую гераіню нельга не закахацца! Бясспрэчна, на сённяшні дзень яна — салістка нумар адзін у тэатры, сапраўдная прымадонна, на якую ідзе глядач.

Так званы лёгкі жанр аперэты толькі з выгляду здаецца такім — дзякуючы сінтэтычнаму таленту выканаўцаў і іх адточанаму майстэрству. І не кожнаму артысту ён пад сілу. Вось нядаўна ў нас у Мінску гастраляваў славуты Дзмітрый Хварастоўскі, які выступаў на сцэне Палаца Рэспублікі разам з аркестрам нашага тэатра. І ў прыватнай гутарцы ён сказаў літаральна наступнае: «Выконваць аперэту я не магу, больш таго — не ўмею, бо ў гэтым жанры трэба яшчэ і гаварыць…» (А пра тое, што ў аперэце трэба яшчэ і танцаваць, славуты спявак наогул далікатна змоўчаў...)

Артысты музычнага тэатра наогул павінны быць універсальнымі, і Маргарыта поўнасцю адпавядае гэтаму крытэрыю. Акрамя бліскучага комплексу артысткі аперэты, яна яшчэ мае і драматычны талент, што для мяне, як рэжысёра, надзвычай важна. Такая выканаўца здольна несці ў спектаклі вялікую драматургічную нагрузку. І гэта выразна праяўляецца ў мюзіклах, заснаваных, як правіла, на сур’ёзнай драматургіі. Напрыклад, у «Соф’і Гальшанскай» ёй удалося нават істотна ўмацаваць драматычную лінію сваёй гераіні, выпісаную, скажам так, не зусім па-чэхаўску. І нам трэба абавязкова паставіць спецыяльна на Маргарыту такі спектакль, дзе б яна выканала не проста цэнтральную, а бенефісную ролю.

***Гутарыла Зоя МАТУСЕВІЧ.***
***Фота з архіва тэатра.***

# МІХАЙЛА СЛАБАШПІЦКІ: «ЗАЛЕЖЫЦЬ АД НАС...»

*Міхаіл Слабашпіцкі — сучасны ўкраінскі пісьменнік. Выдавец. Працаваў рэдактарам аддзела крытыкі газеты «Літаратурная Украіна», галоўным рэдактарам часопіса «Вавілон — XX», газеты «Весткі з Украіны». Быў сакратаром савета Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. Дырэктар выдавецтва «Яраславаў Вал». Лаўрэат літаратурных прэмій імя Т. Шаўчэнкі, А. Білецкага, Л. Украінкі, А. Пчолкі, М. Кацюбінскага, братоў Лепкі. Аўтар кніг «Паэт з ада», «З голасу нашай Кліо», «Украінскія мецэнаты», «Нічыпар Драўняк з Крыніцы», «Украінец, які адмовіўся быць бедным. Пётр Яцык», «Не згублены ўкраінскі чалавек», «Марыя Башкірцава» (раман перакладзены і выдадзены на рускай і французскай мовах), «Што запісана ў кнігу жыцця. (Міхайла Кацюбінскі і іншыя)». Па-беларуску ў Мінску выдадзена кніга казак М. Слабашпіцкага «Ці далёка да Афрыкі?».*



**— Украінская літаратура… Як яна сёння развіваецца, калі параўноўваць з блізкімі і далёкімі часінамі?**

— Здаецца, яшчэ ніколі наша літаратура не была такою багатай на цікавыя творы і разнастайнай на творчыя тэндэнцыі. Яшчэ раз пераконваюся ў тым, што для паўнавартаснага мастацкага развіцця вырашальнае значэнне мае сама атмасфера дэмакратычнага грамадства. Скасаванне інстытута цэнзуры, адсутнасць усялякіх «адказных за літаратуру» наглядчыкаў дабратворна адбілася на літаратурным працэсе. Сёння ніхто не намагаецца заганяць прыгожае пісьменства ў пракрустава ложа сацыялістычнага рэалізму. Сёння літаратура — як рака, што вольна плыве паміж сваіх берагоў. Нават пры беглым паглядзе заўважна тэматычнае багацце, калі здабыткі аднаго года роўныя літаратуры мінулых дзесяцігоддзяў. Непараўнальная багатая і стылёвая палітра, шчодрая на ўсялякія мастацкія эксперыменты. І гэта, пагадзіцеся, важкія аргументаваныя сведчанні вартасцей нармальных умоў існавання пісьменства.

Але ж дзеля праўды трэба сказаць пра адно надзвычайнае і прыкрае «але». Моўная сітуацыя ў краіне з яе, прабачце за таўталогію, посткаланіяльнай сітуацыяй, калі дзяржаўная мова не можа пахваліцца рэальным дзяржаўным статусам. Украінская літаратура дома, на радзіме, страчвае ці не палову чытачоў… Бо яны

чытаюць па-руску. Але арэал побыту ўкраінскай мовы ва Украіне павольна ўсё ж пашыраецца, і гэта дае падставы спадзявацца, што нацыянальная літаратура мае вялікія рэзервы чытачоў.

**— Найболей яркія творы? Ці вылучаецца нешта ў агульным шэрагу? Пра што гавораць чытачы? Ці супадаюць іх ацэнкі з ацэнкай крытыкаў?**

— Творы-падзеі ва Украіне — гэта раманы «Чорны воран» Васіля Шкляра, «Музей пакінутых сакрэтаў» Аксаны Забужка, раманная трылогія «Час смертахрыстаў», «Час вялікай гульні», «Час тырана» Юрыя Шчарбака, некалькі паэтычных і празаічных кніг Сяргея Жадана, кнігі «Паляванне на птахаў нябесных» Тэадозіі Зарыўной, «Кніга забыцця» Васіля Сліпчука, «Вершы з вайны» Барыса Гуменюка… Гэта толькі тое, што згадалася адразу, а насамрэч рэестр таго, што стала памятнай літаратурнай падзеяй, значна шырэйшы. Паэтычныя кнігі Уладзіміра Базілеўскага і Марыяны Кіянавай, Паўла Моўчана і Алега Салаўя, Валерыя Гужві і Паўла Шчырыцы, Любові Галоты і Сафіі Майданскай, Наталлі Білацарказвіц і Людмілы Таран, Барыса Рудэнкі і Любові Якімчук… І гэты спіс, зразумела, таксама далёка не поўны. Раманы Міраслава Дачынца, Рамана Іванчука, Уладзіміра Ліса, Івана Корсака, Надзеі Гуменюк, Паўла Кралюка, Галіны Тарасюк — усе гэтыя творы, і не толькі гэтыя, маюць у сабе прыкметы нашых дзён, дапамагаюць іх зразумець, а таксама нясуць моцную эстэтычную энергію і вызначаюцца той стылістычнай яскравасцю, што і адрознівае сапраўдную літаратуру.

Што да чытачоў, то хацелася б — і ўсе гэтыя творы заслугоўваюць таго — больш актыўнай на іх рэакцыі, дакладных расповедаў пра іхнія рэцэпцыі. Вымагаюць яны, здабыткі, і глыбейшай крытычнай размовы. Бо наша крытыка збольшага абмяжоўваецца не дужа актыўным паточным рэцэнзаваннем. Цалкам зніклі панарамныя агляды, праблемныя артыкулы, літаратурныя партрэты. Квітнеюць рэкламныя публікацыі, якія да крытыкі не маюць нават сімвалічных адносін.

**— Сапраўды, ці не ва ўсіх нацыянальных літаратурах гавораць пра заняпад літаратурнай крытыкі…**

— Крытыка перажывае зацяжны перыяд свайго крызісу. Найболей актыўныя ў ранейшыя часы крытыкі эмігравалі са сваёй дзялянкі альбо ў літаратуразнаўства, альбо ў паэзію і прозу. Прычына вельмі трывіяльная і знаходзіцца на паверхні — крытыкі за сваю працу не атрымліваюць ганарараў, а задарма ніхто не хоча пісаць. Калі яшчэ прозу ці паэзію пішуць у спадзяванні на літаратурныя лаўры, то крытыка такіх лаўраў ніколі не прыносіла. Увогуле крытыкам у літаратуры быць істотна меней прэстыжна. Крытыка заўжды мела непараўнальна вузкае кола чытачоў. Гэта былі ў асноўным самі пісьменнікі ці іх блізкія, выдаўцы і тыя ж крытыкі. І толькі гады ў рады крытычным артыкулам мог зацікавіцца выпадковы чытач-адзінка. Папулярнасці такі няпросты занятак не прыносіў. Тым болей не прыносіць папулярнасці крытычная работа цяпер.

**— Ці чытаюць ва Украіне класіку? Ці гэта — ужо справа выключна саміх гісторыкаў літаратуры?**

— Цікавасць да класікі таксама істотна паменела.У асноўным класіку чытаюць падчас вывучэння курса гісторыі літаратуры ва ўніверсітэтах і трохі — у школе.

**— Вы як выдавец яшчэ разлічваеце на поспех друкаванай кнігі?**

— Прапануючы да выдання тую ці іншую кнігу, канечне ж, думаеш, ці можа яна мець поспех. І, між іншым, часта ўгадваеш, калі ўлічваеш пры прыняцці рашэння такія фактары, як рэпутацыя і месца ў «табелі аб рангах» аўтара, публічная прысутнасць аўтара, прыхільнасць да яго з боку СМІ, а таксама сюжэт твора і

літаратурная яго паўнавартаснасць. Усё гэта сапраўды мае важнае значэнне тады, калі кніга паўстае на вітрыне, паліцы ў кнігарні.

**— Якімі, дарэчы, тыражамі выдаецца проза? А паэзія?**

— Як правіла, празаічныя кніжкі выходзяць накладам адна тысяча асобнікаў. У некага (але такіх небагата) гэта стартавы тыраж. Пасля яго рэалізацыі наклад дадрукоўваецца. У некага ён сягае да 5 — 7 тысяч. А ўжо 15 — гэта на ўзроўні рэкорда нашых дзён. Паэзія мае зусім дробныя тыражы: 100, 200, 300 асобнікаў. Бывае (але гэта адзінкавыя выпадкі) тысяча ці дзве. Паэзія катастрафічна страціла свайго чытача. І гэта ў той час, калі мы маем некалькі дзясяткаў паэтаў, якія з усімі на тое падставамі могуць прэтэндаваць на Нобелеўскую прэмію. Наша паэзія мацнейшая за прозу (разумею, што такое параўнанне не надта карэктнае, аднак у паэзіі якраз маем сёння найболей яскравых творчых індывідуальнасцей), але для свету яна застаецца практычна невядомай. І перакладаюць яе ў Еўропе мала, ды і перакласці паэзію неверагодна складана. Гісторыя паэтычных перакладаў — гісторыя страт, збяднення і спрашчэння арыгінала ў яго іншамоўных адлюстраваннях.

**— А што з кніг вашага выдавецтва «Яраславаў Вал» стала ў апошні час падзеяй?**

— Ужо згаданая раманная трылогія Юрыя Шчарбака, «Чорны воран» Васіля Шкляра, «Між часам і морам» і «Вяртанне ў Портленд» Грыгорыя Гусейнава, «Бліжняе кола» Валерыя Гужві, «Сола бунтоўнага палкоўніка» Анатолія Сахно, «Помста аператыўніка разведкі» Багдана Кушніра, дзесяць гістарычных раманаў Івана Корсака, які мае свой чытацкі сегмент. Вялікі розгалас набыў двухтомнік згаслага паэта Леаніда Кісялёва «Над кіеўскімі сшыткамі». Дарэчы, выдавецтва за час працы займела багатую калекцыю дыпломаў і іншых узнагарод за свае кнігі.

**— Наколькі складана працаваць кіеўскім, украінскім выдаўцам у тых умовах, у якіх цяпер знаходзіцца Украіна? Ці захавалася ў вас сістэма кнігараспаўсюджвання, кнігагандлю?**

— Рэалізацыя кніжнай прадукцыі дужа складаная. Па-першае, даўно і следу не засталося ад сістэмы дзяржаўнага кнігагандлю. Гэта было для выдаўцоў сапраўдным шчасцем. Разгалінаваная сетка кніжных магазінаў… Ад сталіцы і ажно да кожнага райцэнтра. Памятаю, што нават пры 100-тысячных накладах добрых кніг не хапала. Цяпер ужо так кніжкі не купляюць. Сёння хатняя бібліятэка ва ўкраінцаў — рэдкасць. І не толькі таму, што ў нас да немагчымасці нізка ўпаў узровень жыцця і ў людзей элементарна нестае грошай. Яшчэ адна з прычын — ва Украіне сталі значна меней чытаць, мноства людзей проста абыходзяцца без кнігі. Яна перастала быць актыўнай дзейснай асобай у іхнім жыцці. Нечытанне спрыяе дэградацыі і маргіналізацыі чалавека. На жаль, усё гэта назіраецца ва Украіне.

У нас разоў у сорак зменшылася колькасць кнігарняў. Ды і тыя, што яшчэ працавалі зусім нядаўна, нярэдка банкрутуюць. Адсюль і прычыны мізэрных тыражоў нашых выданняў.

**— А вашы ўласныя пісьменніцкія клопаты… Над чым працуеце?**

— Пасля рамана «Што запісана ў кнігу жыцця (Міхайла Кацюбінскі і іншыя)», што забраў у мяне каля сямі гадоў працы, выдаў дзве кнігі апавяданняў і казак для дзяцей. Ужо ў друкарні зборнік літаратурных партрэтаў. Узяўся пісаць раман, дзе адбываюцца самыя блізкія сённяшнія падзеі. Раман мае востры сюжэт, некаторыя з фігурантаў цяперашняга палітыкуму пазнаюць у рамане саміх сябе. Хаця я не збіраўся літаральна спісваць з натуры — мяне цікавяць тыпажы, учынкі і матывацыі.

**— Наколькі ўважлівыя ўкраінскія пісьменнікі і кнігавыдаўцы да сучаснага перакладу?**

— Мастацкі пераклад быў яскравым феноменам украінскай культуры, пачынаючы з шасцідзясятых гадоў і заканваючы васьмідзясятымі. Тады ў перакладчыцкай справе было шмат таленавітых імёнаў: Мікола Лукаш, Максім Рыльскі, Грыгорый Кочур, Барыс Тэн, Васіль Місык, Яўген Драбязка, Леанід Первамайскі, Юрый Лісняк, Расціслаў Дацэнка... Тады з'явіўся ў бліскучых украінскіх інтэрпрэтацыях цэлы корпус твораў сусветнай класікі і найрэзанансныя творы замежнай літаратуры другой паловы XX стагоддзя. Зрэшты, гэта — дужа цікавая тэма, што вымагае спецыяльнай размовы.

Сённяшні стан нашага перакладніцтва — гэта прыкры спад, бледны цень таго, чым мы маглі раней паўнапраўна ганарыцца. Між іншым, тады ў нас рэгулярна друкаваліся творы беларусаў Максіма Танка і Янкі Брыля, Івана Шамякіна і Васіля Быкава, Івана Мележа і Аркадзя Куляшова, Івана Пташнікава і Івана Чыгрынава, Генадзя Бураўкіна і Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Алеся Адамовіча. Без усялякага перабольшвання можна сказаць, што на ўкраінскай мове ёсць цэлая бібліятэка твораў беларускай літаратуры. Але гэта ўсё — здабыткі мінулага. Сёння мы сапраўды дрэнна ведаем адзін аднаго. Толькі зрэдчас дзякуючы асабістым кантактам аўтараў з'яўляецца ва Украіне пераклад беларускай кніжкі, і адпаведна — у Беларусі ўкраінскай. Нам трэба наладжваць творчыя кантакты. Гэта — не проста цікава. Гэта — дабратворны ўзаемаўплыў і ўзаемаўзбагачэнне літаратур.

**— Калі б якое з беларускіх кніжных выдавецтваў пачало працу па сістэмнай прэзентацыі сучаснай украінскай літаратуры па-беларуску, то з чаго параілі б пачаць?**

— Звычайна, з вяршынных здабыткаў нашай літаратуры, павязаных з імёнамі Ліны Кастэнкі, Дзмітра Паўлычкі, Юрыя Шчарбака, Валерыя Шаўчука, Паўла Моўчана… Паверце, гэты пералік можа быць дужа доўгім.

Сённяшняя сітуацыя з нашымі творчымі кантактамі абсалютна ненармальная. І ад нас залежыць, якой яна будзе надалей.

***Гутарыў Павел АЛЬСОВЫ.***
***Кіеў — Мінск***

***Фота Наталлі АСМОЛЫ.***

Ігар ВАСІЛЕНКА

# МІНСК УЧОРА І СЁННЯ




*Уладзімір ЛІХАДЗЕДАЎ*

**МІНСК: падарожжа ў часе = MINSK: A Journey Throuqh Time = МИНСК: путешествие во времени.**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Парушу няпісаную завядзёнку і пачну гаворку не з пачатку гэтай кнігі-альбома, а з яе заключэння. Зраблю гэта па той прычыне, што галоўны рэдактар газеты «СБ — Беларусь сегодня», заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Павел Якубовіч у сваім слове, названым «Замест пасляслоўя», вельмі дакладна вызначыў сутнасць гэтага выдання: «Праект рэдакцыі «СБ — Беларусь сегодня», названы «У пошуках страчанага», ставіць перад сабой мэту ўваскрасіць, вярнуць з нябыцця не толькі выдатныя артэфакты беларускай гісторыі і матэрыяльнай культуры. Нашым сучаснікам даецца магчымасць рэальна ўбачыць і ацаніць абаянне, уласцівае толькі нашай краіне: красу прыроды, выявы храмаў і палацаў, якіх ужо няма, віды гарадоў, мястэчкаў і вёсак. Дзякаваць Богу, яны захаваліся на ўнікальных паштоўках калекцыі, сабранай за доўгі час філакартыстам Уладзімірам Ліхадзедавым. Спачатку гэтым неацэнным багаццем маглі цешыцца толькі чытачы «СБ — Беларусь сегодня». Але рубрыка «У пошуках страчанага», вырастаючы ў маштабе, рашуча ступіла на самастойную дарогу, і вось ужо аматары айчыннай гісторыі атрымалі магчымасць набыць асобныя выданні «У пошуках страчанага», «Сінапогі», «Знічкі Айчыны», якія, несумненна, сталі прыкметнай з'явай у культурным жыцці Беларусі апошніх гадоў. Вы трымаеце ў руках кнігу «Мінск: падарожжа ў часе». Упэўнены, што і яна не пакінула вас абыякавымі. Хачу парадаваць: праект «У пошуках страчанага» рыхтуе вам новыя кнігі, новыя сустрэчы з цудоўнай калекцыяй Уладзіміра Ліхадзедава».

Прашу ў чытача прабачэння за доўгую цытату, але проста не мог не прывесці гэтае выказванне цалкам. На тое ёсць дзве прычына. Першая з іх заключаецца ў тым, што П. Якубовічам дакладна схоплена сама сутнасць рэдакцыйнага і выдавецкага праекта «У пошуках страчанага». Другая прычына вынікае непасрэдна з першай: праект гэты настолькі важны, што з ім нельга не пазнаёміцца. Больш за тое, з **ім неабходна знаёміцца**. Гэта, думаю, ужо і зрабілі многія, уважліва і ўдумна адкрыўшы для сябе свет папярэдніх кніг. Шмат хто змог ужо адчуць усю вабнасць і гэтай — «Мінск: падарожжа ў часе». Той жа, хто не паспеў яшчэ пазнаёміцца з ёю, несумненна, слова П. Якубо-

віча «Замест пасляслоўя» падштурхне зрабіць гэта як мага хутчэй.

Дый зварот Уладзіміра Ліхадзедава «Да чытача» таксама паспрыяе хутчэйшаму знаёмству. Вядомы беларускі філакартыст, без збору паштовак якога сёння не абысціся і гісторыкам, і краязнаўцам, і мастацтвазнаўцам, і тэатразнаўцам — усім, хто сваёй творчасцю прыадкрывае пласты гісторыі і хоча ўласныя матэрыялы як мага лепш праілюстраваць, нагадвае: адкідвайце ў бок самыя неадкладныя справы. Пры тым рабіце гэта хутчэй, яны будуць выглядаць і не настолькі ўжо важнымі, калі акунешся ў гэтае «падарожжа ў часе»: «Выпраўляючыся на экскурсію па сённяшнім Мінску, вы маеце ўнікальную магчымасць узброіцца выключна багатым на візуальную інфармацыю даведнікам. Характэрнай асаблівасцю яго з'яўляецца тое, што здымкамі, на якіх адлюстравана сучаснае аблічча горада, удакладняюцца адрасы і віды са старых паштовак. Такі рэтраспектыўны агляд роднай сталіцы можна разглядаць як своеасаблівы падручнік па патрыятычным «мінсказнаўстве». Перад Вамі кніга, з якой можна падарожнічаць у часе!»

Што пасля гэтага сказаць? Ды тое, што давайце як мага хутчэй пазнаёмімся з гэтым выданнем з выданняў (паверце, сцвярджаю так, нічога не перабольшваючы) пра наш слаўны, гэткі шаноўны па ўзросце і разам з тым такі малады, прыгожы Мінск. Не бяруся адмаўляць вартасці і значэнне кніг, альбомаў, што па гэтай тэматыцы і праблематыцы выходзілі раней, але кніга-альбом «Мінск: падарожжа ў часе» ўсё ж вылучаецца сярод іх. Адметнасць яе найперш у тым, што сапраўды атрымалася на дзіва ўдалае спалучэнне, паяднанне розных часавых пластоў. Учарашняе і сённяшняе, дзякуючы старым паштоўкам, што трапілі ў калекцыю У. Ліхадзедава, і здымкам, зробленым нядаўна (некаторыя з іх датаваны нават 2015 годам), паўстае як адзінае цэлае. Гэта імгненні з жыцця горада, схопленыя пільным вокам аб'ектыва фотаапарата, занатаваны назаўсёды. Тыя здымкі, што рабіліся раней, у пачатку XX стагоддзя ці ў канцы XIX, і выкарыстаны на паштоўках і нядаўнія — фоталетапіс часу, які, несумненна, застанецца назаўсёды ў памяці і тых, хто пазнаёміцца з гэтай кнігай-альбомам, дый у гісторыі.

Дарэчы, нельга не звярнуць увагу на такі істотны момант, што характэрна ўвогуле для мовы фотамастацтва. Кожны здымак, асабліва выкананы тэхнічна дасканала, пры ўсёй ягонай статычнасці, калі разглядаеш яго, нібы пачынае гаварыць. Узіраешся ў адлюстраванне вуліц, плошчаў, грамадскіх аб'ектаў альбо жылых дамоў, і пра гэтую статычнасць забываеш. Пабачанае, растварыўшыся ў сваім часе, упэўнена сягае ў час сённяшні, у наш з вамі час. Пасля гэтага дастаткова даць крыху волі сваёй фантазіі, як пачнеш адчуваць своеасаблівы пульс таго, цяпер ужо ранейшага, старога жыцця, якое хочацца параўнаць з жыццём сучасным, нашым сённяшнім жыццём. У гэтым сэнсе асабліва шырокую магчымасць для разваг даюць даўнія паштоўкі, на якіх адлюстраваны не толькі пэўныя аб'екты, а і ажываюць воблікі людзей, якіх выпадкова «схапіў» аб'ектыў невядомага нам фотамайстра. Так, невядомага, бо не заўсёды ўказвалася, хто мае непасрэднае дачыненне да пэўнага здымка. Хто гэтыя людзі на паштоўках, чым яны некалі займаліся, нам ніколі не даведацца. Як і не дадзена знаць, як склаўся іхні далейшы лёс. У рэшце рэшт, у тым, каб ведаць гэта, няма ніякай неабходнасці. Імгненне — на тое і ёсць імгненне, каб з'явіцца і маланкава знікнуць. Прамільгнуць, але і застацца на гэтых самых здымках, што ўжо сталі гісторыяй.

Кніга-альбом удала скампанавана. Разумеючы, што ахапіць неахопнае немагчыма, дый па іншай прычыне — гаворка пра Мінск даўні абмежавана наяўнасцю тых ці іншых старых паштовак у калекцыі У. Ліхадзедава, увага сканцэнтравана толькі на пэўных гарадскіх адрасах. А ведаеце, з чаго пачынаецца горад? Кажаце, што з дня ягонага заснавання. Канечне, у такім адказе ісціна ёсць. Але не будзем забываць, што ў часавым вымярэнні гэта

заўсёды адносна. У гістарычнай навуцы прынята заснаваннем таго ці іншага населенага пункта лічыць год, пад якім ён упершыню згадваецца ў летапісе. Нават калі ёсць ускосныя сведчанні, што горад існаваў і да гэтага.

Аднак, задаючы менавіта такое пытанне — з чаго пачынаецца горад? — я ўсё ж меў на ўвазе іншае. Зусім не заснаванне яго, як можа падацца на першы погляд, а тое, што з'яўляецца па сутнасці ягонымі варотамі. Пачынаеце здагадвацца, што гэта такое? Правільна, горад пачынаецца з вакзала. Асабліва тады, калі ён гэткі вялікі, як наш стольны Мінск. Таму і першы раздзел у кнізе-альбоме «Мінск: падарожжа ў часце» называецца «Прывакзальная плошча». Як і наступныя, а іх усяго восем, ён пачынаецца з невялікага інфармацыйнага матэрыялу, пасля чаго змешчаны выявы паштовак, тэматычна звязаныя з тым, пра што гаворыцца, і сучасныя здымкі, на якіх тыя ж самыя аб'екты, толькі ў сваім сённяшнім выглядзе, а ў некаторых выпадках новыя будынкі, узведзеныя на гэтым месцы замест старых, ці тыя даўнія, перабудаваныя і прыстасаваныя для новых мэт.

Але пра першы раздзел… Тым, хто не ведае гэтага, безумоўна, будзе цікава даведацца, што «ў 1871—1874 гг. праз Мінск былі пракладзены дзве важныя чыгункі — Маскоўска-Брэсцкая і Лібава-Роменская, што ператтварыла горад у буйны чыгуначны вузел. У 1871 г. першых пасажыраў прыняў Брэсцкі (Аляксандраўскі) пасажырскі вакзал, які знаходзіўся ў раёне сучаснага Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. <…> Будаўніцтва пасажырскага вакзала Любава-Роменскай дарогі было завершана ў 1874 г. Гэты вазал атрымаў назву Віленскі».

Прыводзіцца і іншая, не менш значная інфармацыя, але, бадай, не менш, а ў нечым нават і больш гаворыць багаты ілюстрацыйны матэрыял. Найперш — выявы старых паштовак. І гэтым разам, і, знаёмячыся з іншымі раздзеламі, не можаш не здзіўляцца, наколькі актыўна, мэтанакіравана і, канечне ж, апантана працуе У. Ліхадзедаў-філакартыст. Трэба ж усе гэтыя паштоўкі адшукаць, даведацца, у каго яны могуць быць, а потым знайсці магчымасць прыдбаць іх. Што таксама няпроста, бо, як вядома, кожны, хто мае ў сябе такую каштоўнасць, нялёгка развітваецца з ёю, асабліва, калі чалавек гэты і сам калекцыянер. Прыняўшы ж пад увагу, што некаторыя паштоўкі захаваліся ці не ў адзінкавых асобніках, то… Галоўнае, што ва У. Ліхадзедава ёсць і такія рэліктавыя паштоўкі і цяпер з'явілася мажлівасць пазнаёміцца з імі, зрабіўшы падарожжа ў часе, убачыць стары Мінск, каб параўнаць яго з нашай сучаснай сталіцай.

З Прывакзальнай плошчы ў Мінску, як вядома, лёгка трапіць і на плошчу Незалежнасці. Яна ж непадалёку ад чыгуначнага вакзала. «Плошча Незалежнасці» — чарговы раздзел кнігі-альбома. Гэтым разам інфармацыя таксама вычарпальная, дый, як і ў першым выпадку, вельмі важная: «Да другой паловы XIX ст. мяжа горада з паўднёвага захаду супадала з сучаснай вуліцай Свярдлова. За ёй пачыналася вольная прастора, на якой пазней быў арганізаваны адзін з гарадскіх рынкаў. Пра гэты рынак пазней нагадвала найменне адной з вуліцы (Базарная), што праходзіла па тэрыторыі сучаснай плошчы Незалежнасці. У 1870-х гг. пасля будаўніцтва чыгункі Мінск пачынае інтэнсіўна развівацца ў паўднёва-заходнім кірунку. Вуліцу Захар'еўскую (праспект Незалежнасці) пастанавілі прадоўжыць аж да скрыжавання з Нова-Маскоўскай (Мяснікова) ля чыгуначнага моста. Там і сфармавалася трохкутная ў плане брукаваная плошча, вядомая сёння як плошча Мяснікова».

Інфармацыю чэрпаем... Інфармацыю атрымліваем… Але ўжо праз «вымаўленне» здымкаў. Ёсць сярод іх і паслярэвалюцыйныя, ёсць і першых гадоў савецкай улады… Трапілі ў калекцыю У. Ліхадзедава і паштоўкі, на якіх схоплены некаторыя моманты акупацыі, калі знішчаліся не толькі людзі, а і сам горад. Прыхільнікі «новага парадку» нікога і нічога не шкадавалі. Ды шмат што можна знішчыць, толькі не памяць. І ў свядомасці людзей. Але і

дзякуючы імгненням, схопленым фотааб’ектывам.

Прадстаўлены ў выданні і такія раздзелы, як «Плошча Свабоды», «Кастрычніцкая плошча», «Праспект Незалежнасці», «Вуліца Леніна», «Вуліца К. Маркса»… Пра кожны з іх можна сказаць нямала ўхвальнага, бо прыводзіцца багатая інфармацыя, насычаны і візуальны рад. Тым не менш, я вылучыў бы з гэтых раздзелаў той, што мае назву «Кастрычніцкая плошча». Пачатак гэтай плошчы быў пакладзены даўно: «У канцы XVIII ст. паўстала вострая неабходнасць пашырэння тэрыторыі горада. У 1797—1800 гг. мінскі губернскі архітэктар Ф. Крамер распрацаваў першы праектны план развіцця Мінска. У адпаведнасці з ім планавалася разбурыць гарадскія фартыфікацыі XVII ст. і значна пашырыць тэрыторыю горада ў паўднёва-ўсходнім кірунку. Меркавалася стварыць геаметрычную сетку вуліц. <…> Цэнтрам кампазіцыі новага раёна стала вялікая гандлёвая плошча, што атрымала назву Новы рынак». Тая самая плошча, якая, «пражыўшы» не адно стагоддзе, стала называцца плошчай Незалежнасці. Шмат чаго, што сведчыць пра яе жыццё ў розныя гады, можна даведацца з выяў старых паштовак і з са здымкаў, зробленых нядаўна. Убачыць і як бы прайсціся праспектам Незалежнасці, спыняючыся там, дзе захочацца пабыць больш.

Тым, хто гэтага не ведае, нагадаю, што пачатак яму быў пакладзены «распачатай у канцы XVIII — пачатку XIX ст. маштабнай рэканструкцыяй планіровачнай структуры Мінска». Гэта «запатрабавала новай прамой трасы. Яна павінна была прайсці праз увесь горад і ў перспектыве ператварыцца ў асноўны гарадскі дыяметр». Прамая траса — тагачасная вуліца Захар’еўская, якую назвалі «ў памяць пра мінскага губернатара Захара Карнеева — ініцыятара распрацоўкі першага праектнага плана забудовы Мінска 1797—1800 гг.» У 1922 годзе вуліца Захар’еўская пачала называцца Савецкай, а ў 50-х гадах мінулага стагоддзя на месцы яе з’явіўся праспект Сталіна. Пазней ён быў названы Ленінскім праспектам, які перайменавалі ў праспект Фанцыска Скарыны. Сёння гэта праспект Незалежнасці.

Падарожжа па Мінску ў часе завяршае раздзел «Куткі старога горада». Ён як бы дапаўненне да папярэдніх раздзелаў. Нават пэўнае ўдакладненне іх, бо, не прывязаны да іх, дазваляе ўбачыць шмат з таго, што дарага, несумненна, кожнаму мінчаніну, дый дарагім стане яно для гасцей нашага горада. Іншая справа, што многія і многія, на жаль, не ведаюць, як калісь выглядаў той ці іншы куток нашай сталіцы. Пазнаёміўшыся ж з кнігай-альбомам «Мінск: падарожжа ў часе» пра гэта даведаюцца. А прыдбаўшы выданне самі, параяць купіць яго і сваім сябрам, знаёмым. Думаецца, з задавальненнем набудуць «Мінск: падарожжа ў часе» і шматлікія госці горада. Паспрыяе гэтаму і тое, што тэкст прыводзіцца не толькі па-беларуску, а і ў перакладзе на англійскую і рускую мовы. Пасля гэтага для многіх Мінск стане яшчэ больш блізкім і дарагім.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# МУЗЫКА, ШТО Б’ЕЦЦА АБ ДУШУ




*Дзмірый ДЗЯТКО*

**ЯЎХІМ КАРСКІ**

**Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»**

*Мн.: Харвест, 2014*

Часта студэнтаў-першакурснікаў філалагічных факультэтаў выкладчыкі бянтэжаць пытаннем: «Каго можна назваць заснавальнікам беларускай філалогіі?» Сутаргава пачынаюць прыгадваць імёны дзеячаў беларускай навукі ад Францыска Скарыны да Браніслава Тарашкевіча. У часы Скарыны пра беларускую філалогію гаворка яшчэ не шла, а вось Браніслаў Тарашкевіч ужо быў вучнем таго загадкавага «заснавальніка».

Постаць Яўхіма Карскага прыцягвае да сябе ўвагу філолагаў, гісторыкаў, этнографаў, педагогаў дзякуючы сваёй разнастайнасці і неадназначнасці. Аднак нішто не будзе зараз аспрэчваць той факт, што да Яўхіма Карскага не існава практычна даследаванняў па гістарычнай граматыцы і дыялектыцы беларускай мовы. Нягледзячы на складаныя ўмовы працы і пераследаванні ў савецкі час, Яўхім Фёдаравіч змог сцвердзіць сябе як адзін з найбольш уплывовых вучоных мяжы XIX—XX стагоддзяў, акадэмік Пецярбургскай Акадэміі навук, правадзейны член Інстытута беларускай культуры, Чэшскай Акадэміі навук. У вёсцы Лаша, на радзіме навукоўца, створаны яго мемарыяльны музей, імем Я. Карскага названа Гродзенская абласная бібліятэка, вуліца ў Гродне. Са спадчынай славутага філолага можна азнаёміцца дзякуючы арыгінальным і факсімільным выданням яго прац, электроннаму дыску «Спадчына акадэміка Яўхіма Карскага». А шэраг даследаванняў, прысвечаных жыццю і навуковай дзейнасці Карскага, летась папоўніўся кнігай з серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» выдавецтва «Харвест».

«Навуковай спадчынай, якую пакінуў нашчадкам Яўхім Фёдаравіч Кар-

скі, мог бы ганарыцца любы акадэмічны інстытут», — адзначае аўтар кнігі Дзмітрый Дзятко. Гэта сапраўды вельмі трапнае параўнанне, бо Яўхім Карскі з’яўляецца аўтарам больш за 100 значных навуковых прац. Калі ўлічыць, што шмат якія з іх былі першымі ў сваім родзе навуковымі даследаваннямі падобнага кшталту, то такая колькасць сапраўды ўражвае. Першая ж сур’ёзная праца навукоўца — «Обзор звуков и форм белорусской речи», распачала «навуковае вывучэнне беларускай мовы і адкрыла для тагачаснай філалогіі яе фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці». А яго трохтомную манаграфію «Беларусы» акадэмік Б. Ляпуноў у пачатку XX стагоддзя ацаніў як працу «роўную якой па грунтоўнасці наўрад ці знойдзем у галіне вывучэння іншых славянскіх народаў».

Дзмітрый Дзятко не толькі дэталёва характарызуе працы Яўхіма Карскага з боку іх дасягненняў і недахопаў, але і цікавіцца сакрэтамі яго поспехаў, вытокамі навуковых зацікаўленасцей. Сярод лёсавызначальных сустрэч аўтар называе сустрэчу Яўхіма Карскага з адукаваным святаром Васілём Янушэўскім, які стаў першым настаўнікам будучага акадэміка, а таксама з маладымі экстраардынарнымі прафесарамі Раманам Брантам і Мацвеем Сакаловым у Нежынскім гісторыка-філалагічным інстытуце. На карысць выпрацоўкі стараннасці і самадысцыпліны, на думку аўтара, спрацавалі і даволі жорсткія правілы ўнутранага распарадку падчас вучобы.

Чытачы змогуць адкрыць для сябе і звесткі пра незвычайна высокі ўзровень падрыхтоўкі тагачасных студэнтаў гуманітарных спецыяльнасцей. Вядома, што Яўхім Карскі вывучаў славянскія мовы, а таксама грэчаскую, лацінскую, санскрыт, добра валодаў параўнальна-гістарычным метадам у мовазнаўстве! Цікавіцца Дзмітрый Дзятко і якасцямі характару, ладам жыцця славутага навукоўца, прыводзіць успаміны яго знаёмых і блізкіх людзей: «У доме ўсё зіхацела ад чысціні. Вопратка на ім заўсёды была акуратная і свежая: зранку ён апранаў белую кашулю, касцюм, чаравікі, завязваў гальштук — нават калі ўвесь дзень працаваў дома. Ніякіх халатаў, піжам, хатніх туфляў».

Да таго ж асоба Яўхіма Карскага паўстае перад намі ў кнізе не ізалявана, яго навуковая і грамадская дзейнасць паказваецца ў кантэксце свайго часу з яго праблемамі і складанасцямі. Па-сапраўднаму ацаніць смеласць бескампраміснага навукоўца, які даказаў усяму свету, што «беларускія гаворкі старэйшыя за паўднёварускія і генетычна ніяк не выводзяцца з украінскай мовы», можна толькі ўзгадаўшы рэаліі тагачаснага сацыяльна-палітычнага жыцця беларускіх зямель. «Другая палова XIX ст., калі Я. Карскі распачаў сваю навуковую дзейнасць, была часам панавання жорсткай рэакцыі, падаўлення любых праяў нацыянальнальнай самасвядомасці нярускага насельніцтва. <…> З сярэдзіны 1860-х гадоў у адпаведнасці з распараджэннем Міністэрства асветы Расійскай імперыі беларускім вучням забаранялася ў сценах адукацыйных установ размаўляць паміж сабой на роднай мове», — канстатуе аўтар.

Лаканічна, пераканаўча і захапляльна напісаная кніга Дзмітрыя Дзятко дапаможа кожнаму адкрыць для сябе свет беларускай навукі, адчуць каларыт папярэдняй эпохі, павучыцца адказнасці і працавітасці. Славуты мовазнаўца і літаратуразнаўца, этнограф, фалькларыст, палеограф, «прыродны беларус» (па ўласным вызначэнні), Яўхім Карскі застаецца і ў наш час выдатным прыкладам шырокай эрудыцыі, навуковай сумленнасці і чалавечай годнасці. Псіхолагі кажуць, што біяграфіі выдатных людзей могуць падказаць шлях да самаўдасканальвання і дасягнення поспеху. Дык чаму ж не скарыстаць гэтую параду?




*Віктар ШНІП*

**ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2015*

«Усё, што ўбачу, што пачую цікавага, што прачытаю — адразу ж запісваю», — адзначаў Дзмітрый Фурманаў. Усё жыццё вёў дзённік і Міхаіл Прышвін (сумарна рукапісы дзённікаў у тры разы перавышаюць аб'ём яго ўласна літаратурнай спадчыны). Зараз многія пішуць у звычайных сшытках, сацыяльных сетках. Вядома, хапае тэкстаў-аднадзёнак, цікавых толькі аўтару і яго нешматлікім знаёмым. Але трапляюцца і вельмі цікавыя. Адразу думаецца: з іх бы такія творы атрымаліся! І атрымліваюцца. Папулярнасць у Расіі маюць кароткія раманы Марыі Мур, якая складае іх са сваіх нататак у «Жывым Часопісе». Ёсць і ў нас цікавыя «Запісы з фэйсбука» Уладзіміра Сцяпана.

А запісы Віктара Шніпа ўдала склаліся ў «дзённікавы раман паэта». «Заўтра была адліга» — гэта паўтара года асабістага жыцця чалавека з паэтычнай душой і цікавым, неадназначным бачаннем свету. Прычым час неймаверна цяжкі — час страты бацькоў. «Бацькі памерлі, а страх, што яны вось-вось памруць, і сёння жыве ўва мне…» — чытаем кранальны запіс ад 24.01.2013 г. Бачыць Віктар Шніп свайго бацьку у пустым крэсле музея Янкі Купалы, сустракае маці ў роднай хаце ў сне…

Вучоны-ўсходазнавец Аляксандр Балдыроў прызнаваўся, што дзённік, выдадзены пасля пад назвай «Абложны запіс», дапамог яму выжыць падчас блакады Ленінграда. Магчыма, і Віктару Шніпу перажыць гора дапамае ўменне застацца сам-насам з аркушам паперы?.. Аднак смутак і боль не замінаюць адоранаму пісьменніку бачыць прыгожае ў жыцці, выхопліваць вопытным зрокам з будзённых дробязей сапраўды важнае і вартае.

Незвычайная сэнсавая і эмацыянальная насычанасць радкоў, трапнасць, лаканічнасць і нават афарыстычнасць адрознівае стыль рамана «Заўтра была адліга». Не кожны зможа пахваліцца такімі ўдалымі, незвычайнымі параўнаннямі, што выходзяць з-пад пяра быццам бы выпадкова, нязмушана: «Сумна, быццам з дубу зваліўся», «Захад чырвоны, як царкоўнае віно», «Нумары на машынах, як дні з жыцця», «Жыццё цудоўнае, як запаленыя свечкі на святочным торце», «Жыццё самотнае, як запаленыя свечкі каля труны…»

Як цудоўнымі арабескамі, шчодра перасыпаны старонкі кнігі запісамі пра сустрэчы з вядомымі людзьмі, наведванне прэзентацый, урачыстасцей, канферэнцый. Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Алесь Квяткоўскі, Юрый Пацюпа, Ірына Быкава, Іван Чарота і інш. становяцца героямі рамана «Заўтра была адліга», бо з імі душа аўтара, яны ў яго свеце, магнітным полі… Не губляе Віктар Шніп і майстэрства тонкай іроніі, гумару, апісваючы кур'ёзныя выпадкі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», у паўсядзённым жыцці: «На працы ў прыбіральні на дзявятым паверсе злавілі кажана. Цікава, з чыйго гэта ён рукапісу вылупіўся?»

Арыгінальнай з'яўляецца кампазіцыя «дзённікавага рамана»: паміж запісамі за 2013-ы і 2014-ы гады знаходзіцца «Сарцавіна» — вершы і лірычная замалёўка «Закахаўся ў снягурку» Віктара Шніпа. Гэта своеасаблівая сярэдзіна, мяжа падзелу. А яшчэ слова «сарцавіна» этымалагічна паходзіць ад «сэрца». Ды і чым, як ні сэрцам, лавіць мелодыю там,

Дзе хтось нябачны грае на раялі,
Што створаны з аблокаў і дажджу,
І музыка плыве, нібыта хвалі,
І б'ецца, як аб бераг, аб душу…




*Міхайла СЛАБАШПІЦКІ*

**ЦІ ДАЛЁКА ДА АФРЫКІ? /**
**пер. з укр. Алеся Карлюкевіча**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

«Перакладчыкі за мяжой мала цікавяцца Украінай, таму што гэта не з'яўляецца чымсьці прэстыжным. Працэс мог бы пачацца пасля ўсплёску інтарэсу да падзей на Украіне (памяранцавай рэвалюцыі), але цяпер стан нашых спраў шкодна ўплывае на інтарэс да нас», — адзначаў у адным з інтэрв'ю Міхайла Слабашпіцкі. Як бы ні сумна гэта гучала, аднак і сапраўды, перакладчыкі часцяком абмінаюць увагай украінамоўныя творы сусветнага ўзроўню, перакладаюць у асноўным масавае і кідкае… Пашэнціла ў гэтым сэнсе Юрыю Андруховічу, Аксане Забужцы, Андрэю Куркову, але шмат якія таленавітыя аўтары яшчэ чакаюць сустрэчы з замежнымі чытачамі.

У пазітыўным кірунку адрозніваецца ад сусветнай сітуацыя беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей. Ужо чвэрць стагоддзя назіраецца надзвычай актыўнае выданне ўкраінскіх класікаў і сучаснікаў на беларускай мове. Менавіта томам выбраных паэтычных твораў Тараса Шаўчэнкі распачало выдавецтва «Мастацкая літаратура» серыю «Скарбы сусветнай літаратуры» ў 1989 годзе. 90-я гады мінулага стагоддзя адзначаны выданнем на беларускай мове гумарыстычных апавяданняў украінскіх аўтараў «Эліксір маладосці» (перакладчык Р. Родчанка), кнігі прозы «Марыя з палыном у канцы стагоддзя» У. Яварыўскага (перакладчыкі В. Рагойша і У. Рагойша), тома гістарычных аповесцей В. Шаўчука «Забойства Пятра Невядомага» (у перакладзе У. Арлова), зборніка легенд, паданняў і казак «Падарожжа ў чароўны свет» (у перакладзе Т. Кабржыцкай), кнігай выбраных твораў В. Вінграноўскага «Украінскі прылюд» (аўтар перакладу — У. Скарынкін) і шмат якімі іншымі. Дзякуючы ўкладальнікам В. Рагойшу і Т. Кабржыцкай у серыі «Школьная бібліятэка» пабачылі свет выбраныя творы М. Кацюбінскага і Лесі Украінкі. У XXI стагоддзі выйшлі кніга ўласных перастварэнняў з украінскай паэзіі А. Траяноўскага — «Іменем няўмольнай свабоды», зборнік перакладаў В. Стралко « Непагасны агонь — Непогасний вогонь» (з перакладамі твораў Т. Шаўчэнкі, Лесі Украінкі, І. Франко на беларускую мову і Янкі Купалы, Якуба Коласа і М. Багдановіча — на ўкраінскую), кніга перакладаў твораў Т. Шаўчэнкі «І мёртвым, і жывым,

і ненароджаным» (укладальнікі — В. Рагойша і Т. Кабржыцкая) і інш.

Рэгулярна на старонках беларускіх перыядычных выданняў таксама з’яўляюцца пераклады з класічнай і сучаснай украінскай літаратуры. Як памятаюць пастаянныя чытачы, «Полымя» ў мінулым і бягучым гадах вялікую ўвагу ўдзяляла пытанням беларуска-ўкраінскага культурнага ўзаемадзеяння: былі надрукаваны пераклады апавяданняў А. Дзімарава, Г. Тарасюк, В. Парцяка, У. Даніленкі, М. Слабашпіцкага, аповесці У. Даніленкі «Сонейка чорнае, калматае». Перакладчыкам апошняй выступае Алесь Карлюкевіч, які вялікае значэнне ў сваёй дзейнасці надае як краязнаўчым пытанням, так і пытанням міжнацыянальнага супрацоўніцтва, у тым ліку мастацкага перакладу.

Не так даўно Алесь Карлюкевіч зноў выступіў у якасці перакладчыка з украінскай мовы. Свет пабачыла кніга «Ці далёка да Афрыкі?», якую складаюць сем апавяданняў для дзяцей Міхайлы Слабашпіцкага. Міхайла Фядотавіч — вядомы і прызнаны празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст, грамадскі дзеяч. А яшчэ — таленавіты дзіцячы пісьменнік, які заахвочвае дзяцей да адкрыцця рамантычнага свету прыгодніцтва і падарожжаў, вучыць любові да кніг, назіральнасці, цікаўнасці да навакольнай прыроды і свету. Чалавек шырокага сэрца і вялікай адказнасці, Міхайла Слабашпіцкі справамі даказвае сваю выключную зацікаўленасць у нацыянальным адраджэнні і выхаванні моладзі (з 1995 года ён з’яўляецца выканаўчым дырэктарам Лігі ўкраінскіх мецэнатаў, сустаршынёй кардынацыйнага савета Міжнароднага конкурсу па ўкраінскай мове імя П. Яцыка).

Тыя ж высокія памкненні бачым мы і ў яго творах для маленькіх чытачоў. Галоўны герой апавяданняў, што ўвайшлі ў кнігу «Ці далёка да Афрыкі?» — хлопчык Слаўка, баіцца, што яго не возьмуць у школу, шчыра спачувае жывёлам і птушкам, цікавіцца літаратурай пра далёкія падарожжы, флору і фаўну краін свету. Дапытлівасць, кемлівасць, стараннасць адрознівае яго ад аднагодкаў. Паказальна, што хлопчык-трэцякласнік радуецца падарунку ў выглядзе сур’ёзнай кнігі «Жыццё звяроў» Эдмунда Брэма! Слаўка ніколі не застаецца па-за ўвагай у дзіцячай кампаніі: заўсёды зможа распавесці нешта цікавае пра норавы жывёл, пра тое, што цудоўнага і таямнічага ёсць у загадкавай краіне Афрыцы.

Міхайла Слабашпіцкі дзіўным чынам умее перадаць дзіцячае наіўнае светаадчуванне, адзначае драбнейшыя назіранні і высновы цікаўнага хлопчыка. Вось, напрыклад, як чуецца Слаўку голас папугая: «Р» у яго гучала так, нібыта трушчыў разгрызены гарох». А так маленькі гарэза характарызуе маўленне вясковага дзядзькі Сцяпана: «Словы ціха прасочваліся праз пракураныя вусны і падалі да яго ног, як важкія кроплі вады». Апавяданні адзначаюцца і цікавай вобразнасцю, паэтычнасцю: зоры тут прыжмурваюцца, дрэвы здзіўляюцца, сумуюць, радуюцца.

Абаяльны гумар — таксама важны складнік поспеху дзіцячых твораў М. Слабашпіцкага. Каларытна малюе аўтар хамаватага дзядзьку на пляжы, «падобнага на піўную бочку», канстатуе жаданне хлопчыка «расці, як тая бузіна за хатаю», каб хутчэй можна было падарожнічаць у экзатычныя краіны, распавядае камічны выпадак пра папугая, які ўмее гаўкаць…

Шмат прыемных хвілін падорацьдарослым і дзецям гісторыі рэалістычныя і гісторыі-казкі пра ўкраінскага хлопчыка Слаўку. Дзякуючы выдатнай перакладчыцкай працы драбнейшыя нюансы сэнсу не згубіліся ва ўкраінскіх творах, на беларускай мове яны гучыць цалкам арганічна. Асабліва ўражлівыя дзеці, сцвярджае Міхайла Слабашпіцкі, могуць разумець жывёл і расліны. «З такіх і людзі сапраўдныя вырастаюць», — кажа Слаўкава бабуля ў апавяданні «Нашчадак тарпанаў». Дык давайце ж будзем выхоўваць у дзецях гэтае тонкае адчуванне прыгажосці і гармоніі, а яшчэ — і самі пастараемся не растраціць яго ў дарослым жыцці.




*Анатоль ЗЭКАЎ*

**ВІНЕГРЭТ ПАД ФУРШЭТ**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2015*

«Гумар — адзіны допінг, які не шкодзіць здароўю», — кажа Уладзімір Ліпскі. І сапраўды, здаўна народ лячыўся гумарам ад усіх хвароб. Як грамадскіх, сацыяльных, так і фізічных. Сёння вучоныя нават раскрылі сакрэт гэтых «лекаў»: аптымістычны стыль развaжання актывізуе на максімум магчымасці імуннай сістэмы. Гумар смешнае ў жыцці выяўляе не ў востра-здзеклівым, а ў жартоўным, добразычлівым тоне. За маскай блюзнерства ў гумары хаваецца сур'ёзнае, за нізкім — велічнае, за дураслівым — мудрае. У аснове гумару ў літаратуры — смешнае ў жыцці (з'явы, падзеі, людзі). Па словах І. В. Гётэ, ні ў чым так не выяўляецца характар чалавека, як у тым, што ён лічыць смешным. Гумар у многім прадвызначае і нацыянальны характар. Беларуская гумарыстыка (як сукупнасць твораў розных відаў і жанраў жартоўнага характару) бярэ свае вытокі ў вуснай народнай творчасці. Гэта шматлікія жартоўныя казкі, песні, прыпеўкі, прыказкі, прымаўкі, анекдоты. Гумар клаўся і ў аснову значнай колькасці твораў старажытнай беларускай літаратуры. Новая беларуская літаратура таксама пачалася з гумару і сатыры ў п'есах «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», драматургіі В. Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Каруся Каганца, вершах Ф. Багушэвіча, апавяданнях Ядвігіна Ш., Якуба Коласа і інш., плённа карысталася імі і ў далейшым. І сёння мы з прыемнасцю чытаем байкі Кандрата Крапівы, п'есы А. Макаёнка, гумарэскі Янкі Брыля, гумарыстычныя і парадыйныя вершы Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, К. Камейшы, гумарыстычныя аповесці і апавяданні П. Саковіча, Валянціна Блакіта, Р. Семашкевіча, І. Грамовіча. Сярод тых, хто сёння выходзіць на «гумарыстычную арэну», шматграннасцю таленту вылучаецца, безумоўна, Анатоль Зэкаў. Яго новая кніга «Вінегрэт пад фуршэт» утрымлівае вельмі разнастайную палітру гумарыстычных твораў: былі, апавяданні, абразкі, байкі, гумарэскі, іранічныя вершы, пародыі і нават п'есу, «прыдатную для пастаноўкі на вясковай сцэне».

Здаецца, што пільны позірк пісьменніка не прапускае нічога з паўсядзённага жыцця, з чаго б варта было зрабіць удалы жарт. Традыцыйныя метады ўхіляцца ад працы, адносіны «клапатлівага» мужа і «жонкі-пілaрамы», п'янства, некампетэнтнасць урачоў, вясковая наіўнасць, дзіцячая кемлівасць — вось далёка не поўны спіс тэм, што закранае ў сваіх творах Анатоль Зэкаў. У яго герояў часам гудзіць галава пасля пагулянкі «не слабей, чым вецер у падстрэшку хлеўчука», нярэдка яны сур'ёзна разважаць пра хуткаплыннасць часу і адвечнае кручэнне людзей, «як гэта самая, ну якая ў коле там птушка? Во, вавёрка — шызакрылы верабей». Жанчыны ў Анатоля Зэкава — спагадлівыя і добразычлівыя: яны любуюцца, як спяць пад дрэвам іх мужы-самагонашукальнікі і баяцца пабудзіць, каб сэрца з перапуду не разарвалася. Дзеці — «мазгавітыя» вынаходнікі і аўтары новых слоў (ці ведаеце вы, дарэчы, што такое «каровешына»?) Прычым адразу бачна, што Анатоль

Зэкаў піша свае гумарыстычныя творы толькі на жыццёвым матэрыяле, здабывае сюжэты «вопытным шляхам». Ён карыстаецца каларытнай народнай лексікай, устойлівымі народнымі выразамі, не грэбуе «моцнымі слоўкамі»: «прычапіўся як той банны ліст», «куды ні кінь — усюды клін», «адразу і бабу не ўламаеш», «ядры яе ў каршэнь» і інш. У гумарэсках і «надзённых рыфмах» Анатоля Зэкава адчуваецца жывое водгулле часу (ад савецкіх, перабудовачных часоў да дня сённяшняга). Вершаванымі радкамі аўтар папярэджвае:

Паставіў знізу я гады,
Каб стала зразумелай тэма.
Шмат што цяпер —
Не як тады:
І час інакшы,
І праблемы.

Але нават калі б пазнак не было чытачы змаглі б беспамылкова вызначыць час дзеяння ў творах: надта дакладна схоплены дэталі. Напрыклад, у гумарэсцы пра дэфіцыт тавараў пачатку 1990-х гг. «Крамныя прыгоды» стомлены ў чэргах муж просіць: «О божа, калі ты ёсць, зрабі, каб у нашых крамах хутчэй усё скончылася! Ці дажыву толькі я да той светлай будучыні?»

Хапае ў кнізе «Вінегрэт пад фуршэт» і лірычнага, шчымлівага. Перахопліваючы позірк каханкі ў бок рудога ката, лірычны герой марыць: «…каб ты хоць раз зірнула так на мяне, я б таксама пагадзіўся залезці ў торбу па самыя вушы і сядзець там столькі, колькі пажадаеш. Абы быць побач». А колькі пяшчоты ў рамантычных вершах, напісаных нібы з сумнай усмешкай — «Школьны ўспамін», «Дзяўчына ў лодцы», «Не пазваню», «Русалка»! Дарэчы, лірычная сітуацыя ў апошнім нечым нагадвае падобную ў вершы Петруся Броўкі «Пахне чабор»: юны закаханы не рашаецца расказаць пра свае пачуцці дзяўчыне, не наважваецца нават падарыць букецік валошак і праз гады шкадуе, што каханая не стала яго «жытняй русалкай».

Няўжо ўсе камічныя выпадкі, апісаныя ў кнізе, здараліся ў жыцці аўтара? Ці не ён — галоўны герой пікантных гісторый? Такія пытанні часта прыходзяць на розум цікаўным чытачам. Папярэджваючы іх, Анатоль Зэкаў піша:

А наконт грахоў скажу: даволі!
Не марнуйце ў пошуку і час.
У мяне не меней іх, не болей,
чым, не сумняваюся, у вас.

І сапраўды — смяяцца над уласнымі заганамі — гэта ўжо першы крок да іх прызнання і пераасэнсавання. «Смех — гэта тэст на чалавечую вартасць», — сцвярджае А. Бельскі. Тэст, які кожны можа прайсці, закусіўшы «вінегрэтам» ад літаратурнага кулінара Анатоля Зэкава.




*Віктар КАЖУРА*

**ПАЭТЫЧНЫЯ ЗАБАВЫ**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Загадкі — метафарычныя выразы рознай ступені складанасці, што сустракаюцца ва ўсіх народаў свету. У старажытнейшых загадках, якія дайшлі да нашага часу, адлюстроўваецца

першабытная міфічная сімвалізацыя, такім чынам нашы продкі тлумачылі самім сабе з'явы прыроды і навакольнага асяроддзя. Загадка абапіраецца на цалкам рэальныя якасці або прыметы прадмета: свет праз прызму загадак паўстае ўжо не як хаос, а як пэўнае цэлае, у якім усё мае сэнс і ўсё ўзаемазвязана. Яны адлюстроўваюць жыццё ва ўсім яго багацці і прысвечаны самым розным тэмам. Загадкам прыпісвалася магічная сіла: адгадванне іх вядзе да здзяйснення жаданняў, вызваляе ад небяспекі. З цягам часу гэтае значэнне загадак страцілася, але засталася іншасказальная алегарычная форма, і народ стаў глядзець на загадкі як на карысныя практыкаванні для розуму, як своеасаблівыя спаборніцтвы ў кемлівасці. Гэта яскрава адлюстравалася ў эпасе, у так званай літаратуры «пытанняў і адказаў». Прыпомніце толькі процьму народных казак, дзе адгадванне загадак — своеасаблівае выпрабаванне на шляху да дасягнення жаданых мэт галоўнага героя! Аднак загадка — гэта не толькі «ўстаўны элемент» твора. Гэта і асобны літаратурны твор таксама! Яшчэ Вергілій і Цыцэрон у часы адпачынку займаліся складаннем загадак.

Багата захавалася беларускіх загадак, якія адлюстроўваюць працоўны вопыт нашага народа, яго культурнае станаўленне. Шырока выкарыстоўвалі нашы продкі загадкі ў час вясельнага абраду з мэтай праверкі разумовых здольнасцей жаніха. Не маглі не ацаніць яны і важнага эстэтычна-мастацкага, выхаваўчага значэння загадак. Загадкі адкрываюць дзецям асаблівасці светабудовы, побыту, прыроды і г.д., развіваюць кемлівасць, мысленне, фантазію.

Выдатна разумеючы гэта, Віктар Кажура выказваецца пра матывы сваёй «загадкатворчасці» наступным чынам: «… у нашай хаце заззялі адразу два сонейкі — спачатку нарадзілася ўнучка Ангелінка, а потым унучак Цімошка. Цудоўных твораў для дзяцей шмат. На любы густ, на любы ўзрост. А хацелася, каб гэта было — маё, для ўнукаў, для Ангелінкі і Цімошкі. І з'явілася кніга. Пасля падумалася: чаму толькі маім унукам? Няхай будзе ўсім!» І сапраўды, пазнаёміўшася з творамі невялікай каляровай кнігі «Паэтычныя забавы», што выйшла ў серыі «Вясёлы калейдаскоп» Выдавецкага дома «Звязда», адчуваеш — яны сагрэты сэрцам, створаны не «для адчапнога». Замілаванне роднай прыродай, пяшчота, дабрыня — у кожным радку. Якія базавыя веды патрэбныя маленькаму цікаўнаму чалавеку? Ён павінен адрозніваць розных звяроў, птушак, дакладна ўяўляць, якія грыбы і ягады шкодныя, а якія — карысныя. Ён павінен знаходзіць у кожнай пары года фарбы для натхнення і выдатнага настрою. Усё гэта ўлічыў аўтар кнігі. Яскравыя эпітэты («крыштальны лёд», «мятны водар лета», «гонкі бор»), трапныя параўнанні («І, нібы ваўкі ў бары, / Ёй гукаюцца вятры», «Як на сцэне, на палянцы / Сонцу шле хвалу ў вяснянцы», «Лезе ў двор цераз паркан / Белай воўнаю туман»), метафары («Адзлаваліся марозы — / Ледзяшы пусцілі слёзы», «Глянь: барвовыя зарніцы — / Гром імчыць на калясніцы») робяць дзіцячы свет аб'ёмным, поўным таямніц і прыгажосці. Калі першы раздзел кнігі ў асноўным прысвечаны чарам і пякнотам зімы, вясны, восені ды лета, то другі, «На лясной сцяжынцы», дае гарэзлівым чытачам ужо важныя практычныя ўменні: дзе і як знайсці лісічкі, падасінавікі, апенькі, сыраежкі, чым карысныя суніцы, чарніцы, маліны. Каго называюць волатам лесу? Чаму так імкліва скача заяц? Чаго баіцца воўк? Не ведаеце адказы — хутчэй звяртайцеся разам з дзецьмі да падказак Віктара Кажуры, якія можна пабачыць, як гэта рабіла Аліса ў чароўнай краіне, пры дапамозе люстэрка.

Адкрыць для дзецей каляровы навакольны свет, папрактыкавацца ў кемлівасці і паэтычных здольнасцях (бо ўсе загадкі — чатырохрадкоўі, і адказы вам давядзецца падбіраць у рыфму) можна ў руках з цудоўна аздобленай кнігай «Паэтычныя забавы». «Чытайце, на радасць сабе і дзеткам! Бо гэта кніга — найперш спроба простымі словамі паказаць маленькім чытачам і слухачам багацце і хараство роднай краіны, мілагучнасць роднай мовы», — кажа Віктар Кажура. І той, хто прачытае, запэўніцца — спроба пісьменніка сапраўды ўдалая!

## ЖНІВЕНЬ




У **№ 7 — 8 за 1923 год** «Полымя» коратка паведамляе, што Янка Купала рэдагуе свае зборнікі «Жалейка» і «Гусляр» у сувязі з падрыхтоўкай да выдання першага Збору твораў. Купалу 41 год, пік славы, яго першыя зборнікі ўжо даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, а многія вершы — класікай айчыннай паэзіі,таму чытачы, верагодна, чакалі, што ў гэтым томе будзе фактычна перавыданне ранніх купалаўскіх твораў. Але сам паэт вырашыў зрабіць інакш, паколькі меў усе падставы быць незадаволеным ні «Жалейкай», ні «Гусляром».

Калі б, як меркавалася напачатку, «Жалейка» выйшла ў Мінску ў кааператыўным выдавецтве «Мінчук», відаць, гэта была б крыху іншая кніга — і не толькі ў сэнсе афармлення, але і зместу. Купала жыў не дужа далёка ад цэнтра Мінскай губерні, мог наездамі кантраляваць працэс выдання на ўсіх яго этапах. Але ў выдавецтва пачаліся фінансавыя праблемы, і ў выніку адзін з яго заснавальнікаў публіцыст і крытык Уладзімір Самойла (той самы, хто паспрыяў публікацыі ў друку першага купалаўскага верша «Мужык») пераслаў рукапіс зборніка ў Пецярбург, у суполку «Загляне сонца і ў наша аконца». 23 кастрычніка 1928 года Браніслаў Эпімах-Шыпіла, які і стаў рэдактарам будучай кнігі, пісаў вядомаму рускаму публіцысту і крытыку Льву Клейнбарту: «Суполка попросила Самойло прислать ей стихи Купалы, что тот и сделал, приславши массу стихотворений частью в рукописях автора, частью переписанных на машинке. Все стихотворения подписаны были: Янук Купала и дата написания. Просмотрев все эти стихотворения и сделав из них выборку, я приготовил к печати сборничек, который автор пожелал назвать «Жалейкой». Переписываясь на первых порах с Самойло, сыном директора бывшего Минского реального училища, я не знал настоящего имени поэта. Только когда в процессе печатания надо было сноситься с самим автором по поводу или фронтисписа к этому сборничку, сделанного по моему указанию коллегой моим художником Якубовским, или иных вопросов, сооб-

щено мне было настоящее имя и место жительства поэта. Во фронтисписе к заглавному листу я невольно сделал ошибку, написавши вместо: «Жалейка Янука Купалы», как автор всегда и повсюду называл себя и подписывался, — «Жалейка Янки Купалы». Таким образом, не умышленно переименовал я Янука в Янку, каковую форму имени принял потом и сам поэт и каковая так и осталась за ним до сих пор — не Янук, а Янка Купала».

«Потом» — гэта, як вядома, не «адразу». Прыкладна ў 1911 годзе, гэта значыць, праз некалькі гадоў пасля выхаду «Жалейкі», Купала піша «Эпіграму на самога сябе»:

Завуць мяне Янук Купала,
З бяды я песенькі складаю,
Пазнаў людзей і свет ці мала,
Вось дзе радзіўся, дык не знаю!

Відавочна, першапачатковая форма імя была Купалу нечым вельмі дарагая.

А вось як пачынаецца верш «Мая эпітафія», напісаны Купалам 12 чэрвеня 1906 года:

Тут ляжыць Янук Купала,
Што песні складаў,
Плакаў шмат, смяяўся мала.
Часта галадаў.

Гэты верш у «Жалейку» не трапіў, затое трапіў туды нідзе раней не друкаваны праграмны верш «Я не паэта». Б. Эпімах-Шыпіла прызнаецца, што «невольно сделал ошибку» і «не умышленно переименовал» Янука ў Янку, калі пісаў імя паэта для фронтыспіса кнігі. Але цікава, што ў вершы «Я не паэта» шмат разоў паўтараецца менавіта форма Янка, а не Янук:

Я не паэта, о крый мяне Божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала,
Хоць песеньку-думку і высную можа,
Завуся я толькі — Янка Купала.

Славу паэтаў разносяць па свеце,
Вянкі ўскладаюць і звоняць пахвалай,
Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце?
Ат! ведама, з вёскі — Янка Купала!

Кожны край мае тых, што апяваюць,
Чым ёсць для народа ўпадак і хвала,
А беларусы нікога ж не маюць,
Няхай жа хоць будзе Янка Купала.

Пра тое, што Купала не трымаў у руках рукапіс, падрыхтаваны да друку, ускосна сведчыць наступны прыкры факт: у зборніку яго творы надрукаваныя з вялікай колькасцю памылак і скажэнняў. Каля 150 (!) памылак выдаўцы вынеслі ў доўгі слупок на апошніх старонках «Жалейкі», але на самай справе іх аказалася яшчэ больш. Яўна не ўваходзіла ў планы Купалы двойчы друкаваць у адным і тым жа зборніку вершы «Шавец» (на старонках 40 і 118) і «Я не сокал…» (на старонцы 63 — пад назвай «З маіх думак», на старонцы 131 — пад назвай «Хто я?»).

Праўда, на момант выхаду «Жалейкі» Купалу было ўсяго 25 гадоў і толькі тры гады прайшло пасля таго, як у газеце «Северо-Западный край» быў надрукаваны яго першы верш «Мужык». Відавочна, тады радасці на сэрцы ў маладога паэта ад выдання «Жалейкі» было куды больш, чым незадаволенасці ад прыкрых шматлікіх памылак. Да ўсяго, крытыка ўспрыняла зборнік з вялікай прыхільнасцю. Напрыклад, той жа Уладзімір Самойла адну са сваіх рэцэнзій назваў «Вялікае свята» (газета «Минский курьер» за 23 жніўня 1908 года), і гэтым адлюстраваў свае адносіны да «Жалейкі»: «Сонца жывой, сапраўднай паэзіі заглянула ў ваконца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа! Няхай ён будзе для беларусаў тым, чым быў Шаўчэнка для Украіны!..» Хіба што толькі Ядвігін Ш. у газеце «Минское эхо» за 9 ліпеня напісаў пра купалаўскую кнігу не без іроніі, заўважаючы, што «лепш быць першым у вёсцы, чым другім у Рыме».

Па той жа прычыне не мог не радавацца Купала і выхаду «Гусляра» (1910 год). Хоць з аўтарскай воляй пры выданні яго і не палічыліся. У каментарыях да першага поўнага Збору твораў Янкі Купалы ў 9-ці тамах пра гэта чытаем: «Выхад другога зборніка вершаў Янкі Купалы — значная падзея ў развіцці нацыянальнай культуры. Тут дарэчы адзначыць, што падрыхтоўка новай кнігі паэта праходзіла з пэўнымі цяжкасцямі. Так, баючыся, каб новае выданне не напаткаў лёс «Жалейкі»

(арышт тыражу, непрыемнасці для выдаўцоў), «Эпімах-Шыпіла… выкінуў усё тое, што магло не спадабацца цэнзуры, і, на ўсякі выпадак, надрукаваў зборнік адной лацінкай, каб лягчэй было абысці цэнзара», — успамінаў пазней Я. Купала.

Паводле меркаванняў А. Александровіч (*Алеся Александровіч — літаратуразнаўца, сястра паэта Андрэя Александровіча, якая займалася даследаваннем творчасці Купалы і склала яго жыццёвы і творчы летапіс да 1917 года. — А. М.*), «са зборніка «Гусляр» выдаўцам знімаліся не толькі цэлыя творы, але самавольна скарачаліся вершы. З верша «Памяці Т. Шаўчэнкі», які быў надрукаваны ў зборніку «Гусляр», былі зняты восем радкоў. Змяшчаючы гэты твор у другім выданні «Гусляра», Янка Купала робіць такую заўвагу: «У першым выданні ў гэтым месцы (пасля чацвёртай страфы. — *А. А.*) выкінута выдаўцам дзеля цэнзурных варункаў два чатырохрадковыя звароткі. За адсутнасцю рукапісу гэты прабел застаецца і ў цяперашнім выданні» (Янка Купала, т 1, выд. 1926)».

Адзначым, што поўны тэкст верша з адноўленымі радкамі ўпершыню апублікаваны ў зб. «У вянок Т. Г. Шаўчэнкі» (1939), а ў зборах твораў Янкі Купалы, пачынаючы з 1961 г.».

Зборнік «Гусляр» высока ацаніла крытыка. Альгерд Бульба ў «Нашай ніве» за 21 кастрычніка 1910 года прызнаў, што ва «ўласных, самабытных творах Купала не мае роўных сабе». «Пануе ў творах Янкі Купалы фантазія, адмыкае ў ім вялікае багацце форм, напаўняе яго думы, і ліецца песня гусляра, — пісаў А. Бульба ў сваёй рэцэнзіі. — Багацтва настраенняў прабіваецца ў кожным яго творы. У кароткім вершы маем колькі абразоў, гарманічна зліваючыхся ў адзін, каторы малюе пуцяводную думку. Ці кінецца Купала ў даўні быт, ці загляне ў даўні курган, што віднеецца на нашай бацькаўшчыне, ці ўдарыць у сумную заімглёную цяпершчыну, — з усяго дабудзе тон родны, дабудзе той асобны беларускі матыў».

Пасля такой пахвальбы можна было і змірыцца з тым, што зборнік выйшаў не зусім такім, як хацелася аўтару. Хто б іншы, можа, і змірыўся, толькі не Купала. І калі ў 1923 годзе ў яго з’явілася магчымасць па-новаму, ужо самому перакампанаваць свае раннія зборнікі і сёе-тое падправіць у ранніх вершах, ён гэтай магчымасцю скарыстаўся.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

